ББК 83.3 Бел. 7
С42

Укладанне, заўвагі ***Аляксея Каўкі***

С **Скарыніч:** Лит.-навук. гадавік. Вып. 6 / Уклад. А.Каўка. М.: Советский писатель, 2006. 190 с.

Чарговы выпуск гадавіка доўжыць традыцыйную тэму Беларускага нацыянальнага адраджэння, прадстаўленую творчасцю паэтаў, пісьменнікаў, навукоўцаў, а таксама адпаведнай эпісталярыяй цягам, пераважна, XX стагоддзя.

***Прысвечаны 100-м угодкам***
***Мікалая Мікалаевіча Улашчыка (1906—1986)***

ББК 83.3 Бел. 7

ISBN 5-265-03523-0

# ЗМЕСТ

Ад укладальніка .... 6

***Слова гаючае – слова пякучае***

Вясна .... 8
Святочнае ігрышча .... 9
Дзесяць боскіх прыказанняў .... 10
*Гальяш Леўчык.* Маё ўваскрасенне .... 11
*Уладзімір Дубоўка.* На свята Алеся Гаруна ў Маскве .... 12
*Заноза.* Смех і жарты .... 12
*Канстанцыя Буйла.* Адзіноцтва мне глядзіць у вочы .... 13
*Мікола Ермаловіч.* Жыве Беларусь .... 14
*Тамаш Хлёрка-Бабаневіч.* Незабраны верш .... 14
*Аляксандар Харобры.* Інтэгратару .... 15
*Генадзь Праневіч.* Рыцарская песня .... 15
*У.Язва.* Вершы-карацелькі .... 16
*Кастусь Атрашэўскі.* Беларусу паспалітаму .... 17
*Вера Рыч.* Рэцэпт цуда. Пераклад з ангельскае .... 18
*Віктар Качаткоў.* Куды цікавей заставацца старым. Пераклад з рускае .... 19
*Генадзь Ступін.* І вось... Пераклад з рускае .... 20
*Максім Танк.* «Кавалкамі свайго сэрца карміць арла» .... 22
*Ніл Гілевіч.* Мы зноў ходзім у школу .... 26
*Янка Брыль.* Пятро Конюх з мястэчка Турэц .... 32
*Аляксей Пяткевіч.* Лісткі з вялікага дрэва .... 34
*Уладзімір Содаль.* Кушлянскі Дон-Кіхот .... 36
*Міхал Ляпёха.* Аўтабіяграфія. .... 37
*Лена Цыбіна.* Сірочыя старонкі .... 40
*Ірына Шаўлякова.* Філіял: раскоша ўтульнасці .... 49
*Яўген Маланюк.* Формула. Пераклад з украінскае .... 60

***Беларусь – Беларушчына ў ліставанні***

І.М.Лабойка – М.П.Пагодзіну .... 61
І.Міхальчанкін, П.Счасновіч – А.Пшчолку .... 61
В.Іваноўскі, В.Сталыгва – Я.Карскаму .... 62
І.Луцкевіч, кс. Тумас .... 62
*Лісты ў «Нашу Ніву»* .... 63
  А.Смоліч – А.Уласаву .... 63
  Д.Аніська .... 63
  І.Асмалоўскі .... 64
  Ул. Галубок .... 64
  Н.Чарноцкі .... 64
  Карусь Каганец .... 65
  Р.Навіцкі .... 65
  Белявы .... 66
А.Луцкевіч – М.А.Рубакіну .... 66
В.Ластоўскі – Я.Карскаму .... 67

В.Ластоўскі – Л.Сівіцкай .......... 67
Г.Леўчык – А.Луцкевічу .......... 68
Р.Зямкевіч – Я.Карскаму .......... 68
Іван Луцкевіч – брату Антону .......... 68
Зм. Бядуля – А., І.Луцкевічам .......... 69
Ул. Самойла – у «Беларускую думку» .......... 69
Антон Луцкевіч – брату Івану .......... 69
А.Прушынскі (Алесь Гарун) – Б.Тарашкевічу .......... 70
М.А.Янчук – І.А.Белавусаву .......... 70
Г.В.Чычэрына тэлеграмы .......... 71
А.А.Іофэ – Г.В.Чычэрыну .......... 71
М.Вяршынін – А.Цвікевічу .......... 72
Е.Раманаў – Я.Карскаму .......... 73
М.Гарэцкі – у выдавецтва «Вызваленне» .......... 73
Пятро Крэчэўскі – Аляксандру Цвікевічу .......... 74
Баркусевіч – А.А.Славінскаму .......... 74
К.Езавітаў – П.Крэчэўскаму .......... 75
В.Ластоўскі – невядомай асобе .......... 76
Баркусевіч – В.М.Молатаву .......... 77
І.Серада – В.Ластоўскаму .......... 77
У Прэзідыум Інстытута Беларускай культуры .......... 78
Прэзідыуму Беларускай Акадэмічнай канферэнцыі .......... 78
Я.Драздовіч – Б.Эпімах-Шыпілу .......... 80
Б.Эпімах-Шыпіла – Я.Драздовічу .......... 80
М.Піотуховіч – Е.А.Ляцкаму .......... 81
І.І.Замоцін – Е.А.Сабалеўскаму .......... 82
І.І.Замоцін - П.М.Сакуліну .......... 82
А.Шлюбскі – Я.Карскаму .......... 83
Г.Леўчык – Я.Пятроўскаму .......... 84
У.Д.Бонч-Бруевіч – Я.Дылу .......... 84
Л.Чарняўская – Г.Бабарэка .......... 85
Х.Ільяшэвіч – А.В.Флароўскаму .......... 85
К.Езавітаў – В.Захарку .......... 86
Ю.М.Дрэйзін – сыну Сяргею .......... 87
Л.М.Клейнбарт – У.Д.Бруевічу .......... 88
Р.Шырма – В.Я.Шабаліну .......... 89
В.К.Бялыніцкі-Біруля – П.К.Панамарэнку .......... 90
У.Сасюра – У.Дубоўку .......... 91
У.Караткевіч – А.М.Макараву .......... 91
Я.Гладкі – у часопіс «Беларуская царква» .......... 93
Я.Дыла – Ю.Бібіла .......... 93
У.Дубоўка – Я.Дылу .......... 94
А.Твардоўскі – Максіму Танку .......... 95
Ю.Пшыркоў – М.Улашчыку .......... 95
С.Александровіч – М.Улашчыку .......... 96
Н.Гілевіч – М.Улашчыку .......... 97
Ю.Туронак – Л.Войцік (Зосьцы Верас) .......... 97

Г.Каханоўскі – Ю.Туронку ..... 98
Я.Каханоўская – Л.Луцкевічу ..... 98
Л.Войцік (Зоська Верас) – А.Пяткевічу ..... 100
А.Сыс – П.Панчанку ..... 102
П.Конюх – Я.Брылю ..... 103
Л.Шпакоўскі-Случанін – С.Чыгрыну ..... 104
Я.Скурат – А.Сабалеўскаму ..... 105

*Лісты А.Каўку:*
Л.Мірачыцкі ..... 106
Л.Войцік (Зоська Верас) ..... 107
А.Бабіч ..... 109
Г.Каханоўскі ..... 111
Я.Якубоўскі ..... 111
Л.Цыбіна ..... 113
А.Мітэр ..... 114
Н.Андрэйкавец ..... 115
Г.Запартыка ..... 116
К.Папова ..... 117

***Жыццё дзеля Яе***
***На 100-я ўгодкі Мікалая Улашчыка***

*I. З рукапіснай спадчыны Гісторыка*
Ніна (з «Хронікі») ..... 118
Заўвагі на артыкул «Шляхта» ..... 124
Пути шли через Белоруссию ..... 124
«Мужык» Янкі Купалы ..... 126
Заўвагі на раман Леаніда Дайнэкі «Меч князя Вячкі» ..... 127
Зацемка з апошніх ..... 128

*II. Мікалай Улашчык ва ўспамінах сучаснікаў*
*А.Адамовіч.* Аўтабіяграфія (фрагменты) ..... 129
*Т.Аросева.* Страда аспиранта ..... 132
*С.Бергман.* Згадка ..... 145
*А.Грыцкевіч.* З падзякай старэйшаму сябру ..... 145
*А.Смирнов.* О Николае Улащике ..... 147
*о. Ю. Мицик.* З незнаних листів Міколи Улащика ..... 149
*Н.Гілевіч.* У вянок Мікалаю Улашчыку ..... 153

***Scoriniana***
*Х.Ротэ.* Высновы з Каментара да «Апостала» Ф.Скарыны ..... 154
*Г.Кісялёў.* Богдан Онкаў чалавек Скарынаўскай эпохі ..... 156
Бібліяграфія (дадатак) ..... 171
*М.Габрыянік.* Нямецкую знаходку прэзентавалі... ..... 179

* * *

Фотаілюстрацыі ..... 181
Скарачэнні ..... 188
Выданню паспрыялі ..... 189

## АД УКЛАДАЛЬНКА

Мушу адразу агаварыцца. За прамінулы ад папярэдняга «Скарыніча» час ніхто з дужэйшых, прутчэйшых стырнавых, як таго спадзявалася, не падахвоціўся падхапіць пахілены ветразь нашага выдання. Яно і зразумела: у кожнага свой клопат, свой праект. Значыць, варухайся сам – пакуль можаш. Да таго ж, падбадзёрылі і водгукі чытачоў, кшталту «Рана развітвацца!». Вядома і талака спрыяльнікаў (іх імёны ў канцы) дадала сілоў, фінансава й арганізацыйна падмагаючы справе.

Галоўнае ж — марэрыялы, наспораныя ў засеках укладальніка, не даюць спакою, «просяцца» на свет божы. Няхай гэта мала ці саўсім невядомыя тэксты з літаратурнае спадчыны (прыкладам, вершы нязнанага аўтара «Вясна», Канстанцыі Буйла), альбо творы сучасных майстроў слова – мяркую, вартыя прачытання й перачытвання. Не выключаў бы абок высокага рада мастакоў-прафесіяналаў і сціплыя сялянскія імёны Міхала Ляпёхі, Лены Цыбінай – іх аўтабіяграфічныя старонкі, спадзяюся, таксама не пакінуць чытача раўнадушным. Тым жа «гаюча-пякучым» настроем падыктавана прадстаўніцтва ў першым раздзеле паэтычных перакладаў з ангельскае, рускае, украінскае моваў.

Невялічкае тлумачэнне да «Святочнага ігрышча». Тэкст упершыню апублікаваны ў фальклорным зборніку І.Насовіча «Белорусские песни» (Спб., 1874) — з пэўнымі русіцызмамі. У прапануемым варыянце ўзноўлена арыгінальнае беларускае гучанне твора – відавочна не фальклорнага, а прафесійна-паэтычнага, літаратурнага. «Святочнае ігрышча» храналагічна (час прыгону) папярэднічала «Панскаму ігрышчу» Ф.Тапчэўскага. Абодва творы ажыўляюць каларытна мастацкую карціну далёкага мінулага – як бавілі час нашы продкі, сяляне і шляхта – і, разам узятыя, узбагачаюць духоўна-культурны кантэкст нацыянальнай гісторыі Беларусі, уключна з літаратурнай.

Асобным жанрам вылучаны раздзел «Ліставання» – па-свойму яскравая праява руху й трывучасці Беларускага слова, Беларускае думкі ў разлеглым часе і прасторы, пры абставінах не заўсёды спрыяльных, нярэдка драматычных. Тэксты друкуюцца з захаваннем іх першасных стылявых асаблівасцей.

Раздзел, прысвечаны М.М.Улашчыку, мужнаму рыцару Беларусі (адсюль — і назва), прадстаўлены непублікаванымі тэкстамі гісторыка, а таксама ўспамінамі сучаснікаў славутага Беларусіна.

Абагачэнню «Скарыніяны» пакліканы паспрыяць урывак – Высновы – з Каментара Х.Ротэ да Скарынаўскага «Апостала», артыкул Г.Кісялёва, а таксама «Бібліяграфія» — тыя друкаваныя адзінкі, якія не адлюстраваны ў

папярэдніх скарыназнаўчых паказальніках В.Тумаша (1989), Я.Л.Неміроўскага, Л.А.Осіпчык (1990), В.Грышкевіч, Л.Юрэвіча (1995).

І ўжо пры макетаванні гадавіка дублюем, скарочана, натхняльную вестку з «Голаса Радзімы» (2005, № 45—46) пра выяўленыя ў нямецкім Гёрліцы два канвалюты Скарынавае «Бібліі». Спадзяемся вярнуцца да гэтага несамавітага ў найноўшам Скарыназнаўстве адкрыцця.

Шчыра дзякуючы ўсім спрыяльнікам «Скарыніча» – 6, не магу не адцеміць асаблівую рупнасць Аляксандра Улашчыка, Ірыны Яскевіч, Алены Новікавай, Валерыя Голуба, Зміцера Сіцькі, Віктара Чайчыца, — без іхняга ахвярнога спамажэння гэты выпуск наўрад ці адбыўся б.

*Аляксей Каўка.*

# СЛОВА ГАЮЧАЕ – СЛОВА ПЯКУЧАЕ

## ВЯСНА

*Nil sine magno*
*Vita labore Dedit mortalibus.*

О, як настаў час вясёлы,
Трава зямлю пакрывае,
Ўсюды ў вуллях гудуць пчолы,
Крышка снегу – й той знікае.

Халодны сівер з паўночы
Сячэ куды і хто знае,
А на яго месца ўночы
Цёплы ветрык павявае.

Пры том гэта не напрашкі:
Што ўжо шуміць лісце грушкі,
Што гдзе гляну – ўсюды краскі
І вясёлы пяюць птушкі.

Там грамада авец ходзіць,
Зубкамі траву шчыпае,
Тут пастух дуду наводзіць
І на дудцы выйгравае.

Ужо наш Нёман без лёду,
Дае Кралеўцу ячменю,
Гаспадар мае выгоду,
Сыплючы жменю ў кішэню.

Цяпер хлопцы на палетку
Знаюць, што рабіць патрэба,
Бо як не зробіш улетку –
Зімою будзеш бяз хлеба.

[1830-я гг.]

*Спіс (лацінкай) з архіва І.М.Лабойкі:*
*АР ІРЛ РАН. Ф.154. № 7. а. 141.*

# СВЯТОЧНАЕ ІГРЫШЧА

У паноў ніхто бяз спросу
Не паткнець ў бяседу носу,
А наш брат саўсім прасцяк,
Ў карчму смела лезіць ўсяк.

Наш такі мужыцкі нораў
І без зову і без спораў
Пачуўў граюць ці пяюць,
Ці пабачыў ай дзе п'юць –

Паняволі туды ногі
Нойдуць хоць і тры дарогі.
Сяло старцу не наклад,
Пападзеш якраз на лад.

Асабліва у каляды
Пабяседаваць ўсе рады –
Нам тагды слабодны час,
Не няволяць паны нас.

У паноў свая бяседа –
Кожын любіць у суседа
Пацягнуць і пагуляць,
І наш брат на тую стаць.

Як калядны прыдуць святкі,
Разам ўсе – бацькі і маткі
Брыдуць ў карчму на банкет
І дзятва за імі ўслед.

Тут збяруцца маладзіцы,
Хлопцы, красныя дзявіцы,
Малады увесь народ,
На ігрышча ў карагод.

А калі яшчэ ды скрыпка –
Тут наш маладзец Архіпка
На ўсе жываты бярэць,
Калі ў скрыпачку дзярэць.

Ці на йгрышча, ці ў вяселле,
Хоць то, праўда, ён з пахмелля
Не выходзіць, ўсягды кер,*
Да ўжо ж і на скрыпцы звер.**

Наша складка не багата –
Досыць па кварцы на брата.
Хто паважна тут сядзіць,
За лучынай хто глядзіць,

Пазаймем ўслоны, лаўкі,
Троху тут і не без даўкі.
Тут дзяўчаты і хлапцы –
Удалыя малайцы.

Розныя выводзяць скокі:
Хто ў прысядку, а хто ў бокі,
Тут то ёсць на што глядзець,
Тута іншы маладзец.

Розныя, як бы з навукі,
Выкідае лоўка штукі,
Атаб'ець усіх дзяўчат,
Тут ніхто яму не брат.

То ў прысядцы, то падпрыгнець,
То вачыма ён падмігнець,
То вярціцца, як турок,
Магерку схіліў набок,

То прасвішчыць, то прытопнець,
То пад лад ў ладоні хлопнець,
То штурхнець пад бок каму –
Не мяшалі што б яму,

То ўюном вакола дзевак
Не жалеець сваіх цэвак,***
Ў ём уся гаворыць косць
Ўсім сябрам сваім на злосць.

Ён ў кругу лятаець пціцай,
За ім дзеўкі вераніцай.
Старыкі сабе – мы тут
Сядзем з бабамі на кут,

Між сабою пачнем зюкаць
І падрад гарэлку клюкаць.
Ці Лявон, ці не Лявон –
З роду ў нас ніхто не вон,

Нікому мы не даруем,
Пажываем і жыруем,
Без гаркухі ня той лад,
На ігрышчы ня той склад.

Ўсім тут станець часам жарка,
На бязладдзе пойдзе сварка,
Скажэць слова хто на глум,
З-за яго падымуць шум.

Хто тут п'ецъ, хто піпку курыць,
Казкі кажэць, альбо дурыць,
Альбо кашалі пляцець****
На суседа, як жывець.

Кожнаму тут ёсць работа,
Кожнаму свая ахвота.
Калі ж прыдзе нам пара,
Чэсна пойдзем да двара.

Калі ж чэрці нам паднукнуць
Больш узяць і болей клюкнуць –
Ну! Тады не быць дабру!
Дойдзець кожнаму сябру.

Ці хто выпіў болей кварты,
Ну, тады іные жарты!
То йдзець тут сусім к бядзе,
Дастанецца й барадзе.

Неўкавырныя паганцы
Іншыя закруцяць танцы,
Прымуцца дзяліць чубы,
Панастаўляць вочы, лбы.

У каго сярмагу здымуць,
Пакуль бізуном разнімуць.
А назаўтра эканом
На пахмелле бізуном

Ўсіх, каго застаў, пацешыць
І спіну парадкам счэшыць.
Тут, пры неладу таком,
Нашы брацця, хто з умом,

Ціхенька з ігрышча драла,
Калі б тая … не хварала.

---

* кер – на падпітку (усе заўвагі тут І.Насовіча)
** звер – майстра
*** цэвак – ног
**** кашалі пляцець – пляткарыць.

*Паводле спісу І.І.Насовіча: АР БАН, І.І.І, а.а.37—39.*

## ДЗЕСЯЦЬ БОСКІХ ПРЫКАЗАННЯЎ

***(Пяецца на ноту «Ах, мой Божа, веру Табе»)***

Гей, вы людзі, хрысціяне!
Зберагайце прыказанні,
Што Бог кажа, прыказуе,
Што ня вольна, заказуе.

Першае займенне Бога:
Ты ня мей сабе другога,
Ня вер ў гуслі, ў шэпты, ў чары,
А йдзі да Божай ахвяры.

А другая: не бажыся
І душою не кляніся:
Гэты грэх, Богу ня любы,
Прыводзіць душу да згубы.

А трэццяя — трэба знаці,
Дзень нядзельны святкаваці,
Хадзіць у касцёл маліцца,
Служыць Богу не ляніцца.

Чацвертая: шануй бацьку
І паважай сваю матку:
Хто айца, матку шануе,
Таму Бог веку даруе.

Пятае вось: не забівай,
Чужой крыві не пралівай:
Кроў кліча помсту ад Бога;
Не забівай жа нікога.

А шостае: зберагайся,
Чужалоствам не займайся:
Гэты грэх душу пагубіць,
Яго Бог дужа ня любіць.

Сёмае: не крадзь нічога!
І не навучай нікога;
Ні з скацінкі, ні з адзежы
Ніякай не рабі крадзежы.

Восьмая: ня сведч фальшыва;
Жыві з людзьмі справядліва.
Не налягай ні на кога,
Пакінь грашыць, бойся Бога!

Дзевятая: сцеражыся,
З чужой жонкай не вадзіся,
Ня йшчы прычыны для грэху,
Пакінь чартоўску ўцеху.

Дзясятая: ані дому
Не завідывай нікому.
Ні скацінкі, ні пашенькі,
Жыві з людзьмі харашэнька.

Жыві з людзьмі, з Богам, з панам
Аж на векі векаў……… Амэн.

*З запісаў (лацінкай) Б.Эпімах-Шыпілы.*
*Паводле: Беларус, 1913, 8 жніўня, № 21.*

*Гальяш Леўчык*

## МАЁ ЎВАСКРАСЕННЕ

На высокай гары, дзе ніхто не гарэ,
Леўчыка Гальяша косці лягуць, –
Туды, зблізка, здалёк, дзе навек Леўчык лёг,
Ўспамянуць Беларусаў прыцягнуць.

Від з высокай гары на лугі і бары,
І на Слонім, дзе Шчара сінее –
Блізка Слонім ляжыць, блізка Шчара бяжыць,
На гары яго крыж завіднее!

Ў гробе Леўчык згніе, але памяць жыве, —
На Дзяды Беларусь успамінаюць:
Як калісьці было, як калісьці жыла –
Дзеткі творы паэтаў чытаюць.

З той высокай гары. Пад дамы і муры –
На Дзяды будзе духам злятаці –
Раз заўсёды у год прыйдзе духам ў народ:
Ў гэту ноч будзе ён ажываці! –

Час, як хваля бяжыць, песня Леўчыка жыць
Вечна будзе сярод яго браццяў;
Ён да праўды усіх, хто ў няшчасці ня сціх
Клікаць будзе да волі і зваці!

Слонім, дня 14.4.1938.
*Паводле: Слова праўды. Linz, Аўстрыя, 1946, № 1.*

*Уладзімір Дубоўка*

## НА СВЯТА АЛЕСЯ ГАРУНА Ў МАСКВЕ

***(2 красавіка 1922 г)***

Ад крывіцкіх балотаў, да тундраў Сібіру,
Ад аковаў душы, да цяжкіх ланцугоў –
Ты пяяў несупынна, званіў сваёй лірай,
Заклікаў нас на родныя гоні дамоў.

«Беларус, схамяніся! Хутчэй прасынайся», –
Вось што чулася мне ў пекных вершах тваіх, –
«Родны край свой кахай .... Мовы ты не зракайся!» –
Так пяяў наш Гаротны, будзіў нас і сціх...

*Паводле: Наша будучыня, Вільня, 1922 г., 8 снежня.*

*Заноза*

## СМЕХ І ЖАРТЫ

На Савецкай Беларусі,
Як ва ўсёй камуне, мусіць,
«Не ўсе дома», як відаць.
Бо ці ж можна так казаць:
Мы па Марксу ўсе чытаем,
А што робіцца, ня знаем,
Не цікавіць нават нас:
Ад Масквы ідзе прыказ.
Але гэныя прыказы,
Шчэ не бачачы, адразу
Выпаўняюцца на спех
(Падліпалы, проста смех)
Не дайшоўшы. Адамовіч
Іх з паветра проста ловіць...
І не дзіва – Беларусь,
Смела я сказаць бярусь,
Хоць Савецкай і завецца,
А Маскоўшчынай вядзецца.
Беларусь маўчыць, бы сценка,
Іх чакае, як паненка,
Адамовіч тут, як тут,
Два-тры словы і капут...
Ну а справамі ЧэКа
Возьмеш нават Чэрвяка.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сацыяльны строй бяз меры
Нам патрэбны не паперы
У жыцці, аб нас паны
Душаць вёскі не адны.
Пан Варшаўскі ці Маскоўскі,
Камісар нават жыдоўскі
Нам не будзе свой, як брат,
Камуніст, ні дэмакрат,
Бо у нас душа такая,
Што наперад добра знае:
Беларуса- беларус
Зразумее толькі густ.
Што Масква нам і Варшава,
Калі наша гіне справа:
Гэта справа ёсць дзяржава
І дзяржаве гэтай слава.
К чорту хітрыкі і здзекі,
Помні, беларус, навекі –
Дзе закон твой – гаспадар,
Там адзін ты – пан і цар.

*Паводле: Савецкая Беларусь, 1923, 10 лютага, № 30.*

*Канстанцыя Буйла*

* * *

Адзіноцтва мне глядзіць у вочы
Зрокам мутным, зрокам суму цьмяным,
Быццам соль мне сыплецца на раны –
Боль мне душу быццам токар точыць.

Старасць падпаўзла халодным гадам
І сціскае ў жуткіх звівах горла.
Тут табе ні ласкі ні спагады –
У грудзях дыханне астма спёрла.

Старасць – гэта маці адзінота,
Смерць – увасабленне яе сілы.
З кім бы ні жыла, з кім не дружыла,
Ты адна сустрэціш смерці дотык.

І ніхто з табою не раздзеліць
Жаху той апошняе хвіліны …
А яе як восень яблык – спеліць
Старасць – што зацісне ў дамавіну.

*Перадрук з аўтографа (з ласкі аўтара), 10 красавіка 1985 г. Масква.*
*Архіў укладальніка*

*Мікола Ермаловіч*

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Жыве Беларусь, хоць вякамі ў палоне
Без жалю на смерць катавалі яе.
Жыве Беларусь, хоць жадаюць і сёння
Ёй смерці чужынцы і юды свае.

Жыве Беларусь на прасторы шырокай,
Дзе Нёман і Прыпяць, Дняпро і Дзвіна.
Ўсяго ад Смаленска і да Беластока,
Ад Вільні да Дзвінску – ўладарка яна!

Жыве Беларусь у народзе працоўным,
Які беражэ ў сваім сэрцы яе.
Жыве Беларусь ў сваім слове чароўным,
І ў песнях сваіх непаўторных жыве.

Жыве Беларусь, кааб дарогу пракласці
К свабодзе і праўдзе, к багацтву й дабру.
Ў жыцці яе – наша і доля, і шчасце,
Дык станем мы ўсе за сваю Беларусь,
за сваю Беларусь,
за сваю Беларусь!!!

*Паводле: Гутарка, 30.07.1976. № 31 (38). Архіў укладальніка*

*Тамаш Хлёрка-Бабаневіч*

## НЕЗАБРАНЫ ВЕРШ

Забраны наш Бог, наша вера і цэрквы.
Айцоў-святароў скамянелыя сэрцы
Ня бачаць, ня чуюць людскоe бядоты:
Іх душы прададзены, розум закуты.

Забраныя маці, забраныя сёстры,
Забраныя й зімы, і леты, і вёсны.
Забраны пачуцці – каханне і тое ...
Усё, што мы маем, стаецца чужое.

Забраныя мроі, забраныя й мары,
Дзяцей лятуценні, дзяўчат спадзяванні.
О! Колькі ж такое яшчэ нам трываць мем!
Падмогу чужую шчэ доўга чакацьмем.

Забраны народзе, сам мусіш узняцца!
І з воляй святою ты мусіш пабрацца!
Ты мусіш, народзе; ты маеш, павінен!
Пакуль твае дзеці трывацьмуць жывыя.

*Паводле: Кантакт. 1989. № 2.*

*Аляксандар Харобры*

## ІНТЭГРАТАРУ

Ты мне ня вораг, не! Ты сорам мой!
Табе Айчыны воля, як абраза.
Ды ў чоўне лёсу – час такі – з табой
Міжволі апынуліся мы разам.

Так, разам мы пакуль, ды не адно:
З манкуртаў ты, я быць ліцвінам
мушу.
Трымае продкаў моц маё стырно,
Тваім віруе зграбна крывадушша...

Яно і зараз з хеўраю маны,
Згубіўшы ветразь, ліпне да чужынцаў,
А тыя ўжо крычаць, як груганы,
І прагнуць Беларусі, як гасцінца.

Ды розум ёсць – і ён мне не ў цяжар
Пакуль жыву: душа не павуціньне.
Цябе, мой краю любы, – Боскі Дар –
Хіба ж аддам за сытнае мякіньне!

*Паводле: Наша Ніва, 2000, 13 сакавіка.*

*Генадзь Праневіч*

## РЫЦАРСКАЯ ПЕСНЯ

Конь прыйшоў мой апошні,
На Пагоню ніхто не паставіў…
Я распрог яго ў полі,
Зняў з хрыбта дарагое сядло…
Выцер меч аб траве
І песню запеў пра каханне…
А натхненне той песні
Імя маей любай дало…

Конь прыйшоў мой апошні…
Ды што ж гэта дзееца ў свеце!...
Як што моцна палюбіш, –
Тое ў цябе адбяруць…
Нават гэту любоў,
Што яснейшаю зоркай свеціць,
Ў гразь затопчуць і зганьбяць…
І цвет з белых яблынь сарвуць!...

На турнеях Еўропы
За гонар каханай
Біўся я даастатку,
Коней трох памяняў у баю…

Я яшчэ дакрануся кап'ём
Твайго залатога пасаду!..
Я яшчэ табе песню спяю,
О! нявеста мая – Беларусь!..

Конь прыйшоў мой апошні…
А сэрца іграе атаку!..
Бо любоў, як агонь,
Ўспалымнее ў імгненне адно!..
Ночы чорнае сонца
На светлае сонца з'начыць…
І зняверанных рыцараў
Зноўку пасадзіць ў сядло!..

Час прабіў мой апошні –
Рыхтаваць трэба зброю да бою!..
Для вяселля наліта
Ў чары цяжкія віно…
Будзем біцца да смерці!
А жыць будзем толькі для славы…
Для сяброў і каханай –
Ўсім ворагам нашым назло!

*У.Язва*

# ВЕРШЫ – КАРАЦЕЛЬКІ

Ва ўніверсітэце мае аднакурснікі, студэнты-фізікі любілі паэзію не менш, чым філолагі. Бо калі перафразаваць Чэхава, фізіка была нам жонка, а паэзія – любоўніца. Пазней, у другой Ігуменскай (Чэрвеньскай) школе трапіў я пад уплыў палымянага прапагандыста паэзіі Вячаслава Мысліцкага. А потым – мясцовы «Ветразь», які аднак хутчэй нагадваў сабой палітычны дыскусійны клуб.

Жаданне рыфмаваць прыйшло нечакана і ўжо ў сталым узросце. Таму, як тлумачыць спадар Аўласенка, мне не хапіла імпэту пісаць вершы лірычныя.

Калі аднойчы ў вучэльні будаўнікоў чытаў свае эпіграмы на адміністрацыю, у настаўніцкую ўвайшла маладая прывабная майстрыха Тома і ашаломленая маёй дэкламацыяй вымавіла толькі:

– У, язва!..

Гэтую рэпліку я зрабіў сваім псеўданімам.

*У. Язва (Уладзімір Дарагуж)*

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Нам
  Богам
    дадзена
      яна
І зберагчы яе –
    святая справа.
Без мовы
    нацыі няма,
без нацыі
    няма дзяржавы.

## КОЖНАМУ СВАЁ

Народ
    змагаецца за свабоду,
быдла
    прагне пойла.
Мова і воля
    патрэбны народу,
быдлу
    суцешна ў стойле.

## ЭХ, ТРАСЯНАЧКА, ТРАСЯНКА

Наша войска мае быць
Хутка з формай новаю...
Каб яму загаварыць
беларускай мовамаю.

Гэта невуцтва прыкмета
Брыдкая, прасцяцкая...
Эх, трасяначка, трасянка –
Мова дэпутацкая.

## З КІМ ЖА МНЕ ІСЦІ МАЛІЦЦА

Каталік у нас – «паляк»,
Праваслаўны – «рускі» ...
А куды ж падзеўся ты,
Люд мой беларускі?!

Мая маці – каталічка ,
Бацька – праваслаўны.
З кім жа мне ісці маліцца?..
Уніятам стану!

## З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

Высокага начальніка пасаду
З вялікай літары напішуць халуі...
А я з вялікай літары пішу
Два толькі словы –
        Бог і Беларусь.

## АСІРАЦЕЦЬ

Стогне люд, ў журбе айчына –
Бацька горшы за айчыма.
Чым такога бацьку мець,
Лепей нам асірацець.

## КІШЭННЫМ ЖУРНАЛІСТАМ

На ўзгорку ў полі чыстым
Вырасла асіна...
Атрымалі журналісты
Срэбнікі Саўміна.

Непакою і турбот
Шмат, што ні кажыце,
Але ж плоціць вам народ,
вы яму служыце.

## НА ЛАНЦУЖОК

Ў кіпцюрах каторы год
Мыш сціскае сквапны Кот
А Яна пішчыць, раве:
Без Ката не пражыве.

«Бацька» шмат турботаў мае,
Спраў – па саамы беражок:
Пасадзіць ён нас жадае
На расейскі ланцужок.

Беларускі родны край
Стаў нібыта Парагвай:
Чужаніцы-прайдзісветы
Тут знайшлі жаданы рай.

## НАМЕНКЛАТУРА

Нарасла наменклатура.
Не патрэбна ёй культура,
А патрэбна ёй улада.....
Каб яе пабіла градам!

У чынушы ў кабінеце
Час даўно спыніўся.
Ажно Ленін не партрэце
Пажаўцеў, скрывіўся.

З плошчы бронзавы Ільіч
Грозна пазірае....
Забяры к сабе на дачу –
Хай варон пужае.

*Чэрвень (Ігумен), 1990–2002 гг.*

*Кастусь Атрашэўскі*

## БЕЛАРУСУ ПАСПАЛІТАМУ

*Памяці Анатоля Сыса*

У роднай краіне ні волі, ні долі –
Паношыцца хлус, забаўляючы свет...
З забранага краю зняможаны болем
Сышоў, Беларусь, твой бунтоўнік-Паэт.
Не-не. Мой жалобны уздых не пра тое –
Нятускнай пякучых сымболяў краса.
А толькі у мроях пары залатое
Не грымне маланкаю голас Сыса –
Пра нашу бядоту і веліч жабрачу,
Пра уваскрашэнне і росквіту скон...
Бяды не пазабыцца ні словам, ні плачам –
Абрынуўся з вежы патрэсканы звон.

. . . . . . . . . . . . . . . .

“Закат над балотам”. У прыцемку шэрым
Гурган трупавейна крум-крумкае след.
Зняважаны глумам Скарына, Машэраў,
Растоптаны продкаў святы запавет.

Вось так, нехлямажны зямляча замшэлы.
Абразы і крыўды? Ня наша віна?
Хавайма свой кукіш глыбей у кішэню
Гундосячы звыкла: абы не вайна.
Мадзеюць і сэрцы, і глузды ў прыгоне.
Ды немач халопскую Час не міне:
Віхурыць -гудзе нясціхана Пагоня,
Змагарная кліча цябе і мяне!

*Травень 2005.*

*Вера Рыч*

## РЭЦЭПТ ЦУДА

Спачатку вазьмі краіну –
(На карце няма вольнага месца, таму згадай
Тую,якой нібыта няма, якую зруйнавалі, абрабавалі)
Вазьмі гісторыю,
Якую выкладаюць як гісторыю іншых народаў,
Вазьмі гаворку,
Якую лічаць за дыялект, дадай сюды назву,
Якая забаронена і сцёрта з атласу,
Які доўга прымушалі забыць сваю гісторыю, імя і мову,
Расчыні гэту апару і дай ёй падысці … Затым вазьмі
Сцяг, колеры якога дужа простыя, колеры касці
Й крыві, хлеба й віна, вады й агню,
Колеры веры й любові. Дадай яшчэ знак,
Якім пагарджалі, які забаранялі
(які, дарэчы, даводзіцца дзяліць з суседам!).
Налі туды поўную меру слёз, што пралілася з нягод
Былых і новых: там тры бярозкі стаяць,
Дзе павінны стаяць чатыры,
Дзеці, зачатыя пад зоркай Палын,
А таксама чарапы, гузікі і кулі Курапатаў –
Усё гэта трэба замясіць, кропля за кропляй,
У вечным посудзе часу …
Затым, у прызначаны дзень,
(Ты будзеш ведаць, дружа, калі ён настане!),
як свет паверне твар у іншы бок,
Ты вельмі-вельмі пяшчотна
Пералі гэту сумесь у падышоўшае цеста,
І выпячы яго ў чароўнай печы Кліо …
Тут нехта
Будзе заклікаць цябе быць больш абачлівым,
Пужаць надыходзячай сцюжай,
Нагадваць, што цяпло і святло табе давядзецца купляць
У моцнага суседа,

Што тваe заводы спыняцца, а зробленае табой
Ніхто не будзе браць,
Бо свет усё часцей забывае пра ласку да бліжняга ...
Не слухай гэтых аракулаў, дружа ...
Гатуй свой каравай!
Абгарні ручніком, упрыгож васількамі,
Затым пакліч сяброў
(усе будуць тваімі сябрамі ў дзень гэты, колькі іх ні было),
І абвясці, што ты ідзеш
Заняць сваё месца за агульным святочным сталом.

*Лондан, 14 кастрычніка 1993 г.*
*Пераклад з ангельскае В.Рыбакова, У.Палупанава.*
*Паводле: Звязда, 1993, 4 снежня.*

*Віктар Качаткоў*

Куды цікавей заставацца старым!
Як той падарожны сыходзіш на бераг,
Стамлёны прагрэсам Эўропаў, Амэрык,
І бацькаў парог – твае Сочы і Крым.

Куды цікавей заставацца старым.
Улеглася пыхта, асаджаны страсці,
Душа не трапеча ўжо ўлады дапасці,
Развага з табою і вопыт пры тым.

Куды цікавей заставацца старым,
Глядзець, як мярзотнік і хам верхаводзіць,
З глуздоў як каханка любоўніка зводзіць,
Паношыцца зло над дабром – да пары...

Куды цікавей заставацца старым.
Ужо не праймаюць хімерныя мыслі
І не спакушаюць ні Кафка, ні Прыстлі,
А сэрцу лякарствам – Купала і Брыль.

Куды цікавей заставацца старым.
Пачуць у цішы як раслінка гавора,
Глядзець як сутонне гусцее над борам,
Як рупная пчолка здымае дары...

Куды цікавей заставацца старым.
З вачэй пазнікалі ружовыя здані
І ўжо надзімацца гардыня неўстане.
Ты – востраў, шчыруй, мацерык свой твары
І век цікавей дажывацьме старым.

*Пераклад з рускае К. Атрашэўскага.*

# І ВОСЬ...

1

Усё прадбачыў я і сам сябе.
Вялікія паслаў Гасподзь мне сілы.
Цяжкая доля ў вечнай барацьбе
І вось стаю я на краі магілы.

Не, не жальба, не смутак і не страх.
Суцішанне. Хоць скрухі ані самай.
Ты, вечнасць, меціш і пасады ў прах
І геніяў у забыццё – таксама.

І што паэт там нейкі, хоць відзён.
Што скраў мо кропельку тваіх імгненняў,
Няхай і коштам звар'яцелых дзён
Табе пакінуў лоўж сваіх тварэнняў.

Адсутная, іх не спадобіш льгі,
Шпурнеш у свой запылены запечак.
І толькі хтось між вечнай мітульгі
Іх раптам знойдзе, здзівіцца: трапечуць ...

І ўсё. Усё зрабіў я і сказаў.
І сваім марным існаваннем моўкным.
Я – ўсё. І сам сабе я прадказаў.
І з небам гаварыў. І раптам змоўкнуў.

2

Ў мізэрнасці жыву і ледзь цярплю.
І злосць сашчэпіць раптам змеем лютым.
Цябе, жыццё, я болей не люблю
І тваё раўнадушша мне пакутай.

Глуханямы. Без музыкі святой.
Мне ад цябе нішто ўжо не належы.
І д'ябал распашонан нада мной
І ўвесь сусвет – адна дзюра ў бязмежжы.

Крывава-ненажэрная, без дна.
Пачатак і канец ўсяго на свеце
Смокча мяне, нямоглага, яна
Назад, у цемру, ў небыццё і неці.

Душа і плоць, што кукалем залом.
Бы пелька чорная пад зоркай згаслай.
Затхненне сэрца. Думкі – палыном.
Ні часу, ні уцехі – Божай ласкі.

Што ж, сам сябе прадбачыў я. І ўсё.
Іграючы у марнасці, нягожа.
І пераплыў сябе. І вось сваё
Нікчэмства зношу.
О, прасці мне, Божа.
................................................

4

Блажэнны, хто ў зеніце смерць знайшоў.
Хто не дажыў да старасці пастылай.
Паэт тым болей – ведама даўно –
Старым не можа сатупаць ў магілу.

Не для таго ён жыў, каб паміраць.
Ды і не жыў ён, гэтым жыццем змучан.
Палаў у ім, не ўстане выбіраць,
Любоўю вернай, полымем пякучым.

І вось пагас. Нашто ж трымціць свяча.
Спаміны. Ці жыцця падрахаванні.
Патугі розуму і немачы адчай.
А ўрэшце – неадольнае скананне.

Усё – пустэча. Калі плоць ледзь-ледзь.
Калі у ёй ані душы, ні Бога.
І цяжару зямлі не адалець
І тлену не пазбегнуцьме нямога.

5

Панылы спрэс сусветны той закон.
Зіхценне вечнасці, прасторы поласць.
Любоў і кроў, кулон і ген і клон.
І веры слепата. І ведаў пошласць.

Прорва-а-м-е-р-ы-к-а заглыне свет.
Засмокча нэасферу у пяшчэры.
Ракеты фалас торгнецца бы прэнт,
Бы ідал новай першабытнай эры.

На бераг выплёскваюцца кіты.
Спід гойсае па свеце з гераінам.
Зглумілі музыку нябёс хіты.
Спавіты глузд сусветнай павуцінай.

Хай дэмакрат ці підэр-недарэк.
Ахвяра аднае й тае ж прычыны –
Даўно прыродзе збрыдзеў чалавек,
Мутант пароды малпа-пацучынай.

Канае свет, а можа толькі я?
Мой перад сконам выспавяд няўдзячны.
Быцця вяршыня – ў прорве небыцця.
Апошнія суторгі. Усхліп смачны.

.........................................

7

І – ўсё.
Стаіць таёмнае Нішто.
О свет, жыццё, ілюзія зямная.
Але ж хто нам дае яго. А хто?
Магчыма хтосьці знае. Я – не знаю.

А ўрэшце што мне з гэтага знацця:
З безлічы фізікаў і хімікаў мадзення.
Бог – чалавек ці курыца з яйца
І свет. Ці толькі пра яго ўяўленне.

Ужо не чалавек, яшчэ не прах.
Відочна, я паціху вар'яцею.
І ты мяне не слухай, вертапрах,
А слухаеш – не вер. Душа трымцее.

Як хочаш-можаш, толькі сам жыві.
Любі, змагайся, што б ні змысліў злыдзень.
Пакуль грукоча сэрца у крыві,
Наперад, дружа, і смялей. Дабрыдзень.

*Пераклад з рускае К.Атрашэўскага.*

*Максім Танк*

## «...КАВАЛКАМІ СВАЙГО СЭРЦА КАРМІЦЬ АРЛА»

***(гутарка з польскім карэспандэнтам)***

*– Шаноўны пане, я была і надалей застаюся пад уражаннем ад вашай кнігі «Лісткі календара». На мой погляд, гэта вельмі патрэбнае выданне. Мы жывём у надзвычай бурныя для нашага краю часы, адбываецца столькі розных падзей. На працягу двух апошніх гадоў шмат у чым у нас адбылася пераацэнка каштоўнасцяў. Вялікая ўвага надаецца пытанням гісторыі і міжваеннага дваццацігоддзя. Змяніліся і змяняюцца ацэнкі і эмацыйныя адносіны маладых палякаў да гэтых праблем. Цікава, як Вы сёння ацэньваеце гэты дваццацігадовы перыяд, які прайшоў для Вас на крэсах 2-ой Рэчы Паспалітай?*

– Гэта досыць цяжкае пытанне, калі адказваць на яго коратка, некалькімі словамі. У той час я пачаў сваю літаратурную справу, усталяваліся мае кантак-

ты з польскай літаратурай, гэта былі часы маёй маладосці. А менавіта гэты перыяд, перыяд маладосці адыгрываў і адыгрывае вельмі важную ролю ў пазнейшым жыцці, бо тое, што засталося ў сэрцы ад тых гадоў, застаецца амаль на ўсё жыццё. Тады пачалося маё сяброўства з многімі польскімі пісьменнікамі. У той час я супрацоўнічаў з групай «Poprostu» («Папросту»), да якой належылі такія пісьменнікі, як Путрамант, Мікулка, Дэмбінскі, што загінуў пад час вайны ад рук немцаў.

Я друкаваў свае вершы ў «Папроту», гэта была «адзінафронтаўская» газета, і ў львоўскіх «Sygnałach» («Сігналах»). Гэта складаны, цяжкі для мяне перыяд, бо я ж меў пастаянныя кафлікты з цэнзурай, з санацыйнымі ўладамі. І ўсё ж перыяд нашай маладосці, нават самы цяжкі, назаўсёды застанецца дарагім, нягледзячы на турботы ці трагедыі, якія ён прынёс.

Магчыма, некаторыя моманты ў гэтай кнізе я б змяніў, магчыма, інакш паглядзеў бы на пэўныя справы, бо пісаў гэта пасля пакутлівых перажыванняў, калі іх сляды былі яшчэ свежыя. Пэўна, у некаторых выпадках фарбы занадта згушчаны, Але я не хацеў нічога папраўляць і пакінуў так, як было, як тады адчуваў. Рукапісы маіх дзённікаў з тых часоў ацалелі выпадкова. Напачатку яны захоўваліся ў Беларускім музеі, потым разам з усёй бібліятэкай былі перададзены ў аддзел рукапісаў Літоўскай Акадэміі навук. Шкада, што з тых матэрыялаў многае загінула пасля вайны і ў час вайны, нешта, магчыма, нават раскрадзена. Да прыкладу, там былі канверты з вершамі ў турэмных запісках, перасланых мне для публікацыі маімі сябрамі, што сядзелі ў зняволенні на Лукішках, у Гродне. Канверты разам з пералікам таго, што ў іх знаходзілася, ацалелі, а саміх вершаў няма.. Некуды зніклі і мае абвінаваўчыя акты. Гэтыя старонкі з дзённікаў з 1935—1939 гады захаваў мой бацька. Яны ўсю вайну праляжалі ў яме пад бульбу, а пасля вайны я прагледзеў іх і надрукаваў. Магу сказаць пра гэтыя запіскі, што для мяне яны вельмі дарагія, бо пра некаторыя факты, спатканні, перажыванні я б забыўся.

*– Вы шмат пішаце пра сваё захапленне паэзіяй, пра тое, чым з'яўляецца для Вас, а таксма пра тое, што паэзія – гэта як у той казцы пра хлопца, якога нясе арол. Хлопец корміць арла, а ў канцы мусіць ахвяраваць яму сябе.*

– Паэзія патрабуе самаахвярнасці, вось што я хацеў сказаць, без гэтага нічога не атрымаецца, я і надалей так лічу. Не ведаю, можа іншыя пішуць інакш, спакайней, Але я пісаў у такі час, што мусіў кавалкамі свайго сэрца карміць таго арла, які мяне нёс.

*– Вы лічыце, што шмат ёсць паэтаў, якія ахвяруюць сабою вось так, да канца?*

– Мне здаецца, што кожны, хто па-сапраўднаму, горача адчувае, падыходзіць да паэзіі эмацыйна, і так павінна быць, бо інакш нічога з гэтага не атрымаецца. Паэзія – гэта споведзь чалавечага сэрца.

*– У свой час Вы вельмі цікавіліся авангардысцкай паэзіяй.*

– Авангардысцкая паэзія здавалася мне цікавай, Але я лічу, што яна занадта адыходзіла ад пытанняў вельмі балючых, пытанняў палітычных, ад жыцця,

магчыма, Яна больш захаплялася формай. Для мяне сапраўднай рэвалюцыйнай, наватарскай з'яўляецца паэзія, якая нясе нейкую ідэю.

*– На сустрэчы Вы чыталі таксама свае раннія вершы 30-х гадоў. Ці ёсць у Вашай творчасці перыяд, які Вы найбольш цэніце?*

– «Шлях дзікіх гусей» – гэта быў ранні верш, 1935 года, «Вянок» – таксама, 1936 год, а астатнія – гэта ўжо вершы пасляваенныя, калі гаварыць пра тое, што найбольш цаню. Бадай, два перыяды. Першы – калі я пачаў пісаць і, магчыма, найбольш адказны для мяне – гэта апошні перыяд, так бы я назваў апошнія дзесяць, пятнаццаць гадоў.

*– А верш, ці ёсць такі, што выклікае ў Вас асабліва шмат роздумаў, успамінаў, дарагі для Вас верш?*

– Вельмі цяжка адказаць, хіба найдаражэйшыя тыя вершы, якія яшчэ не напісаныя. Я хаджу і думаю пра іх, бо пра ўжо напісаныя вершы я стараюся забыць, каб яны не перашкаджалі пісаць новыя. Але, натуральна, ёсць вершы вельмі мне блізкія, звязаныя з нейкім асабістым перажываннем.

*– У першыя дні вайны Вы пісалі вельмі мала.*

– Не было варункаў, я знаходзіўся на фронце, працаваў журналістам. Вершаў пісаў менш, але скончыў паэму «Янук Сяліба», адзін з найбуйнейшых маіх тагачасных твораў.

*– У першым нумары «Папросту» Вы чыталі паэму Мілаша. Якое ўражанне стварыў на Вас тады Мілаш?*

– Вершы Мілаша я, зразумела, чытаў, асабіста яго не ведаў, але вялікага ўражання на мяне паэзія Мілаша тады не зрабіла. У той час я быў звязаны з левымі, з польскай рэвалюцыйнай паэзіяй, яна рабіла на мяне большае ўражанне, чым Мілаш.

*– У той перыяд Вы вельмі балюча адчувалі ізаляцыю беларускай літаратуры, асабліва Заходняй Беларусі, ад свету. Шмат роздумаў Вы прысвячаеце гэтым справам, сваёй роднай мове, пра саму літаратуру вы пішаце, што яна сядзіць на лаве падсудных разам са змагарамі і прымае ўдзел, які немагчыма пераацаніць, у барацьбе Вашага народа за права на існаванне.*

– Без роднай мовы няма паэзіі. Я ведаю паэтаў, што пішуць на іншых мовах, але ствараць можна хіба толькі на роднай мове. Што тычыцца сітуацыі ў беларускай літаратуры цяпер, дык яе папулярнасць, несумненна, большая. І залежыць гэта не толькі ад унутраных ці знешніх прычын, а звязана з велізарным развіццём нашай літаратуры ў пасляваенны перыяд. Стан беларускай літаратуры ў Заходняй Беларусі ніякім чынам нельга параўноўваць з тым, што мы маем сёння, і нават з тым, што было ў Савецкай Беларусі. У той час гэта была літаратура досыць прымітыўная, якую стваралі самавукі, няшмат было ў Заходняй Беларусі паэтаў, якія маглі б прысвяціць сябе толькі літаратуры. У дзённіках я часта пішу пра гэта, пра трывожныя моўныя з'явы, пра тое, што гэта невядомая літаратура. У ваенны і пасляваенны перыяды адбыўся росквіт нашай паэтычнай і празаічнай творчасці. Пра гэта сведчаць тыя факты, што ўсё больш нашых кніг перакла да-

ецца, і не толькі на братнія славянскія мовы — польскую, балгарскую, чэшскую, але і таксама на іншыя еўрапейскія мовы — нямецкую, французскую, англійскую. Я ўжо не кажу пра нашых класікаў Купалу і Коласа, але пра творы, напрыклад, Брыля, Быкава і цэлага шэрагу іншых нашых пісьменнікаў.

*– Хто з польскіх паэтаў, якіх Вы перакладалі, Вам бліжэй, каго Вы перакладаеце больш ахвотна?*

– Ужо ў школьныя гады я перакладаў класікаў. Магу адразу сказаць, што люблю Міцкевіча, Славацкага, толькі пазней пазнаёміўся з Норвідам. Норвіда я яшчэ не перакладаў, але маю такі намер, бо гэта малавядомы ў нас паэт. Апошнім часам Норвід выйшаў у рускіх перакладах, але гэтага мала. А мне здаецца, што без знаёмства з Норвідам цяжка зразумець сучасную польскую паэзію, якая развівалася пад значным яго ўплывам. У апошні час у нас выдадзены шасцітомны збор маіх твораў, пяты том уключае мае пераклады, найбольш з польскай паэзіі. Я пераклаў творы больш чым 100 польскіх паэтаў, пачынаючы ад Міцкевіча і заканчываючы малымі маладымі. Мне цяжка сказаць, каго я вельмі люблю, бо я перакладаю вершы, якія мне падабаюцца, а іх я знаходжу ў паэтаў, здавалася б, вельмі далёкіх.

*– Раскажыце пра Вашы найбліжэйшыя планы.*

– Я пераклаў цыкл апошніх вершаў Івашкевіча, цудоўныя лірычныя вершы. Цяпер я прывязу з Польшчы іншых паэтаў, цэлую папку вершаў, над якімі буду працаваць, напрыклад, творы Дабравольскага, Озгі-Міхальскага, Ігара Сікірыцкага і іншых маіх лодзінскіх сяброў. Сам я хацеў бы напісаць кнігу для дзяцей. У Польшчы выйшаў зборнік маіх вершаў для дзяцей у перакладзе Варашыльскага. Я напісаў фантастычную казку пра прыгоды мурашкі ў космасе, яе пераклаў Канановіч, у бліжэйшы час яна павінна выйсці. А ўвогуле планаў вельмі многа, Але апошнім часам я працую ў Саюзе пісьменнікаў, гэты год асабліва насычаны, у мяне шмат абавязкаў, якія цяжка пералічыць, бо я ўсё нават не памятую. Вольнага часу застаецца няшмат, я стараюся выкарыстаць яго для сваёй працы як магу.

*– Калі вы прыязджаеце ў Польшчу, ці ўзнікаюць у Вас нейкія ўспаміны, роздумы?*

– Вельмі шмат. Я быў у Варшаве за некалькі тыдняў да выбуху вайны, у мяне быў аўтарскі вечар у Саюзе пісьменнікаў. Тады я блізка пазнаёміўся са многімі пісьменнікамі, нашы сувязі не парываліся, тым больш, што я часта прыязджаў. Апошнія падзеі, тое, што Польшча перажывае цяпер, спынілі кантакты паміж нашымі Саюзамі пісьменнікаў, доўгі час мы не атрымлівалі газет, аднак я пісаў да сваіх сяброў, а яны – да мяне. Не кажучы пра тое, што ўвесь гэты час у нас выходзілі польскія кнігі, і тут з’явіліся нашы. А пасля гэтага нашага прыезду ўсё яшчэ больш ажывіцца, мы пастаянна будзем атрымліваць прэсу, а таксама навыя часопісы, якія пачалі ў вас выходзіць. Гэта неабходна, каб арыентавацца ў тым, што новага адбываецца ў літаратуры, трэба ведаць, якія творы з’яўляюцца.

*– Дзякую сардэчна Вам за размову.*

– І я дзякую за сёняшнюю сустрэчу. Мы крыху ўжо стаміліся, кожны дзень столькі сустрэч, але гэта хвіліны, што застануцца ў памяці кожнага з нас. Я не магу цяпер гаварыць пра вялізнае ўражанне, якое пакінулі гэтыя сустрэчы, бо вымушаны быў бы расказаць пра вершы, якіх яшчэ не напісаў. Думаю, што ўражанні маіх калег гэткія ж самыя, і ўсе прывязуць з Польшчы багаты матэрыял для нашай працы і працы над новымі перакладамі з польскай літаратуры.

*– Што зрабіла на Вас найбольшае ўражанне пасля прыезду ў нашу краіну?*

– Найбольш моцнае ўражанне зрабіў той факт, што нягледзячы на вялікія, складаныя праблемы, якія яшчэ не ўдалося вырашыць, нягледзячы на цяжкія хвіліны, якія вы перажываеце, нягледзячы на розныя пытанні, на якія яшчэ няма адказаў, былі арганізаваны Дні беларускай літаратуры, і яны праходзяць у такой цёплай, сардэчнай атмасферы. Гэта сведчыць пра тое, якое значэнне нашы польскія сябры надаюць нашым кантактам, нашаму сяброўству, бо для нас гэта сапраўды вельмі важная справа.

Кастрычнік 1982, Лодзь.

*З М.Танкам размаўляла Д.Абідняк. Пераклад з польскае Наталлі Мазоўка. Архіў укладальніка.*

*Ніл Гілевіч*

## МЫ ЗНОЎ ХОДЗІМ У ШКОЛУ

***Урывак з кнігі «Між роспаччу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары»***

Адразу ж пасля вызваленні, летам 1944 –га, у Слабадзе аднавіўся калгас. А хадзілі ж чуткі, яшчэ перад прыходам «нашых», і ў многіх былі спадзяванні, што пасля вайны калгасаў ужо не будзе, так усё і застанецца, як зрабілі пры немцах – аднаасобнае гаспадаранне. Але – сабралі агульны сход, прама на вуліцы, пад вербамі Ваўчковых, выступіў «прадстаўнік» з раёна, пакрычэлі бабы, пабурчэлі дзяды і – аднавілі. Пры пяці, а можа і сямі конях, якія зноў аб'ядналіся ў калгасны табун і сталі галоўнай цягавай сілай у гаспадарцы. Галоўнай, Але не адзінай, бо з гэтага часу пачнуць цягаць плуг і людзі, а дакладней – бабы і падлеткі, – на сваіх сядзібах, вядома. І доўга будуць цягаць, доўга, – і плуг, і барану, і дровы з лесу на калёсцах, і сена ў посцілках за плячыма...

Нас, дзяцей і падлеткаў, больш усхвалявала навіна, што з 1-га верасня мы зноў будзем хадзіць у школу, будзем вучыцца. Пры гэтым было сказана, што вучоба пад акупацыяй у разлік не бярэцца, сапраўднай не лічыцца, і калі, напрыклад, я да вайны кончыў тры класы, то цяпер мушу ісці ў чацверты, хоць у чацвертым я ўжо быў першай зімою пад немцамі. І яшчэ навіна, якая школьнікаў таксама засмуціла: у Слабадзе школа будзе толькі пачатковая, сямігодкі, як да вайны, не будзе, бо нават і для пачатковай памяшкання няма. Усе тры будынкі

нашай Слабадской школы, – адзін зусім новы, пастаўлены перад самай вайной, а два яшчэ дарэвалюцыйныя, але такой моцы, што маглі б стаяць сто гадоў,– восенню сорак трэццяга партызаны разбурылі, раскідалі і перавезлі ўсе бярвенні, кроквы, дошкі і гантовыя дахі ў лес – сабе на хаты і зямлянкі. Старых пуняў, токаў, асецяў у абязлюдзелых вёсках, кааб зрабіць сабе часовае жыллё, ім не хапала, дык зруйнавалі, знішчылі тры школьныя будынкі! Менш чым за год да вызвалення. Ведаючы, што сыдзе з гэтай зямлі вайна і дзецям будзе трэба вучыцца. Якая мудрасць бальшавіцкай (савецка-партызанскай улады), які клопат пра будучыню народа! А без іроніі – якая страшная непераможная корць руйнаваць, разбураць, нішчыць!.. Помню, аж жудка было глядзець, як не паддаваўся, не хацеў разбурацца той з трох школьных будынкаў, у якім за царскім часам была валасная ўправа, – як магутна-дбайна былі змацаваны сцены, і столь, і падлога, і дзвярныя вушакі, і асады вокнаў!.. Ай, колькі б ён яшчэ паслужыў асвеце беларускіх дзетак!

Бліжэйшая сямігодка будзе, сказала начальства, у суседняй Гайне. Хоць вялікі тыповы школьны будынак , таксама зусім новы, партызаны знішчылі і там (спалілі), але засталіся два колішнія, ужо і моцна аселыя і скрыўленыя, папоўскія дамы, – вось у іх і будзе месціцца сямігадовая школа. Туды будуць хадзіць падлеткі і са Слабады і з усіх навакольных вёсак. (Неўзабаве высветліцца, што хадзіць амаль няма каму – усе шухнулі, ратуючыся ад голаду і галечы, у Мінск: хлапчукі – пераважна ў «фабзайцы», у пэтэвушнікі, дзяўчаткі – у нянькі, у домработніцы).

Загад ёсць загад, і першага верасня я, маючы трынаццаць гадоў, пайшоў у чацвёрты клас. Пахадзіў роўна месяц, і ці то прыйшло нейкае ўдакладненне да загаду, ці ў саміх органах асветы спахапіліся, але стала вядома, што той год вучобы пад немцамі можна ўсё-такі залічваць, – у выніку я стаў вучнем 5-га класса Гаенскай (цяпер пішуць Гайненскай) сямігодкі.

Вучыцца было цяжка. Па-першае, страшэнная беднасць: холад і голад. Адзетку-абутку няма, есці – як калі давядзецца, найчасцей унадгаладзь. Па-другое, падручнікаў няма, сшыткаў няма (пішам і рашаем задачы на газетах), нават чарніла няма (пішам бурачковым). Школьная мэбля – грубыя негабляваныя услоны і збітыя з дошак «козлы», за якімі сядзім. Ды і з памяшканнямі нявыкрутка: тых двух папоўскіх дамоў нехапіла, і наш пяты клас увесь год правучыўся ў звычайнай вясковай хаце, гаспадары якое, двое старых, вярнуліся з Германіі, з катаргі, і туліліся ў першай палавіне. Па-трэццяе, да шолы ў Гайне ад нашага дому добрыя дзве вярсты, а то і з гакам, і хадзіць туды і назад завейнай зімою, або па асеннім дажджы, або напрадвесні разводдзем, у тым адзеткуабутку, – гэта таксама давалася ў знакі.

Была яшчэ адна аклічнасць, ужо іншага парадку, якая прымушае ўспамінаць тагачасную школу з жалем і сумам, і – з крыўдай на нашу агульную долю беларускую і са шкадаваннем усяго пакалення. Маю на ўвазе прафесійную педагагічную кваліфікацыю тых, хто нас вучыў, – настаўнікаў. Добрыя, мілыя і клапатлівыя людзі, і стараліся, як мага, але ... за выняткам двух-трох чалавек – нават сярэдняй педагагічнай адукацыі не мелі, у некаторых за плячыма – адзін-два курсы педвучылішча або наогул дзевяць класаў даваеннай школы і даку-

мент аб тым, што «паступіла на завочнае аддзяленне педвучылішча». Гэта амаль пры поўнай адсутнасці падручнікаў, дапаможнай вучэбна-метадычнай літаратуры і кніг для чытання, для самаадукацыі па тым ці іншым прадмеце. А пасля ..., праз шмат гадоў пасля, слабасць базавай школьнай падрыхтоўкі тысяч беларускіх падлеткаў ваеннай пары будзе непапраўна сказвацца на ўзроўні іх агульнай адукаванасці, начытанасці і дасведчанасці, на іх інтэлектуальнай развітасці. Мы будзем імкнуцца дагнаць тых, каму пашанцавала больш, хто ўсе гады ваеннага ліхалецця і пасля вайны вучыўся ў нармальных умовах, неабмежавана карысталіся бібліятэкамі, хадзіў у кіно, а ў гарадах – і ў тэатр, і на сімфанічныя канцэрты, і ў дамы піянераў і г.д. Будзем старацца навярстаць упушчанае і – на жаль – дзесьці, у чымсьці так і не навярстаем. Бо так і не прачытаем, выбыўшы з адпаведнага ўзросту, тое, што чытаецца ў дзесяць – пятнаццаць гадоў, у самую- самую азартную чытацкую пару. Горкія, балючыя прабелы застануцца на ўсё жыццё і будуць — неаднойчы – ставіць нас у ніякаватае становішча, прымусяць, без віны вінаватых, перажыць пачуццё сораму. І мы так запознена будзем даходзіць да некаторых элементарных ісцін. А маладыя паэты і пісьменнікі, з бяспрэчнымі прыроднымі задаткамі, будуць так доўга дабірацца да свайго, прадвызначнага Усявышнім, узроўню пісьма, літаратурнага майстэрства. Гэтая трагедыя творчых асоб з ліку падлеткаў і дзяцей вайны была бязлітасна ўзмоцнена – у пару студэнцкай іх маладосці – тым, што ўсе грамадскія навукі, якія ім выкладаліся ў інстытутах і ўніверсітэце, знаходзіліся ў смяротных цісках дагматызму, партыйнай заідэалагізаванасці, вульгарна-сацыялагічных канцэпцый. Пераадолець некаторыя пастулаты тых няслушных і фальшывых канцэпцый аказалася для многіх з нас неймаверна цяжка, і, можа быць, да канца вызваліцца ад іх не зусім удалося.

Катастрафічна не ставала ў вёсцы твораў мастацкай літаратуры для чытання. Выпадковай кніжцы ці кніжачцы (напрыклад, з бібліятэкі «Огонька» ці «Советского воина») я радаваўся, як нейкай шчасцівай падзеі, і перачытваў кожную неаднойчы. Неўзабаве справа ўталення прагі чытаць друкаванае, ды яшчэ роднае, беларускае слова пачала паляпшацца: у Мінску аднавілася на працягу аднаго года выданне некалькіх беларускіх газет і часопісаў. Адразу ж пасля вызваленні пачала выходзіць «Звязда», у канцы 1944-га – часопіс «Беларусь», у 1945-м – часопісы – «Полымя», «Вожык», «Бярозка», газеты «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Калгасная праўда», ... У Слабадзе была адчынена чытальня, якая першы год месцілася ў звычайнай дый недагледжанай хаце. Туды й пачалі паступаць бадай што ўсе названыя газеты і часопісы. Падпісчыкаў у вёсцы было зусім мала і толькі на газеты, часопісаў ніхто не выпісваў. Піянерскія выданні атрымлівала школа. У 1945-м у хату-чытальню пачалі дасылаць і першыя беларускія кніжкі. Помню іх усе, быў іх першым удзячным чытачом: «Астап» М.Лынькова, «Поўдзень» В.Віткі, «Шырокае поле вайны» М.Лужаніна,, «Праз вогненны небасхіл» М.Танка, «Гарачы поўдзень» П.Панчанкі, «Лірыка» М.Машары, «Крамлёўскія зоры» А.Астрэйкі, ...

Можа быць, пытанне беларускіх кніг паэзіі і вершаў у часопісах і газетах нанова абудзіла ўва мне жаданне выказаць такім жа спосабам і свае думкі-пачуцці, а можа, проста прыйшла да гэтага пара, але ў кастрычніку 1945-га я

зноў пачаць складаць «сцішкі» (словам «верш» у нас ніхто не карыстаўся, нават настаўнікі. "Дзеці, хто раскажа напамяць сцішок?"). У адрозненне ад усіх спроб колішніх, дзіцячых, на гэты раз пачатак быў зусім іншы, «дарослы» і на «дарослыя» тэмы, а не для забавы-пацехі равеснікам. Сведчаннем гэтага была і поўная таямнічасць «творчага працэсу» (адчуванне, што гэта вельмі тваё асабістае, амаль нешта сакральнае, ці, можа, нават грахоўнае, пра што ніхто з блізкіх і знаёмых ведаць не павінен) і тое, што першы ж верш быў пасланы мной у такую «дарослую» і сур'ёзную газету, як «Звязда». Гэта быў верш пра вяртанне салдата-пераможца дадому, у родную вёску. Адказ з рэдакцыі прыйшоў даволі хутка, змест яго быў трафарэтны: у творы ёсць асобныя неблагія радкі, Але ў цэлым верш слабы, надрукаваць не можам. І разумная парада: збірайце, запісвайце фальклор, народныя казкі, песні, прыказкі і прымаўкі. Адказ, на жаль, чамусьці быў ананімны: «Літкансультант» – і без подпісу. Але што датычыць выказанай мне парады – дык невядомы літкансультант як у ваду глядзеў: ведаў, каму параіць. Пройдзе трохі больш за дзесяць гадоў, і збіранне і даследаванне беларускага фальклору стане маёй другой прафесіяй і рабочым хлебам надзённым.

На пачатку 1946 года напісаў некалькі вершаў пра зіму і зімовыя забавы, не помню, з якіх меркаванняў, паслоў іх у рускамоўную піянерскую газету «Зорька». Адказалі: твае вершы напісаны па-беларуску і таму мы іх перадалі у газету «Піянер Беларусі». Зразумеў памылку і пачаў пасылаць вершы ў беларускія дзіцячыя выданні, найбольш у «Бярозку». Яна і стала маім першым часопісам, у якім я надрукаваўся (ліпеньскі нумар за 1946 год, верш «Яблынька»). Пасля першай публікацыі было яшчэ некалькі – і ў «Бярозцы», і ў «Піянеры Беларусі».

Аб тым, што я друкуюся ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях, у нашай школе даведаліся далёка не адразу, а толькі дзесь на пачатку 1947-га. Больш за іншых настаўнікаў зацікавіўся гэтым выкладчык батанікі і заалогіі (не паводле спецыяльнасці, а па горкай неабходнасці: каб хоць якую работу ў школе) Павел Купрыянавіч Герман – нядаўні палітычны зэк, які за беларускі нацыяналізм адпекаваўся недзе ў Сібіры дзесяць гадоў і цяпер вярнуўся на Бацькаўшчыну без права жыць у Мінску (як і Барыс Мікуліч, і Сяргей Грахоўскі, і Алесь Пальчэўскі і некаторыя іншыя «нацыяналісты», «ворагі народа»). Герман, што праўда, прафесійным літаратарам не быў, Але яшчэ з 20-х гадоў друкаваў у дзіцячых выданнях розныя нататкі і карысныя парады, накшталт «Як самому зрабіць шпакоўню» (ці лыжы, ці санкі) – пра гэта мне нашмат пазней расказвалі і Алесь Якімовіч і Станіслаў Шушкевіч, якія яго добра ведалі. Пісьменнікам ён не стаў, Але як сябар многіх «маладнякоўцаў" жыў агульным з імі настроем і канешне ж быў носьбітам ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння, патрыётам роднага слова і сваім чалавекам у літаратурным асяроддзі. У 1949-м яго арыштавалі паўторна, ужо ў нашай школе, і кудысьці саслалі зноў – як усіх іншых «беларускіх нацдэмаў», удзельнікаў «антысавецкай контррэвалюцыйнай арганізацыі», што было вярнуліся на Беларусь у 1946-м. Як склаўся яго лёс далей – не ведаю.

Дык вось Павел Купрыянавіч Герман аднойчы затрымаў мяне пасля урокаў, сказаў, што чытаў мае вершы ў «Бярозцы», пахваліў, нават вельмі,

пацікавіўся, ці даўно пішу, кго з паэтаў люблю чытаць, і нечакана прапанаваў: «з'ездзі са сваімі вершамі ў Мінск да рэдактара «Бярозкі» Алеся Якімовіча, пазнаёмся з ім асабіста, гэта мой даўні сябра, і я напішу табе рэкамендацыйны ліст, з лістом да яго ты і заявіся, хочаш – на кватэру, хочаш – у рэдакцыю. З'ездзі, пазнаёмся, карысна будзе ...». Я ажно разгубіўся. «Ехаць да Якімовіча? Да самога Якімовіча – галоўнага рэдактара «Бярозкі»? Не, на гэта ў мяне смеласці не хопіць». Не помню, што я прамармытаў, у адказ на прапанову, але Павел Купрыянавіч зразумеў, што не паеду. «Дарэмна адмаўляешся, – сказаў ён. – Падумай і скажы мне, калі дадумаешся ...».

«Надумацца» я не мог, гэта было вышэй маіх сіл – ехаць наўмысна са сваімі вершамі да вядомага пісьменніка. Не ведаю, ці зразумеў настаўнік прычыну майго адмаўлення, ці здагадаўся, што пайсці на гэта мне не дазволіла мая вялікая прыродная бяда – незвычайная, да хваравітасці, сарамяжлівасць. Божа, колькі я ў свае маладыя гады страціў праз яе! Як бы іначай магло многае ў маім жыцці павярнуцца, калі б не гэтая самая бяда, калі б хоць трохі больш смеласці, рашучасці, адкрытасці! Колькі ўпушчана шчаслівых выпадкаў, колькі страчана самім Богам пасланых магчымасцяў атрымаць параду і маральную падтрымку ад старэйшых паэтаў і пісьменнікаў, ад вядомых майстроў слова! Асабліва на тым першым, пачатковым этапе творчага станаўлення ,– да паступлення ва Універсітэт, калі трохі-патроху пачаў у сабе тую дзікую сарамяжлівасць перамагаць.

У ліпені 1947-га года мяне запрасілі на Першую рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў. Было мне няпоўных шаснаццаць, я толькі што закончыў сямігодку і сабраўся везці сваё «чырвонае» пасведчанне ў Мінскае педвучылішча, якое выбраў не таму, што надта хацеў стаць настаўнікам, а таму, што лічыў яго, можна сказаць, беларускім аналагам Царскасельскага ліцэя. З хрэстаматыйных біяграфій і іншых публікацый я ўжо ведаў, што ў Мінскім педвучылішчы (у 1920-я гады – Белпедтэхнікум) выкладчыкам методыкі роднай мовы і літаратуры працаваў Якуб Колас, што студэнтамі гэтага «ліцэя» былі Паўлюк Трус (адзін з самых любімых маіх паэтаў), Пятро Глебка, Максім Лужанін, той жа Алесь Якімовіч. Паехаў у Мінск на нараду і заадно павёз пасведчанне, пахвальны ліст і заяву-просьбу залічыць мяне студэнтам педвучылішча (дзе, вядома, збудзецца мая патаемная мара).

Тады мне і ў галаву не магло прыйсці, што 1921–1931 гадах, апрача названых чатырох, у Белпедтэхнікуме вучылася яшчэ дваццаць, а можа, і больш паэтаў і пісьменнікаў, у тым ліку Лукаш Калюга, Валеры Маракоў, Андрэй Александровіч, Сяргей Дарожны, Сяргей Астрэйка, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Віктар Казлоўскі, Міхась Багун, Зінаіда Бандарына, Станіслаў Шушкевіч, Міхась Кавыль, Уладзімір Стэльмах, Уладзімір Ляўданскі, Сымон Хурсік і іншыя. Гэта – на працягу аднаго дзесяцігоддзя. Амаль усе яны былі ў 30-я гады рэпрасаваныя, многія былі расстраляныя, або загінулі ў канцэнтрацыйных лагерах. Памерлі ў ссылцы. Сёння ўжо можна гаварыць пра Белпедтэхнікум як пра з'яву ўнікальную ў гісторыі беларускай літаратуры, і можа, калі хто-небудзь з гісторыкаў напіша працу аб гэтым. Цікава ўсё ж, чаму сярэдняй педагагічнай установе выпала такая гістарычная місія ... Ну, а мне ў 1947-м годзе было дастаткова ведаць, што

там вучыліся і там сталі паэтамі Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Максім Лужанін, Алесь Якімовіч (пачынаў як паэт, меў кніжачку вершаў і вельмі папулярную у свой час паэму-казку «Каваль Вярнідуб»).

Першая пасля вайны рэспубліканская нарада маладых аўтараў была арганізавана праўленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і Цэнтральным Камітэтам Камсамола Беларусі. Сярод усіх удзельнікаў нарады – амаль без вынятку былых франтавікоў і партызанаў – я аказаўся самы маладзейшы. З ліку тых, чыю творчасць абмяркоўвалі і што сталі пасля вядомымі паэтамі і пісьменнікамі, запомніліся мне Эван Шамякін, Мікола Аўрамчык, Андрэй Макаёнак, Алена Васілевіч, Дзмітрый Кавалёў, Аляксей Русецкі (тады Бурдзялёў), Паўлюк Прануза, Нічыпар Пашкевіч, Алесь Астапенка, Мікалаў Гарулёў і іншыя. Шчаслівага хвалявання мне ў тыя дні хапіла – як досыць. Дзіва што: столькі адразу пабачыць тваорцаў рорднай літаратуры, у тым ліку і жывога класіка – вялікага народнага паэта Якуба Коласа. Не толькі пабачыць, але і пачуць, паслухаць – і на пасяджэннях секцый, і на рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў, прыўрочаным да нарады, і на пасяджэнні праўлення, дзе найбольш выяўленых і здольных маладых прымалі ў сябры Саюза, і ў кулуарах, вядома, дзе таксама было цікава і паназіраць, і паслухаць. Менавіта тады я ўпершыню пабачыў Міхася Лынькова,, Пімена Панчанку, Янку Маўра, Піліпа Пестрака, Петруся Броўку, Пятра Глебку, Васіля Вітку, Максіма Лужаніна, Івана Мележа, Янку Брыля, Анатоля Вялюгіна, Анатоля Астрэйку, Алеся Якімовіча, Антона Бялевіча, Аляксея Кулакоўскага, Паўла Кавалёва і многіх іншых. Усе пяць дзён нарады жыў, прыглядаючыся і прыслухоўваючыся да прызнаных і славутых працаўнікоў на ніве роднай літаратуры, а таксама да тых, хто на гэту ніву толькі ўзыходзіў, – і мне было незвычайна радасна ад усведамлення, дзе я і сярод каго я,– аж у грудзях тая радасць не месцілася. І было мне страшнавата і трывожна-боязна ад думкі: а ці не выпадковы я таварыш тут, а ці ёсць у мяне права быць сярод гэтых людзей, і што мяне чакае наперадзе – якая будучыня? Мары, вядома, мроіліся самыя святлістыя, вясёлкавыя...

На нарадзе, аднак жа, мне двойчы не пашанцавала. Па-першае, мяне запісалі ў секцыю дзіцячай літаратуры – з тых, увогуле справядлівых меркаванняў, што я – аўтар часопіса «Бярозка». Але ж надрукаваныя ў «Бярозцы» вершы, такія як «Выйду», «Зімовы вечар», «Вясновыя вятры», – гэта звычайная лірыка, яны маглі спакойна месціцца і ў «дарослых» выданнях. Зусім не «дзіцячыя» былі і новыя вершы, якія я прывёз з сабою. Ва ўсякім разе, я не сумняваўся, што буду праходзіць па секцыі паэзіі, – як паэт. І ў рабоце гэтай секцыі ўдзельнічаў, сядзеў і слухаў, і мне было вельмі цікава. Але на перапынку падышоў да мяне сакратар аргкамітэта нарады крытык Уладзімір Агіевіч (дарэчы, вельмі сімпатычны чалавек) і, пажурыўшы, што я не там, дзе трэба, прагнаў мяне ў дзіцячую секцыю, чым я быў нямала засмучаны. Там было ўсяго чалавек пяць пачаткоўцаў, ніводзін з іх у пісьменнікі не выйшаў, і столькі ж кіраўнікоў секцыі: Янка Маўр, Алесь Якімовіч, Павел Кавалёў, Хаім Мяльцінскі, зайшоў і быў з паўгадзіны Пятро Глебка.

У тую рату, калі абмяркоўваліся мае вершы, на дзіцячай секцыі прысутнічаў, нямаведама чаго, сумна вядомы далакоп беларускай літаратуры Лукаш Бэндэ, – і

гэта было маё другое нешанцаванне. Пасля таго, як, паслухпўшы мае вершы, літасціва, са скідкай на зялёны ўзрост аўтара, выказаліся Якімовіч, Янка Маўр, Мальцінскі, з удзельнікаў нарады – Аляксей Каўко, журналіст з Піншчыны, – слова ўзяў Бэндэ. І не пакінуў на бедным пачаткоўцы жывога месца – збіў, змяздрычыў, стоўк мае «творчыя плёны» ўшчэнт. Ды яшчэ прысарамаціў тых, хто выказаўся спагадліва. Я слухаў яго смяротны прысуд, не падымаючы вачэй, і адно машынальна круціў у трубачку лісты з няшчаснымі вершамі. Ад сораму мне хацелася праваліцца скрозь зямлю. Як бы я злоўлены на нечым страшна брыдкім. Але слова ўзяў Павел Кавалёў, ён быў тады аргсакратаром Саюза пісьменнікаў, і даў майму крытыку рэзкую водпаведзь, і пачаў цытаваць і хваліць асобныя строфы вершаў. Кавалёва падтрымалі Янка Маўр і Якімовіч. Помню, як я раптам аджыў, як адчуў, што да мяне вяртаецца вера ў сябе, у свой заўтрашні дзень, і нават дзесь у глыбіні душы загаварыла штось накшталт творчай злосці: маўляў, пачакай, таварыш Бэндэ, яшчэ пабачыш, ці такі я безнадзейна нямоглы! На тым праца секцыі і скончылася.

Не належу да тых, хто верыць у дзейнасць нейкіх таямнічых сіл, у нейкія прадназначэнні і наканаванні, але не магу не думаць сёння аб тым, што менавіта на маю долю выпала зведаць, амаль у дзіцячым узросце, сатанінскую лютасць Лукаша Бэндэ – галоўнага пагромшчыка Купалы і Коласа. Няйначай, як глядзеў сатана далёка наперад, ведаў, што тое, чаго ён быў далакопам, стане зместам і сэнсам усяго майго жыцця, маёй пуцяводнай зоркай. Той ідэяй-мэтай, якой буду служыць праўдай і верай да апошняга дыхання.

*Янка Брыль*

## ПЯТРО КОНЮХ З МЯСТЭЧКА ТУРЭЦ

Увосень 1988 –га, на адным з трыумфальных мінскіх канцэртаў Данчыка, у перапынку да мяне падыйшоў малады мужчына, сказаў, што ён вясковы настаўнік, сын Пятра Конюха, нядаўна быў у яго ў Канадзе. «Бацька Вас памятае», — дадаў з прасцяцка-шчырай усмешкай. А пра Данчыка пахваліўся, што з бацькам яны сябры, што Данчыку той памагаў ставіць голас.

«За польскім часам», як у нас гаворыцца і сёння, з Пятром у мяне нейкай большай блізкасці не было. Ён нашмат старэйшы за мяне, хоць такая розніца ва ўзросце не перашкаджала мне сябраваць з некаторымі іншымі старэйшымі хлопцамі ў нашым мястэчку Турэц, аднак былі «кніжнікі», чым Конюх, помніцца, асабліва не вызначаўся. Аднак я паслаў яму сваю новую кнігу «Ад сяўбы да жніва», атрымаўшы ў яго сімпатычнага сына адрас.

Ці гэта таму, што Канада ўсё-такі далекавата, а мы ўжо былі старыя і тады, ён на дзевятым, а я на восьмым дзесятку, а з перапіскай не вельмі спяшаліся, наш кантакт наладжваўся з вялікімі паўзамі. Кнігу паслаў я напрадвесні, ён напісаў мне пад восень. І прыемна было, што наш славуты ў замежжы спявак піша... ну, земляку-пісьменніку, што паміж намі, людзьмі роднай культуры, нарэшце пачынаецца нейкая лучнасць. Трохі дзіўным, нават і смешным здалося

тое, што ў пісьмо, напісанае дастаткова прыстойна па-беларуску*, была ўкладзена дваццацідоларавая купюрына. Але ж і прыемна было, што там, у Новым свеце, мяне крыху ведаюць. Пятро спасылаўся на Вітаўта Тумаша, « каторы напісаў некалькі кніг аб Ф.Скарыне», а да таго яшчэ «ён твае кнігі выкупліваў у савецкім магазіне ў Нью-Ёрку і многім беларусам высылаў...».

Пасля пэўнай паўзы я паслаў Пятру і альбом пра мяне, надпісаўшы, што гэта – «напамін пра нашы родныя мясціны». Пасля ў Пятра была спроба пабудаваць сабе домік у родных мясцінах, і ён цераз сына звярнуўся да мяне па магчымую дапамогу. Я пачаў варушыцца, але, як неўзабаве аказалася, дарма, — неразбярыха старая змяшалася з новай ... А тады наступіла яшчэ даўжэйшая паўза – да некралогу ў заакіянскім «Беларусе», падпісаным яшчэ адным земляком, маладзейшым за нас абодвух, Янкам Запруднікам, (Сяргеем Вільчыцкім) з Міра.

Дарэчы, у некралозе адна істотная недакладнасць. «У Італіі ён апынуўся, — піша Запруднік пра Конюха, — як шмат хто з колішняй Заходняй Беларусі, што былі ў 1940–41 вывезены ў Сібір, праз маршрут Іран-Ірак-Палестына ды паходы польскага генерала Андэрса». Пятро Конюх не быў вывезены, ён дасканаліўся ў расійскім Ржэве на ільнаводчых курсах, жыў там адзін, без жонкі і дзетак, дзе і застала яго вайна. Як былы польскі жолнеж, здаецца, нават і капраль, трапіў да Андэрса, ну і гэтак далей. Я змалку ведаў гэтую сям'ю. У школу хадзіў з Пятровым братам і сястрою, мой брат служыў у польскім даваенным войску з Пятром, які пасля ажаніўся з адной з маіх школьных сябровак. З ёю я сустракаўся ў пасляваенны, нялёгкі ў яе, бязмужны час. Бачыў і сына іхняга, ужо студэнта, што на «гулянні» ў нашым вясковым клубе ахвотна і хораша іграў на акардэоне, які яму, як з пашанай гаварылася, славуты бацька прыслаў, здаецца, з Італіі.

Ад некралога спакваля, з лёгкім усмешлівым сумам, у памяці паўтарыліся некаторыя малюнкі школьнага маленства. Як мы крыкліва-весела назіралі за спартыўнымі спаборніцтвамі пажарных камандаў з розных вёсак гміннага наваколля. Верхам на слізкім бервяне, з мяшком у правай руцэ, на палавіну ці менш напоўненым сенам або саломай, — так збіваюць адзін аднаго з бервяна. І ніводзін не мог утрымацца на ім- усіх збіваў дужы ды спраўны Конюх. Найлепш запомніўся мне толькі адзін са збітых. Вузкатвары ды белабрысы дзяцюк з недалёкай вёскі Лядкі, адкуль пасля, ужо ў савецкі час, нястомны ў сваіх фальклорных пошуках Генадзь Цітовіч вывеў у людзі «Лядкаўскую кадрылю». Сустрэўшыся з тым лядчанінам у партызанах, я ажно засмяяўся міжволі, як быццам зноў убачыў той жах на яго кадрыльнай белабрысасці пад сіняй канфедэраткай, у момант горкага падзення з бэлькі на траву...

Успомнілася таксама, як Пятро, для нас, падшыванцаў, быў найгалоўнейшым у нядаўна арганізаваным духавым аркестры пажарнай каманды – гарманістам. На кожным з паньствовых святаў ён іграў на сваім горне збор на пачатку ўрачыстасці. Спачатку, пакуль ён няспешна ды важна зыходзіў з ганка Людовага дома, выходзіў далей на «места», як называлі тады мястэчковую плошчу,

* Ліст П.Конюха – у наступным раздзеле.

спыняўся на пагорачку, мы, меншыя школьнікі суправаджалі яго захопленай чарадой. А пасля зміралі ў чаканні, калі ён уздымаў сваю ярка бліскучую трубку да прыкметнай таўстагубасці і – нарэшце! – іграў, заклікаў!

І такое яшчэ. Не памятаю нават, ці я гэта бачыў і чуў асабіста, ці ўяўляю з чужое падачы, з таго часу, калі ўжо ў царкву я сам, дастаткова крамольна начытаны, не заходзіў.

Як зноў жа Конюх, Пятро, яшчэ і спявак у добра наладжаным царкоўным хоры, выходзіў з кліраса да аналоя, крыху не на самай сярэдзіне паўналюднай, ціхай царквы, і ўрачыста чытаў сваім магутным басам «Апостала». Рэчытачыў быў такі, што вісюлькі панікадзіла над над чытальнікам дрыжалі, гайдаліся і крышталльна пазвоньвалі...

... Улетку 1998-га, калі ў нашых раённых Карэлічах святкавалася двухсотгоддзе Яна Чачота – таксама ж земляка! – Пятро па запісе спяваў нам велічна натхнёную «Магутны Божа»...

*[Надрукавана ў беластоцкім часопісе «Тэрмапілы», № 3, 2000 г., а таксама ў маёй кнізе запісаў за 1996–2002 гг., «З людзьмі і сам-на-сам» (2003)].*

*Аляксей Пяткевіч*

## ЛІСТКІ З ВЯЛІКАГА ДРЭВА

Незабыўная Заська Верас... Дарагая Людвіка Антонаўна... Успамінаю яе заўсёды з самым цёплым пачуццём, нязменную заступніцу беларушчыны, няспынную руплівіцу на нацыянальным палетку жыцця, апошнюю з магіканаў, што складалі такі духоўна моцны і шляхетны гурт у нашаніўскую пару нашай культуры.

Сваёй асобаю і сваёй культурніцкай працай яна звязала нацыянальна-духоўны ўздым той эпохі з кароткім, але вельмі плённым перыядам беларускага адраджэння, якое прыпала на канец 80-х – пачатак 90-х гадоў 20-га стагоддзя. Яе падзвіжніцкае жыццё стала тым своеасблівым звяном, што лучыць мінулае з нашым часам і падцвярджае ісціну беларускай рэчаіснасці: добрыя справы, плённыя здабыткі нашай інтэлігенцыі ў мацаванні нацыянальнай ідэі не абрываюцца і не прападаюць з жыцця, нават пры наступным чарговым драматычным заняпадзе. Яны заўсёды маюць свой непасрэдны, хоць і не надта прыкметны працяг. Заўсёды застаюцца людзі, якія не зважаючы на неспрыяльныя абставіны, упарта працуюць дзеля беларускай ідэі, рыхтуючы глебу для будучыні. Такой працаўніцаю была Зоська Верас. Выдавец-рэдактар, пісьменніца, публіцыст, адміністратарка грамадаўскіх газет, педагог-выхавальнік, папулярызатарка разнастайных ведаў з галіны беларускай прыроды, народнай культуры, народнай сістэмы вядзення гаспадаркі, універсальны дарадчык па пытаннях жыцця яе часу – чым яна толькі не займалася! І ўсё для таго, кааб жыла Беларусь, каб людзі чуліся лепш, чым яно было пры розных уладах, каб не страцілі веры.

У другой палове 20-х гадоў Зоська Верас выконвала разнастайныя тэхнічныя абавязкі, рыхтуючы да выпуску газеты Беларускай сялянска-рабочай грамады. Яе зусім не бянтэжыў нізкі грамадскі статус такога становішча. Больш за тое, не раз падкрэслівала, што было выразнае адчуванне маладаступнасці яе для Браніслава Тарашкевіча, іншых паслоў Сойму, некаторых палітычных і культурных дзеячоў Заходняй Беларусі, якія высока падняліся ў жыцці і трымаліся з «сваімі дамамі» досыць ганарліва. Але яна, чарнарабочая беларускага руху, была задаволена сваім заняткам, бо заўсёды старалася працаваць на нацыянальную справу, і гэта лічыла галоўным.

Запомнілася яе інтэлегентнасць, асаблівая, характэрная для людзей, узгаданых на тым, нашаніўскім часе. Арганічная ветлівасць, зычлівасць у адносінах да суразмоўцы, шчырая дабрыня, якая заўсёды свяцілася ў вачах, калі вяла гаворку пра духоўна блізкіх людзей, стрыманасць у пачуццях, далікатнасць – гэта Яна, Зоська Верас.

Мікола Трухан, калі стварыў у 80-я свой тэатр «Дзе я?», прывёз трупу ў Гродна, каб артысты пахадзілі па старых вулачках, падыхалі беларускай даўніною. Мы доўга тады сядзелі ў пустой зале мясцовага тэатра, і я распавядаў ім пра Зоську Верас. Трухан марыў ставіць Францішка Аляхновіча і праз Зоську Верас хацеў лепш уявіць свет гэтага беларускага драматурга, атмасферу жыцця таго часу.

Мяне вывела на Зоську Верас Паўліна Мядзёлка. Неяк пачаў распытваць у яе пра культурнае жыццё Гродна ў 1919—20-я гады, дзе яна тады займалася педагагічнымі і тэатральнымі справмі. П.Мядзёлка параіла звярнуцца і да Зоські Верас, дала адрас. Гэта было ў 1971 годзе. Так пачлося наша ліставанне, а затым і сустрэчы. Летам 1972 года прыехала з сынам і ўнукам у Гродна. Гэта была яе даўняя мара: тут жа калісьці выбрала назаўсёды сваю дарогу. У 1909–13 гадах актыўна працавала ў Гродненскім гуртку беларускай моладзі.

Паказваў ёй горад. Новыя мікрараёны не зрабілі, здаецца, уражання. Але з задавальненем хадзіла па знаёмых вуліцах гістарычнага цэнтра. Пастаяла ля сцен старажытнай Каложы, ля будынка г.зв. Батароўкі, дзе прайшлі яе гімназічныя гады. Зайшла ў двор (унутры старога квартала), дзе жылі калісьці дзед і бабуля па лініі бацькі, якіх часта адведвала. Толькі ўсё тут моцна змянілася, і Яна доўга тапталася на адным месцы, разгублена паўтараючы: «Дзе ж тое ўсё падзелася?»

Лісты пісала досыць часта і нават трохі гневалася, калі доўга не было адказу. Запрашала прыязджаць, бо хіба ж у лісце скажаш? А мяне многае цікавіла, асбліва ў першы перыяд ліставання, у 70-я гады. І я з найлепшым настроем выпраўляўся ў дарогу, знаючы, што цябе сустрэнуць, як роднага. Толькі часта, асабліва зімою, даводзілася блукаць у лесе (спачатку кіраваўся схемай, якую намаляваў Мікалай Міхайлавіч Марцінчык, таксам з магіканаў), пакуль траплляў на патрэбную сцежку. Нарэшце да мілага глінабітнага доміка, што туліўся на лясным касагоры з невялікай пляцоўкай, занятай садам, дзе красаваліся адмысловыя пароды пладовых дрэў і кустоў, на градах – такія ж рэдкія гатункі ўсякіх культур, крапатліва дагледжаных дасведчанай гаспадыняй. Праўда, сама Людвіка Антонаўна ў агародзе амаль не працавала: не было ўжо сіл. Гэтым займалася дачка Галіна Антонаўна і зяць Лявон Луцкевіч, а найбольш унук

Славік, таленавіты малады фізік, які выявіў таксама здольнасці батаніка ды садавода і стаў асаблівым гонарам бабулі.

У другой палове 80-х гадоў здароўе Зоські Верас прыкметна слабее. Яна ўсё больш скардзіцца на недамаганні, а на схіле 1998 года імкліва траціць зрок. Апошнія яе лісты кароткія, «рваныя» паводле сінтаксісу, пісаныя ўжо фламастарам, вялікімі літарамі па разлінаванай паперы... Іх цяжка ўжо расшыфраваць. Так ліставанне абрываецца. А ў гэты час адбываліся вялікія падзеі – гарбачоўская «перабудова», развал савецкага таталітарнага монстра, утварэнне незалежнай Рэспублікі Беларусь. І першае, што я спытаў, калі восенню 1991-га мы прыехалі вялікай гродзенскай грамадою ў Вільнюс на яе пахаванне, ці ўсвядоміла Зоська Верас абвяшчэнне Беларускай незалежнасці, ці была пры памяці. Лявон Луцкевіч у адказ сумна пакруціў галавою. Вельмі гэтая вестка засмуціла: усё свядомае жыццё Людвіка Антонаўна аддала нацыянальнай справе. А к фіналу не займела ўжо сіл, кааб успрыняць сцяг незалежнасці. Што ж, галоўнае, жыццё гэта было прыгожае, годнае, напоўненае шматлікімі знаёмствамі і трывалымі сяброўскімі стасункамі, прасякнутае адзінай высакароднай ідэяй. Нямала пра тое гавораць і лісты апошняй пары няпростай і немалой дарогі*. Яны мне здаюцца лісткамі вялікага зялёнага дрэва. Якое паволі асыпалася, хараша пражыўшы свой адведзены лёсам век.

*Уладзімір Содаль*

## КУШЛЯНСКІ ДОН-КІХОТ

«Чаго ты ў гэтыя Кушляны ездзеш?» – гэтак пытаўся ў слыннага на Беларусі апякунаа Багушэвічавай сядзібы Міхала Ляпехі ягоны сын Генадзь, віншуючы свайго тату з новым, 1991 годам. Пісаў з-пад маскоўных Хімкаў, дзе ён жыў і займаў высокую пасаду. Не ведаю, што напісаў на гэтае сынава пытанне дзядзька Міхал. Але з майго ліставання відаць, што дзядзька Міхал, які ўзяўся апекавацца песняроваю сядзібаю з 1951 года, пакінуўшы сваю ў недалёкіх ад Кушлянаў Базарах, не ўяўляў свайго жыцця без гэтага святога куточка.

Тут ён з простага селяніна вырабіўся ў народнага інтэлігента, чалавека адухоўленага, зросся душою з песняровай спадчынай. Яго ведала ўся літаратурная эліта. Сваімі росшукамі ён дапамагаў нашым даследчыкам. То як яму было без Кушлянаў!? Без Кушлянаў ён быў, што птушка без крылаў. Застаўшыся адзін, ён часта хварэў. Не адзін раз яго лячыла Масква. Трохі падлячыўшыся, ён зноў ляцеў з Масквы ў Кушляны, кааб сустракаць там пілігрымаў з далёкіх і блізкіх краёў, распавядаць ім пра таго, хто абудзіў Беларусь ад летаргічнага сну, сказаў беларусам, што іхняя мова такая ж людская і панская,

---

* Частка лістоў Л.А.Войцікавай (Зоські Верас) да Аляксея Пяткевіча – у наступным раздзеле.

як нямецкая або французская ці якая іншая. Такіх людзей, як дзядзька Міхал, на Беларусі было мала. Я ведаў траіх: гэта быў Коласаў брат Юзік, івянецкі мастак-разбяр *Апалінар Купка* ды дзядзька Міхал Ляпеха з Кушлянаў. Гэта былі прыродныя народныя таленты. Усе яны былі выдатнымі чытальнікамі, любілі родную мову, літаратуру, народную спадчыну. Разумеючы гэта я аднаго разу папрасіў дзядзьку Міхала напісаць кароткую біяграфію. І ён паслухаўся, напісаў. Не ведаю чаму, але ў мяне аж тры варыянты – адна больш пашыраная, астатнія скарочаныя.Адзін з варыянтаў аўтабіяграфіі Міхала Ляпехі і прапаную чытачам «Скарыніча». Міхал Ляпеха, можна лічыць, равеснік дваццатага стагоддзя. Ягоная аўтабіяграфія якраз і ёсць тое люстэрка, у якім адбіваецца гісторыя лёсу нашага народу такой, якой яна была, якой яна запомнілася аднаму з яе сыноў, Ляпеху Міхалу з Базароў.

*Міхал Ляпеха. Аўтабіяграфія.*

Я, Міхась Ляпеха, нарадзіўся першага кастрычніка 1903 года старога стылю ў вёсцы Базары Крэўскай воласці Віленскай губерні. Бацька мой – Сымон, матуля – Стэфанія, з Карандоў, з Лісоўскіх Крэўскай воласці. Бацькі свайго добра не помню. Толькі помню боты, якія ён мне купіў, былі яны надта бліскучыя.

Помню, як я хадзіў у тых ботах па лаве і па хаце. Помню як мацін дзядзька прыехаў у госці з жонкай, якая была родам з Аўстрыі, гаварыла па-польску. Гледзячы на сцяну за сталом, казала: «Ото сцяна маляваная». Сцяна блішчэла ад таго, што мы сваімі зрэбнымі сукенкамі, лазячы па лаве за сталом, вымаравалі яе. Яна выглядала, як паліраваная, надта блішчэла. У вёсцы ў той час малым хлапчукам не спяшаліся шыць парточкі, гадоў сем – тады ўжо матуля пашые парточкі. Якой жа была радасць, як наложыш першы раз тыя парточкі ды яшчэ шлейка праз плячо, каб трымаліся.

Хата ў нас была на два канцы. Пасярэдзіне сені, якія таксама былі перагароджаны сцяной для каморы. У каморы стаялі куфры на адзежу, бо шкафоў тады яшчэ не было. У каморы стаялі жорны, розныя гаспадарчыя прылады. Пад печай у хаце зімой і летам былі куры. Помню, як адна бабулька гаварыла нашай бабульцы: «Сягоння заспалі, певень падвёў, позна заспяваў». Загарка тады ня было. Свінню, якую меліся калоць перад калядамі, кармілі цестам, таксама ў хаце.

Вучыцца пачаў у настаўніка, які хадзіў па хатах, вучыў дзяцей. А потым хадзіў у вёску Мысу ў школу, якая была ў хаце Усціновіча. На сцяне школы была шыльдачка «Мыское народное училище». На версе вывескі быў двухглавы арол. Помню, як у тую школу хадзілі мы: хто ў хадаках, хто ў лапцёх, хто ў чунёх. Адзежа была сваёй работы, тканая ў хаце, пафарбаваная. Называлася шарачковая. З таго ж шарачка была і торба на кніжкі насіць у школу.

У хаце нас было сямёра дзяцей: шэсць дзядзькі Грышкі і я адзін, Сымонаў. Помню, як малога застаўлялі адпасываць калейку пры пастыры. Запомнілася, як пастыр, ведаючы каторая гаспадыня моцна спіць, мусіў трубіць пад самым

акном альбо трубой прапіхне ў хату, чым заткнёна, пабітая дзяцьмі шыба, уложа трубу і затрубіць на ўсю хату. Летам ноч малая. Каб я не заснуў у полі, пасучы кароў, дык бабуля ў свірне пасцеле пасцель, пакліча мяне, а сама з свірна выйдзе: «Спі, унучак, кажа». Помню, як дзялілі дзедаў шнур на тры шнуры вузенькі. Але скора вайна, і толькі ўправіліся апрацаваць гэтыя вузкія шнуры пад пасеў жыта, увосень і вайна. Усё кінулі, бо салдаты сказалі: «Збірайцеся, бо будзем вёску паліць!» Было гэта ў 1915 годзе ўвосень. На вазах парабілі з пасцілак буды ад дажду. У палудзень выехалі ў бежанцы. Ад'ехалі вёрстаў 14 і ў сасонніку на пагорку зрабілі начлег. Відаць было, як гарэла наша вёска Базары і суседнія вёскі: Лапціха, Міхнічы, Вяліко Мыса. Назаўтра паехалі да Маладэчна. Па дарозе спаткалі шмат войскаў, найболей артылерыя, запррэжаныя па 6-8 коней у адну гармату.

Помню, як кружыў нямецкі самалет, як хаваліся пад дрэвы. Салдаты казалі: «Не ездзіце далёка. Мы немца далей не пусцім». Праўду казалі, далей не пусцілі. На нашых палях была лінія фронту. Немцы панараблялі цамянтовых бліндажоў, акопаў, усе палі перакапалі равамі, перагарадзілі іх калючым дротам.

Вечарам пагрузіліся ў вагоны на станцыі Маладэчна. Самалёт скінуў бомбу, нарабіў панікі, але воддаль ад нас. Запісалі нас везці ў Сібір. Везлі доўга. На станцыі Кінель за Самарай матуля спаткалася з дзядзькам з-пад Гальшанаў, які таксама ехаў у бежанцы да свайго швагры, які ўжо даўно жыў у горадзе Пяроўску, не даязджаючы Ташкента. Памаглі пагрузіць нашы манаткі ў свой вагон. Матулі сказалі: «Куды ты ў тую Сібір?! Сама замерзнеш і дзіця замарозіш!»

Завезлі, як тады называлі, у Туркестанскі край восемдзесят тысяч бежанцаў. Народ, не прывыкшы да таго клімату, пачаў хварэць. Пачалася нейкая хвароба. Да мая з 80 тысяч 30 тысяч памерла. Бежанскі камітэт, відзячы ўсё гэта, загадаў вывезці назад у Расію. А хто застаўся, не лічыўся бежанцам, ніякай дапамогі, як бежанцу, не будзе. Нас прывезлі ў Пензу. Прабылі ў Пензе лета. Я ўжо працаваў у краме бакалейнай у купца Ціханава. Працавалі яшчэ два хлопцы. Як на заказ – усе тры Мішкі. Большы Мішка, сярэдні Мішка, маленькі Мішка – гэта я. Прабылі лета ў Пензе. Бежанскі камітэт запісаў на работу ў Мінскую губерню. Матуля запісалася. Кажа, з Мінскай губерні скарэй дастанемся на радзіму ў Віленскую губерню. Прывезлі нас на станцыю Барысава. З станцыі заваезлі ў вёску Перасады. Пайшлі ў лес на нарыхтоўку дроў для паравозаў. Але скора матуля пайшла працаваць да начальніка за кухарку, а я летам вазіў пошту і быў пасыльнікам. Кантора была недалёка ад вёскі Стайкі, і мы туды пераехалі. Прыслалі 500 кітайцаў на нарыхтоўку дроў. Дзве зімы я вучыўся ў Барысаве ў гарадскім вучылішчы. У 1918 годзе немцы пайшлі далей у Расію, а нас прывезлі на станцыю Смаргоні. Смаргоні і шмат вёсак было спалена за вайну. Мы з матуляй пайшлі служыць за Ашмяны да бліжэйшых гаспадароў. Матуля на адным хутары, а я на другім за пастушка служыў. Было гэта ў 1918 годзе вясной. Потым матуля пайшла служыць за кухарку ў Ашмяну да адваката. Я ў 1919 годзе перайшоў на службу да другога гаспадара ўжо за баранавалока. Першы год з мая да Калядаў згадзіўся за два пуды дабра: адзін пуд жыта цалкам, а другі – паўпуда грэчкі і паўпуда гароху. А другі год за цэлы год два загоны бульбы праз гоні. 1919 год быў надта галодны. У матуліных бацькоў у Каранох не было чаго

есці, дык яны елі розную траву, варылі і пяклі. А ў восень, як дачакаліся жыта, дык спяклі хлеба з мукі жытняй. І за два дні памерла сем душ, застаўся толькі адзін, самы меншы хлопец, якога матуля аддала наразе ў прыют у Ашмяне. Адзін сусед з Базароў быў у бежанцах за Ашмяной і ён вярнуўся, і мы разам з суседам ужо ў 1919 годзе зімавалі ў лесе ў нямецкім бараку. Потым з нямецкіх блях зрабілі ў Базарах барак і жылі ў ім. З бежанцаў з Расіі вярнуліся толькі я і матуля, а болей ніхто не вярнуўся, і ўжо шнур зямлі зрабіўся шырэйшым, такі, як быў у дзеда.

У 1925 годзе матулю забраў чалавек з Польшчы, які прыехаў з Расіі з бежанцаў удаўцом, які меў жонку з нашай вёскі. Засталася маленькая дачка ад гэнай жонкі, з якой ён паехаў у Аргенціну, і забраў матулю. Я застаўся гаспадарыць адзін, і пры мне быў матулін брат, той, што застаўся толькі адзін жывы ў 1919 годзе. Шкада, што няма той кніжкі на польскай мове. Загаловак «Нэля і Патраш». Нэля – гэта хлопец, які меў здольнасць маляваць, з якога зразу смяяліся. Жыў ён у старых людзей і на сабаку Патрышу на двухколцы з скрыняй вазіў па кватэрах хлеб, булкі. Потым старыя яшчэ пастарэлі і пекар перастаў даваць вазіць хлеб і булкі па кватэрах. Але Петраш, сабачка, кожную раніцу станавіўся ў аглоблі, хацеў паказаць гаспадару, што не хоча дарма есці хлеба. Было крытычнае жыццё гэтага хлапца, але раптам яго рысунак – Міхала-драваля, седзячага на пні з вязкай дроў – прызналі за добры і атрымаў узнагароду. І яму ўдалося ажаніцца, узяць жонку з шляхетнай сям'і. Гэная кніжка заставіла мяне браць прыклад, толькі не маляваць, а гаспадарыць, будаваць хату прыгожую, кааб таксама ажаніцца з шляхетнай, як тады называлі, дзяўчынай. Але з той, што я меў на прыкмеце, глядзела не на гаспадара, а каб быў нейкім начальнікам, вучыцелем, не прастым рабочым. У 1931 годзе ажаніўся. На будовы хаты залез у доўг. Мусіў працаваць, каб выбіцца з даўгоў. Надумаўся з аўчын астрыгшых даць зарабіць у Смаргоні Садоўскаму хромніку. І пашыў сабе тужурку – кожанку з тых аўчынаў. А паліцыя думала, што гэта я хачу браць прыклад з савецкіх камісараў. Быў выпадак, што ўначы я быў на начлезе з коньмі, а паліцыянт прыйшоў у хату і пытаецца ў жонкі, дзе гаспадар. Жонка адказала: «Паехаў на начлег» – і сказала, куды паехаў. Прыйшоў да мяне, пасвяціў ліхтарыкам, пераканаўся, што я пасу коні, а не разношу лістоўкі.

У вёсцы Тутовічы было аж 12 цагельняў. З прыкладу тутоўскіх людзей задумаў і я зрабіць цагельню. У 1939 годзе толькі першую печ выпалілі і прыйшло савецкае войска, савецкая ўлада. Пазыку ў банк ужо не трэба было аддаваць. Затое, што я ўмеў рабіць і паліць цэглу, мяне зрабілі майстрам і забраніравалі, на вайну не ўзялі. Потым трэба было вапну паліць, і дырэктар прамкамбіната загадаў пакінуць цагельню, а ў Наздрачунах рабіць вапельню. Рабілі печ на дваццаць тоны вапны, на гарах шукалі вапельнага каменю. Капалі і палілі да 1959 года ў Наздрачунах. Потым дырэктар загадаў рабіць печ у Смаргонях... Выпісаў вапняку ўвосень, прыйшлі платформы з вапняком на станцыю Смаргонь. Пачаўся мароз. Вапняк замёрз на цвёрды камень, што цяжка было пагрузіць. І на гэтым вапельная перастала працаваць. У 1951 годзе дырэктар Смаргоньскага прамкамбіната заключыў дамову з Маладэчанскім абласным аддзелам культуры на рамонт Багушэвічавай хаты ў Кушлянах. У тым жа 1951

годзе зрабілі рамонт, і хату перадалі мне як сторажу, і з 1951 года я жыву ў Багушэвічавай хаце, наглядаю парк, саджаю дрэўцы, наглядаю алейку, што вядзе на Лысую Гару да каменя «Памяці Мацея Бурачка». Спатыкаю экскурсіі, якія наведваюць Кушляны, распавядаю пра Фр.Багушэвіча і яго сям'ю.

* * *

Сын дзядзькі Міхала Ляпехі Генадзь, пытаючыся з Масквы, чаму тата ў тыя Кушляны ездзіць, далей пісаў: «Толькі нервы псуеш! Калі б не гэтыя Кушляны, можа б і жыццё сваё лепш уладкаваў!»

Можа б і ўладкаваў. Пэўна б, уладкаваў. Але ці спазнаў бы ён гэтулькі шчаслівых хвілінаў, колькі ён іх меў, апекуючыся спадчынай чалавека, пра якога казалі: «На ўсю Беларусь мільён пракурораў і толькі ён адзін адвакат». От таму і ехаў дзядзька Міхал у тыя Кушляны.

Дзядзька Міхал Ляпеха нарадзіўся ў 1903 годзе. Сёлета ўвосень яго першыя сто гадоў з дня нараджэння.

*08.05.2003. г. Менск*

*Лена Цыбіна*

## СІРОЧЫЯ СТАРОНКІ

Дзед наш Васіль Цімафеевіч Каўка паходзіць з вёскі Стары Востраў Бярэзінскага раёна ля ракі Беразіна. Меў трох братоў — Рыгора, Сцяпана, Навума. Падрос, навучыўся плотнічаць, сталярнічаць. І вось так пайшоў па свеце зарабляць на кавалак хлеба. Пра яго людзі гаварылі толькі харошае — працавіты, добры быў чалавек. Саўка Епімашка, аднасяльчанін, гаварыў мне: слухай, Лена, што я табе раскажу пра твайго дзеда, як мы, маладыя, паважалі яго, працуючы ў плотніцкай брыгадзе. Розныя ж былі работнікі — хто рупіўся, а хто, гультаяваты, абы з рук. Бывала, паложым вянок — гэта кругом чатыры бервяны. Каўка бярэ такі клінок і з ім пройдзе увесь круг, адразу бачыць, дзе нядбайна зроблена і новая хата будзе халоднай. Заставіць нанова падняць бервяно і выбраць драчку: так няможна, тут жа людзі з малымі дзецьмі жыць будуць і нас нядобрым словам памінаць. У Клецях, каля Горак, прыстаў ён, маладым, да дачкі багатых Кунцэвічаў. Адбудаваў стройны дом, пастройкі. Праз колькі год жонка памірае, не маючы дзяцей. Цесць выганяе прымака, не даўшы яму нічога — такі быў час. Васіль ідзе ў Горкі да другой дзяўчыны Ульяны: брат яе, зусім хворы, адпісаў маладым сваю зямлю. З Ульянай Рыгораўнай Блізнюк пайшло жыццё шчаслівей. Зноў Васіль стаўляе новы харошы дом, забудовы. Жонка нарадзіла шасцярых сыноў — Пятра, Бладка, Косціка, Яшу, Восіпа, Мішу і дзвюх дачок Вольку і Зосю. Вялікі сад мелі — помню, любілі, малымі, бегаць к дзеду за яблыкамі, шкадаваў ён унукаў. Дзедавы сыны ўсе працавітыя, не лянівыя, але пайшлі па свеце. — дзе каторы адслужыць армію, упадобае там дзяўчыну і жэніцца. Сярэдні ж Косцік, папа наш, прыстаў у прымы ў Равецы, у сям'ю багатага Маркі

Атрашэўскага, да старэйшай дачкі Ганны. Бацька не выдаваў дачок на старану, хацеў, каб рабілі на сваёй зямлі. У Маркі было поўна лесу — дастаў у пасазе за жонкай Зосяй Фінскай, з Угальца [Пухаўшчына]. Дзед Марк Іларыёнавіч Атрашэўскі быў граматны, меў «Георгія» з першае вайны. Хацелі ў Равецы адкрыць беларускую школку. Раней жа бацькі дзяцей у школу не пускалі. Мама наша Ганна і цётка Аўдакея ніводнай літаркі не ведалі. Бо мацеры, Марчысе, трэба былі памочніцы: жаць хлябок, убіраць, даводзіць да ладу лён, — колькі ж работы, пакуль атрымаеш кудзельку! А потым у доўгія зімовыя вечары трэба усё перапрасці, каб вясною выткаць кросны — на пасцілкі, скацерці, рушнікі, кужалёк на адзежу. Вось такое было жыццё старэйшых дачок; маладзейшыя ж раней у горад падаліся — Таня, Манька, Надзя, Сіма — тая была вельмі здольная да навукі, вучылася за настаўніцу, але, бедная, сышла ў магілку дачасна, ад сухотаў.

Пры савецкай уласці ў Маркавай хаце адкрылі лікбез — усіх непісьменных жанок застаўлялі па вечарох ісці вучыцца грамаце. Мы, малыя, помню, прытуліімся ў кутку, цікуем — што гэта за лікбез такі. А дзед Марка з дочкамі меншымі, што ўжо ў школу хадзілі, памагае старэйшым пазнаваць свет. Мама наша навучылася распісвацца, чытаць. Пазней, як мы з Валяй [малодшай сястрой] пайшлі ў школу, любіла мама гартаць нашыя кніжкі і чытаць па складах.

Як стаў калгас, мама вадзіла нас з Равекі пад Сасноўшчыну, за тры кіламетры, у яслі, адчыненыя ў доме раскулачанага Баравіка. Красіва там было, цікава: краваткі дзіцячыя, плаццечкі з куплёнае мацерыі, місачкі маленькія, кубачкі — усё было прыгожа. Люса Нагорная і Ціхановічыха нас глядзелі. З год мама нас павадзіла і больш не павяла, стала дачок браць з сабой на работу. Было мне гадоў 7 і я ўсяму вучылася ад мамы. Радая была, ўсё скора схоплівала — дзе якую траўку на поліве сарваць, свірэпку ці васілілёк — а ён жа ой які благі для добрай раслінкі. Мамка заусёды любіла пахваліць, як я ўдала сярпом раблю замах, як слухаюцца мяне каласочкі — ета было мне вельмі даспадобы. А ідучы дадому прыгожа спявалі жнейкі, асабліва мама — была ўсім запявалай:

Сонейка заходзіла, гэй,
Мамка дочку праводзіла, гэй,
Праводзячы пыталася, гэй –
Як табе, доча, спалася, гэй,
Ці свякроўка сварылася, гэй,
А мы ў полі жыта жалі, гэй,
Нашы спіны моцна ўсталі, гэй,
Сонейка далоў-далоў,
А жнейкі дамоў-дамоў.

Маміны песні дасюль помню. Вось яшчэ адна:

У мяне дома бяда стала,
Свякровачка з плоту ўпала,
З плоту ўпала ў крапівачку,
Ня жаль мне свякровачкі,

А жаль мне крапівачкі.
Свякровачка бяда мая,
Крапівачка яда мая.

Успомніўся мне такі случай. Была я першай дачкай Валькай, на пятым месяцы. Хваравіта чулася, а жаць жыта заядлая. За нашымі соткамі, дзе гумно калгаснае было (немцы спалілі). Бялевічы яшчэ не сяліліся там — калгаснае жыта, гектары мо 3-4. Вот я і заняла той загонішча, ад дарогі, каб не хадзіць далёка. Старалася, старалася, гектары з два, болей зжала — пайшла праз дзіцятка кроў. Адвезлі ў бальніцу. Нядзельку праляжала, а ўсё рупілася, хаця б дажынкі без мяне не адбыліся. З бальніцы хуценька на свой загон, старалася, каб дажаць. На другі дзянёк, аставалася якіх снапкоў пяць дажаць, чую — бабы дажынкі заводзяць. Вяжуць бараду, плятуць вянок брыгадзіру і старшыні. У мяне чуць сэрца не выскачыла з грудзёў ад хвалявання — як жа без мяне? Ї так я хапала ў снапкі на перавясла, а Валіку [мужу] сказала пазносіць, снапкі ў бабачкі, а сама, нарваўшы кветак, каб удзельнічаць у Вянку-Барадзе. Якую сабіраюць з смых буйных каласкоў у кучку і перавязваюць самымі прыгожымі стужкамі ў трох месцах, затыкаюць туды краскі, паліваюць карэньчыкі вадою — каб радзіла жытцо наступным летам. А на Вянок таксама зразаюць доўгія каласы і плятуць іх з кветкамі вянкі пану, начальніку. Вось я і паспела і Вянок плесці, і Бараду ўпрыгожыць і разам нясці ў кантору. І пелі дарогаю з поля, пелі:

Да каціўся вянок з поля,
Да прасіўся да пакоя, гэй!
Пусці, пане, пагрэціся, гэй,
Бо я ў полі настаяўся, гэй,
Буйным ветрыкам намахаўся, гэй,
Дробным дожджыкам намакаўся, гэй,
Сільнай гразой к зямельцы згібаўся, гэй...

Вось так ішло наша калгаснае жыццё. Хоць цяжка жылося, але і весела. У «палажэнні», а работачку рабіць трэба: і лён брала, і бульбу выкапала, а зімой нарадзілася дачушка Валя. Мужа Валянціна забіраюць у армію, на 4 гады. Тут і пачаліся з мяне яшчэ большыя здзекі.. Ужо была кароўка, ой як было цяжка даганяць у поле з дзіцем на руках — хатка наша ў баку, на водшыбе, а пастухова «Выганяй!» не заусёды пачуеш. Брыгадзір Р.Пятрок (бабнік) адбірае маю ўсадзьбу і дае мне напроць Шуры Бялевіч — як жа было цягаць бульбу ў такую даль да свае варывенькі, а другі, брацец яго, засявае соткі мае пад вакенца ды яшчэ падюджвае: як жа у цябе, Лена, бульба добра родзіць (іхні закон быў).

Сколька прышлося пеpaжыць абіды, крыўды, бязвласція.

Якая валацуга прыблудзіла на дзедаву зямельку і паношыцца над табой. А хаты — бацькавы ж, калгаснае дабро, а па дзецях топчуцца.

Дачушку брала з сабой у поле на ўсякія работы. Дзядзька ў Мінску Андрэй Маркавіч зрабіў мне дабротную каляску, глыбокую, каб дзіцятка не вывальвалася, калі і ўстане на ножкі; брызент добра прыкраплёны — ад гарачага сонейка ці ад ветрыка. Але ж як добра не зроблена, а малой прыходзілася ня раз

паплакаць. У мяне таксама слёзы цякуць, а няма ж часу дзіця забаўляць. Толькі прашу Госпада Бога, каб галасок прыгожанькі быў ды долю людскую паслаў майму салдацкаму дзіцянятку. Добра, калі сонейка ды пагода. А бывалі і такія дзянькі — не забыць іх. Падалася я рваць лён кіламетры за два ад дома, на эрадром, дзе вайной самалёты садзіліся, пад рэчку. Снапкоў мо 60 нарвала таго лёну. Брыгадзір Дзярновіч прыняў маю работу. А тут насунулася чорная страшная хмара. Той брыгадзір, ведама мужык, прыг — прыг і пад гумно. А я — нікуды, толькі й паспела брызент над каляскай закрапіць, каб ветрам не сарвала. Граза, пярун лупіць, маланка слепіць, лівень,град па голых лытках — больна, а мне страшна, каб дзіця пад брызентам не зайшлося, а малое крычыць, спуджанае і не ведаючы, што гэта робіцца. Я да яе пад брызент схілілася, а няўдобна, борцікі высокія, слязьмі суцяшаю: дочачка, гэта к нам Гасподзь Бог едзе, на калясачцы гасцінцы вязе, цыцку ў роцік дастала — дзіця супакоілася. А сама думаю, ці вернемся мы ў сваю хатку жывыя, ці дачакаемся свайго салдаціка, такі ўжо пярун страляў, жах. А па спіне маёй пацяклі ручаі, дзіцячыя ножкі замачыла і малое прастудзілася. Колькі павазілася, навалнавалася, пакуль вылечыла. Ну вось, такія мы работнікі, на далёкім полі.

А тут зноў бяда — пацякла ў хаце крыша, міскі, начоўкі ставіш, каб не замачыла. Напісала Валянціну ў часць — як мы з дочкай гаруем. Праўда, дзякуй камандзіру, адразу ж адпусціў салдата ратаваць сваё хазяйства. Крыша залатана, двор, агарожа папраўлены. Пасля такой доўгай разлукі атрымаўся другі плод любві. Я забярэменела Галяй. Які быў для мяне жах — спужалася: не здолею, не смею... Пішу пісьмо мужу: зраблю аборт. Ого — не тут та было, не разрашыў, а яшчэ й прыгразіў. Ну і чуства яго не падвялі: толькі я нарадзіла сваю Галячку, у той жа час і муж прама з арміі к свайму дзіцятку, ад якога хацела збавіцца. Пазвала бабку купаць дзіцянётка, пасылаю мужа ў сенечкі ўнесці скаромнае ў хату — сала, кілбасу, што ад з вясны хавала, сцерагла ў лазовым кошыку пад кроквай. Пакуль мы цешыліся з маім гаспадарком, абдымаліся, В.Рыгор і ўвесь наш скарб скраў, не пабаяўся граху. Якая ж крыўда перажылася, цяжка казаць. Але дзякаваць Богу і гэты глум перажылі, і дачка расла красавіцай. Скрозь цешыць бацькоў радасцю і ўцехай.

Сталі мы будаваць новы дом. Лесу не дамагчыся — колькі не прасілі, не плакалі. Старшыня толькі ўсміхаўся — сабе ж харомы ўзвёў, дачцэ ў Мінск зруб перакінуў, братам на два дамы калгаснага лесу, хоць і жылі тыя ў добрых хатах. Нас, сіротаў, толькі падражніваў. Пакуль брацік не навучыў, як і куды пажаліцца. Ён тады служыў у Германіі, у партыю ўступіў, стараўся чэсна весці армейскія дзяла, успяваў завочна здаваць інстытут і за армейскія капейкі выслаў нам пасылачку, каб выкупіць лес на хату.

Але ж і на тога старшыню ўправа знайшлася. Паехаў ён у Западную [Беларусь] коней для калгаса купляць і змахляваў сабе вялікую суму. Добра, па тых квітанцыях-адрасох следам падаўся Павал Жаўлакоў — ён калгаснай рэвізіяй ведаў — і выкрыў крадзёж. Засудзілі старшыньку. Яго ж, старшынёў сынок, патом, помсцячы, чуць не зарэзаў на вечарынцы паўлавага сына Жору. Потым неяк адкупіўся, каб не даводзіць да суда. Колькі ад таго “старшыні» яшчэ нізашто-ніпрашто пастрадала, асабліва жанчын бязмужніх. Анюту так ізуродваў і

перапужаў — за тое, што яна загнала к яму ў двор шэсць штук вялізных свіней яго, бо яе бульбу на сотках парылі. Ніхто і не думау, што бедная выжыве. Больш года з пасцелі не уставала, ужо нічога не ела, чуць гаварыла. Цётка наша Аўдакея [Епімашка] прысніла сон — гэта ж яна мне сама расказала. Бытта сонца ясна свеціць, а я ў садзе; вуліцай *ідзе Бог* і — да мяне: Аўдакея, ты далжна спасці, вылечыць сваю куму Анюту. Я кажу, Божачка, я не ўмею, толькі ведаю перахрысціцца. Ён гаворыць, ну вось і добра, вазьмі з поўнага вядзерца ў кружачку вадзіцы, тройчы праймі цераз іконку і занясі Анюце. Прачнулася я і плакаць хачу, і сорам мне — будуць з мяне смяяцца сплетніцы (былі ж такія). А ўсё ж зрабіла так, як прысніла, і панесла ёй і кажу: ня смейся, кумка, я хачу табе памагчы — прынесла табе вады, як мне Бог падказаў. Глынула яна разок, вочкі лепей адкрыліся, другі раз — улыбачка паявілася, а за трэцім разам і румянчык на шчоках узяўся і ўстала наша страдальніца. Пасля таго гора сорак гадкоў прайшло, а яна яшчэ жыве, дзякваць Богу.

Пытаешся, браток, пра бацьку. Папа наш Канстанцін Васільевіч загадваў калгаснай фермай, а ў свабодныя дні ішоў на палявыя — вазіць гной, касіць і т.д. Старшынёй калгаса быў Усціновіч з Горкаўскай Слабады. Потым выбралі з свайго сяла Ніканчыка. Першыя гады дабрасумленна ўсе працавалі, крапілі калгас. А як сталі заганяць сілай падкулачнікаў, то яны, граматныя, сталі ставіць палкі ў калёсы. Расказвала мне Алена Жаўлакова: Леначка, я бацьку твайго помню з малых год. Мы ў Горках разам гулялі дзяцьмі. Папа малым любіў басяком бегаць па снезе, прыпяваючы: мае ногі скураныя, не баяцца холаду. Расла цётка Алена ў беднай сям'і Нагорных, пяцёра дзяцей. Да калгасаў хадзілі па наймах. Хваліла нашага дзеда Марку, што добра кармілі і плацілі на жніве. А пры калгасах яе, Алену, выбралі дэпутатам, бедную дзяўчыну. Гарбуна выслалі, Алену ўсялілі ў гэтую хату кулацкую, хоць жонка яшчэ там жыла. Алена ўзяла к сабе прымака з Бабруйска — Жаўлакова Паўла. На гэтым фальварку і пачынаўся калгас наш імя Парыскае Камуны. Зганялі сюды скаціну ўступаючых, звозілі будоўлі раскулачаных — пуні, хлявы, свірны; нашага дзеда Маркі колькі пастроек — дзед і памёр ускорасці, не вытрымаў агалення. А бедны гультаі з пустым ішлі ў калгас, ня вельмі кідаючыся да работы, а ўсё наровілі пацягнуць і ў суседа, і ўкалгасе. І.Баруга і яго жонкі брат Грак Міхаль укралі кабана калгаснага, абулі ў лапці, завялі пад Красную Слабаду, ля рэчкі абрабілі за ноч і ў Чэрвень адвезлі. У Грака быў заяць і яго ўцягнулі. Ім што — абы напіцца было за што і драку ўчыніць, каб людзі іх баяліся. У Петрыка Расолькі авечку ўкралі. Але Вера Расольчыха назаўтра падалася ў Чэрвень і па квітанцыі, дзе прымалі, пазнала шкуру сваёй аўцы, — не ўдалося зладзеям пажывіцца. Ну а пра Косціка, папу, Алена апавядала, што такі ўжо чэсны быў, каб даярка, бронь Божа, ня смела кубачка малака казённага выпіць. Каторая пачне прасіць: Косцічак, я вазьму літру малачка, вечарам прынясу — не галоднай жа быць. Вазьмі, кажа, а вечарам два прынясеш і засмяецца. Дояць, сіпарыруюць, у бочцы масла збіваюць, а праз тры дні ў Чэрвень везці. Заскочыць калі па дарозе бацька паснедаць, а мама да яго: Косця, калупні маселка, дзецям блінок памазаць — дзе ты бачыў! Абіда — чаму ты хочаш дзяцей навучыць, ета я сама помню, якая была чэснасць. А етага злосныя людзі не любяць. З хворага прырэ-

занага цяляці, якога бацька не сумеў спісаць, праз тры гады «зрабілі» карову, бытта ім зарэзаную. І прышлося плаціць за карову, якой не было. І бацька як любіў калгас (першым уступаў туды, абагуліўшы каня, цялушку і нават зруб пад новую хату — для калгаснае канторы), так і расчараваўся ў ім. Паехаў к братам Пятру і Якаву на сцякольны завод у Елізава, каб зарабіць грошы і расчытацца за тую «карову», назад ужо пабаяўся варочацца. Браты з жонкамі прыязджалі ўгаворваць маму ехаць да папы. Але баба Зося брала верх: дачушка павінна жыць на зямельцы. Сям'я расстроілася, цераз суд падзялілі дзяцей. Мяне, як большую, угаворвалі нават, каб я пашкадавала папку, не цуралася яго. Я ета зрабіла, хаця любіла і мамку і сястру з брацікам. Пазней папа завербаваўся ў Горлаўку на шахту імя Леніна. Грошы атрымліваў добрыя, памагаў і маме. Праз якіх паўгода на шахце аварыя, папу крэпка параніла ў галаву, з месяц праляжаў у бальніцы і ўжо на шахце рабіць не мог. Дзядзька Бладок прыглашае нас к сабе ў Таганрог — там папа ўстроіўся на ваенным заводзе, 65-м, ахраннікам, адтуль і на вайну пайшоў, у першыя ж дні, там і загінуў.

Папа мяне вельмі шкадаваў. Пашле, помню, за папяросамі, а здача з трох рублёў мая, купі, кажа, што захочаш. Набяру я канфет, вафляў, марожанага, а нішто ў рот не лезе — так захочацца дамоў, у сваю Равеку, да мамкі, брацікa і сястрыцы, як бы я падзялілася сваімі ласункамі з родненькімі. Схаваюся за ларок і пакуль не выплачуся, у хату не іду — баялася папу абідзець, быць неблагадарнай дачкой. І ўсё ж як я не таіла сваю таску, мяне «раскусілі». Папа і гаворыць: дачушка, пасля летніх канікул — я ў шосты клас пераходзіла — цётка Шура звозіць цябе дамоў пагасціць, пабачыш сваіх і вернешся. Як прыехала я ў нашу Равеку, то ўжо назад не захацела — надта ж свой кут дораг. Засталася я дома, з мамай, сястрой і брацікам.

Пад канец лета, мо на пачатку верасня жанчыны абівалі калгасны лён, а хлопцы-падлеткі звозілі ў свіран семя, праз наша сяло. Можа каторы з іх кінуў акурак — той папаў у Атрахімаву варыўню, абложаную сухой кастрыцай. За два часы агонь восем хат спапяліў, як вол злізаў. Згарэла і наша хатка, мама толькі і паспела ўратаваць іконку ды пару пасцілак з падушкай выкінуць. Я з Валяй у гэты час былі ў Горках на пошце — палучалі грошы, якія кожны месяц прысылаў з Таганрога папа. Перабраліся мы, а таксама сям'я Епімашкаў, тожа пагарэльцы, да дзядзькі Андрэя. Мама доўга не пражыла, крэпка спужалася на пажары, а ў яе змалку быў парок сэрца. Я яшчэ разок звазіла яе на кані ў чэрвеньскую бальніцу. Ведала яна, што скора памрэ. Вельмі прасіла, каб жылі мы дружненька і што на мяне, старэйшую, яна спадзяецца. Праз якую нядзельку мамка памірае. Што раз жыццё становіцца неумагату. Есці няма чаго — усё пагарэла, бульба яшчэ у барознах. У Андрэевай хаце цесната — тры сям'і, дзяцей і сваіх і чужых — чарады. Мяне, браток, гоняць, каб я цябе здала ў прыют. Што рабіць? Нясу цябе, малога, дзе за ручку вяду ў Чэрвень — гэта ж які шлях, дваццаць шэсць кіламетраў. Іду, а мамчыны словы помню. Прыйшла ў раён, стала пад дзвярыма, чытаю: "Райздраў". Пастаяла, залілася слязьмі ды зноў назад, у тую хату, дзе нас не хочуць. Не, думаю, што будзе — хай будзе, а застанемся разам, як мамка прасіла. Прайшлі з табой, варочаючыся, кіламетраў шэсць-сем, запыніліся ля індома перадыхнуць — згаладалыя, затомленыя.

Прыселі на траўку адпачыць, а ты ўскочыў і бегма ў лес: няхай мяне ваўкі з'ядуць! Я за табой з плачам: Алёшачка, вярніся, во зайчык нам купінку шчаўячка адшукаў. І праўда, вярнуўся ты, расцалаваліся абодва, падсілкаваліся кісленькай травічкай. Зноў я цябе на спіну — баялася, каб жа не уцёк — і падыбалі далей, пакуль на Дубніцкае поле не выйшлі. Каля Лучча насцігае нас калгасная машына. Клімянчыха, жонка настауніка, стала грукаць у кабіну шафёра: Астанавіся! Вунь нашы дзеткі-сіроткі. Падабралі нас. Клімянчыха адламіла табе кавалак белага хлеба — колькі было рдасці! А мяне бяда вярэдзіць, што я скажу цётцы, чаму вярнуліся. Сказала, прыехаўшы, не было начальніка і мястоў у прыюце не было. Папа пазней пачуў аб пажары, прыехаў, каб нас, дзяцей, дзе лепей прыстроіць, пакуль ён знойдзе «другую маму». Рашылі падавацца ў Горкі, да цёткі Зосі, бацькавай сястры. Нясоладка і там было — і ў полі цэлы дзень, і ў хаце паліш печ, есці варыш, мыеш за ўсіх, а скрозь папрокі, што нас, дармаедаў, кормяць... Вось папа прысылае грошы і пісьмо і наказвае мне, большай, каб мы самі ехалі да яго ў Таганрог. Толькі ў Харкаве, напісаў, трэба закампасціраваць білеты, каб я ў купэ пыталася ў суседзяў і нічога не баялася, а сказала, што бацька сам не можа прыехаць. У нядзельку дзед Васіль падаўся ранінька на канюшню запрэгчы каня, каб адвезці нас у Градзянку, к поезду. Вярнуўся пад абед: Дзеткі, вайна! Нікуды не паедзеце. Так мы засталіся ў Горках.

Немцаў блізка не было — гарнізоны яны мелі у Чэрвені і ў Хутары. У Горках правіла воласць, а парцізаны трымалі мельніцу, малолі муку для сябе. Цёткі Зосі муж, Мікалай, быў там за качагара. Прыходзіць неяк з работы і кажа мне: Ленка, заўтра у Машчаліне парцізаны будуць бурыць свіран твайго дзеда Маркі — на дровы для мельніцы, няма чым гнаць качагарку. Дзед Васіль пачуўшы гэта, выстараўся праз свайго сына Пятра — ён быу ў парцізанскім атрадзе камандзірам узвода — дазволу самога Ціхамірава, каб той свіронак аддаць пад хатку сіротам. Так мы з дзядулем пачалі — сама ў вайну — ладзіць сабе жытло ў Машчаліне. Я нанімала мужчын у дапамогу дзеду, потым з Валяй разам адраблялі на іхніх загонах. Самі рвалі, вазілі мох, капалі гліну, рабілі кірпіч на печ, адраблялася людзям за дошкі — на столь і падлогу. Хатка свая — у два вакенцы — была нам у радасць! Дзед і дзядзька Міша з цёткай Настай (дзядуля жыў пры іх) далі нам на зіму воз бульбы, два пуды жыта — так мы пачалі самастойнае жыццё. У Машчаліне стаяў партызанскі ўзвод. Папрасіла каб нам далі якіх сотак з дзесяць пад бульбу — зямля ж была ўся падзелена. Парцізаны сабралі сход селавы і нам дазволілі засяваць калгасны двор, які нікому не належыў. І мы з Валяй вясною пачынаем лапатай ускалупваць той дзёран, а брацік маленькі кідае бульбачку ў баразну, прыгаворвае з радасці — вось і нам булёнчык будзе. Баразны тры да вечара агоралі. А ноччу браты стрыечныя начальніка воласці Манкевіча Колі спрэгліся і ўсё перааралі — у іх былі коні і ўлада. Я нават парцізанам не пажалілася, бо ведала, прыдушаць Манкевічы як мух. Вось так і жылі — па наймах — каму гной капаць, садзіць бульбу, каму лён церці, а потым сена, жніво, копка бльбы — усюды, дзе трэба рукі наймічкі. Абслужывала Пятроўку, Аляксандраўку, сваё Машчаліна, у ціхія дні.

А ў налётах немцаў, паліцаяў уцякалі з пртызанамі ў вялікі лес. Лічаныя дзянёчкі начавалі ў сваёй хатцы, як звяркі прытуліўшыся адзін к аднаму, баючы-

ся праслухаць сігнальнага выстрала партызан, якія аберагалі вёску. Аднаго разу я йшчэ прыцемкам пабегла на калгасны двор к калодзежу перамыць бялізну, каб было ў што пераадзецца. Чую ў бары, з-пад Аляксандраўкі тры выстралы — сігнал бедства. Гэта з Хутара гарнізон немцаў ішоў, з паліцаямі. Двое партызан і кузнец з падсобнымі рабочымі , што чынілі партызанскую амуніцыю, кінулі свой пост, пяцьдзесят метраў ад нашае хаты, і паджыгалі ў лес. Як я згледзела, што партызаны ўцякаюць пад Красную Слабаду, з мокрай адзежкай, не забягаючы дамоў, кінулася напрамкі ўслед за імі. Метраў двесце за імі бягу, не чуючы ног пад сабою.Вясна ранняя, гразюка страшэнная і па мне сцебанула плётка з провалкай на канцы, ліцо ўсё заплыло крывёй. А гэта гад-паліцай мацярыцца седзячы вярхом на кані: сцерва партызанская, нікуды ад мяне не дзенешся, з-пад зямлі цябе дастану; і кінуўся ўслед за партызанамі, а тыя усё ж паспелі дабегчы да кустоў і адтуль далі вочарадзь з аўтамата. Той, падлюга, назад — спасаць сваю шкуру. Я тым часам выграбла самую гразную нізінку і лежачы на гарзі , пагубляўшы рызінавыя боты, закацілася ў глыбокую баразну. Легла і рукамі зарылася ў глыбокую гразь, па вярхушку спіны. Конь у гразь не пайшоў і той паліцай паімчаўся к сваім немчурам, якія ля нашай хаты пастаўлялі кулямёты, мінамёты і палілі ў бок лесу, па партызанах. Білі і па мне — кулі толькі шыпелі падаючы побач у ваду, гразь, але мяне ў нізінцы не задзявалі. А той гад так ужо мацюгаўся, брахаў — каб я яе, сцерву ўзяў, палосамі б шкуру драў. А Валя ляжала ў хаце, за куфарам, ні жывая, ні мёртвая, і ўсё чула, ведала, на каго такі мат. А ўсё ж як партызаны з лесу далі бой, тыя гады назад кінуліся, не паспелі нават курэй ухапіць. А я йшчэ доўга ляжала, ад страху не адчувала нават холаду, так кроў мяне грэла. І вот з таго часу ўведала, як салдацікам нашым прыходзіцца ў баю. Ї дзіва, нават не прастудзілася, але цераз год пайшлі па мне болькі — усё ж сцюдзённая гразь дала а сабе знаць.

Вось так усю вайну і хаваліся мы з партызанамі па лясох. Маладых жа хапалі рыць нямчурам акопы, гналі ў Германію. А ўсё ж свая хатка — калі і сагрэе, і памые; пра яду, як Бог дасць. Бывае ў якім сяле партызаны паставяць ахрану, хазяйка наносіць саломы і мы, чалавек сорак, упокат паляжам і прыкархном, а раніцой варыцца булёнчык у двух вялізных гаршкох, літраў на дваццаць кожны — людзі былі нежадныя, паследнім дзяліліся. Ніхто не думаў, што астанемся жывыя. У страшную нямецкую блакаду ой, як жа нацярпеліся перабягаючы з аднаго лесу ў другі, з другога ў трэці -партызаны з баямі і стратамі, а мы следам за імі. Апынуліся ажно ў Чэрвеньскім лесе, ля Плецівішча. Змучаныя, напалоханыя, галодныя запыніліся ў крайней хаце — дзякуй добрай хазяйцы, падкрапіліся і заснулі мёртвым сном. А ў той самы час у нашых Лядох немцы, раз'ераныя, што не адолелі партызан, адыграліся на людзях: палілі, стралялі, многіх пакідалі жывымі ў глыбокі калодзеж. Пасля такога зверства людзі баяліся заставацца ў хатах – усе ўцякалі ў лясы, балоты... Ой, Божачка, колькі ж радасных слёз было, калі сустрэлі чырвонаармейцаў, спасіцеляў.

Ну а пасля вайны прыняла я к сабе гаспадарком Валянціна Пятровіча – тожа круглы сірата, з Ржэва. Уцёк ён з эшалона, пад Стоўбцамі, калі іх везлі ў Германію. Згубіў, бедны, ён тады і сваю адзіную сястрычку і застаўся адзін адным на гэтым свеце, анікога з радні, ні блізкай, ні далёкай. Батрачыў які час па

хутарох, потым, як прыйшлі красныя, падаўся ў Мінск, у ФЗУ. Прыехаў неяк у Машчаліна з сваёй таварышкай Алькай Ціхановіч – разам працавалі на стройцы. Пазнаёміліся – так ён і застаўся ў мяне. Што ўжо працавіты, майстравіты – і плотнічаць, і слесарыць, ці печ скласці – на ўсё Валікавы рукі залатыя. І ў сяле, і ў калгасе, саўгасе запаважалі такога работніка: як што – да яго: Валік, памажы, Валік, пакажы, Валік, выручы. Ніколі нікому не адкажа, хоць другім разам і сцерпіць за сваю дабрату – усякія ж людзі бываюць. Калі бывала і занаровіцца, псіхане – ведама, мужчына, ды і работа не мёд – суткамі амаль на ферме, з рызінавых ботаў не вылазячы. Але пражылі з ім у ладзе і дружбе, ужо за паўвека, лічы. І дзетак паднялі – Вальку, Галю, сына Саню, усе старанныя, да бацькоў душэўныя, не сорам за іх. Дачакаліся ўнукаў, праўнукаў. Збяромся калі пагасціць за сталом – сямейка! Цяпер толькі б радавацца ды сілачкі аслаблі і здароў'е пакідае. Але ж хоць крэкчам, а крэпімся. Трэба жыць – пакуль жывецца.

Яшчэ ўспомню пра дзядулю Васіля. Вельмі ж рады быў, калі мы з Валянцінам навяшчалі яго ў Горках. Старэнькі ўжо будзе ляжаць на печы ці на ложку, а заўсёды падымецца к сталу, распытаць як мы сабе радзім, цёплае слоўка сказаць. Але ж і крэпенькі быў, як ніхто другі ў такім веку. Пад дзевяноста ўжо меўшы падасца цераз грэблю, балота на Ачыжскі лес, набярэ кораб баравікоў і прынясе нявестцы; калінай цэлае гарышча завесіць. Калгасу скрозь майстравау калёсы, санкі, граблі, карзіны плёў даяркам — разносіць корм жывёле. І рукаводства ганарылася, калі Каўка Васіль першым прагаласуе на выбарах. Да смертачкі сваёй сам рыхтаваўся. Адчуў, слабее — зрыхтаваў сабе труну; можа мне, казаў, малую ці вузкую зробяць — а быў жа ён высокі, у плячох раздатны. Змайстраваў, пакрасіў, як хацеў. Яшчэ гадкі з два жыў, а труна чакала яго пад паветкай. Цётка Наста, нявестка, баялася тае дамавіны, а пасля звыклася. І смертачка была лёгкай — на маіх вачох; чула маё сэрца, што трэба наведацца ў Горкі. Дзядуля ляжаў на печы, пачуўся блага: мусіць, кажа, трэба злазіць, каб нявестка не гаравала цягнучы мяне з печы; сын, дзядзька Міша быў далекавата ад дому, на сенакосе. Сам дзедка зноўз на пасцельку і стаў канаць. Да мяне йшчэ паспеў прашаптаць, задыхаючыся: Ленка, шкода, не навясціў цябе з Валікам у новай хаце, не пабачыў унукаў — у Насты з Мішам дзяцей сваіх не было. Праз якіх пару мінут і замоўк — назаўсёды. Дзевяноста шэсць гадкоў і пражыў хораша і памёр спакойна.

*Падрыхтаваў да друку К. Атрашэўскі.*

*Ірына Шаўлякова*

# ФІЛІЯЛ: РАСКОША ЎТУЛЬНАСЦІ

***Кароткі праспект-паказальнік па айчынным «літаратурным некропалі»***

***Жыццяспеўнасцю*** сваёю, дзівосна-стваральным аптымізмам не проста ўражвае – заварожвае! – сёння беларуская мастацкая славеснасць. Абуджанае ад летаргічнай «заняпаднасці» ахвярнымі высілкамі найлепшых сыноў (і дачок) Бацькаўшчыны, прыгожае пісьменства жывіцца з гаючых крыніц народнасці, патрыятызму, мацуецца пачуццём грамадзянскай адказнасці, бо ўсведамляе тую ролю, што адыгрывае ў спрыянні *яшчэ большай* кансалідацыі нацыі, ачоленай зараз «урадам для народа», пра які папярэднікі толькі марылі.

Зрэшты, настроі, што вызначаюць атмасферу нашай літаратуры, спароджаныя аб'ектыўнымі грамадска-культурнымі працэсамі: агульнымі намаганнямі за лічаныя гады была канчаткова сфармуляваная нацыянальная ідэя; Беларусь заняла належнае месца ў славянскай супольнасці, Еўропе і астатнім свеце; сфера грамадскіх зносінаў вызначаецца стабільнасцю, збалансаванасцю, суладдзем дзяржаўных ды прыватных інтарэсаў і памкненняў.

Гэтаксама, як і дабрабыт, няўхільна расце адухоўленасць суайчыннікаў – чаму ў значнай ступені спрыяе дзяржаўная палітыка ў галіне культуры, зарыентаваная на прыярытэтнасць беларускіх нацыянальных традыцый і каштоўнасцей, адкрытых новаму пазітыўнаму вопыту. Таму і нядзіўна, што сяляне і чыноўнікі, гандляры і музыкі, рабочыя і мастакі гавораць, думаюць і сны сняць па-беларуску.

Менавіта цягам апошніх гадоў беларуская мастацкая славеснасць сталася масавай у літаральным сэнсе: значна павялічылася колькасць арыгінальных мастацкіх выданняў, іх наклады выраслі ў шмат разоў; актыўна працуюць кніжныя выдавецтвы, СМІ нястомна прапагандуюць творы беларускіх пісьменнікаў, і ўсе яны (творы, дый пісьменнікі!) прасякнутыя ідэямі дзяржаўнасці, гуманізму і высокай маральнасці.

Сёння ўжо ні ў кога не выклікае сумненняў тое, што беларускае прыгожае пісьменства асуджанае – разам з народам! – на працяглы аптымізм.

* * *

Калі б хто-небудзь праз кожныя тры гадзіны добрасумленна перачытваў «Советскую Белоруссию/ Беларусь сегодня», а ў прамежку б адсочваў інфармацыйныя праграмы, выштукаваныя беларускім дзяржаўным тэлебачаннем, і віншавальныя, выпакутваныя дзяржаўным радыё, а перад сном чытаў бы старэйшыя айчынныя часопісы «Полымя» і «Нёман» вытворчасці 2003 году, – і тады б яму (каму-небудзь) не ўдалося б без псіхатропных сродкаў паверыць у адэкватнасць прыведзенага вышэй «пейзажу» нашай сціплай рэчаіснасці. Бадай, менавіта сённяшняя *мастацкая* літаратура дэманструе рэдкі ўзор сапраўднай айчыннай *еднасці*, калі з твора ў твор пераліваюцца разнастайныя праявы ***найноўшага дэкадансу***, урэчаўленыя ў самых нечаканых ідэйна-мастацкіх «формах» – ад стала-мудрага сузірання «высокаарганізаванага» хаосу да ультрарадыкальнага песімізму.

Не марнуючы часу на ўзнаўленне «топасаў» сучаснай культурасофіі, адзначым, што абвостранае адчуванне крызіснасці чалавечага быцця ёсць непазбежнасць для кожнага «злому» эпох, змены культурных парадыгмаў – таму з пункту гледжання вечнасці сённяшняя «эсхаталогія» паўстае з'яваю не выключнаю, але чаргова-шараговаю. Іншая справа, што з кожным новым «вяртаннем дэкадансу» ўзмацняецца (паглыбляецца-пашыраецца) катастрафізм светаадчування – здаецца, для сучасніка ён, непазбежны і незваротны, ужо атаясамліваецца з самою сутнасцю жыцця.

*

Адным са «знакаў якасці» найноўшага дэкадансу ў мастацкай літаратуры паўстае **некрапалічнасць** (не блытаць з *некрафілічнасцю*!; тут: ад *некропаль*, гр. necros=мёртвы + polis=горад); у сферы яе прыцягнення прадстаўнікі розных літаратурных традыцый часткова «ахвяруюць» уласнаю адметнасцю, аўтэнтычнасцю, «сувэрэнітэтам» – інтэгруючыся ў *некропаль*.

«Я памёр у сем гадзін раніцы. Зараз у вакенцы радыёбудзільніка свеціцца 8.28, а ніхто яшчэ не ведае пра гэтую падзею.

<...> Я зарыўся ў падушку і падумаў – тое была апошняя думка, што сфармулявалася *ўва мне*: "Няма мяне, я памёр!". Бадай, так і здарылася. Здаецца неверагодным, каб простыя словы, у якія я не ўкладваў ні волі, ні загаду, раптам сталіся настолькі дзейснымі, але іншага вытлумачэння свайму раптоўнаму скону я не бачу».

*Дзідзье Ван Кавелер. «Жыццё з таго боку» (1997)*

«Ніхто ніколі і не падумаў бы, што аднойчы ён будзе трымаць у абдоймах мёртвую жанчыну і што ніколі больш ён не ўбачыць яе твару, а імя яе будзе памятаць. Ніхто ніколі і не падумаў бы, што побач з ім у самы нязручны момант можа абарвацца чыёсьці жыццё. Такое адбываецца надзвычай часта – мы ўпэўненыя – не з нашымі знаёмымі і блізкімі. <...> Любая расказаная, пачутая ці прачытаная гісторыя ўспрымаецца намі як тэатральная дзея, тое, пра што нам распавядаюць, заўсёды ўтрымлівае ірэальнае, быццам нічога і ніколі не адбываецца на самай справе, нават тое, што здараецца з намі і пра што мы не можам забыцца. Нават тое, на што мы забыцца не можам».

*Хаўер Марыяс. «У гадзіну бітвы заўтра пра мяне згадай...» (1995)*

«Чорныя, ляжалі пасярод бразільскага студзеня два нябожчыкі. Пажар, што ўжо шмат дзён палаў у нетрах вострава, пакідаючы пасля сябе выпаленыя палосы, вызваліў трупы з блытаніны ліян у квецені і спапяліў адзенне на іх ранах, а то былі двое мужчын. <...> Агонь абпаліў нябожчыкаў, выеў вочы, сцёр рысы, пасля, з пырханнем і трэскам, адышоўся, але вярнуўся – следам за ўласным жарам, і таньчыў на рэштках целаў, што рассыпаліся пад ім, ажно пакуль залева не ўвагнала полымя ў чыгунна-шэры попел карасмейравых дрэваў, што ўжо ляжалі на зямлі, і яшчэ далей – у нутраную вільгаць ствалоў. Там пажар згас».

*Крыстоф Рансмайр. «Хвароба Кітахары» (1995)*

Выбар працытаваных твораў можа падацца выпадковым, адна гэтая «выпадковасць» *адносная*, бо ўтрымлівае сімптаматычнае, тыпалагічнае.

*Я*-герой Д. ван Кавелера – Жак Лармо, гандляр скабянымі таварамі – сваё «markerрознабаковае» жыццё бавіць у дэкарацыях маленькага французскага гораду (Экс-ле-Бен), населенага не людзьмі – «вобразамі-тыпамі».

*Я*-герой Х. Марыяса – тыповы мадрыдзец, які няспынна рэфлексуе, імкнучыся давесці ўсе нюансы ўласнага індывідуалізму, але ад таго адчуванне ягонай тыповасці толькі ўзмацняецца.

Персанажы К. Рансмайра – Берынг (Маорскі Крыкун), Амбрас (Сабачы Кароль) і Лілі-Бразільянка – неад'емныя складнікі пасляваеннага пейзажу Германіі, дзе *хварэюць на смерць* і пераможаныя, і пераможцы.

«Тапаграфію» сённяшняга *літаратурнага некропалю* можна ўдакладняць бясконца (згадайма «Лёгкі сняданак у ценю некропалю» чэха Іржы Грошака, «Бога дробязяў» індыйскай пісьменніцы Арундаці Рой, «Дом духаў» чылійкі Ісабэль Альендэ, «Краіну цудаў без тармазоў і Канец свету» японца Харукі Муракамі і інш.) – толькі ці варта?.. Смерць як фінал жыцця – і як *іншае* жыццё – асэнсоўваецца мастацтвам слова на працягу ўсёй гісторыі існавання, але, бадай, ніколі яшчэ «тэрыторыя смерці» не асвойвалася літаратураю з такім... імпэтам.

[Бо, напрыклад, «у першай палове XX стагоддзя, на Віленшчыне, людзі не паміралі, – сведчыць Тадэуш Канвіцкі ў дакументальнай кнізе «Памфлет на самога сябе» (1995). – Не памятаю, каб у маім дзяцінстве ці ранняй маладосці хто-небудзь памёр. Натуральна, не абыходзілася без выключэнняў, і, верагодна, зрэдзьчас хто-ніхто ўпотайкі перабіраўся на той свет. Але ж наогул паміраць было не модна. <...> ...толькі сучаснасць... дэмакратызавала чалавечую смерць. Сёння я ўжо безуважна, прыхлёбваючы гарбату, гляджу на піраміды трупаў на тэлеэкране, як тое робяць мільёны маіх братоў, асуджаных на закланне» [1].]

Ніколі яшчэ літаратары не адчувалі сябе ў *некропалі* так *утульна*.

«Беларуская сучасная літаратура параўнальна рэдка звяртаецца да тэмы смерці», – зазначае Г. Кісліцына ў рэцэнзіі «Ловы ветру» (на кнігу Адама Глобуса «Браслаўская стыгмата») і тлумачыць гэта тым, што «нямногія аўтары здольныя перасягнуць мяжу фізіялагічнага страху перад непазбежным і перавесці ход думкі ў сферу абстрактных катэгорый» [2]. Шкада, што творы айчынных літаратараў апошніх пяці-дзесяці гадоў упарта тую *мяжу* пераадольваюць.

*

Найбольш аддана шчыруюць на ніве *літаратурнай некрапалічнасці* «неафіты» прыгожага пісьменства: сучасная культурная прастора як бы «легітымуе» радыкальна-дэкаданснае светаадчуванне маладых (дваццаці-трыццацігадовых), вельмі маладых (пятнаццаці-васемнаццацігадовых) – і вечна маладых пісьменнікаў (што не збіраюцца пакідаць шэрагі рэвалюцыйна настроенага (але й па-айчыннаму разважлівага) літавангарду.

---

[1] *Конвицкий Т.* Памфлет на самого себя. Фрагменты из книги // «Иностранная литература». 2003. № 5. С. 210—211.

[2] *Кісліцына Г.* Blonde Attack. Мн.: Логвінаў, 2003. С. 40.

Так, сярод кніжных дэбютаў апошніх трох гадоў адносна жыццярадасная паэзія Таццяны Сівец (зб. «Ліпеньская навальніца». Мн.: «Мастацкая літаратура», 2003) паўстае дзіўным выключэннем – асабліва ў параўнанні з вершатворчасцю Вольгі Гапеевай (зб. «Крылы ў шафе». Мн.: УП «Тэхнапрынт», 2002; (зб. «Рэканструкцыя неба». Мн.: «Логвінаў», 2003), Янкі Лайкова (зб. «Вогнепаклоннік». Мн.: «Мастацкая літаратура», 2003) альбо на фоне іранічна-апакаліптычных «медытацый» Вальжыны Морт ці Вікі Трэнас, чые псеўданімы самі па сабе могуць быць квітком у *некропаль*.

Вершаванні «паліндромнай» надзеі беларускай літаратуры Віктара Жыбуля (збор вершаў 1995—2002 гадоў «Дыяфрагма» выйшаў у 2003 годзе ў выдавецтве «Логвінаў«) асмужаныя дзіцячай непасрэднасцю ў асэнсаванні наступстваў смерці (гл., напрыклад, тэкст «Вандроўнік і мумія»; інтымная лірыка прасякнутая даверлівай адкрытасцю (звярніце ўвагу на верш са «Расстраляй мяне»). Зрэшты, калі прыняць пад увагу аўтарава перакананне, што «натхненне – гэта толькі расколіна ў чэрапе» (*«***Таму, хто народжаны лётаць...»*), дык «філасафічныя» вандроўкі сп. Жыбуля ў г л ы б *некропалю* набываюць акрэсленую матывацыю:

Мы пахавалі сябе з музыкай
яна гучыць і дагэтуль
патанае ў завялых вушах
мы разумеем што яшчэ жывыя
думаем як бы раскапацца
ды не можам
усім лянота
чакаем калі прыйдзе эксгуматар
«У чаканні эксгуматара»[3]

*

Дэбютных – зрэшты, і «чарговых» – празаічных кніг з кожным годам з'яўляецца шчэ меней, чым нешматлікіх паэтычных; абнадзейвае ў сувязі з гэтым актыўнасць выдавецтва «Логвінаў», якое ў «Бібліятэцы Бум-Бам-Літа» выпускае як арыгінальную мастацкую, так і філасофска-культуралагічную ды тэарэтыка-крытычную літаратуру [4]. Тут у 2002 годзе выйшлі кнігі Альгерда Бахарэвіча «Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў» і Зміцера Вішнёва «Трап для сусліка, альбо Некрафілічнае даследаванне аднаго віда грызуноў».

Першы празаічны зборнік, складзены з твораў розных гадоў, насуперак назве паўстае плёнам *стваральных* намераў аўтара: сп. Бахарэвіч дэманструе сфарміраванасць уласнай мастацкай сістэмы, дзе «вербальны» мінімалізм нечакана спалучаецца з «арнаменталісцкаю» логікаю аповеду: «Рай – гэта свет школьных тэмаў па замежнай мове. Памятаеш: гатычныя літары за шклом шафаў, смак жоўтае крэйды ў роце, пах мокрага дрэва вымытай падлогі, Атлан-

[3] *Жыбуль В.* Вершы // «Крыніца». 2001. № 1. С. 74.

[4] У жніўні 2003 года на паліцах мінскіх кнігарняў можна было знайсці, акрамя ўжо названых кніг, «Паліванне на мух са шланга» Міхася Башуры (2002), «Нуль» Іллі Сіна (2002), «Дзівін» Андрэя Бурсава (2002), «Фільтры сноў» Ганны Ціханавай (2003), «Старыя вершы» Андрэя Хадановіча (2003).

тычны акіян за універсамам. Хто сёння будзе распавядаць пра рай? <...> Пасля смерці я хачу трапіць туды» (*«Рай»*).

Другая кніга падаецца, як казалі калісь, залішне «натурычнаю»: браты-літаратары ўсё часцей імкнуцца ўвасобіць у «эпасе» героіку будняў... літаратурнага і калялітаратурнага «сваяцтва», бо, здаецца, бачаць у гэтым найбольш выкшталцоны, інтэлектуальна-інтэлігенты (праўда, значна радзей) і... танны спосаб помсты-самасцвярджэння. Сп. Вішнёў у згаданым сэнсе пакуль не можа скласці колькі-небудзь сур'ёзнай канкурэнцыі, скажам, Адаму Глобусу. Зрэшты, «Трап для сусліка...» месцамі не пазбаўлены з'едлівай «трапнасці» характарыстык і назіранняў. Асобныя ж фрагменты кнігі варта выкарыстоўваць у якасці «хрэстаматыйных» ілюстрацый буяння **некрапалічнасці**, што не ведае ні страху, ні дакору – і некаторымі зайздросна мудрымі аналітыкамі ўважаецца за... «рытуальную задзірлівасць» маладых:

«Праз адну гадзіну і дваццаць хвілінаў у цябе, сука, свята. Радуйся! Да твайго цудоўнага юначага ўзросту далучыцца адзін гнілы зубік. Ты ж – калекцыянерка, гадзіна. Я ўжо падрыхтаваў табе падарунак. <...> Ха-ха!.. Будзе тэракт у цэнтры «Залатой горкі»! Будзе табе не шакалад горкі, а выбуховая прылада ў выглядзе кіркі, дарагая мая Шханава»;

«У 1999 годзе ў рамках акцыі «Час. Прастора. Асоба» я выставіў пяць вялізных прац, аздобленых уласнай крывёй. Усе былі перапалоханыя. Людзі падыходзілі да карцінаў і падалі трупікамі. З іх рознакаляровых вачэй тырчалі пікі. Я адчуваў сябе дыктатарам з Чылі, які залівае ў рот свінца юпень. Ша!» [5].

Кніга Юрася Барысевіча «Alter Nemo», таксама выдадзеная «Логвінавым» (у 2003 годзе), – зборнік «філасофскіх эсэ» (паводле анатацыі; насамрэч тэксты па жанры набліжаюцца да культурасофскіх «практыкаванняў», пражэктаў-праспектаў блізкай і далёкай будучыні). Агульны настрой кнігі выглядае надзіва бадзёрым, жыццесцвярджальным нават – праўда, гэта *спецыфічны* аптымізм:

«Смерць для нас – другая маці. Калі чалавек тут мае братоў, ён можа мець іх і ў іншым свеце – ранейшых і новых» (*«Твар і патыліца»*);

«Калі чалавек нараджаецца на свет, ён трапляе ў магілу чарговага цела. Смерць, у пэўным сэнсе, – проста перапахаванне з адной магілы ў іншую» (*«Пахаваныя ў небе»*).

[Ergo, нават пахапкам агледзеўшы некаторыя кнігі, выдадзеныя к моманту напісання артыкула ў адной серыі з «Blonde Attack» сп. Кісліцынай, са скрухаю мусім канстатаваць, што шпацыры беларускіх літаратараў у кірунку да *некропаля* няўмольна набываюць прыкметы паломніцтва...]

*

Па меры творчага сталення беларускія пісьменнікі не набываюць «літаратурнага аптымізму». Многія з *пакалення «Тутэйшых»* (да якога належаць не толькі тыя, хто непасрэдна спрычыніўся да дзейнасці суполкі), сённяшнія саракагадовыя, здаецца, цішком аб'ядналіся ў тайнае брацтва *самотнікаў*.

---

[5] Цытуецца па: *Вішнёў Зм.* Трап для сусліка, альбо Некрафілічнае даследаванне аднаго віду грызуноў (Раман без парахода і самалёта) // Крыніца. 2001. № 10. С. 113, 114.

На маёй дарозе – толькі снег,
Над маёй дарогай – толькі Бог.
Пакідаю свой самотны след.
Кожны крок – нібы цераз парог.

*Л. Рублеўская. «***На маёй дарозе – толькі снег...»* [6]

Меркаванне падасца асабліва небеспадстаўным, калі метадычна перачытаць кнігі (і публікацыі ў перыёдыцы) 1990-х Барыса Пятровіча, Віктара Шніпа, Уладзіміра Сцяпана, Анатоля Казлова, Людмілы Рублеўскай, Алега Мінкіна, Вольгі Куртаніч, Алеся Бадака, Максіма Клімковіча, Эдуарда Акуліна, Алеся Чобата, Леры Сом ды й многіх іншых. Не варта «гвалтаваць факты», сцвярджаючы, што «мартальнасць» займае ў іх творчасці столькі ж месца, колькі ў літаратараў-наступнікаў. Аднак і гэтае пакаленне шпацыруе ў ценю (усюдыісным, рухомым) *некропалю* –

Усё, што мае памяць – у зямлі,
А што ў зямлі – то сталася зямлёю.
І хмары, быццам душы, паплылі
Над будучай магілаю маёю.

*Л.Рублеўская. «Скокі смерці»* [7]

Але яно ўжо шануе – у процівагу «неафітам» – традыцыю табуіравання, не-прамаўлення (без дай прычыны) імёнаў Нябыту:

Наш час спыніўся між дзвюх Нямігаў,
дзе кроў і сёння стаіць па грудзі...
Мы, беларусы, народ ад ліха,
ад Бога – толькі святыя людзі.

*Э.Акулін. «Мы, беларусы, заўжды гатовы...»* [8]

У кітайскай літаратуры III стагоддзя з'явілася адметная разнавіднасць лірыкі – «Хаўтурныя песні» («Вань гэ») – «трэнас паэта па сабе самім, што аднаўляў невыноснае, амаль фізічнае адчуванне ўласнай смерці і разлажэння» (В.В. Малявін) [9]. Паказальна, што **некрапалічнасць** сённяшняй мастацкай літаратуры, як правіла, *пазбаўленая «персанальнасці»*, своеасаблівай «фізіялагічнасці»: найчасцей яна рэалізуецца ў вобразах-сімвалах, абстрагаваных амаль да аўталагічнасці, «бязвобразнасці» (смерць як Вялікае Нішто і Нідзе, мегаполіс як «тэрыторыя смерці», паміранне-зыход у прынцыпова неакрэсленых «дэкарацыях» і г.д):

...Гэта неба і зямля сальюцца
Там, дзе нас чакае небыццё.
Гэта ў бойцы поўнасцю сатруцца
Межы паміж смерцю і жыццём.

*А.Бадак. «***На дарозе, дзе няма ні знаку...»* [10]

---

[6] Цытуецца па: Верш на Свабоду (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё свабода, 2002. С. 64.

[7] *Рублеўская Л.* Над замкавай вежай. Маладэчна, 2003. С. 122.

[8] Цытуецца па: Верш на Свабоду... С. 18.

[9] Цытуецца па: *Кравцова М.Е.* Поэзия вечного просветления: Китайская лирика второй половины V – начала VI века. – СПб.: Наука, 2001. С. 112.

*

Юры Станкевіч, «біяграфічна» старэйшы за *самотнікаў*, уяўляецца мне адзінотнікам, што «не індэнтыфікуецца» з ніводным літаратурным пакаленнем. Дэбютаваўшы даволі позна (першая яго кніга прозы «Луп» выйшла ў 1989 годзе, наступная – «Анёлы на бальшаку» – у 1993-м), сп. Станкевіч амаль адразу «запатэнтаваў правы» на вытворчасць літаратурных мадэляў «апакаліпсісу па-беларуску» – плёнам чаго стаў зборнік прозы «Любіць ноч – права пацукоў» (Мн.: «Мастацкая літаратура», 2000), адна з самых яркіх і пакутліва-скептычных кніг апошняга дзесяцігоддзя. У яе ўвайшлі аднайменны раман і шэраг аповесцяў; дзеянне літаральна кожнага твора разгортваецца ў якім-небудзь «філіяле» *некропалю*: у рамане гэта «ЯНАЎСК» – шараговы беларускі райцэнтр, дзе абарыгены-тутэйшыя імкліва аскаціньваюцца і паглынаюцца нашэсцем чужынцаў; аповесці «Прузі», «Збіральнік страху», «Псеўда» ўзнаўляюць айчынную рэчаіснасць як «рэзервуар абсурду», вар'ятню, дзе забойствы і канібалізм – рэчы не менш звыклыя, чым «шэрыя, уціснутыя ў асфальт дрэвы, што ліхаманкава скідвалі з сябе напаўгнілое лісце, ды брудныя галубы ля сметніцаў» («Збіральнік страху»). А вось у «Бесапатаме» і апавяданні «Ізумрудна-зялёныя мухі» гніенне духоўна-маральнае «ўрэчаўляецца» ў распадзе фізічным – прысутнасць *некропалю* здаецца бесстароннаю, аб'ектыўна непазбежнаю.

*Юры Станкевіч здаецца «чужаніцаю» сярод «людзей літаратуры»; мяркую, нават самы добразычлівы чытач з цяжкасцю даруе гэтаму пісьменнюку ягоную «прасталінейнасць» (што мяжуе з жорсткасцю) у ацэнках суайчыннікаў ды іх верагоднай будучыні:*

«...хіба не ў гэтым краі больш за ўсіх любяць здраду і здраднікаў? а стукачоў колькі тут на квадратны метр? ды я воляй клянуся, нідзе ў свеце іх столькі няма, як тут, па гэтых кватэрках затруханых, з прусакамі, у гэтых хатах, за гэтымі гнілымі парканамі...»;

«...да лаўкі перад брамай іх (чужынцаў. – ***І.Ш.***) кубла пацягнуцца мясцовыя дзяўчаты і стануць манерна адстаўляць пальцы і хіхікаць юрліва

хехехехе

а потым зацяжараць і народзяць мяшанцаў, і гэта будзе працягвацца ва ўсё большых і большых памерах...» (*«Любіць ноч – права пацукоў»*).

*

Многія з тых таленавіта-арыгінальных літаратараў, што зараз перажываюць узроставую і творчую «поўню», нібыта абралі пазіцыю амаль *экзістэнцыйнага неспрычынення*. Іх нават цяжка пяяднаць паняццем «пакаленне» – настолькі выразная мастацкая асобаснасць Віктара Казько – і Уладзіміра Някляева, Алеся Разанава – і Алеся Жука, Ніны Мацяш – і Дануты Бічэль, Юркі Голуба – і Леаніда Галубовіча...

У творах апошніх гадоў («Да сустрэчы...», «Бунт незапатрабаванага праху») Віктар Казько зноў і зноў вырашае дылему супрацьстаяння—суіснавання быцця і нябыту; аднак праблема гэтая ў канкрэтным мастацкім кантэксце пера-

[10] Цытуецца па: Верш на Свабоду... С. 274.

водзіцца ў плоскасць маральных імператываў. Іначай кажучы, сутыкненне чытача з разуменнем, што зыход – незваротны, не набывае тут характару катастрофы, не абрынае «са-аўтараў» сп. Казько ў татальны адчай – бо ў творах гэтага пісьменніка чалавека ад ягонай смерці аддзяляе шматтысячагадовая гісторыя мудрасці, асвечаныя часам традыцыі; у выніку «прыватны» страх уласнае смерці абстрагуецца – і *як бы* знікае. Рэдкая ў айчынным *літнекропалі* гуманнасць.

Дзеля справядлівасці варта дадаць – адносна рэдкая. Так, адзін з апошніх па часе празаічных твораў Алеся Жука – «Сны пра маму» – пранізліва-светлы аповед; не споведзь, не ўспамін – менавіта *сон пра жыццё.* Але ж і гэты пісьменнік у апавяданнях, напісаных напрыканцы 1960-х – у пачатку 1970-х гадоў (калі яму не было яшчэ і трыццаці) засведчыў амаль немагчымае «веданне пра смерць»:

«Лесін пачуў стрэл і не зразумеў, адкуль такі востры боль між лапатак, чаму хістанулася з-пад ног зямля і сіняе неба прыціснула яго да зямлі. Ён яшчэ жыў, калі стары немец падышоў да яго... <...> І апошняй хвіліны Лесіну не хапала, каб спалохацца смерці... Цела яго толькі раз слаба варухнулася, і ён ужо не чуў, як над самым тварам дабрадушна прагуў чмель, і нібыта адчуў смерць, імкліва паляцеў прэч над зялёным полем, якое толькі-толькі адкрасавала» (*«Гаркавы дым»*).

Калі ў прозе Алеся Жука смерць (дакладней, *паміранне*) амаль заўсёды «дэталізуецца» (пісьменнік, здаецца, раскладае працэс на «элементарныя часціцы», каб зразумець «механізм» ягонай сутнасці), дык у творах Алеся Разанава, наадварот, «вобраз» яе максімальна абагульнены – што, у сваю чаргу, вядзе да бясконца-варыятыўнай трактоўкі як аўтарскіх намераў, так і плёну. У нейкім сэнсе можна гаварыць пра супадзенне «вектараў руху» Алеся Разанава і Віктара Казько: гэта не тое што «ўцёкі ад нябыту», але намер усталяваць паміж ім і сабою *адлегласць* – неабходную для аб'ектыўнай ацэнкі.

У сваю чаргу, меркаванні лірычнага героя кнігі Уладзіміра Някляева «Прошча» [Мн.: «Крыніца», «Мастацкая ліатаратура» (1996)] «рэзаніруюць» з пазіцыямі многіх персанажаў Юры Станкевіча – найперш у сэнсе пэўнасці высноў ды радыкальнасці намераў:

Прыгнечанасць часу, разгубленасць часу і страх –
Нібыта ў сяброўскіх, нібыта ў варожых вачах.

На ранку галюся. Баюся. Прад люстрам стаю –
Разгубленасць мрою, прыгнечанасць трызню сваю.

Час тахкае ў скроні.
Над бітваю дыбіцца бітва.
Цяжэе ў далоні
Вайсковая бацькава брытва.
Шалею ад болю. Не трэшчына ў часе – разлом.
Кроў кліча на волю...
Упоперак горла – лязом.

**«Брытва»**

Чым не ПРОЗІМЕТРУМ – міжвольна-невыпадковая «прозапаэзія» айчыннай вытворчасці?!

У 2000 годзе выйшла невялікім накладам кніга пад назваю «Апошнія вершы Леаніда Галубовіча» (выдавецтва «Полацкае ляда»). Стылізаваная пад «прастату без закідонаў» вокладка выкананая ў чорным і белым колерах. Нягледзячы на змрочную двухсэнсоўнасць назвы, зборнік амаль пазбаўлены іпахондрыі, многа вершаў цёпла-лірычных, нямала апавядальных, не бракуе і прароча-дыдактычных (паэт абвясціў, што больш вершаў пісаць не будзе – таму ў «Апошніх...» шчыраваў напоўніцу) – і ўжо не такая *праблема* тое супрацьстаянне жыцця і смерці:

...паэты мёртвыя прыйшлі
І – абступілі...
І што яны ўва мне знайшлі,
А мо забылі?!
<...>
Да кніжных шафаў ад дзвярэй крутнулі выі,
А там – вядуць паэты рэй
Яшчэ жывыя...

Гадоў за тысячу – адным,
Другім – па трыццаць...
Зашмальцавалі ўсе зады
На тых паліцах...

Між іх мо ўплішчыца б змаглі,
Ды – цесна й млосна...
І ўрэшце – мёртвыя сышлі,
Прыйшоўшы позна...
<...>
Vivat! – пясняр і верлібрыст –
Майстры і ўмельцы,
І ты, як зможаш, Толя Сыс, –
Заходзь па смерці...

*«***...паэты мёртвыя прыйшлі...»*

Літаратура (Бібліятэка) і ёсць *некропалем* – што можа быць дасціпней?!

*

Аднак найбольш дзейсна экзістэнцыйны страх перад нябытам пераадольваецца не досціпам, а мудрасцю. Творы некаторых пісьменнікаў старэйшага пакалення – Алены Васілевіч, Анатоля Кудраўца, Віктара Карамазава, Алы Сямёнавай, Васіля Зуёнка ды іншых – утвараюць унутры *некропалю* своеасаблівыя «лакуны», дзе няма месца хваравіта-ліхаманкавай цікаўнасці да іншасвету, гіперрэалістычным рэфлексіям і адкрыццям кшталту «смерць – мужчына» (менавіта так нзывалася аповесць сп. Глобуса, напісаная ў 1992 годзе).

Анатоль Кудравец апошнім часам аддае перавагу адносна невялікім эпічным формам – апавяданню, эсэ, нарысу. Ягоныя аповеды (напрыклад, «Бацька», «Зязюля пракукуе заўтра» і інш.) выяўляюць дзіўную неадпаведнасць, якая

ў выніку і нараджае мастацкі тэкст: эмацыйная і сэнсавая напружанасць, здаецца, аніяк не стасуюцца з тэмпам дзеяння, лаканічнасцю, нават скупасцю апавядальнай манеры – і тым не менш аўтар утрымлівае чытацкую ўвагу з большым поспехам, чымся некаторыя майстры action-натуралізму:

«...У хлеў Антось не пайшоў, а адчыніў дзверы ў хату. Яны былі не замкнёныя. Падаў голас – ніхто не азваўся. Зайшоў у чыстую хату – там таксама нікога. Адчыніў дзверы ў халодную палавіну і ўбачыў Людчыны чаравікі з высокімі халяўкамі. Яны былі старанна зашнураваны і былі на Людчыных нагах. Вышэй была сама Людка – ўся ў чорным, і ад белай шыі, з-пад барады, ішоў шэры вераўчаны пасак, перакінуты цераз крук. Некалі на гэтым круку вісела калыска. А ўнізе, пад нагамі і так блізка, што здавалася, быццам Людка стаіць на іх, ляжала гара буйных антонавак» (*«Позняя яблыкі»*)[11].

Проза Раісы Баравіковай (у 2002 годзе ў «Мастацкай літаратуры» выйшаў зборнік яе апавяданняў «Вячэра манекенаў») саступае ў вітальнасці яе вершам (напрыклад, спела-летуценным «Васьмірадкоўям апошніх пацалункаў»); рэальнасць у яе празаічных творах становіцца «дэкарацыямі» для прышэсця інфернальнасці (гл. «Перакрыжаванне-777», «Памылку Малой Галактыкі», «Каву для дамавіка», «Ты, я і Валодзя»). Смерць тут часта выконвае функцыі антычнага Року, Лёсу – незваротна-абавязковага і для людзей, і для багоў («Ля берагоў Аўстраліі»). У анатацыі да кнігі аповеды сп. Баравіковай вызначаюцца як «псіхалагічная фантастыка»; згаданая жанравая разнавіднасць ва ўмовах «некрапалічнасці» мае ўсе шанцы для росквіту, бо пра жахлівае апавядаецца – у духу эпохі! – у займальнай форме.

*

Не бракуе ў эпохі жахліва-займальных сюжэтаў і для тых пісьменнікаў, хто ўжо тут і зараз пражывае яе як апакаліпсіс. Яшчэ ў 1995 годзе выйшаў у свет зборнік аповесцяў Івана Шамякіна «Сатанінскі тур». У аднайменным творы прысутнасць **некрапалічнасці** рэчыўная да ірэальнасці: адзін з тых (Уладзіслаў Булаўскі, горды аўтар дысертацыі «Элементы польскай лексікі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове»), хто выпраўляецца ў замежны «шоп-тур» у Польшчу, памірае ў аўтобусе – і працягвае «вандроўку» разам з жывымі, чыё быццё проста-такі віруе (звадкі, любошчы і тавараразварот). Для апавядальніка «ўварванне» *некропалю* ёсць заканамернае наступства распаду, разбурэння даперабудовачнага савецкага *акропалю*; у «Сатанінскім туры» смерць – катэгорыя на столькі быційная, колькі сацыяльная.

У мастацкім жа космасе Янкі Брыля status quo іншы:

«Выйшаўшы з падземнага перахода, ад станцыі метро, на шырокай і чыстай ад снегу панелі апынуўся ў рэдкім, рухавым натоўпе. Іду паволі, разглядаюся і – дзіўнае, небывалае адчуванне – не бачу нікога, з кім быў знаёмы або сябраваў, чым нейчы воблік запомніўся.

Так не будзе калісьці, для кагосьці і мяне самога.

Хоць людзей і не паменшае».

---

[11] *Кудравец А.* Позния яблыкі: Раман, аповесць, апавяданні. Мн.: Мастацкая літаратура, 1999. С. 491—492.

Працытаваны запіс змешчаны ў кнізе «З людзьмі і сам-насам: запісы, мініяцюры, эсэ» (Мн.: Мастацкая літаратура, 2003). Здаецца, што другая частка назову як бы пераважвае першую. *Я*-герой кнігі існуе ў суладдзі са сваёю адзінотаю, яго «шматведанне» вядзе не ў самотнасць, а, хутчэй, да ўсведамлення спрадвечнай разумнасці існага. Гэта выяўляецца нават на лексічным узроўні аўтарскага стылю: у параўнанні з папярэднімі зборнікамі брылёвай мініпрозы, тут даволі мала шматслойных – сінестазійных – эпітэтаў (заснаваных на паяднанні розных асацыяцый – зрокавых і слыхавых, зроквых і дотыкавых і г.д.). Быццам зараз аўтару важна *проста гаварыць* пра жыццё, а не «аднаўляць» яго «ў вобразах».

*

Героі Васіля Быкава з'яўляюцца перад чытачом у той момант, калі ўся бясконцасць часу і прасторы сціскаецца для іх да кропкі, калі адвечны рух для іх спыняецца – чалавек апынаецца ў пустаце, праміж звыкла-ўтульным (як высвятляецца) быццём і... нічым.

Як правіла, аўтар выводзіць сваіх персанажаў з гэтага Вялікага Нішто; «кропка Нуль» – пачатак, а не завяршэнне шляху, які адным даруе жыццё, другім – смерць.

**«Доўгая дарога дадому»** (Мн.: ГА БТ «КНІГА», 2003). Апошняя кніга пісьменніка – пра шлях да сябе самога.

*

*Некропаль*, які разрастаецца сёння ў айчыннай літаратурнай прасторы, да жахлівага не віртуальны.

Пустата ўкараняецца куды як трывала.

Наталяючыся навадэкаданснаю самотнасцю, роднае прыгожае пісьменства не звяртае ўвагі на дробязі.

***«Не жыццё. Не смерць. Жыццясмертны ўзрост»*** [12].

Ты будзеш салдатам апошняй вайны
І буду я плакаць ля чорнай труны,
І ты мне ўсміхнешся, пазнаўшы мяне,
Бо ты шчаслівейшы, бо ты – у труне.
Мяне ж тут ці будзе каму закапаць...

Над светам жалезныя птушкі ляцяць.
І неба чарнее, нібыта згарае,
І чорнае сонца ўзыходзіць над краем...

*Віктар Шніп. «Магчымая балад XXI стагоддзя»* [13]

**«САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ У N********!»**

---

[12] Цытата з рамана *Арундаці Рой* "Бог дробязяў".

[13] Цытуецца па: *Шніп В.* Выратаванне атрутай: Вершы. Маладэчна, 2003. С. 17.

*Яўген Маланюк*

## ФОРМУЛА

Баліць? Пячэ? – Нічога: горш бывала.
Згадай: Мазепа і Куліш, нягож.
Хай полымем шугае верш сканалы
Ї рыфмы раняць – як свяшчэнны нож.
Ты ўсё трымціш. Дасюль што не збылося...
О, той няпэўны, той балючы крок!
А навакол так цверазее восень,
А дзесці шэпчуць: пасланец, прарок.
Пакрыёма гарчаць радкі, як лекі.
Знямоглы раб глытае неўпадман –
Ї крылы расхінаюцца ў калекі,
Лжэўладару злятае сон з павекаў
Ї вось – хлусні – расплывіўся туман.
Не-не. Трывай. Спадзе хай смутак долу –
Крылаты дух ўстрапеча ў небакрай.
Крыві дай кроплю кожнаму глаголу.
Цярпі. Малiся. Дзейнічай. Трывай.

*Пераклад з украінскае К.Арташэўскага*

# БЕЛАРУСЬ — БЕЛАРУШЧЫНА Ў ЛІСТАВАННІ

## І. М. Лабойка — М. П. Пагодзіну

Из Вильны,
12 декабря 1839 г.

[…] Прошу Вас именем потомства ввести в Москве обычай учиться польскому языку, по крайней мере для филологического употребления. Ходаковский в этом может служить примером, что может сделать поляк для нашей истории, если ему доступна российская словесность (два наступныя словы нечытэльныя). Вот и днесь (в журн. Министерства Народного Просвещения, май, 1839) объяснил многие слова в «Русской правде» гораздо лучше Карамзина, Полевого и других при помощи Белорусского наречия.

*АР РДБ, ф. 23, к. 19, адз. зах. 31, а. 173. Аўтограф.*

## Уладзімір Міхальчанкін, Палікарп Счансновіч — Аляксандру Пшчолку

*(На фірмовым бланку «Первое (Лепешинское) Студенческое Общежитие Московского университета………дня 190_ г.»)*

Многоуважаемый Александр Романович!

Простите, что я решился обратиться к Вам будучи так мало и случайно знаком с Вами с покорнейшей просьбой пожертвовать в библиотеку нашего общежития Ваши очерки и рассказы из белорусской жизни и вообще всё, что может касаться Белоруссии. Живя в Москве я не хочу, как и мой товарищ Поликарп Сченснович, порывать связей с родной нам Белоруссией. Дорого всё, что говорит о родном народе.

С другой стороны мы желали бы заинтересовать и познакомить с Белоруссией тех из наших товарищей (их так много!), для которых Белоруссия — terra inkognita и потом ведь многие из них будут жить в ней и действовать! При всём том будучи смотрителем библиотеки в Общежитии я не могу не замолвить за неё словечка.

Остаюсь готовый к услугам

Владимир Федорович Михальченкин.

Адрес: Москва, Арбат, Филипповский переулок, студенческое общежитие, Библиотека.

*(Далей — рукою П. Счансновіча)*

Шлю Вам свой сердечный привет и присоединяюсь к просьбе Владимира Федоровича. Я в Московском университете на 3-м курсе историко-филологического факультета, а о дальнейшем ещё ничего не решил. Не откажите, Александр Романович, прислать с Вашими произведениями в библиотеку общежития и «Тарас на Парнасе», думаю, что у Вас найдётся, в Москве нигде не сыскать.

Вам известный старый знакомый земляк Поликарп, он же и секретарь библиотеки общежития.

Будьте здоровы!

*РДАЛМ, ф. 1040, воп. 4, адз. зах. 549, а. 3-3 адв. Аўтограф.*

## Вацлаў Іваноўскі, В. С. Сталыгва — Яўхіму Карскаму

10 серпня 1906 г.

Пане Професору!

Книги ад Пана дастали и вельми дзякуем за йих.

С нашае стараны мы будзем высылаць Пану усйо, што тольки выйдзе новаго.

Урад Беларускае выдаўницкае суполки «Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ».

Старшына В. Иваноўски.

Писар В. С. Сталыгва.

*АРАН Спб, ф. 292, воп. 2, спр. 54. Аўтограф.*

## Іван Луцкевіч, кс. Тумас

25 кастрычніка 1909 г.

У Віленскі камітэт этнаграфічнай выставы, рыхтаванай у Львове.

У сувязі з абмеркаваннем на папярэднім сходзе пытання аб удзеле ў мяркуемай этнаграфічнай выставе ў Львове мы звярнуліся за ўдакладненнямі да галіцыйскіх русінаў адносна іх пазіцыі. З паведамлення, атрыманага сёння (25) з Львова, даведаліся, што ўсе русінскія арганізацыі адмовілі свайго ўдзелу, паколькі згаданая выстава мае сцісла польскі нацыянальны характар. Праз апазнанне русінаў літоўскія і беларускія арганізацыі не паспелі канчаткова вызначыцца ў гэтай справе. Зыходзячы са зместу атрыманай з Львова інфармацыі лічым удзел літоўцаў і беларусаў у правядзенні спомненай выставы справай

сумнеўнай. Не маючы нічога болей да інфармавання Камітэту, на сёняшнім сходзе прысутнічаць не будзем.

Луцкевіч,
Ю. /?/ Тумас [J. Tumas].

Вільня, 25. 10. 1909 г.

*АР НБВ, 04. 10. 692, а. 22 — 22 адв. Аўтограф (рукой Антона Луцкевіча, подпіс пад тэкстам Івана Луцкевіча), пераклад з польскай мовы.*

# ЛІСТЫ Ў «НАШУ НІВУ»

## Аркадзь Смоліч — Аляксандру Уласаву

Вильно, Виленская ул., № 20.
Редакция газеты «Наша Ніва»
г. А. Власову.

Газету для семинаристов высылайте по след(ующему) адресу: Минск, Старовиленская ул., д. Яковлева, кв. 3. Василию Федоровичу Мочульскому. Было бы очень хорошо, если бы туда же высылали Вы и отдельные издания — книжки… — вроде «Адвечнай песні» Купалы, «Гіторыі» Ластовского бесплатно. Кажется, что среду благоприятную для распостранения и наших и каких бы то ни было идей я нашёл. Публика — всё 4 класс и удерут в Университет, на основании заломат (?). О «Нашай Ніве» до сих пор не слыхали.

С совершенным к Вам почтением остаюсь

Аркадий Смолич

14.11.1911 г.

*АР НБАНЛ, f. 21-556, a.6-6 адв.*

*Публікацыя Віталя Скалабана.*

## Д. Аніська

Паважаная рэдакцыя!

Якое вялікае значэнне мае нацыянальная свядомасць на развіццё народу; аб гэтым німала што казаць і жывы прыклад з гісторыі братніх нам народаў гэта нам гаворыць. У нас лічба беларусаў, свядомых свае народнасці, як вядома, вельмі малая, й трэба было б парупіцца аб тым, каб гэтую лічбу ў як найскарэйшым часе павялічыць. /…/ Малая грамадка свядомых пайшла ўперад, а абапал мільёны нашых братоў трэба /пацягнуць/, трэба і іх паклікаць за сабой. /…/ Я сам /з/ стараввераў, нашчот гэтага з некалькімі людзьмі /гаварыў/, але што ж, адны з іх ніяк не хочуць прызнацца да таго, што яны беларусы; яны ахвотней называлі б /сябе/ альбо палякамі, расейцамі, літвтнамі, ці там якімі французамі, гішпанцамі, абы толькі не беларусамі. Слабасць чалавечай натуры, яна паддаецца таму закону прыроды, па якому ўсякая рэч мацнейшая прыцягвае да сябе слабейшу/ю/. Другія хаця не адракаюцца ад беларушчыны й гатовы наваг назваць сябе беларусамі, але не хочуць падтрымліваць беларускай справы. Яны ахвотней будуць чытаць расейскую ці польскую газету, як калі патрапяць і калі е з кім, стараюцца гаварыць ці па-польску, ці па-расейску, бо яны кажуць, што беларуская мова ім нічога не прыдасць і што яна патрэбна толькі ў вёсцы.

/.../ Чым парухаць застыўшыя сэрцы? Хіба маглі б зрабіць гэта нашы паэты і пісьменнікі сваімі песнямі і апавяданнямі на гэту тэму.

З пашанай Д. Аніська.

*БДАМЛ, ф. 3, воп. 1, спр. 47, а. 15.*

## Іван Асмалоўскі

Екатеринослав, Ломанная ул. 8, кв. 4

М[илостивый] Г[осподин] Редактор!

Несколько дней тому назад я узнал от одного украинца о существовании белорусской газеты. Меня, как белоруса, это очень заинтересовало. Когда же я ее прочел, то понял, что без этой газеты моя жизнь была бы неполна. Я встретил там вопросы, которые не раз посещали мое сердце. Она шевельнула во мне мои лучшие мысли и желания. Она воскресила меня.

Г-н Редактор, если [для] Вас не составит это большого труда, будьте добры сообщить мне, где [можно] достать грамматику белорусского языка, историю Белоруссии и т.п. книги. Затем желательно было бы знать, в каких еще городах издаются белорусские газеты и каковы их названия. Я же со своей стороны обещаю всеми силами стараться заинтересовать хотя некоторых из своих земляков родной литературой.

Надеюсь, что Вы не забудете моей просьбы.

Заранее благодарен Вам.

Ваш И.Осмоловский.

*БДАМЛМ, ф.3, воп.1, спр.102, а.22. Аўтограф.*

## Уладзіслаў Галубок

Будучы у Ігумені пазнаёміўся з адным жыдам, скупшчыкам старадаўніх рэчаў і [абяцаў] пазнаёміць з ім збіральніка І. Луцкевіча, бо маскоўскія археолагі ўсе перакупліваюць. Фамілія жыда Кабаковіч — часавы майстар г. Ігуменя. І пасля прасіў бы Вас выслаць газету гарадскому суддзі гор. Ігуменя Янкоўскаму Арсенію Канстанцінавічу: ён сам — беларус, цікавіцца справай. Аб гэтам ён мяне прасіў, каб я напісаў да Вас; грошы прышлець.

Газету шліце без адкладу, затым бывайце здаровы.

Вам жычлівы Галубок. Дэпо Мінск.

*АР НБ АНЛ, f. 21-146, a. 7.*

## Напалеон Чарноцкі

Канада, 27.05.1912 г.

Пісаў я да сваіх не раз, каб мне «Нашу Ніву» прысылалі, калі жыва. Ды цяпер не ведаю, хто аба мне спамянуў ды прыслаў Н[ашу]Н[іву] і Беларускі

каляндар. Вельмі я ўцешыўся, што жыва і здарова, здаецца, моцныя карэньчыкі ў родную зямлю пушчае, дзе-нідзе кветкаю шчырай песні зацвіце, а ўжэ пэўне шчыра стараецца ў кожнай патрэбе даць народу добрую раду. А вы мяне і пазнаць не маеце з чаго. Можа я не горш за вас зычу беларускаму народу, не аб сабе я толькі думаў, едучы сюды. Можа і трапіў на сваю дарогу, дзе не для мяне аднаго месца, толькі што на той дарозе я нікуды яшчэ не дайшоў ды следу маёй работы пакуль што німа.

*АР НБ АНЛ, f. 21—70, а.1-1адв. Аўтограф.*

*Публікацыя В.Скалабана.*

## Карусь Каганец

23.XI.1912

Вітай ты, светлым огніку сэрца беларускага з сёмым годкам узняцца твайго з іскркі прыгаслае і прысыпанае попелам, аб каторай думалі, што саўсім яна там загінула. Разжыгніся ты полымем вялікім, што бы ўся Беларусь стала едным огнішчам праўды і любві!

Радуецца душа мая тым болей, што збываюцца мае колішнія словы, як казаў я за рокаў два да нараджэння «Нашай Нівы»:

«Пакапаўся б у тым пепле — іскарка б бліснула, а каб ветры наляцелі — полымя б шуганула... І зацвіла б наша ніва краснымі цвятамі і Беларусь, што журліва, што нікне з летамі, узварухнецца, устрапянецца, узвідзе плячыма, у нову шату апранецца і прэзрыць очыма».

Знаць не пустое было маё слова...

*АРНБАНЛ, ф.21-203, арк.I-I адв. Аўтограф.*

## Р. Навіцкі

Паможам

Да вас, паны-абыватэлі, да вас, інтэлегентных земянінаў звяртаецца з вялікай прсьбай прачытаць гэтую зваротку. Колькі ужо дзесяткаў лет як правіцельства вядзе сваю абрусіцельную палітыку ў нашым родным беларускім краі. Нас, вясковых абыватэляў-палякаў і мужыкоў-беларусаў стараюцца як можна праўдай і няпраўдай абрусіць, зрабіць з нас рускіх і нават истинных. Мы праўдзівыя сыны зямлі сваёй як маглі і можам барукаемся і не паддаемся гэтаму. Палякам лягчэй весці гэтае супраціўленне бо мы маем, дзякуй Богу, свой усталены язык, сваю вялікую культуру, свае газэты. Але ж мы не можам пакінуць і нашага мужыка-беларуса ў яго змаганні, гэтага яшчэ забітага і цёмнага брата. Паможам жа і яму вучыцца, набірацца сваей свядомасці, што ён спакон веку быў і ёсць беларус, а не рускі. Для гэтага мы павінны як можна болей шырыць

беларускія газэты. Няхай з вас ніхто не пажалее пару рублеў, выпіша «Нашу Ніву» і шырыць у сваей вёсцы.

Да вас, заможныя паны-абываделі звяртаюся з прсьбай памагчы ім астацца беларусамі, не пусціць іх у чужые лапы, бо ў гэтым іх агульная згуба.

Дужы /псеўданім/

Багушэвічы Ігуменскага уезда, в Астраўкі.

*БДАМЛ, ф. 3, адз. 96,а. 42. Аўтограф.*

## Белявы /псеўданім/

Вёска Кленік Ігуменскага павету, Раваніцкай воласці за паследнія гады сусім перамянілася, дзякуючы прабыванню тут колькі год дзеяцельнага вучыцеля А.К.Рух беларускі добра пашырыўся. Расейскае здрасцвіе, што было запанавала ў Кленіку, выцеснена ужо беларускім дзень добры. Сяляне пачалі сям'ёй гаврыць па-беларуску, нават з інтэлігентамі. Дзяўчаты і хлопцы на ігрышчы сталі смакаваць беларускія песні.

Там сама, а. 35.

## Антон Луцкевіч — М. А. Рубакіну

16/29 мая 1912 г.
Из Вильны.

Милостивый государь!

Простите, что так поздно посылаю заметку о белорусской новой письменности, но первоначальный 3-х дневный срок был слишком недостаточен в виду массы работы на месте. Не знаю, подходит ли то, что посылаю, к Вашим требованиям, но просьба была передана в крайне неопределённой форме. Если необходима под заметкой подпись, напишите «Антон Новина», мой постоянный псевдоним в русской печати.

Остаюсь с совершенным почтением,

Антон Иванович Луцкевич

Вильна, Георгиевский пер. 4, кв. 10.

P. S. Быть может, Вам удобно не печатать всей заметки, а лишь использовать как материал. В таком случае прошу абсолютно не стесняться и даже не ссылаться на источник, если это необходимо.

Антон Луцкевич

*АР РДБ, ф. 358, карт. 249, адз. зах. 43, а. 1 — 1 адв. Аўтограф.*

## Вацлаў Ластоўскі — Яўхіму Карскаму

*[На бланку «Беларуская кнігарня»]*

Вільня 23 кастрычніка 1913 году
Яго міласці
Прафесару Е.Ф.Карскаму
у Варшаві.

Высокапаважаны пане!

У восень гэтага году у Вільні адкрылася Беларуская Кнігарня, катарая будзе вясьці торг беларускімі кніжкамі і кніжкамі ў другіх мовах аб Беларусі. Дужа-бы мы былі ўдзячны Пану Прафесару,каб выслаў нам на камісію свае цэнныя працы аб Беларусі. Разлічацца за кнігі будзем два разы ў год, каля св. Юр`я і каля Пакравоў. Ведаючы аб Вашай прыхільнасці да нас маем надзею, што нам не адмовіця гэтай ласкі.

Астаючыся заўсёды з вялікай пашанай да Вас

В.Ластоўскі

*АРАН Спб, ф. 292, воп. 2, спр. 75.*

## Вацлаў Ластоўскі — Людвіцы Сівіцкай

Вільня, 20/01/1915г.

/.../ Вайна нарабіла шмат глуму і ў нашай рабоце, праўда, кнігарня ідзе, але куда горай, чым у тым гаду а гэтай парэ, хоць прыметна, што справа развіваецца, што пакупнікоў прыбывае, але на меньшыя.кніжачкі.Многа што цяпер прыходзіціць такіх «дзядзькоў», каторыя пытаюцца соннікаў аракулаў, пісьмоўнікаў, а такжэ кніжак гістарычных. Гэта кніга паказвае, што літаратура пачынае памалу заваёўваць сабе мейсца у штодзенным жыцці нашага беларускага работніка і селяніна і што ён кіруецца здавальваць свае духоўныя патрэбы сваёй беларускай кніжачкай.

Гэта цікава і прыемна, што справа шырыцца, расце. Шкада толькі, што гэтых патрэб нашага народу мы не здолеем задаволіць, бо не маем ні так званай «лубачнай» літаратуры, ні папулярнай навуковай, а гэтай апошняй што раз адчуваецца ўсё большы і большы недастатак. Няма аўтара навуковых кніжак, няма ў нас і выдавецтва, каторае бы выдавала хоць тое, што ёсць. Праўда ёсць у нас выдавецкія суполкі Вільні, Пецярбургу і ў Мінску, але карысць з іх невялікая, бо выдаюць навогул смешна мала.

/.../ Найболей парушыла справу ў Петраградзе калежанка панна Голуб / паздароў яе Божа/, так усіх там разварушыла, усіх ачаравала сваёй шчырасцю для справы калі яе і кніг./*нрзб.*/ сама нідзе ўперад не высоўваючыся, адным словам робіць работу по-апостальскаму: ідэйна, скромна і /*нрзб.*/. І работа спорыцца, раскідаецца свядомасць беларуская па студэнцкай маладзежы, а ад тэй жа пераходзіць на гімназіі і далей...

*Перапісана з аўтаграфа ў асабістым архіве Л.А.Сівіцкай /Зоські Верас/, у красавіку 1984 г.*

## Гальяш Леўчык — Антону Луцкевічу

Варшава, 13/26 лютага 1913г.

Да дзядзькі Антона Луцкевіча

Залаценькі паночку!

У нашай справе канечне патрэбна выпусціць друкам на расейскай мове і асобна на польскай мове такую агітацыйна-інфармацыйную брашуру аб беларускам адраджэнні, як, напрыклад, Вашыя «Беларусы» (A.Nowina), «На дарозе [да новага жыцця]», толькі яшчэ даполніць характарыстыкай народнай гісторыі, бібліяграфіі, асобнасцямі беларускага народа ў духу стацці праф. Погодина у «Вестнике Европы» аб беларускіх паэтах. Такая кніжка нядорага каштавала б — грошы знайшліся б, і яна была б надта-вельмі памочна. Вы на гэта майстар. Калі ласка, адпішыце мне. Ваш Гальяш Леўчык.

*АР НБ АНЛ, f. 21-260, а. 4. Аўтограф.*

## Рамуальд Зямкевіч — Яўхіму Карскаму

1 мая 1914 г.
/Аб этнаграфічнай выставе ў Вільні, верасень 1913 г./

/.../ Выставка была грандиозная и изумляла всех своим богатством. Каталог этой выставки у меня и дублеты переданы Вам лично в Варшаву. Насчет узоров вышивок надо заметить, что все это литовцы безусловно заимствовали у белорусов. Видел такой факт. В отделах литовском и белорусском было помещено одинаковое по узору покрывало, из-за чего чуть не произошла драка между литовцами и белорусами. Литвины с кулаками пытались было отстоять свой, несомненно, типично белорусский орнамент: ёлочки и сачок*. Лучшим знатоком белорусского орнамента в Вильне считается в настоящее время Я.Еленский /Завальня 7, кв. 6/, пишет под псевдонимом Альгерд Бульба... Есть его статья в месячнике «Wieś Ilustrowana», 1913 г., сентябрь. На выставке он сам лично с художником Рущицем осматривали и вносили в каталог и группировали материал.

*АРАН, Спб., ф. 202, воп. 2, адз. зах. 50, а. 3-3 адв.Аўтограф.*

## Іван Луцкевіч — брату Антону

Антон, вельмі кепска, што «Гоман» [пашоў?] на Вернікоўскага. Прывязу аправяржэнне. Я заместа да Вільні заўтра ў Слуцк еду на якіх два дні. А пасля прыеду да Вільні на якіх тры дні, значыцца, буду можа 13-14 у Вільні. Зьбіраецца Варонка да вас. Трэба быць з ім начэку, бо ён разыгрывае Хлестакова, сам сябе выдаў, [нрзб] з ім едзе. Без разгавору са мной нічога з ім не рабіце.

Твой Іван.

Дзякуй за памяць. Дасылаю паклон усім.

---

*

8/ VII.1918. Менск.
У Менску Ландэр, Мяснікоў і ўся бальшэвіцкая дэпутацыя.

*АР НБ АНЛ, f. 21-368, а. 35. Аўтограф.*

## Змятрок Бядуля — Антону і Івану Луцкевічам

Браточкі Антон і Іван!
Чалом, чалом, даражэнькія!
Цэнтралістычныя тэндэнцыі народных камісараў ціскалі і душылі беларусаў, бадай, горай за Мікалая [Другога].

*Без даты, не раней 1919 г.*
*БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, спр. 215, а. 23. Аўтограф.*

## Уладзімер Самойла — рэдактару газеты «Беларуская думка»

/…/ Белорусская национальность не покрывает целиком моего самоопределения, чего я никогда не скрывал и не скрываю теперь.

Не владея достаточно белорусским языком, я вынужден был бы объясняться на собраниях по-русски, что вызвало бы совершенно ненужные для белорусского дела здесь осложнения. Поэтому я настаиваю на не включении меня полноправным членом в /Белорусский национальный/ комитет*, а приглашать как политического консультанта… Мотивом такого предложения является во всяком случае горячее желание послужить белорусскому делу в настоящий трудный момент.

В. Самойло.

30 мая /19/19 г.

*АР НБ АНЛ, f. 21 — 539, а. 1. Аўтограф.*

## Антон Луцкевіч — брату Івану

Paris VII [e], rue Beyard **
23.VI. [19] 19

Дарагі Іване!
Карыстаючыся з ласкавай помачы хр[абя?] Лубеньскага, пасылаю Табе гэту картку.
Мяне вельмі непакоіць Тваё здароўе, — хаця дактары, што лета і сонца многа Табе памогуць. Усё ж вельмі прашу Цябе аб вестку аб тваім стане.

---

* 25 мая 1919 года на сходзе Беларускага нацыянальнага камітэта У. Самойла быў абраны сябрам гэтае арганізацыі.

** А.Луцкевіч у якасці прэм'ер-міністра Ураду Беларускай Народный Рэспублікі (БНР) ачольваў у гэты час дэлегацыю БНР у Парыжы, намагаючыся разгляду беларускага пытання на Парыжскай мірнай канферэнцыі. З французскай сталіцы напісаны і гэты ліст да цяжка хворага брата Івана, які на лячэнні ў польскім Закапанэ дажываў апошнія дні.

Як Тваe фінансы? Чы прывёз Табе Терешчанка грошы, якія я яму для Цябе пасылаў? Як жывуць усе нашы прыяцелі і знаёмыя?

Мы тут маемо многа работы. Страшна нехватае Рамана Скірмунта. Калі будзеш мець аказію, то напішы яму, каб канечне сюды прыехаў. Пропуск для яго ёсць у Берліне ў галавы французскай ваеннай місіі ў Варшаве, генарала Dupont. З ім ён мог бы знесьціся пры помачы французскай місіі ў Варшаве, або можна паехаць праз Берлін і ўзяць асабіста.

Пакуль што бывай здароў! Паклон мой п.п. Юльяне і Лялі, пану Каролю, Кімантам, Патронелі, Ядзьцы і ўсім-усім нашым.

Твой Ант. Луцкевіч

Можэш мне адпісаць тэй самай дарогай, якой атрымаў гэтае пісьмо.

*БДАМЛМ, ф.3, воп.1, спр. 261, арк. 15-16. Аўтограф (лацінкай).*

## Аляксандр Прушынскі /Алесь Гарун/ — Браніславу Тарашкевічу

Дарагі Тарасік!*

Маю табе сказаць важнае нешта перад тваім ад'ездам у Варшаву. Інтарэс важны, прашу зайсці, бо сам хадзіць не магу — забараніў доктар. Каб ты купіў якую кніжку пачытаць — вельмі б дзякаваў, бо сяджу без усякага занятку. Зайдзі канечне.

А. Прушынскі

*АР НБ АНЛ, ф. 21-473, а. 2. Аўтограф.*

## М.А.Янчук — І.А.Белавусаву

Москва. 2.III. [19] 19 г.
Дорогой Иван Алексеевич,

В прошлую субботу я был на совещании Комиссии по организации университета в Минске и виделся с Ф.Ф.Туруком. Говорил о Вас с Купала *(так у тэксце).* Он сказал, как рукопись будет готова, пусть присылает **, я рукопись куплю, а издать, если не удастся здесь, то можно, пожалуй, в Минске, там есть деньги у местного комитета на просветительские цели. Гонорар будет уплачен по соглашению. Вот что было сказано, за дальнейшее не ручаюсь. Просят по-

---

* Цыдулка адрасавана А. Прушынскім верагодней за ўсё Б. Тарашкевічу падчас побыту аўтара пісулькі ў Вільні ў якасці старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта /кастрычнік 1919 г./, аб чым паведамлялася ў газеце "Виленский курьер", 1919, 18.10., № 231. Спасылаючыся на "Минский курьер" газета ўдакладняла мэту прыбыцця да Вільні сп. Прушынскага: дзеля перамоваў з генеральным камісарам "усходніх земляў" у справе асігнавання Беларускаму камітэту 1 млн. рублёў на падтрыманне беларускіх культурна-асветніцкіх установаў.

** Маецца на ўвазе рукапісны зборнік вершаў Я.Купалы, у перакладзе на рускую мову, выдадзены ў Маскве (1919).

спешить. Присылайте рукопись мне, получше бы с кем-нибудь, а то на почте как бы не затерялась [...]

С Купалой *(так у тэксце)* у меня лично мало связей. Мы обменялись как-то письмами. Он обещал этой зимой быть в Москве, зайти ко мне. Я предлагал ему остановиться у меня, после того от него не получал известий. Он жил в Смоленске, но надеялся переехать в Вильно или Минск, что очевидно и сделал с освобождением Белоруссии от немцев. Жаловался, между прочим, на свое болезненное состояние, что подтверждает и Турук, видевший его в Смоленске этой зимой. В августе, желая выразить ему свое сочувствие, я послал ему свое стихотворение, ему посвященное, на моем родном наречии подляско-малорусском, составляющем переходную ступень от белорусского к украинскому [...]

*РДАЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1066, аа 6-7. Аўтограф.*

## Тэлеграмы Г. В. Чычэрына членам савецкай дэлегацыі А. А. Іофэ, Л. Л. Абаленскаму ў Рыгу з дырэктывамі па пытанню мірных перамоваў з Польшчай

14.11.1920 г.

В виду выступления Ластовского я попросил Смилгу ускорить приезд Белорусских советских представителей. Сомневаюсь, чтобы поляки энергично поддерживали Ластовского /.../ Антанта не хочет расчленения России дальше известной черты. Америка решительно против. Белоруссию собственно никто не поддерживает. Позиция Литовского правительства колеблющаяся.

16.11.1920 г.

Ежедневно налегаю на Смилгу чтобы ускорить присылку профессора Игнатовского, представителя Белорусского ревкома, который должен ехать в Ригу. Жду материалов от Смилги о том, насколько белорусские эсеры имеют почву под ногами, имеет ли смысл поддерживать с ними тесный контакт, их не устраивает наша форма провозглашенной Белоруссии, они же требовали, чтобы было указано на конкретное государственное тело. Поступила информация, будто бы Франция заявила, что решила признать независимость Белоруссии.

9.02.1921 г.

Ластовский заявил, что к Советской Белорусской Республике его правительство хочет сохранить дружеские отношения — Чичерин.

12.02.1921 г.

Раз Ластовский не посягает на Советскую Белоруссию, считаем его существование полезным, ибо его борьба направлена против поляков — Чичерин.

*ДАРФ, ф. 5, воп. 1, адз. зах. 200, а.а.5, 65, 66. Машынакопіі.*

## А.А.Іофэ — Г.В.Чычэрыну

Шыфраграмма, 18.01.1921г.

/.../ По-прежнему считаю, что ни с Ластовским, ни с белорусскими эсерами никаких переговоров вести не стоит. Группа Ластовского — авантюристы,

готовые на всё ради получения портфелей и сохранения званий министров. Белорусские с.-р-националисты, стремящиеся к создании независимой Белоруссии в этнографических границах. Поддерживать это мы не можем и переговоры с ними были бы равноценными переговорами с русскими национальными партиями, стремящимися к воссозданию неделимой России, даже полонофобство наших русских групп не оправдало бы сношений с ними, как не оправдывает полонофобство белорусских эсеров сношений с последними. С другой стороны я всегда предварял против слишком большого доверия к Литве, ибо в тяжелом положении последней она всегда способна схватиться за всякую соломинку, даже антисоветскую или польскую. Привязать к себе Литву, можно только скомпрометировав её в глазах Антанты, поэтому я требовал от /Зауниуса/ официального заявления Литовского правительства о нейтралитете, даже в случае новых интервенций и предъявления Вильно в награду за участие в интервенции. Это будет понятно как военное соглашение Литвы с нами. Следовательно, компрометируя её действительно привлечём её к нам. С другой стороны заявление о том, что Ластовский не претендует на Советскую Белоруссию, парализует как раз белорусский национализм, враждебный нам. Несомненно, что Ластовский и белорусские эсеры /…/ против нас /…/. Вы можете убедиться, насколько эти господа нам по существу враждебны. Мы можем требовать на этом основании от Литвы либо ликвидации Ластовского, либо вышеуказанного заявления, ибо это есть прямое нарушение договора со стороны Литвы…

17 января, Рига, Иоффе.

*ДАРФ, ф. 5, воп. I, адз. зах. 2001, а. 215. Машынакопія.*

## Мікола Вяршынін — Аляксандру Цвікевічу

Прага,
2. 02. 1921 г.

Многапаважаны Аляксандр Іванавіч!

/.../ Лічу неабходным паінфармаваць Вас а нашых справах.

У апошнія месяцы я два разы наведваўся ў адну з тутэйшых рэдакцый, каб пагаварыць там з начальнікам Ангельскай дыпламатычнай місіі ў Празе п./анам/ Гудсонам, але ж не хацелася ісці туды, бо хоць гэты рэдактар добры мой знаёмы, але ўсё ж такі ён не павінен ведаць аб тым, аб чым мы будзем гаварыць. Я паехаў у Ангельскую місію 7 студзеня і гаварыў ім паўтары гадзіны. Маючы з сабой мапу Беларусі (я яе аставіў п. Гудсону) з абазначэннем на ёй Віленшчыны, Рускай лініі і Савецкай Беларусі; я падробна аб'ясніў ўсё палажэнні, указаўшы на два польскія карыдоры, што калі б Польшча ўцвярдзілася ў Вільні, то немінуема яна падначаліць сабе ўсё пабярэжжа Балтыйскага мора. На пытанне што вы канкрэтна хочаце і што думаеце рабіць? я адказаў, што мы хочам, каб уся Беларусь была незалежнай дзяржавай, але цяпер мы хочам, каб Віленшчына ніякім спосабам не дасталася Польшчы. У Віленшчыне большынство беларусаў, мы з Літвой перад тым жылі і цяпер маем дагавор з Літвой, што Літва дасць нам тэрэтарыяльную аўтаномію. Калі мы ўкрэпімся ў Вільні, тады будзем мець ульянне /уплыў/ на ўсю нашу Беларусь, як у польскай паласе, так і /на/ савецкую. На пытанне к чаму народ /беларускі/ больш клоніцца — /да/

Польшчы ці /да/ Расіі, я адказаў, што к **незалежнасці,** але к Польшчы ні ў якім прыпадку і расказаў, як палякі паступаюць з намі. Ён запісаў колькі ў нас праваслаўных, каталікаў і г. д. Я сказаў, калі б, на няшчасце, Польшча дабілася таго, чаго яна хоча, то ніколі не будзе спакойства ў Васточнай Еўропе. Ён пытае: хто такі Ластоўскі? Я ўсё гэта яму аб'ясніў. Наканец, я запытаўся, ці будзе аб нашым разгаворы ведаць Лойл-Джордж, на што ён адказаў уцвердзіцельна. Пан Гудсон вельмі інтэрасаваўся нашай Канферэнцыяй у Празе, прасіў мяне даставіць яму рэзалюцыі Пражскай канферэнцыі на нямецкім або французскім языку. Я прасіў пана Бароўскага (шэф БНР у Берліне), але ён мне адказаў, што ў рэдакцыі ў нямецкай мове ён не мае. Калі ў Вас ёсць ў Коўне, прышліце як найхутчэй.

Вельмі дрэнна, што ў нас німа пішучай машынкі. Работы маем па горла, так што Пётра Антонавіч /Крэчэўскі/ захварэў і я таксама не вельмі здароў. Заўтра еду ў мінісцерства нашчот нашых студэнтаў. Іх ужо тутака ёсць 11 чалавек, а другім палякі не даюць пашпартоў, але яны прабіраюцца кантрабандай. Чакаем яшчэ апошніх.

Бяда страшная /наконт/ грошай, не маем ні Пётра, ні я, а дражызна тут вялікая /.../.

*ДАРФ, ф. 5782, воп. 1, спр. 10, аа. 63 — 64. Аўтограф.*

## Еўдакім Раманаў — Яўхіму Карскаму

30 жніўня 1921г. Стаўрапаль

/.../ Из прилагаемой копии официального письма Белорусского комиссара просвещения Вы увидите, что Белорусское правительство мне предлагает. Будучи не вправе требовать большего, я согласен на переезд в Минск, но в виду тяжелых условий езды в общем вагоне и слабости моих ног, я просил прислать с агентом свой вагон, в котором и совершил бы это далёкое, 20-дневное путешествие. Это практикуется здесь часто, даже со студентами.

Если же не смогут исполнить эту просьбу, то мне придется или умереть в дороге.., или добравшись до Минска, прямо с вокзала отправиться в больницу.

Грусное дело, Ефим Федорович, одиночество, болезнь, старость.

Насчет Вашей фразы «место мне там найдется» я /нрзб/ так как готов читать что угодно.

Наступны ліст (цыдулка) не датаваны, — усяго некалькі роспачных словаў:

«Из Минска я ничего не получил. Это приводит меня в отчаяние, т.к. жизнь совершенно невыносима. Если можно, поторопите их, иначе мне придется скоро уйти…»

*АРАН Спб, ф.2 92, воп. 2, спр. 54. Аўтографы.*

## Максім Гарэцкі — у выдавецтва «Вызваленне»

Берлін, прадстаўніцтва БНР

06.07.1921г.

Сабраць і прарэдагаваць зборнік твораў А.Гаруна, напісаць крытычны агляд — згаджаюся. Усе яго друкаваныя творы маю. Рукапісы, калі засталіся, пас-

тараюся дастаць ад Лёсіка. Біяграфія мною запісана са слоў памёршага паэта. «Матчын дар», «Казкі» можна купіць і прыгатаваць для зборніка, але апавяданні (І.Жывіцы) трэба выпісываць з розных гадавікоў. Вышліце мне рэдактарскія грошы, і я з іх буду выплачваць пісцам. Праца можа быць скончана за месяц ці раней (у залежнасці ад адказу Лёсіка). Чакаю адказу з вашымі і далейшымі варункамі.

М.Гарэцкі

Postkarta. Polecony. Niemcy. Berlin.
Liachimfiedrich Str. 6
D-r Al.Zwikiewitsch

*ДАРФ, ф.782, воп.1, спр.10, а.84. Аўтограф.*

## Пятро Крэчэўскі — Аляксандру Цвікевічу

[Прага] 30.V.[19] 24 г.

[...] Але ж мы незалежнікі, а яны хочуць зьбіць нас на федэрацыю з савецкай Расіяй. За федэрацыю нам і тут [нрзб] можа даць і пакой і грошы на працу, не гаворачы аб службе, як прапанаваў Ляцкі. Мы ад гэтага асабіста можам толькі выйграць, але ідэя незалежнасці страціць сваю актуальнасць надоўга. Цяпер яна стаіць высока. Сацыялістычныя расейскія партыі з Чарновым на чале цяпер прымаюць удзел ва ўсіх святах незалежнасці новаўтвораных рэспублік. [...] Аб незалежнасці Беларусі гавораць ангельцы і французы. Я ангельскаму пасольству перадаў пакуль для азнаямлення і перакладу на ангельскую мову копію меморандума, якую перасылаю і табе.

[...] Калі Бэнэш і Масарык прызнаюцца, што ў свой час не мелі ні гроша і ўсё ж вялі, як маглі, справу, то няўжо безграшоўе прымусіць нас змяніць свае перакананні і адмовіцца ад барацьбы за незалежнасць Беларускае Дзяржавы [...].

Твой Пётра.

*НА РБ, ф. 62, воп.I, спр. 198, а. 88-88 адв. Аўтограф.*

## Баркусевіч* — А. С. Славінскаму

Масква, красавік 1925 г.

Дорогой тов. Славинский.

Получил письмо из Варшавы о том, что приехавший т[оварищ] П. расколол организацию Стаха** и ведет с ним переговоры о капитуляции и выезде в Союз. Часть членов ЦК перешла на сторону П., из них один вёл связь ЦК с местами. Поэтому связь находится в руках П. Стах отказывается полностью капитулировать и согласен работать совместно. П. отвергает соглашение. Авто-

* Баркусевіч — загадчык пададдзела краін Прыбалтыкі і Польшчы Наркамата замежных спраў СССР.

** Стах — партыйная клічка М.І. Гурына-Маразоўскага.

ритетный товарищ считает, что раз связь находится в руках П., ликвидация Стаха неизбежна /.../

Когда я был в Минске, я, к моему удивлению, узнал, что и Стах, и Ильючонок в 20-м году подписали пресловутое заявление об изгнании москалей и образования самостоятельными белорусами и т.д. Между нами говоря, поистине удивительна посылка таких лиц в Польшу, где белорусские шовинисты попадают в благоприятную почву. Я ещё раз запрошу Аркадьева относительно необходимости оставления в Варшаве Ильючонка. Во всяком случае ему нужно дать категорическое запрещение вести какие бы ни было разговоры с тамошними белорусами.

Ваше письмо Ульянову переслал и получил от него письмо, в котором он пишет, что совершенно расхворался и слёг. Его бумаги переданы мною по назначению, на днях будет готов его диппаспорт.

Тов. Криницкий посетивши тов. Аралова сказал, что он считает необходимым созвать совещание в составе Вас, Цвикевича и Ульянова. Как только Ульянов приедет, я Вам дам телеграмму и попрошу приехать.

С сердечным приветом Баркусевич.

*МЗС РФ ГДД, ф. 0215, воп. 7, спр. 8, а. 13. Машынапіс. Аўтограф.*

## Кастусь Езавітаў — Пётру Крэчэўскаму

16 чэрвеня 1925 г.,
Рыга.

Даражэнькі Пятрук!

Шчыра дзякую за прывітанні, вершы і словы ўцехі! Тутака са мной усе яшчэ змагаюцца* і не вяртаюць нават пасады, не хочуць даваць новае.

Гэты працэс, хаця і пабіў нас, але затое многаму навучыў. Я гляджу так, што з яго нават і некаторая карысць. Наша грамадзянства зразумела патрэбу адналітых выступленняў і запраўднага еднання. Цяперака ўсе гуртуюцца наўкол мяне і як мага падтрымліваюць. Злажыліся нават на газэту.

Пасылаю табе № 1 «Голаса Беларуса». Дай /адзыў ?/, давай вершы і іншыя матэрыялы.

Ведаю, што ў цябе быў Краскоўскі.

Ты глупстваў не рабі і моцна трымай стары штандар незалежнасці — захоўвай і мандаты Рады БНР, бо яны ёсць той кнут (пуга), што падганяе і заходніх і ўсходніх акупантаў нашае зямлі — на розныя нацыянальныя ўступкі нашаму народу на месцах.

Калі ты зложыш мандаты — больш не будзе пугі. Ты павінен закансервавацца, зрабіцца запраўды «машчамі беларускай незалежнасці», на якія адны будуць маліцца, а другія пляваць, але ўсе разам будуць увесь час лічыцца з іх існаваннем.

---

* У 1924 г. К. Езавітаў быў арыштаваны латвійскімі ўладамі па абвінавачанні ва «ўдзеле ў злачынным таварыстве ў Латгаліі», нібы скіраваным на адрыў ад Латвійскай дзяржавы тэрыторый Дзвінскага, Рэжыцкага, Люцынскага і часткова Ілукштанскага паветаў і далучэнне іх да Беларусі. Праз 11 месяцаў апраўданы і вызвалены з Дзвінскай турмы.

Пішу табе аб гэтым «зусім сакрэтна», бо па многім прычынам агалошваць тут мае рады не патрэбна ні ў якім разе.

Пішы мне на рэдакцыю.

Вітай Базыля /В. Захарку?/, Міколу /Вяршыніна ?/. Цісну руку.

Твой Кастусь.

Ці не падтрымаеце Вы, пражане, маю газэту падпіскай і зборам ахвяр? Гэта мае не толькі матэрыяльнае, але і вялікае маральнае значэнне. Хай кожны падпішацца на газэту! Усе разам — га! Грошы вышлі ў кронах.

*ДАР, ф. 5875, воп. 1, адз. зах. 11, а. 432 — 432 адв. Аўтограф.*

## Вацлаў Ластоўскі — невядомай асобе

Вельміпаважаны Грамадзянін!

Я атрымаў з Савецкай Беларусі рад лістоў ў якіх каталікі-беларусы апавядаюць сваё гора і просяць заступніцтва. Як Вам ведама, пасля выезду біскупа Роппа і высылкі біскупа Лозінскага, кіравецтва Магілеўскай Архіепіскопіяй апынулася ў руках кс. Зелінскага б. Магілеўскага дзекана, які з'яўляецца па перакананьню польскім эндэкам. Згодна са сваімі поглядамі ён замяніў на Беларусі ўсіх ксяндзоў беларусаў палякамі (прыкл., высланы ў Вялікаросію кс.кс. І. Жолнеровіч, А. Ярмаловіч, В. Кундэ, А. Сак і інш.). нават у Фанічоўцы (каля Магілёва), дзе ніколі не было казаньняў і малітваў па польску, цяпер кс. Война завёў польскую мову. У выніку, ва ўсёй Савецкай Беларусі праз касцёл ідзе нечуваная па размаху полёнізацыя, а ад духавенства, атрымліваючага загады з-за кардону вымагаецца служэньня палітычнай агентуры, кіраванай эндэцыяй, сядзячай на вярхох царкоўнага каталіцкага кіравецтва, часцю ў Магілёўскай Архібіскопіі, часцю ў Польшчы. І вось жа калі Савецкая Ўлада шчыра стаіць на абароне нацыянальных правоў сваіх народаў, пры ўсёй яе незацікаўленасці справамі рэлігійнымі, усё ж такі на Вас ляжыць абавязак звольніць народ ад чужаземнага гнёту, які на ім ляжыць ужо сталецьці ды парупіцца каб духоўнікі, кіруючыя царквой каталіцкай, атрымлівалі загады не з-за кардону, а ад сваіх зьверхнікаў, якія знаходзяцца на мейсцы і паходзяць з таго ж народу, якому служаць. Дзеля гэтага трэба Магілёўскую архідыэцэзію вярнуць назад з Ленінграду (куды яе перавяла царыца Кацярына) ў Магілёў з яе ўсімі школамі (сямінарыяй і Акадэміяй), дабіцца назначэньня адміністратарам яе беларуса, акром гэтага паставіць адміністратара беларуса на менскую біскопію (дзеля выезду біскупа ў Польшчу); высланых ксяндзоў-беларусаў прыцягнуць да гэтай справы, даўшы ім магчымасць сарганізавацца і вылажыць усе сваі крыўды і вымаганьні Рыму з практычнымі вывадамі аб якіх сказана вышэй. Маю надзею, што Вы зразумееце ўсю вагу парушанай справы і апраўдаеце сваю гістарычную ролю перад краем і народам.

Затым прыміце выразы праўдзівай да Вас пашаны.

В. Ластоўскі.

29.11.1924 г.

*БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, спр. 256, а. 21— 21 адв. Аўтограф.*

## Баркусевіч — В. М. Молатаву

Сов. Секретно
В ЦК РКП/б/ Молотову
23 сентября 1925 г., № 27744, ПБ

Препровождая при сем, по поручению тов. Ротшейна, докладную записку по белорусскому вопросу, Подотдел Прибалтики и Польши НКИД дополнительно сообщает, что по вопросу о тактике Цвикевича в связи с предстоящей конференцией белорусов в Берлине имелись следующие разногласия.

Цвикевич предложил на означенной конференции создать Белорусский заграничный комитет, целью которого было бы постоянное будирование белорусского вопроса в Лиге Наций и других местах и считал, что только такой бесперспективный комитет вполне достиг бы своей цели. Наш полпред в Литве т. Александровский присоединился к этой точке зрения, исходя из того, что такой комитет помог бы его работе в Литве, парализовал бы полонофильские стремления и при помощи его можно было бы вообще чинить трудности /нрзбр./ в вопросе сближения с Польшей.

Минск категорически возражает против создания каких бы то ни было комитетов и требует полной ликвидации эмигрантской белорусской работы, постановив в виде уступки Цвикевичу разрешить ему устройство подобного комитета в Минске.

НКИД в виду крайней спешности не вошел в обсуждение вопроса и согласился на предложение о ликвидации белорусских заграничных центров, на что Цвикевич выразил письменное согласие.

Минск требует обязательной поездки Уполнаркоминдел в Белоруссии т. Козюры на съезд в Берлин, против чего коллегия НКИД категорически возражает, так как даже при негласном присутствии Уполнаркоминдела при правительстве БССР в Берлине во время Белорусского съезда возможна компрометация НКИД. Кроме того, по линии НКИД вполне достаточно негласного руководства Цвикевичем через советника по белорусским делам при варшавском Полпредстве т. Ульянова.

Кроме того, Минск имеет возможность воздействовать на закордонных белорусов через белорусских писателей Жилуновича (член РКП, член Президиума Совета Национальностей), белорусского поэта Куделько-Чарота (чл. РКП) и Луцевича (Янка Купала), белорусского национального поэта, которые были выделены белорусским ЦК специально для обработки эмигрантского общественного мнения в нашем духе и имеют заграничные паспорта.

Зав. Подотделом Прибалтики и Польши

Боркусевич

*ГДД МЗС РФ, ф. 0215, воп. 7, спр. 8, а. 41 — 41 адв. Машынапіс.*

## Іван Серада — Вацлаву Ластоўскаму

Дужа паважанаму Дзядзьку В.Ластоўскаму, Коўна

Бібліятэка І[нстытута] Б[еларускай] К[ультуры] з вялікай прыемнасцю атрымала надасланую праз Вас кніжку «Пра багатства да беднасць», выдадзеную ў Жэневе ў 1881 г., і засылае сваю падзяку за дбайнасць аб папаўненні Беларускага Аддзелу Бібліятэкі ІБК рэдкаснымі выданнямі.

Адначасна бібліятэка паведамляе, што яна ў сакавіку г[этага] г[ода] атрымала высланы праз «Наркоминдел» з Масквы 1 экз. Вашага «Расейска-крыўскага слоўніка». З свайго боку Бібліятэка ІБК выслала праз Маскву для перадачы літоўскаму паслу гр[амадзяніну] [неразб.] пасылкаю 30 беларускіх кніг апошніх выданняў у абмен на выданні Міністэрства беларускіх спраў у Літве.

Але да гэтага часу ніякага адказу праз Маскву не маем, між тым як патрэба Бібліятэкі ў Вашых выданнях з кожным днём павялічваецца, асабліва ў «Крывічы» і ў «Слоўніку».

З вялікай пашанаю загадчык Бібліятэкі І. Серада

*АНАН РБ. Аўтограф.*
[1926]

## У Прэзідыум Інстытуту Беларускай Культуры

### Справаздача за 1924 / [192]5год Бібліятэкі ІБК

Бібліятэка заснавана 16 мая 1925 г. Яшчэ тады, калі Інбелкульт месціўся ў будынку Н.[ароднага] К. [амісарыята] А .[светы]. [...] Пры сваім заснаванні Бібліятэка мела толькі некалькі брашурак і кніг ад Бурбіса. У новым памяшканні бібліятэка абсталявалася [шырэй], палічнела... Галоўныя крыніцы нашай бібліятэкі:

1) Архіў Бурбіса — 850 кніг.
2) Закуплена сумесна з Дзяржаўнай бібліятэкай [БССР] бібліятэку К. Грота — 200.
3) Закуплена ў розных магазінах Ленінграда — 500.
4) Надаслана Беларускай Кніжнай Палатай — 500.
/.../
7) Украінская А[кадэмія] Н[авук] надаслала — 100.
/.../
11) Пічэта ў Польшчы закупіў — 300.
/.../
13) Куплена бібліятэка Я[нкі] Купалы — 400

---

Усяго 10.400.

11 сакавіка 1926 г.

Бібліятэкар Мароз

*АНАН РБ. Аўтограф.*

## Прэзідыуму Беларускай Акадэмічнай канферэнцыі

### *Президиуму Белорусской Академической конференции*

г. Минск, клуб Карла Маркса.

Крестьянство Борисовщины приветствует конференцию и надеется, что она, разбираясь в вопросе о белоруссизации республики, даст правильное разъяснение — почему малограмотных трудящихся крестьян и рабочих Белоруссии, помимо их воли и желания поставили в положение совершенно неграмотных.

А так именно и получилось после того, когда принялись за белоруссизацию учреждений, обслуживающих нужды трудящихся, и за перевод всей лите-

ратуры на этот новый, совершенно непонятный малограмотному белоруссу, так называемы, белорусский язык.

Всем хорошо понятен русский язык, на котором и говорили и писали и учились белоруссы сотни лет подряд. Кому же это пришло в голову крикнуть всем: забудь что знал и учи новое. Это трудно даже людям ученым, а малограмотному белоруссу просто не под силу. Так к чему же насиловать целую страну без ее воли и против ее желания.

Никто не спорит против предоставления полной свободы всякой нации. Пусть еврей изучает еврейский язык, латыш — латышский, литовец — литовский и т.д. А почему же русский не имеет права и возможности изучать свой родной русский язык. А это так и есть, ибо русских школ в Белоруссии почти вовсе нет.

Затем должен быть один общий государственный язык. И понятно какой этот язык должен быть в Белоруссии. Это — русский всем хорошо известный и понятный язык, а не новый, который всем надо сразу изучать. Потребовать от целой страны изучения нового языка, это равносильно тому, что индейца назвать европейцем и потребовать от него, чтобы он после этого и в действительности стал европейцем.

Белоруссия — страна бедная. Она не в состоянии тратить так много средств на такое большое дело, как перевод всей литературы, делопроизводства и всего, что веками велось на русском языке — на новый белорусский язык. Поэтому если бы и действительная нужда была в этом, то надо было бы не спешить с таким великим вопросом. Одним словом, крестьянство полагает, что с полной белоруссизацией не следовало бы спешить по двум основным причинам, во-первых, из-за полной неизвестности белоруссам этого нового языка, а, во-вторых, из-за бедности страны.

Крестьянство Белоруссии ждет от конференции одного самого главного: обсудить этот вопрос серьезно и сказать действительную правду, надеясь, что эта правда будет заключаться в том, что с принудительным введением белорусского языка поспешили.

Делать этого не нужно было. И исправить эту ошибку еще можно, пока еще не поздно. Нельзя же в самом деле ввергать целую страну, без желания и согласия трудящихся масс в положение неграмотных и создавать таким образом ужасно великие неудобства и неприятности.

Или пусть спросят об этом всех трудящихся.

Если этого вопроса конференция не обсудит, то все трудящиеся массы будут знать, что она говорит не то, что думает.

Рабочие массы будут ждать ответа через газеты.

Ноябрь 1926 года.

*НАРБ, ф. 4, воп. 21, спр. 108, арк. 24. Машынакопія.*
*Публікацыя Алесі Гесь.*

---

Сёння, на пачатку XXI стагоддзя можна павіншаваць «крестьянство», «рабмассы» Барысаўшчыны і не толькі, іх наступнікаў (значна паграматнелых ад сваіх папярэднікаў) з паспяховым выбаўленнем з-пад «насільства» беларускае мовы. Але як надоўга гэты поспех? Застаюцца ж пакуль мільёны, амаль 80 адсоткаў насельнікаў краіны — з роднай, беларускай. Тая ж без угляду на прэзідыумы, высокія кабінеты трывае, квітнее, жыве. Няхай сабе часам трасянко-ва-пацешліва:»Я рэч скажу, а не прамову. Ва мне вапрос так не стаіт. Ведзь хто січас даіт карову — Пусть хоць іўрытам гаварыт» (Вядзьмак-Лысагорскі. Лука Мудзішчаў-прэзідэнт). Сапраўды: былі б каровы, свінні, кілбасы. А мова — дасць сабе рады і на бульбачцы, з вадой крынічнай. Гартуючыся агністым словам Купалы: «Былых не выклічаш вякоў І ты, Масквы каронная гразь, Парваных не скуеш акоў, З якой брахнёю не вылазь!» (Я.Купала. Акоў паломаных жандар. Гл. таксама: Гесь А. Учора і сёння...// Скарыніч. Вып. 3. С. 182—201).

## Язэп Драздовіч — Браніславу Эпімах-Шыпілу

Наваградак
I-VII-[19]28.

Шчыра паважаны Браніслаў Ігнатавіч!

Паздраўляю Вас з оддыхам на лоне прыроды і з першымі пачаткамі запраўднага лета.

Шчыра Вам дзякую ад чыстага сэрца за картачку і добрыя весткі, узпацешаўшыя мяне, прамуштраванага, вымучанага жыццём адзінотніка. Вестка аб тым, што мне прысуджана Інстытутам прэмія, — узпацешыла ня толькі мяне самого, але нават і маіх бліжэйшых прыязнейшых калегаў, — як нейкая радасная неспадзеўка. Бо і неспадзеўка. Аб тым, што рысункі мае лікам каля двух сот з палавінай собраны ў альбом і змешчаны ў Б[еларускі]. Этнаграфічны музэй, — я даведаўся яшчэ аж у мінуўшым годзе, праз «Przegląd Wileński» (№ 7—9), з украінскай прэсы, з успамінаў старшыні «Просвіты», — Свенціцкага, але аб тым, што за іх прысуджана мне нейкая прэмія, я яшчэ першы раз аб гэтым чую і мяне вельмі цікавіць, — што за прэмія? Каторая і якая? І, ці магу я яе ў хуткім часе адтрымаць, ці не былі-б ласкавы, Браніслаў Ігнатавіч, прычыніцца да гэтай справы і мяне аб гэтым паінфармаваць?, — Калі ласка...

Апрыч гэтае працы я маю на пагатове і яшчэ гатовую адбыўшыю тры мастацкіх выстаўкі ў мінулым годзе (у Вільні, Радашковічах і Наваградку) — ня меньш багатую і яшчэ ў дадатак больш мастацкую працу, — гэта этнаграфічна-краязнаўчая калекцыя, лікам больш сотні, рысункаў-графікі вялікага фармату, наклееных і спашытых у дзесяць альбомаў (вагай каля пуду) — характэрызуючых сабою балотны край — Піншчыну і Пінскае Палесьсе: краявіды, забыткі — архітэктура капліц і розных буд[оў]; вопратка народная і тыпы жыхароў Палесься... Маю і яшчэ адну досыць цэнную рэч, з каторай як зніму копію, то думаю здаць у музэй, — гэта ўдачнае ўзстанаўленьне ліку [вобліку] Францішка Скарыны (партрэт у 1/4 натуры малёв[аны] алейнымі фарбамі, з тэндэнціямі на старасветчыну).

Моцна цешуся, што хоць адна з маіх скульптур не загінула марна і ўпрыгожваець сабою куток адной найпаважнейшых з нашых культурных установ. Скульптурай цяпер я не займаюся бо вандроўна-жабрацкі стыль жыцьця майго на гэта не пазваляець.

З найглыбейшаю пашанаю і пажаданнямі ўсяго найпамысьнейшага:

Язэп Нарцызаў
Драздовіч

*АР ЦНБ НАН РБ,.ф.2, воп.1, адз.зах 36 а. 1-2 адв. Аўтограф*

## Браніслаў Эпімах-Шыпіла — Язэпу Драздовічу

Менск, 12 сакавіка, хоць правідловей было б назваць яго снегавіком, 1929 г. у ваўторак.

Паважаны і дарагі Язэп Нарцызавіч!

Учора атрымаў я прысланы Вамі альбом беларускіх драўляных будоўляў, прызначыны, мусі быць, неадменнаму Сакратару Акадэміі, акадэміку Ластоўскаму, каторы Вас прасіў аб гэтым, і катораму я і перадаў яго. Для вывучэньня і

навуковых досьледаў над гэтымі будоўлямі альбом Ваш мае тыя недахопы, што ў ім не паказаны мяйсцовасьці, у якіх зроблены гэты пекныя Вашы зарысоўкі, а гэта абавязкова неабходна для дасьледчыка. Можа Вы лістоўна дашлеце гэтыя патрэбныя весткі: назва мяйсцовасьці, вёскі, сялібы, засьценку, дзе знаходзяцца гэтыя будоўлі і назвы саміх будынкаў і іх прызначэньня. Неўзабаве, можа пазаўтра, вышлю я Вам: «Нарысы з гісторыі Беларускага мастацтва» М. Шчэкаціхіна, том першы, у якім Вы знойдзеце апісаньне і руін Навагрудскага замку.

За тым сардэчна цісну Вашу руку і астаюся з пашанай адданы

Бр. Эпімах-Шыпіла

P. S. Ці ў Новагрудку выходзіць якая-небудзь часопісь? Ці не?

*Там сама. Аўтограф.*

## Міхаіл Піотуховіч — Е. А. Ляцкаму

13. 10. 1928 г.
Минск

Дорогой Евгений Александрович!

Простите, пожалуйста, что до сих пор не собрался написать Вам. По приезде в Минск я сразу попал в настоящий водоворот: за моё отсутствие накопилось очень много дел, требовавших немедленного разрешения, кроме того, начало учебного года всегда сопряжено с большой работой по факультету (переводы студентов, организация занятий и т.п.). В начале октября немножко легче стало, но тут подкралась болезнь — грипп, — только сегодня встал с постели.

Что нового в Праге? В академических кругах? С удовольствием вспоминаю о встречах с Вами */тут і далей падкрэслена ў тэксце ліста — уклад./*. Как хотелось бы, что бы они повторились ещё в ближайшее время. Льщу себя надеждой, что Вы пожалуете к нам в Минск. Я кое с кем уже говорил об этом, все очень сочувственно относятся к Вашему приезду сюда.

Сейчас у нас злобой дня служит преобразование Института Белорусской Культуры в Белорусскую Академию Наук. Постановление правительства об этом преобразовании состоялось 13 окт/ября/, само преобразование должно кончится к 1 янв/аря/ 1929 г., — когда будет праздноваться 10-летие Октябрьской революции у нас в Белоруссии; состав будущих белорусских академиков особой правительственной комиссией должен быть представлен на утверждение Совнарком к 15 ноября.

Итак, в Белоруссии будут свои «immortels», конечно, сам по себе факт создания Белорусской Академии Наук является знаменательным актом; он представляет собой оформление того довольно напряжённого культурного строительства, которое развивается сейчас у нас в Белоруссии.

В этом году также значительно шире развернёт свою деятельность и Белорусский Государственный Театр; намечено поставить целый ряд новых, очень интересных пьес — словом, дорогой Евгений Александрович, если бы Вы приехали в Ваш родной Минск, то не узнали бы его: было бы что посмотреть.

Одновременно с письмом я высылаю Вам свою книгу «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры». Ч. 1., а также «Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы клясы філялёгіі. Т. 1». Интересно, есть ли у Вас книга «400-лецьце беларускага друку». Если нет, могу Вам выслать.

Сердечный привет Вашей супруге. Если улучите свободную минутку, пишите, пожалуйста: я постараюсь в долгу не остаться.

Искренне преданный Вам

Пиотухович.

P. S. О Ваших статьях в «Rivista...»* помещаю рецензию в «Полымя»**.

*ЛА МНЛЧ. Аўтограф*

## І. І. Замоцін — А. І. Сабалеўскаму

22 апреля 1928 г.,
Минск, ул. Советская, д. 33, кв. 3.

Многоуважаемый Алексей Иванович!

Я послал Вам два выпуска своих филологический очерков — увы! — опять на белорусском языке. Чувствую, что я угнетаю своих русских читателей своим белорусским языком. Но что сделать? Иначе здесь ничего не напечатаешь. Между прочим эти очерки были очень бы кстати и на русском языке, /.../ что несомненно заинтересовало бы русские преподавательские круги. Но вряд ли мне удастся их издать по-русски. Летом думаю приняться за одну давно задуманную работу по русской литературе.

Примите мой сердечный привет и пожелание Вам доброго здоровья.

Искренне уважающий Вас

И. Замотин.

*РДАЛМ. Ф. 449, воп. 1, адз. зах. 158, а 1.Аўтограф.*

## І. І. Замоцін — П. М. Сакуліну

м. Бобр,
8. 07. 1928 г.

Дорогой Павел Николаевич!

Ваше дружеское письмо доставило мне большую радость. Сердечно благодарю Вас за память обо мне и внимание к моим работам.

/.../ Мои собственные работы в настоящее время в значительной степени уклонились в область белорусской литературы. Происходит это вот почему. В университете я занимаю кафедру р*/усской/* литературы */и методики преподавания языка и литературы, отсюда и очерки «Мастацкая літаратура ў школьным выкладанні»/*, в Институте Белорусской Культуры (где состою действительным членом) я возглавляю кафедру Истории белорусской литературы, имея при этой кафедре несколько сотрудников; большую часть своего времени

---

* Артыкулы Е.А. Ляцкага, прысвечаныя творчасці Якуба Коласа і М. Багдановіча — у італьянскім часопісе «Rivista di literature slave (1927, N 3; 1928, N 2; апошні, пра Багдановіча, у перакладзе на рускую змешчаны у «Скарынічы», вып. 5).

** Згаданае рэцэнзіі М. Піотуховча у выпусках «Полымя» за 1928—29 гг. не заўважана.

я посвящаю именно Институту Белорусской Культуры, где под моим руководством работает Комиссия по изданию соч/*инений*/ белорусских писателей и в будущем должны развернуться и другие комиссии. К сожалению я не могу выслать Вам своих белорусских статей, потому что обычно не получаю их оттисков да и не решаюсь затруднять Вас чтением на белорусском языке. Работа в ИБК-те меня в общем интересует, т.к. она даёт возможность оперировать с свежими (по большей части рукописными) материалами. Теперь на очереди — второй том сочинений М. Богдановича, который уже печатается и осенью уже выйдет, и первый том сочинений А. Гаруна (Прушинского), который будет печататься приблизительно с ноября месяца. Все эти /труды/ своего редакторства с удовольствием Вам вышлю.

Говоря вообще своим положением здесь в Минске — и материально и морально — тоже удовлетворён, — не знаю, что будет дальше. Но в конце концов я всё-таки не прочь перекочевать отсюда в Ленинград, с которым у меня давние родственные связи, чтобы там подвести итог своим работам и доживать оставшиеся годы /.../.

Желаю Вам хорошего отдыха и восстановления сил для дальнейшей научной работы.

До 20-го августа. Станция Бор, МБВ у. у., местечко Бобр, И. И. Замотину. После 20-го Минск, Советская, д. 33, кв.3.

*РДАЛМ, ф. 441, воп. 1, адз. зах. 41, а. 73 — 73 адв. Аўтограф.*

## Аляксандр Шлюбскі — Яўхіму Карскаму

23 кастрычніка 1929 г., Мінск, вул. Барысаўская, 10.

Глубокоуважаемый Ефим Фёдорович!

Сегодня по постановлению Президиума Белорусской АН я уволен с занимаемой мной должности. Увольнение это мотивировано тем, что я якобы являюсь лицом скомпрометированным в общественном отношении, поскольку основанием для такой мотивировки послужили следующие факты:

1) не поднял руки при голосовании резолюции осуждения академиков Академии Наук СССР, выступавших против известных кандидатур,

2) отказался подписаться на 3-й заём индустриализации по материальным соображениям,

3) возмущённно реагировал на появившуюся обо мне заметку в стенгазете*.

Желая работать далее в избранной мной белорусской этнографии, и не имея к тому дальнейших возможностей в Минске, я убедительно прошу Вас, если счете /*так у тэксце — уклад.*/ возможным прийти мне на помощь в деле устройства на какую-либо соответствующую работу в каком-либо другом научном учреждении Ленинграда.

Сложившиеся обстоятельства могли бы заставить меня до некоторой сте-

---

* Прэзідыум АН БССР на паседжанні 25 кастрычніка 1929 г. матываваў вызваленне Шлюбскага ад займаемае пасады наступным чынам: «Снять с работы научного работника кафедры этнографии т. Шлюбского за написание и распространение им реакционных анкет о собирании сведений о пасхальных яйцах» (Полымя, 1993, № 2. С. 183).

пени удовлетвориться даже какой-либо работой, не связанной с моей специальностью, если бы только эта работа могла бы мне дать минимальное необходимое обеспечение и возможность закончить начатую мной работу по Истории Белорусской Этнографии, пользуясь для этого богатыми источниками ленинградских научных учреждений...

P. S. Одновременно со мной уволены из Академии Байков, Богданович, Цветков и другие лица из Отдела Природы.

*АРАН Спб, ф. 292, воп. 2, спр. 54. Аўтограф.*

## Гальяш Леўчык — Яну Пятроўскаму

З Слоніма ў Вільню,
14. 08. 1932 г.

Узьбірайся, братка, у жыцьцё народу нашага сярмяжнага, сялянскага, у ягоныя балячкі, патрэбы, думкі, жаданьні, працуй у поце, у сьмех і сьлёзы і шукай рассуднага выхаду з ягонага лёсу цёмнага-густога — а станешся такім падобным да Хрыста і ўсё будзеш пачынаць і разумець, выяўляючы і высыпаючы зерні з гэтага і ў пропаведзях сваіх, гутарках, палеміках і дыскусіях здабудзеш сабе послух і любоў народу.

*Паводле: Пятроўскі Ян. Гальяш Леўковіч. У 85-я ўгодкі ад дня нараджэньня // Сьветач Хрыстовай Думкі, 1965, № 2 /81/.*

## Ул. Д. Бонч-Бруевіч — Язэпу Дылу

11 мая 1934 г. Саратов, Большая Горная, 145, кв.2

Многоуважаемый Осип Леонтьевич

Я очень благодарен Вам за письмо и за необыкновенно интересное сообщение о новом автографе Пушкина. Оно действительно может совершенно по-новому осветить вопрос смерти Пушкина. Статейный и мемуарный материал по белорусскому театру и остатки бывшего театрального Музея Инбелкульта меня очень интересуют, но только мне хотелось бы предварительно знать, более отчетливо, что именно это за материал, какие это мемуары и статьи, чьи, о чем и каких годов. Если бы потрудились известить об этом наш Музей, я немедленно дал бы Вам исчерпывающий ответ относительно соответствия этого материала интересам нашего Музея.

Всего Вам наилучшего.

Директор Ц[ентрального] М[узея] Л[итературы]

Бонч-Бруевич

P.S. Позвольте мне обратить Ваше внимание на то, что Ваше письмо пришло ко мне, исписанное с двух сторон карандашом самыми отвратительными похабными словами и ругательствами. В Москве этого быть не могло, т.к. письма идут прямо с почты, и почтальон заявил, что он такое получил на почте. Кто

## МАЛІТВА ЗА ПІМЕНА ПАНЧАНКУ

Родны мой Пімен Панчанка,
Вы сказалі: настала зьмярканьне?
Вы сказалі на маці мачыха?
Бо настала Вам разьвітаньне?
Зь яе словам — ужо неродным,
Зь яе сонцам — ужо халодным,
Зь яе людам — спрадвек галодным,
Нават Богу й таму няўгодным...

Адыходзіця ці зракаецяся?
Ці сухімі сьлязамі каецяся?
Пад крыжамі Сафіі полацкай
Бюракрат за Вас не памоліцца,
А памоліцца за Вас мачыха,
За сыночка свайго, за Панчанку
І ў галовах запаліць сьвечачку.
Можа ў зімачку, а можа ў лецечку
Скрозь растаньне і скрозь зьмярканьне
На агеньчык паэт прыстане.
Скажа: родны мой Пімен Панчанка,
Я Вам верыў, ды вера страчана.
І ў галовах патушыць сьвечачку,
Можа ў зімачку, а можа ў лецечку
Пад крыжамі Сафіі полацкай
Ён за Белую Русь памоліцца,
За наступнікаў і за прадзедаў,
Ён памоліцца так, як дадзена,
Як вучылі Купала з Коласам —
Крэўнай моваю, родным голасам.
Вы жывымі сьлязьмі заплачаце –
За паэтам народ убачыце
Скрозь растаньне і скрозь зьмярканьне,
Вам за сьмерць сваю прыкра стане,
Бо пад небам Сафіі полацкай
На народных паэтаў моляцца.

7 красавіка 1988 г.

З павагай і надзеяй на адказ
Анатоль Сыс

*Машынакопія. Подпіс-аўтограф. Асабісты архіў укладальніка.*

## Пятро Конюх — Янку Брылю

Добры дзень дарагі Янка!

Шчыра табе дзякую за тваю памяць аба мне і так прыемны і дарагі мне твой падарунак кніга ад сяўбы да жніва. Прачытаў я яе, як гавораць, ад дошкі да дошкі. Многа яна мне прынясла ўспамінаў аб бацькаўшчыне, аб усіх тых мес-

цах дзе праходзіла і маё юнацтва. Ні раз так кранула за сэрца, што слёзы, браток ні мог стрымаць. З гэтые кніжкі бачу што і ты перажыў у сваім жыцці німала. Вельмі добра што маеш нагоду і магчымасць увекавечыць перажытае нашы цяжкіе гады.

Як чытаю тваю кніжку то я усё гэто бачу як у фільме. Пішаш з велікім надхненням і пачуцьцём.

Бацькаўшчына цябе не забудзе за гэта. Мы тут усе беларусы знаем аб табе і ніамаль у кожнага ёсць твае кнігі.

Доктар В.Тумаш, каторы напісаў некалькі кніг аб Ф.Скарыне, то хачу табе сказаць, што ён вялікі твой паклоннік і думаю, што ён твае кнігі выкупліваў у савецкім магазіне ў Нью-Ёрку і многім беларусам высылаў. Я думаю, што з беларусаў то ў яго найбольшая бібліятэка на аміграцыі.

Што [да] жыцця маяго, то я ў 83 годзе пакінуў Нью-Ёрк і пераехаў у Канаду. Купіў сабе хату у St.Catharines, гэта блізка Ніагарскага вадападу і тут дажываю сваё жыццё. Здароў'е мае ні кепскае але ўжо састарыўся — 81 год.

Кожны дзень гляджу навасці ў тэлевізары і бачу як жа хутка ўсё меняецца, асабліва ў СССР.

Будзь здароў, дарагі Янка, яшчэ раз шчыра дзякую за ўсё твае добрае.

Шлю табе мае найшчырэйшыя пажаданьні добрага здароў'я і плённай працы.

Цэлую моцна.

Заўсёды твой прыяцель

Пятро Конюх

Верасень 11 — 1990.

*АР ЦНБ НАН РБ. Аўтограф. Публікацыя Янкі Брыля.*

## Лявон Шпакоўскі-Случанін — Сяргею Чыгрыну

Паважаны Сяргей!

Распачалі Вы добрую справу. Тодар Лебяда, вершы якога ў свой час я чытаў, варт гэтага. А з самім Тодарам я сустракаўся толькі адзін раз. Гэта было ў жніўні 1944 года ў Берліне каля будынка, дз знаходзілася Беларуская Цэнтральная Рада. З ім былі паэты Масей Сяднёў і Алесь Салавей. Сяднёў — у Амерыцы, а Салавей — памёр. Раю Вам звярнуцца да Барыса Іванавіча Сачанкі, які займаецца справамі пісьменнікаў-эмігрантаў.

А Тодар Лебяда застаўся ў маёй туманнай памяці рослым, шыракаплечым хлопцам у карычневым, выцертым касцюме, з адкрытым, простым тварам, удумлівым, крыху флегматычным. Салавей і Сяднёў злёгку даймалі яго драматычным творам, які ён напісаў (назву твора не памятаю). А ён слухаў, усміхаўся і спакойна парыраваў.

Сустрэча была кароткай і, на вялікі жаль, апошняй.

Высылаю Вам як шчыраму паклонніку таленту Тодара Лебяды сваю «Рагнеду» і жадаю дасягнуць мэты.

З павагаю

Л.Шпакоўскі-Случанін.

22.02.1992 г.

*Асабісты архіў С. Чыгрына. Копія з аўтографа.*

## Яўхім Скурат — Антону Сабалеўскаму

4 жніўня 1993 г.

Дарагі Спадар Сабалеўскі.

Апошняя вайна як страшлівая бура раскідала Беларусаў даслоўна па ўсім сьвеце. Шмат з іх загінула ад чужацкіх і варожых рук. На шчасьце бальшыня з нас выжыло захоўваючы родную мову, традыцыі і гарачую любоў да сваёй радзімы.

Я і мая жонка Галена надзвычайна рады, што і Вы з усёй дзельнай сям'ёй перажылі вайну і яе пасьледствы. У дадатак Вы здабылі вышэйшую асьвету ды занялі адпаведнія становішчы у грамадзтве. Некаторыя скончылі кар'еру палкоўнікамі. Гэта вялікі гонар і шчасце.

Сьвятой памяці бацьку Вашага добра памятую, бо разам працавалі ў Глыбоцкай школе. Гэта быў ня толькі выдатны педагог, але добры разумны чалавек. Ён быў нам прыкладам.

Тады, калі лёс Вас закінуў у прыхільную і знаную культурна-моўную-палітычную сістэму, нам было суджана скітацца сярод чужых народаў з рознай незнанай мовай, культурай, абычаямі і псыхікай. Походзіў я з сялянскай сям'і з Глыботчыны. Працуючы цяжка на вёсцы з ранніх гадоў я горача палюбіў чароўны беларускі народ — стаў я нацыяналістам.

Сконьчыўшы французскі факультэт Віленскага Ўніверсітэта я атрымаў грашовую награду ад Бэльгійскага ураду за маю выпускную працу ў французскай мове, якая мне дазволіла паехаць у Парыж на дальнейшую навуку на Sorbone. Там я скончыў факультэт французскай літаратуры ды апрацаваў дактарат з Бэльгійскай культуры. Вярнуўшыся у Польшчу мне была забаронена ўсякая праца ў дзяржаўных установах. Будучы ў Вільні я належаў да Беларускага студэнцкага Саюза, што лічылася вялікім праступкам у Польшчы.

Ад голаду мяне ўратавала вайна.

Паўгода перад вайной я трапіў у савецкую турму ў Ваўкавыску. Нібы за мой пабыт у Францыі, а фактычна за мой беларускі нацыяналізм. Калі нямецкія самалёты пачалі бамбіць горад, усю турму павялі этапам куды-то з мэтай ліквідацыі. Стражнікі мелі сабак і кулямёты. Аднак нямецкія самалёты пачалі бамбіць нашу доўгую калону. У замяшанні мне ўдалося ўцягчы ў высокае жыта. Другі раз я трапіў у нямецкую турму абвінавачыны палякамі ў камунізме, бо я працаваў у савецкай школе. Нармальна палякі ліквідавалі сьведамых беларусаў нямецкімі рукамі, абвінавачыючы іх у камунізме. Так загінуў бацька маей жонкі. Гэтым разам мая жонка, гаворычы па нямецку, дайшла да вайскавога камэнданта і мяне выпусцілі, палякі гэтым разам праігралі.

У Нямеччыне мы прабылі да канца вайны. Пасля нам удалося пераехаць у Францю, дзе пражылі шэсьць гадоў цяжка працуючы на ферме. У 1955 годзе нам удалося эмігріраваць у Канаду. Ня ведаючы англійскай мовы а еўрапейскія дыпломы тут ня важныя, я стаў чорнарабочым. Хутка мне пашанцавала скончыць у французскай мове курс электронікі. У выніку чаго 25 гадоў я працаваў напраўляючы апараты тэлебачаньня. Гэта была тэхнічная праца лягчэйшая, чым на фабрыцы, але нізкаплтная. Аднак мы вытрывалі, вучачы двое дзяцей на універсітэтах і вышэй. Не, не было лёгка.

Жывём у маленькім гарадку (49.000 жыхароў у првінцыі Ontario). Маем свой дом з невялікім гародам. Маем двое дзяцей. Дачка Аліна скончыла унівэрсытэт у Канадзе і другі ў Парыжы — Францыя. Падарожнічала па ўсей заходняй

Еўропе, з усходнім Бэрлінам уключна. Цяпер вучыць французскай мове ў сярэдняй школе, недалёка ад нас. Яна мае двое дзяцей — дзяўчынка — 17 гадоў, 12 класа, вучыцца выдатна, сын — 11 гадоў, у шостым класе. Наш сын скончыў эканамічны факультэт унівэрсытэту, плюс дактарат адміністрацыйных навук. Часта служыць дарадцам у афрыканскіх краінах. Будучы чорнарабочым, нашай мэтай было даць найвышэйшую асьвету дзецям, і мы гэтага дабіліся. Не было гэта лёгка — навука ў іх каштуе дорага.

Дарагі Спадару, мы вельмі ганарымся «Маскоўскім таварыствам беларускай культуры» (неразб.). Важна тое, што былы савецкі палкоўнік пачуў патрэбу не толькі належаць да падобнага нацыянальнага таварыства, але нават ачольваць яго. Відаць пабыт у Глыбокім не зашкодзіў Вам. Дарэчы Ваша Беларусчына надзіва дасканалая.

Жадаючы Вам поспехаў у жыцці і ў нацыянальнай рабоце, дзякуючы за ліст.

Застаюся Ваш Я.Скурат.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

P.S. Я маю 86,5 гадоў, пэнсіянер ужо 16 гадоў, канадскай старчай пэнсіі хапае на эканамічнае і культурнае жыцце сям'і.

P.P.S. Калі ласка, напішыце выразна Ваш адрас. Мы маем вочы старыя і ня можам яго дакладна прачытаць. Шчыра дзякую.

*Сямейны архіў А. А. Сабалеўскага. Аўтограф.*

# ЛІСТЫ АЛЯКСЕЮ КАЎКУ

## Леўка Мірачыцкі

Даражэнькі Аляксею, <... >, добры, дзень!

Час бяжыць, ляціць... Яго нялёгка спыніць, стрымаць, як тую багдановічаўскую пагоню, што імчыцца за сваімі дзяцьмі наўздагон. Так і думкі, быццам хвалі марскія, набягаюць адна за адной, але чакаюць адказу. Ці столькі мы робім, сколькі патрэбна? Бо парою разменьваемся на дробязі. А як хочацца заўсёды рабіць тое, што карысна людзям, а не аглушаць іх гучнай назвай. Наш славуты Адам [Міцкевіч], пра якога згадваеш, меў звычку грунтоўна распрацоўваць тэму. Вось на каго раўняцца трэба! Але мы далёка ад Адама па часе і па справах. І ўсё ж, мабыць, варта наблізіцца да яго.

Не адрываючыся ад працы над раздзелам пра літаратурныя сувязі Беларусі з народамі сацыялістычных краін, які з'яўляецца састаўной часткай калектыўнай тэмы, засеў над распрацоўкай беларуска-польскіх сувязей. Напісаў ужо пра іх трыццаць старонак, а канца яшчэ не відаць. Патрэбен вал — тры аркушы ў год. Таму пішу, як той сярэднеазіяцкі тубылец з-пад Гіндукушу — бачу, пра тое і гава-

ру нараспеў. Пра сувязі з іншымі народамі матэрыялаў вельмі мала. Часу ж на зборы іх няма, бо перыяд надта вялікі (194 —1982). Душа мая для гастрольнага разгляду ніяк не ляжыць. Хочацца разгледзець усё грунтоўна, каб нашчадак сказаў: «Зробленае добрасумленна нас радуе і цешыць». Узяць бы, напрыклад, «культурныя сувязі з ГДР», ці «Беларуска-польскія культурныя і навуковыя сувязі»... А тут трэба настроіць сябе рабіць, як гаворыцца ў народзе, «чохам».

Дзякую за Тваю вестку. Рад, што зможаш прайціся па лермантаўскіх сцежках у Пяцігорску і ўзбагаціцца ўражаннямі так патрэбнымі нам пакутнікам, пастаўленымі на службу роднаму слову. Я прыдбаў нават для цябе і сябе кніжачкі А. Міхневіча «У глыбіню чалавечага слова». Нядаўна выйшла з друку кніжка вершаў Ларысы Геніюш «На чабары настоена». Яе вершы варты назвы «Паэзія». Ларыса Геніюш стварае свае вершы, як слушна заўважыла Данута Бічэль, быццам «прадзе дзівосны кужаль» і тчэ на матчыных кроснах дзівосныя ўзоры з беларускіх слоў.

Падпіску на энцыклапедыю «Прырода Беларусі» аформіў. Аргкамітэт міжнароднай канферэнцыі «Славянскія культуры і сусветны культурны працэс» паслаў Табе ўведамленне, што Твае тэзісы прыняты для выступлення /.../

З 15 жніўня Васіль Талстой ідзе ў адпачынак і накіруецца на поўдзень. Мне пра адпачынак думаць няма калі. Трэба служыць справе...

Вось так, даражэнькі Аляксейчык! Адпачывай, набірайся сілы. Дужай. А тады зноў упрагайся.

Пішы. Буду рад перакінуцца з Табою слоўцам.

Абнімаю.

Тваю «гутарку» з Озгай-Міхальскім перадаў у «ЛіМ». Думаю, што павінны надрукаваць.

*БДАМЛМ, ф. 340 (у апрацоўцы). Аўтограф.*

## Л.А.Войцік (Зоська Верас)

26.VIII.1986.
Вільня.

Дарагі мой Аляксей!

Даруйце, што я так доўга маўчала. Не таму, што я ігнаравала Вашыя лісты, а проста не магла знайсці адпаведнага настрою і хвіліны вольнай ад розных боляў, недамаганняў майго так [задоўжанага] жыцця... Ды і розных «прыемнасцей» хапае і ў хатнім жыцці, і ў грамадскім яшчэ больш...

Да Вас можа і не даходзяць весткі аб трагічных інцындэнтах у Мінску і аб таксама, можна смела сказаць, трагічнай сітуацыі ў Мінскіх школах... Ды яшчэ аб смерці нашых беларускіх пісьменнікаў, дзеячоў ды аб небяспечных хваробах іншых... А да мяне ўсё гэта даходзіць і ў лістах і пры асабістых сустрэчах з маімі «гасцямі». Усё гэта хвалюе, баліць, прыгнятае...

Столькі стратаў у гэтым годзе..., хоць бы С.Х.Александровіч, Генадзь Цітовіч... А цяпер цяжка хворы Алесь Мікалаевіч Белакоз... І ці ўяўляеце сабе ў гэтакім стане, як сам мне піша, не баіцца цярпенняў, не баіцца смерці, а перажывае, што мала — не ўсё зрабіў для Музэя, што не ведае, як без яго будуць [даваць?] рады і г.д. А «ворагаў» Музэй Гудзевіцкі мае шмат... <...>

А таварышы? Прафесар Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі прысылае мне розныя кніжкі, каб на палях зрабіць заўвагі аб неправідловых(?) чужаземных назвах раслінаў, звяроў і г.д.

Цяпер прыслаў новую кніжку «Загадки белорусской флоры». Разумееце — беларуская флёра, кніжка па-расейску!!! Рэакцыя прафесара Янкоўскага? Абурэнне, боль за родную старонку, за родную мову... І гэтую кніжку мне трэба запоўніць увагамі... І то два экзэмпляры — адзін з увагамі вярнуць, другі з увагамі аставіць у сябе... Работа не малая, а я апошні час чуюся даволі дрэнна... Тым больш, што ёсць яшчэ адно перажыванне... 10 чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння бел[арускага] пэдагога Язэпа Шнаркевіча — яго ведае М.М.Улашчык.

Я маю аўтабіяграфію Тарашкевіча, здымак і ведала яго асабіста праз шмат гадоў. Хацелася неяк гэта стагоддзе адзначыць... Разаслалі матэрыял у Гродна, Менск, на тэлебачаньне... Ніякай увагі. Нарэшце хацелася хоць спознена зьмясьціць матэрыял у «Настаўніцкай газеце». Усё ж быў пэдагог і ня толькі быў ініцыятарам паўстання бел[арускіх] гімназіяў у Нясвіжы, у Клецку, пасля працаваў у Вільні... Адмовілі, — бо трэба было б біяграфію яго праверыць — хто ён такі быў і г.д....

Раскажыце аб гэтым, калі ласка, Мікалаю Мікалаевічу [Улашчыку]... Паміж іншым — як яго здароўе? Як чуецца? І шчырае, сардэчнае прывітанне яму ад мяне...

Цяпер аб тым маім адказе Вам у справе Скарыны... Што да імені — усё ў парадку. Абурае гэтае Францыск... Павінна быць Францішак, як у народзе. Але вось ці ж я так напісала: «бежанцамі, дзяцьмі, чытачамі «Заранкі», Т[аварыства] «Пчала» і іншай драбязой».

Ні бежанцы, ні «Пчала» не былі драбязой.

Праца з бежанцамі была справай паважнай і адказнай, а Т-ва «Пчала» існавала і працавала 10 гадоў (даўжэй за іншыя беларускія арганізацыі), выдавала часопіс «Беларуская Порць?», утрымлівала сталы кантакт з сялянамі-пчалярамі, ладзіла карэспандэнцыйныя курсы па зборы і арганізацыі прадажы лекавых зёлак. — Курсы ў беларускай мове... І адозвы-праспекты курсаў таксама па беларуску. І гэта ўсё ў 20-30 гады! <...>

Гэта не драбяза — праўда? Дадам, што ўсе архівы «Пчалы» захаваліся і «Беларуская Борць?» таксама. Аб кніжцы Клышкі — усё добра.

Вось колькі намазала! За ўсе часы... Ці не збіраецеся прыехаць? Варта было б яшчэ раз пабачыцца... Я ж канчаю 94 гады... Прызнацца трэба, што вельмі мне гэтае жыццё надакучыла...

Усяго Вам добрага!

Л.Войцік

За лісты, за памяць шчыра дзякую... Прывітанне ад усіх...

Ці ведаеце, што я маю праўнука? — называецца Алесь.. Яму ўжо зараз 7 месяцаў.

* * *

31.VII.1987г.

Вільня.

Дарагі пане Аляксей.

Учора атрымала Ваш ліст. Дзякую.

Пасылаю Вам аўтабіяграфію Язэпа Шнаркевіча, дапоўненую маімі кароценькімі ўспамінамі. [...]

Пытаецеся, што чуваць? Нічога добрага. Пасьля надрукавання ў шматлікіх газэтах твору «гісторыка» Ст........ ніхто з беларусаў у нас не бывае. Ніхто! Думаеце, прыемна?

Прыемна, што нашы беларусы такія неразумныя, ня могуць адрозніць дзе праўда, а дзе злосная выдумка. А яшчэ горш, што прэса памагае такі бруд распаўсюджваць...

Пры такіх абставінах ня можа быць ні настрою, ні здароўя.

А Ст. — «гісторык» чуецца добра і друкуецца далей, хоць і на іншыя тэмы.

І німа каму то стрымаць, бо ён жа пад апекай «Вялікіх» і Моцных. [...]

Хацела Вам паслаць хоць адзін адрас маскоўскіх студэнтаў-беларусаў. Запыталася Гродзенцаў, але і яны маўчаць... Няўжо і яны парвуць кантакт з намі.

Ўсяго наўлепшага Вам! Здароўя, плёну ў працы. Ад маіх прывітанне. Сардэчна-зычліва Л.В.

Што ж я магу напісаць аб Мікалаю Мікалаевічу Улашчыку? Я яго ведала асабіста вельмі мала — бачыліся адзін усяго раз, калі прыехаў у Вільню... Затрымаўся ў гатэлі і тэлеграфічна паведаміў аб прыездзе і дзе затрымаўся. Сын мой пайшоў да яго і прывёў у нашу лясную хату...

Раней даведаўшыся праз сваю сястру ад Юліі Бібілы, што я ў Менску тры гады працавала у «Камітэце Т[аварыст]ва помачы ахвярам вайны», напісаў да мяне, прапануючы зьбіраць успаміны былых бежанцаў, каб на гэтай падставе адтварыць мартыралёгію беларускага народу. Я такія матэрыялы пачала зьбіраць і 9 ці 10 успамінаў б[ылых] бежанцаў адаслала М[ікалаю] М[ікалаеві]чу (у мяне ёсьць копіі). Ён напісаў уступ да працы аб бежанцах. Хадзіў з гэтымі матэрыяламі па ўсіх рэдакцыях Менска, але ніхто не зацікавіўся. Тады напісаў мне: «Кіньце збор успамінаў, не траціце добрага часу — нікому відаць гэта непатрэбна». На гэтым справа скончылася. Але ў розныя сьвяты не забываў павіншаваць. Яго крытычныя працы захаплівалі мяне і дзеялі асьвяжаюча. Вось каб цяпер жыў, можа б змусіў [нрзб] ...

Л.В.

*БДАМЛМ, ф.340 (у апрацоўцы). Аўтограф.*

## Алесь Бабіч

Глыбокае,
23 верасня 1989 г.

Дарагі зямляча, спадару Аляксей!

Розныя былі абставіны прычынай таго, што я доўгі час зусім не адзываўся. Недамаганні, шпіталі, аперацыя ды забыццё спынілі нашу кароценькую перапіску. Я няраз сустракаў у друку Вашы публікацыі на скарыненскую тэму, пра М. Улашчыка, якога Вы добра ведалі асабіста, а ў гэтым я Вам нават зайздрошчу. Не абмінуў увагай Вашы артыкулы ў даведніку «Францішак Скарына і яго час». Як добра робіце, што жывучы і працуючы ў Маскве знаходзіце час падтрымаць нашы родныя справы.

Сапраўды, час цікавы. Ад яго, праўда, многа чакаць цяжка, але тое, што робіцца, мае вялікі і дадатны сэнс. Вялікія намаганні нашых прагрэсіўных люд-

зей робяць свой след. З іншага боку — напрыклад, двухмоўе, гэта — узаконенне дарога да аднамоўя, як і дзяржаўнасць дзвюх моў. Каму гэта не зразумела, куды яно накіравана... Народ, пазбаўлены павагі да сябе, ён пазбавіўся сувязі з мінулым. Ён зноў будзе ісці па шляху «угоднічества», зноў будзе сцвярджаць сваю другасортнасць. І зноў яму «аўтарытэтна» скажуць: «Народ избрал свой путь сам. И сам определил свою судьбу». Але ўсё бы стала на сваё месца, калі б народ хоць на некалькі дзесяцігоддзяў адчуў сябе роўным сярод роўных.

Быццам змяніліся адносіны да рэлігіі. Зразумела, справа гуманнасці, але крок для ўзмацнення прыхільнасці веруючых. Я наогул не супраць змяненняў у гэтым кірунку, наадварот. Але ж, мае даражэнькія, што робіцца? На нашых вачах каталіцкае духавенства ў нейкім, мабыць запланаваным парадку пад рэлігійнай маскай дзейнічае ў кірунку мінулых часоў — не так далёкіх і вельмі даўніх: беларусы схіляюцца да Польшчы; узрастае, мякка кажучы, непавага да ўсяго роднага, дакладней, адступніцтва, варожасць... На ўсе метады найбольш здольны ксяндзы нашы.

/.../ Лічу, што кожная, нават быццам зусім малазначная драбніца прыносіць радасць, калі яна нейкім чынам накіравана ў добры бок. Нават, калі нехта замест «здрасце» скажа «добры дзень», або «скажыце, калі ласка». Неяк весялей тады бачыцца свет.

У гэтым годзе грунтоўна апрацаваўшы артыкул на тэму дэфармацыі беларускіх прозвішчаў, даслаў у «ЛіМ». Але дзе там! — Закранае шмат прозвішчаў «мужей» і «отцов», — не падыходзіць.

Не! Мусіць я занадта «разышоўся». Спынюся. Прабачце, калі надакучыў. Але ж хоць троху адвёў душу.

З вялікай павагай да Вас, шчырай зычлівасцю поспехаў.

Алесь Бабіч.

P. S. Калі знойдзеце магчымасць, прышліце, калі ласка, адзін нумар Вашага выдання.

Але не ўстрымаўся, хочацца яшчэ напісаць маленькі дадатак.

Пісаў я калісь у ЛіМ (гэта ж «Беларуская хатка») прапанову, заклік, каб зрабіць добрую справу — перавезці на радзіму астанкі М. Багдановіча. Адначасова зрабіла свой допіс Зоська Верас. Доўга было ціха, а пасля атрымаў адказ аб немагчымасці публікацыі. Даслоўнага зместу адказ быў і Зосьцы Верас. А ён жа /Багдановіч/ меў такое жаданне (у вершы), каб спачыць, хоць у брудзе, але ў роднай зямельцы. А як яму дарагая была кніжка «з друкарні Марціна Кухты». Бачыце? Непажадана. Мусіць так будзе мацнейшы «интернационализм». Відаць колы добра разумеюць яго цану для беларускай культуры. Відаць што і зараз усё трактуюць па-«бэндаўску», баяцца ягоных костачак. Можа ён ужо таксама экстрэміст, як калісь «слыў» рэакцыянерам. У некаторых артыкулах у ЛіМ'е з'яўляліся пасажы, нясмелыя радкі з пажаданнем магчымасці перавезці прах /паэта/ на Беларусь, але аўтарытэтнымі асобамі ініцыятыва не падхоплена. А можа цяпер хмары ўзялі крыху іншы напрамак? Зводжу да таго, калі б Вы патурбаваліся даць у друк змястоўную прапанову, а? /.../ Можа папярэдне парадзьцеся з Анатолем Вярцінскім. Чаму ж бы не дазволіць? Перавезлі Купалу... А ён /Багдановіч/ што? Ня наш? Што ж з таго, што ён дарэвалюцыйны. Ці ж толькі таго заслуга, хто дажыў да «светлых дзён» і пад прымусам /і страхам/ ухваляў душагубаў?

Прабачце за сумбурнасць. Маленькае ўдакладненне пра сябе. Я — пенсіянер. Век мой — 67. 10 год інвалід 2-й групы па астме. Пасля нечаканага захворван-

ня лячыўся ў бальніцах звычайнымі, вядомымі сродкамі, а вынікі адмоўныя, стан цяжкі. Быў вымушаны пайсці на гарманальныя сродкі, якія разбураюць увесь арганізм. Ад іх напалавіну лягчэй, але затое ціск высокі, стэнакардыя, підыкардыт, паўната, ацёкі, пры нязначных механічных уздзеяннях падскураныя сінякі, лёгка рвецца скура, няўстойлівая хадзьба, нельга доўга сядзець, шкодна ляжаць.

Але прабачце за маю нетактоўнасць. Распісаўся!.. Каму гэта трэба? Ну, раз, больш ня буду.

Алесь

*Там сама. Аўтограф.*

## Генадзь Каханоўскі

Даражэнькі Аляксей Канстанцінавіч!

Мне Віктар Каваленка гаварыў, што абарона дысертацыі адкладваецца на восень. Нічога, не трэба хваляваццa, бо праца зроблена сумленна, а значыць усё будзе добра.

Пішу я вось з якой нагоды. Выйшла новая кніга ў серыі «ЖЗЛ» «Чаадаеў». Можа заўважыў, што ён быў беларусам па паходжанню і ў яго асабістай бібліятэцы былі кнігі Ф. Скарыны. Так што няхай будзе для нашай традыцыі, нават калі яна будзе за «кругам» нашай арганікі.

У А. Мальдзіса клопатаў шмат, ніяк яшчэ не ўсталюецца наш Скарынаўскі цэнтр, бо шкоднікаў процьма.

Я сам маю вялікія клопаты з краязнаўчым таварыствам. Яно ўжо замальдавана, але шукаю спонсараў, каб жыць. А там можа і за часопіс возьмемся. Пакуль што мала памочнікаў.

Сёння спяшаюся на пахаванне старога беларускага калекцыянера з Маладэчна Марціна Міцько (1909 — 1991). Больш 60 гадоў выпісваў усе беларускія выданні (часопісы, газеты), купляў кнігі. Усё складаў. Я быў у яго за дзень да смерці. Бібліятэку завяшчаў Скарынаўскаму цэнтру. Пытаўся ў мяне адкуль родам Каўка? Над чым ён яшчэ працуе? Калі вернецца ў Беларусь? Пытаўся пра А. Мальдзіса, Г. Кісялёва...

Я ніколі не думаў, што вось так раптам памрэць, роўна праз суткі. Быў са мной яго пляменнік-лекар. І вось яшчэ адна страта.

Што ж жыццё нашае такое.

Усяго найлепшага і новых знаходак!

Генадзь Каханоўскі

4.08. 1991 г.

P. S. Дарэчы, для сп. М. Міцько Ф. Скарына здаўна быў святыняй.

*БДАМЛМ, ф. 340. Аўтограф.*

## Якуб Якубоўскі

Добры дзень, вельміпаважаны Аляксей Канстанцінавіч!

З аказіяй пасылаю Вам бандэроль. Ліст з Масквы ідзе ў Менск 10 дзён. Прычына таму — татары займаюцца не сваёй справай. Ім трэба было быць

паштарамі, а яны перашлі на іншую спецыяльнасць. Паслугачы прэзыдэнтаў, шукаючы ворагаў, чытаюць карэспандэнцыю, магчыма нават рабяць аналізы, вось і затрымка, проста дзіўная ў канцы 20-га стагоддзя.

Вельмі добра, што Вы нагадалі пра Мікалая Мікалаевіча Улашчыка. Вельмі добра для нас, што Вы напішаце пра гэтага вучонага артыкул. Станіслав Думін пад яго кіраўніцтвам напісаў кандыдацкую працу. Толькі Думін больш арыентуецца на палякаў (бацька яго, відаць, паляк, а маці — татарка). Вядома мы надрукуем таксама артыкул і пра Улашчыка Уладзіміра Сяргеевіча (нар. 1943 г.), члена-карэспандэнта АН Беларусі.

Ваш артыкул пра Мікалая Мікалаевіча можа быць і большы па памерах, чым энцыклапедычны. Пажадана, каб у ім было імя маці Мікалая Мікалаевіча, прозвішча яе бацькоў. Татары, таксама як і габрэі, лічаць што для чалавека галоўнае маці, якая выношвае і гадуе дзіця. Большасць рускіх не ведаюць імя маці самых славутых людзей, якімі яны ганарацца (Петр І, Пушкін, Някрасаў, Талстой, Чэхаў, нават цяпарашняга Ельцына).

Можа Вам і надакучыла чытаць, але яшчэ крышачку. У Энцыклапедыі для беларускіх татараў можа быць вельмі многа артыкулаў і нас не клапоціць, на якой паперы, якім шрыфтам, у якую вопратку будзе афармлена гэта выданне. Артыкулы будуць пададзены ў алфавітным парадку. Умоўна можна вылучыць тры вузлавыя тэмы — беларусазнаўства так як гэта разумелася ў 20-ыя гады, ісламазнаўства, татаразнаўства. Беларусазнаўства нам дапамогуць зрабіць беларусы, іх публікацыі мінулых часоў, іх парады і рэцэнзіі. Мы здаўна ведаем тое, што кожны добры беларус — гэта сябр татарыну. Ісламазнаўства, асноўныя палажэнні, бяром з ісламскіх даведнікаў, дапамагаюць нам шматлікія студэнты з мусульманскіх краін, якія працягаюць вучобу ў Менску. Пасля, калі ўжо будзе падрыхтавана 2-3 тысячы артыкулаў па Ісламу, мы дашлём іх у арабскія краіны на рэцэнзію. За час пражывання на Беларусі, да і за час пяцісотгадовага існавання мусульманскай рэлігіі, пасля яе прыняцця ў паволжскіх татар, намножылася шмат звычаяў, розных адхіленняў ад Ісламу. Мы ўсё гэта не адкідваем, даём тлумачэнні. Вось, напрыклад, у нашых мусульман пры пахаванні нябожчыку ў магілу кладуць сувойчык з мусульманскімі малітвамі, перад пахаваннем яго пісьменны мусульманін правярае, ці правільна і ці ўсё, што трэба напісана. Магчыма, што гэта даўным-даўно лічылі патрэбным, каб памёршы меў мажлівасць да Суднага Дня вывучыць малітвы. Арабы з мусульманскіх краін лічаць, што ў магілу мусульманіну нічога не трэба класці, бо гэта паганскі-язычкі звычай. Мы сказалі, што дуалар (некаторыя называюць далавар, хоць па арабску дуа — малітва, а цюрскае слова лар — азначэнне множнага ліку, значыць дуалар — малітвы), але яны кажуць, што мы будзем хаваць сваіх родных і блізкіх так, як даўней хавалі. Ужываем мы словы такія як муфтэй, мядзім, хоць праз рускую мову ў беларускай мове туфтий, муэдзин. Можа ў нас і не лепшыя словы, але яны нашыя і мы лічам іх асноўнымі, а туфтий і муэдзин будуць як спасылка на не нашыя. Яшчэ хачу адзначыць, што слоўнік наша энцыклапедыі не зачынены і можа хоць яшчэ на 50, а то і больш адсотак павялічаны. Пакуль што мы не плануем артыкулы да нашай энцыклапедыі пра кожную партызанскую брыгаду гадоў Вялікай Айчыннай вайны, або пра кожнага сакратара абласных абкамаў, але калі будуць выказаны меркаванні, што для татар яны патрэбны, то і мы надрукуем. Хоць доўга мы жылі разам з польскай шляхтай, але не кожную прапанову шляхцюка будзем улічваць, няхай паразважаюць людзі, што лепш.

Чакаем, што дойдзе да нас энцыклапедыя казанскіх татар. Адтуль запазычым артыкулы пра выдатных татар Паволжа, пра прыроду Татарстана і пра іншыя з'явы і прадметы, якія лепш да іх вядомыя, чым для нас.

Беларускія татары разумеюць 200—300 тыс. беларускіх слоў. У беларускай мове ужываецца больш за 600 слоў цюрскага паходжання. Вядома, што не ўсе гэтыя словы перашлі ў беларускую мову з цюрскіх моў. Яны толькі, магчыма, перахаваліся ў іншых мовах, увайшлі ва ўжытак, хоць паходзяць з даінадаеўрапейскіх. Бо ці не было назвай пра птушак, звяроў, рыб яшчэ тысячы і тысячы гадоў таму. Бусел, бацян, кабан, бугай, многія птушкі ціж не мелі назвы, а чакалі пакуль татары даюць ім назоў, напрыклад, сабака (сцвярджаюць, што гэта скіфскае слова). Каб Вы не накрыўдзіліся, але Ваша прозвішча ў беларускім тлумачанні таксама нагадвае назву птушкі на цюрскіх мовах. Дык вось, 600 слоў, якія маюць цюрскае паходжанне, павінны быць у нашай энцыклапедыі? Будзе апісанне пра пашыранае дрэва (а ў нас артыкулы пра кожны від дрэва, што растуць у Беларусі), згадаем, што паходжанне на назвы цюрскае. Але ў кожнай мове *осіка* таксама падобна гучна. Відаць, што гэта яшчэ даінадаеўрапейскае слова, а зберанлося ў цюркаў, а ў больш цылівізаваных народаў ужо адмерла.

Даволі многа будзе артыкулаў на маральна-этычныя паняцці. Будуць звесткі пра ўсе сферы хрысціанскай і габрэйскай веры. Тут мы маем мажліваць карыстацца габрэйскай энцыклапедыяй, а пасля дамо пачытаць такія артыкулы адпаведным святарам.

Мой сын Кастусь вучыцца ў Маскве. Раптам, ён чым-небудзь і Вам прыдасца. Яго тэлефон (жыве ў інтэрнаце) 15841199, хоць і крыху незвычайны нумар, але дзейнічае. Ён крыху умее рабіць сваімі рукамі.

Зычу Вам і Вашай сям'і ўсяго найлепшага. Прывітанне Вам ад Ібрагіма Канапацкага.

Якуб Якубоўскі

220086, Беларусь, Минск, ул. Славинского [...] Па беларуску пісаць адрас — дык які-небудзь манкурт знішчыць ліст. Гэта ўжо было не раз, а даказаць — сабе нашкодзіць.

6 лютага 1998 г.

Напісаў ліст Радзіму Гарэцкаму. Каб не паўтараць, дасылаю Вам адбітак, то так дрэнна атрымаецца. Не след татарыну лезці першым, як гэта робяць некаторыя нацмены. Вялікую работу зробіць беларус, а пракукарэкае нейкі кітаец ці эфіёп. Я гэта ведаю.

*Там сама. Аўтограф.*

## Лена Цыбіна

Добры дзянёчак, нашы любімыя, слаўныя: браток Аляксей Канстанцінавіч, Сафія Іванаўна, дзеці, унучак Алёшка!

Даруйце за доўгае маўчанне, але ж каждый дзянёчак чакала вашага пісемца. Ну вясна і лецейка праляцелі за цяжкай працай вельмі скора, проста непрыкметна, калі стала холадна, асабліва мне басяком. Я не магу прывыкнуць, што трэба напяльваць што на ногі, а ета вялікая нагрузка ў 70 год рабіць гэту гімнастыку.

Лета і вясна ў нас былі сухімі і гарачымі. Ну але ж ураджай сабралі не кепскі, палівалі кожны дзень грады... Памідоры чырвоныя елі з 9-га ліпеня і да сёнешняга дня. Агуркоў засаліла 100 літраў. Гарбузы, маркоўка, буракі, фа-

соль, рэдзька слаўныя. Бульбу выкапалі 20-га жніўня, ня кепская. Але прыйшлося 40 дзянькоў начаваць з сабакамі на полі, ад 9-га ліпеня, бо вырылі 109 карчоў за адну ночку. Вось і прыйшлося пільнаваць. 6 мільёнаў заплацілі за жніво 70 сотак, намалацілі 6 мяшкоў зерня. Тут ураджай вельмі кепскі. У саўгасах яшчэ горш. Хлебушка няма. Яблычкаў было на восень, варэння наварылі. Грушы ўсе адмерзлі, цыбуля дрэнная. Але ж, дзякаваць Богу, хоць якая, ды парасла.

Пад зіму Алёшка з дзедам увесь жнеўнік узаралі, і мы ўжо аж два разы баранавалі, каб трава не пусціла карані. Ну ў ету нядзельку дзеткі ўсе і Алёшка з'ездзілі ў лес нагрэблі ігліцы. Саша аблажыў варыўню, навазілі дроў у хату на зіму. Ня кончылі яшчэ і зламаўся трактар, вось пераламала, ну але ж гуртам, з Божай помашчу, заталкалі ў гараж. Усё праблемы і праблемы.

Парабіўшы ўсе работкі забралі бацьку ў Чэрвень аддахнуць, ды ўнукі хочуць... А я вось адна, пішу вам ды сабіраюсь ісці к аўталаўцы за хлебушкам ды пагаварыць з Валікам [мужам] па тэлефоне. Прыезджалі Ірка Яскевіч з дачкой і зяцем, і Толік на яе машыне. Я дала ёй 2 кашы агуркоў, кош бульбы. Ну, сустрэча была прыемнай. Усе былі рады. Нядзелькай уперад забягаў к нам Ваня Епімашка. Расказаў, што ў іх усё добра. Ну а вось Коля Епімашка вельмі кепскі, рак. Ляжыць у рэанімацыі, хвароба запушчана. Пячальна, горка, а ніхто дапамагчы ня можа.

Браток, я цябе часта сню. Можа што чакаю? Ня ведаю сама, но ты заўсёды ў мыслях са мною, і днём, і ўначы. Адгукніся, як вы там з Соняй, што рашылі? Кідайце свой горад, жыццё ёсць усюды. Як вашае здароўе? Я ў гэтым годзе паслабела, але ж усё ў полі днямі, можа мне зямля дапамагае існаваць. Да яшчэ хачу вам паведаміць, што мы наладзілі вельмі ўдалую сувязь з унучкамі, Сашынымі дачкамі. Я папрасіла і ён прывёз іх, былі ў нас 8 дзён. Большай Ірцы 14 гадкоў, вельмі ўдалая дзевачка, чыстаплотная, усё мне памагала рабіць, куды я, туды і яна. Восенню прыязджалі капаць бульбу. Валік не хацеў, каб я іх звала к сабе, а цяпер і сам прывязаўся. І дзеўкам добра, і нам, і Сашу. Вось такая я...

Да сустрэчы. Цалуем.

Цыбіны

[1999 г.]
*Архіў укладальніка. Аўтограф.*

## Альберт Мітэр
## Беларусь XXI ст.

***(водгук на анкету)***

Славуты фізік М. Планк казаў: «Звычайна думаюць, што новыя ідэі ў навуцы перамагаюць, калі іх праціўнікаў пераконваюць; на самой справе праціўнікі проста выміраюць, а новае пакаленне ўспрымае гэтыя ідэі як само сабою зразумелае». Так і на Беларусі, калі вымруць людзі, якія радзіліся і выхоўваліся ў духоўнай няволі, для якіх галоўным было славутае «абы ціха», новыя пакаленні найвышэйшай каштоўнасцю будуць лічыць незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны. Яны, гэтыя новыя па духу беларусы, бачаць, якім крывавым шляхам ідуць да незалежнасці другія народы і як абсурдальна самім аддаваць сваю незалежнасць. Але паколькі ў жыцці за ўсё трэба плаціць, то шлях наш будзе, калі не крывавы, то вельмі цяжкі, пакутлівы, напоўнены барацьбою з рознымі дыктатарамі і тымі, хто вабіць рознымі ілюзіямі, так і барацьбою з сабою, сваёй палітычнай наіўнасцю і недасведчанасцю ў дэмакратыі. Белару-

сам прыдзецца заплаціць і за грэбаванне сваімі гісторычнымі святынямі — сцягам і гербам.

Новыя беларусы зразумеюць, што «не будзе шчасця на Беларусі, пакуль на ёй правяць чужынцы» (К. В. Каліноўскі), чужынцы не па крыві, а па духу. Да ўлады прыйдуць не «з гразі — ды ў князі», не тыя, хто ведае толькі як не трэба кіраваць, але тыя, хто ведае і умее — як трэба; харызма слова зменіцца харызмай чыну, бо наверсе не будзе кіраўнікоў, якія не прайшлі знізу наверх усе ступені палітычнай лесвіцы, дзе набылі ўменне і вопыт кіравання ў варунках дэмакратыі і рыначнай эканомікі і даказалі свае здольнасці; гэтыя новыя палітыкі ня будуць кіраваць дзяржаваю як вялікім калгасам.

Калі Беларусь увойдзе ў склад Расіі, гэта стане каталізатарам распаду Расіі. Дарэчы, распад чакае Расію ў любым выпадку. І добра, калі ён адбудзецца як цывілізаваны развод, а не як ядзерны распад-узрыў. Тады — «не дай Бог видеть русский бунт, бессмысленный и беспощадный» (Пушкін). Калі Беларусь у час распаду Расіі акажацца ў яе складзе, то Беларусь можа папасці ў «крывавую баню». Пры распадзе Расіі нават граніцы незалежнай Беларусі ня выратуюць ад соцень тысяч бежанцаў, якія кінуцца туды шукаць ратунку, як гэта было ў Заходняй Беларусі пасля вайны. Таму ў выніку распаду Расіі да Беларусі, калі яна ў той час будзе мець тэндэнцыю да палітычнай і эканамічнай стабілізацыі і арыентавана на Еўропу, могуць далучыцца, поўнасцю, ці часткова Бранская, Смаленская і часткова Пскоўская і Цвярская землі, што некалі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага.

Калі Беларусь будзе далучана да Расіі да яе распаду, то ў Беларусі рана ці позна паўстане рух за незалежнасць — не толькі палітычны, але і збройны, у постаці партызанкі і дыверсій на магістралях транспарту, газа і нафты з Расіі на Захад. У Беларусь паедуць добраахвотнікі з краін-суседаў — Балтыі, Польшчы, Украіны і нават з Расіі, а таксама з другіх краін свету.

XXI ст. будзе стагоддзем адраджэння Беларусі, вяртання яе ў Еўропу, умацавання і пашырэння беларускай мовы і культуры, паступовай змены і ўмацавання новага менталітэту, калі нацыя зможа пастаяць за сябе. Беларусь увойдзе ў сусветную супольнасць як сапраўды незалежная краіна.

Люты, 2000 г.
Навасібірск.

Мітэр Альберт Антонавіч,
эканаміст,
сябра Вялікай рады ЗБС «Бацькаўшчына.

*Там сама. Машынапіс. Аўтограф.*

## Надзея Андрэйкавец

Пятніца, 26. 12. 2000 г. Прывітанне з Бярэсця.

[...]

Вітаю Вас светлым днём. Удзячная за тое, што Вашыя словы заўсёды атрымліваю ў час. Яны, як «жывая вада». Дзякую за кніжачку. Моцна хачу быць на Узвышшы, дзе прастора, імпэт, дзе сіла духу сэрца мацуе, дзе «Вечнае Ранне — Месія».

Да чаго імкнешся, на што доўга глядзіш, да таго робішся падобным. Вось сакрэт чалавечай прыроды: «па вобразу і падабенству». «Жывая вада» за трэцім,

залатым дном у калодзежы (Дубоўка), а тое дно — Крыўда. Толькі практычны ідэалізм, толькі пазітыўнае-дзейснае. Крытыка не дасягае мэты, яна цаляе міма.

Я проста разважаю.

Думаю пра Быкава, малюся за яго. Ці скажа ён тое Слова, якое яшчэ можа сказаць?..; нашая душа корміцца вобразамі, яна знешні свет адбівае ў вобразах. Так сведчаць мне мае сны. Тое ж у беларуса-палешука. Усё праўдзівае і ўсё фантастычнае. Ці можа чалавек бачыць адэкватна?

Хто ведае, як усё павярнулася б, не засні Гарэцкага Антон на возе ўніз галавою, пад вясновым сонцам на скразняку?

Не трэба стаяць на скразняку, а тым больш спаць!

Папера ўсё церпіць. Пішу.

Ніколі не ведаеш, што скажацца, напішацца, якая думка пройдзе. Зараз можна сказаць толькі тое, што мажліва сказаць толькі зараз, заўтра ўжо тое не прыдумаецца і не скажацца. І ўсё ж, усё мінаецца і ўсё ёсць вечнае.

Што сказаць Вам радасна-любаснага, добрага? Дзівуюся і спыняюся перад Вашай Дабрынёй, цярплівай, непахіснай Шчырасцю. А я, бадай што, многае ўжо страціла, пагубляла дыяменты сваёй душы. Якая недарэка? Відаць усё ж князямі нараджаюцца, а не становяцца.

Няўжо нельга знайсці, пакуль не згубіш?
Гасподзь — ахавальнік твой.
Гасподзь — з правай рукі тваёй.
Не пацерпіш паразу ад сонца ўдзень,
Ані ад месяца ўначы.

Колькі паэзіі і моцы! А як усвядоміць гэтае:

Бездна бездну призывает
Голосом водопадов Твоих.

Можна вечна паўтараць і не апрыкліцца.

Гарэцкі — наш экклесіяст-беларус, а дзе ж паліміст-беларус? Можа Язэп Пушча і мог бы ім стаць?

Вечнае Ранне — Месія.
Выцяглі раны зямлі,
Вечарам зелена-сінім
Ветры расу ўсю змялі.

Што ж, буду развітвацца.

Хай лёгкім крылом сваім Анёл-Ахоўнік ахінае Вас і Вашых блізкіх.

Нізкі паклон Вам

Надзея Андрэйкавец

*Там сама. Аўтограф.*

## Ганна Запартыка

27. 06. 2003 г.
Мінск.

Шаноўны Аляксей Канстанцінавіч!

Шчыра дзякую за цёплы ліст /.../

З 14. 06. па 19. 06. з В. Скалабанам былі ў Пецярбургу. Там зладзілі выставу «Беларускі Пецярбург» па дакументах НАРБ, БДАМЛіМ і выданнях РНБ. Уд-

зельнічалі ў іх штогадовай канферэнцыі. Акрамя ўсяго прывезла для архіва-музея дакументы і выданні, у т.л. прыжыццёвыя М. Гарэцкага.

25 чэрвеня пахавалі Васіля Быкава. Беларускі народ у смутку. Хадзілі развітацца амаль усім калектывам. У Дом літаратара так і не трапілі. Такой колькасці народу Мінск не бачыў даўно. Імшу слухалі на вуліцы. Труну неслі ад Дома літаратара да плошчы Якуба Коласа на руках. А пасля ужо — пешкі, за машынай да самых Маскоўскіх могілак. Працэсія ішла пад бел-чырвона-белымі сцягамі: шматысячная, маналітная, уражвала сваёй сілай духу. Жыве Беларусь.

Для «Скарыніча», калі не спазнілася, у мяне амаль гатовы «лісты для сябе» А. Бабарэкі, напісаныя ў высылцы.

Прывітанне ад мяне і ўсіх Софіі Іванаўне. Чакаем. З пажаданнямі здароўя і поспехаў.

Ганна Запартыка.

*Там сама. Аўтограф.*

## Кацярына Папова

*Падаюць сняжынкі,*
*Дыяменты — росы...*
*Паўлюк Трус*

Сыплюць успаміны пра вясну-вястунку,
Што злучыла сэрцы Хрыстовым святлом.
Скарбамі злучыла
Любае зямліцы –
Адкуль найчысцейшы крынічанькі б'юць.
Лекам цудадзейным –
Наймілейшай мовай
Гукі-ручаінкі
Гутарку вядуць.
.........................
Звонамі злучыла
Царквы Усясвяцкай,
Хрыста неўміручым
Пасхальным святлом.
Грукае хай сэрца
Брата-беларуса:
Нельга нам здавацца —
Яшчэ пажывом!

Г.п.Тураў [2003 г.]

У мяне ўсё добра. Вучуся хадзіць з пратэзам і кульбаю. Трымаю сувязь са школаю, наведваю храм...

Першы сняжок, першыя няпэўныя крокі на бялюткай чысціні...

Кацярына.

*Там сама. Аўтограф.*

# ЖЫЦЦЁ ДЗЕЛЯ ЯЕ
# ДА 100-х УГОДКАЎ МІКАЛАЯ УЛАШЧЫКА

## I. З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ ГІСТОРЫКА

### Ніна

*(з «Хронікі»)*

Ніна скончыла школу вясною 1915 г. Ішла вайна, але яна была яшчэ недзе далёка. Ваяваў покуль толькі Іван, 9 мая толькі забралі Паўла. Ніхто не думаў, што к восені вайна пачне так шпарка насоўвацца на нас і пераменіць усё. Ніна, пэўна, яшчэ ў Самахвалавічах надумала (марыла) пайсці вучыцца далей, у Мінск, і найбольш, пэўна, не ў вышэйшую пачатковую школу, але ў гімназію. Аднак яшчэ ў канцы лета [1915 г.] па гасцінцы пацягнуліся бежанцы, спярва ломжынскія, пасля гродзненскія, а ўрэшце і навааградскія. У армію забралі Косьціка, бацька пайшоў капаць акопы; з мужчын дома застаўся я адзін. Мне было 9 гадоў, і толькі я умеў запрэгчы каня і не баяўся коней. Пачалі збірацца ў бежанцы. Дзе ўжо там гімназія!

У кастрычніку прыехалі бежанцы Іваноўскія, а за імі цэлая грамада цырынцаў, але фронт стаў, і мы засталіся дома. Але і так пра гімназію не было і мовы, тым больш, што работы дома было звыш усякай меркі. Дзяўчата к таму часу ўжо выраслі: Сашы было 15, Ніне 14 гадоў. У Ніны ўжо выпрацаваўся почырк, і яна пісала зусім пісьменна. Дзевачкі пісалі лісты братам у «действующую армию» і часам (рэдка) атрымоўвалі лісты ад іх.

Калі прыйшло лета 1916 г., Ніна пачала плакаць. Казаць бацьку, што яна хоча вучыцца, было нельга; за яе хадайнічала мама. Маючы зусім мала надзеі, Ніна аднак увесь час рыхтавалася да экзамену ў гімназію. На гэта ішоў не толькі вольны час у нядзелю ці ў якое свята, але яна жаць ішла з падручнікам, і калі іншым жнеям пасля абеду ці полудня давалася якая часіна адпачынку і яны засыналі, то Ніна чытала падручнік. З усяго гэтага аднак нічога б не выйшла, каб не шчаслівы выпадак: у жніўні 1916 г. прыйшоў у адпачынак Паўлік. Як угаварылі бацьку, не ведаю, але ўгаварылі хаця і не на гімназію, а на пачатковую школу (там вучыцца год ці не больш як два і плаціць меньш). Аднак Паўлік узяў адказнасць на сябе: Ніна пайшла паступаць у гімназію ў трэці клас, хаця (так скора высвятлілася) магла б паступіць і ў чацвёрты. Не ведаю, як абышлося з французскаю моваю, якая там была абавязковаю і якой Ніна не ведала зусім, ва ўсякім разе паступіла. Як саступіўся бацька, не ведаю, але саступіўся.

Гімназія — гэта не жарцікі. Трэба знайсці кватэру, за якую трэба будзе плаціць, трэба неяк адзець гімназістку і абуць, а тут між іншым цэны на ўсё надта палезлі ўверх. Праўда, яны падняліся і на масла, і на сала, і на ўсё іншае, што давала вёска, але такі крыўдна было плаціць за ўсякую крамніну. Бяда была і тая, што хаця ўжо пажалі і авёс, але ў полі засталася бульба, а выбіраць яе ўжо давялося без Ніны. Як яе апранулі, не ведаю, ва ўсякім разе не надта, наўрад нават ці сшылі якую новую сукенку, а чаравікі далі маміны, якія можа і былі моднымі, то ў пачатку стагоддзя, ды і то на вёсцы. Калі Ніна ва ўсім гэтым з'явілася ў класе, то ніхто з гімназістак не захацеў пусціць яе да сябе на парту, покуль адна, што сядзела на апошнім месцы, не паклікала яе да сябе. Мінскія паненкі, ведама, смяяліся і з яе чаравікаў і адзення, але гэта было нядоўга. На ўроку па матэматыцы настаўнік пачаў пытаць пра нейкую формулу, пра якую ніхто ў класе не чуў. Ніна ведала, але чакала, што, можа, выткнецца якая-небудзь лепшая за яе, аднак такой не было. Тады яна падняла руку і пайшла да дошкі. Формула была вырашана проста, пасля чаго ей далі яшчэ некалькі запытанняў, ня якія яна адказала, як і на папярэдняе. Гэта так уразіла паненак, што ў перапынак пасля ўроку адна прапанавала ей сесці на вольнае месца каля яе (вольным, ведама, было і калі Ніна ўпяршыню прыйшла ў клас). Праз некаторы час высвятлілася, што Ніна добра ведае не толькі матэматыку але і ўсё іншае; у выніку гэтага за яе давялося заплаціць за вучэнне толькі за першую чвэрць, а надалей ужо больш ніколі. Гультаяватыя паненкі адразу здагадаліся, што замяж таго, каб сядзець за падручнікамі, можна проста падыйсці перад урокам да Ніны і спытацца у яе, што трэба ведаць. Першы год з гэтага карысталіся можа меньш, але ў наступных класах дзяўчаты (у большасці яны паходзілі з сем'яў мінскіх чыгуначнікаў ускраін Мінску), якія былі ў адным класе і нават класам вышэй, або запрашалі Ніну да сябе, каб атрымаць кансультацыю, або прыходзілі да яе на кватэру. Зразумела, апрача навукі, там ішлі чыста дзявочыя размовы (у Мінску поўна было аліганцкіх афіцэраў, якія былі так ласы на гімназістак), зразумела, тут былі вядомы ўсе плёткі з гімназіі (Вольга Іванаўна ў настаўніцкай сядзела на каленях у Аляксандра Аляксандровіча і г. д.). З гэтымі дзяўчатамі ў Ніны засталіся вельмі добрыя адносіны ці не на ўсе жыццё, ды дзяўчата гэтыя былі варты таго. Яны былі вясёлыя, пэўна, больш за ўсе на свеце любілі танцаваць; ужо ў 1916—1917 гг. жылося цяжка, далей стала яшчэ горш, але яны заўседы здаваліся ў добрым гуморы, рагаталі, спявалі.

Першы год жыцця, тым больш першыя месяцы навучання, у Мінску, Ніна была надта ўзрушаная. Жарцікі: у Мінску, гімназістка. Тут столькі розных дзіваў, гэтыя мінскія дзяўчата столькі ведаюць. Як яны могуць перадражніць страшнага настаўніка гісторыі і назваць яго Сашкам; яны ведаюць усё пра Мінск. Прыехаўшы да хаты, Ніна, з якой лезлі навіны, апераджаючы адна другую, кажа, што вось яны раз сядзелі на скверы (!!!). Падумаць, на скверы, але каб не паказаць свае невуцтва, не кажуць нічога. Дык вось, сядзім на скверы (у будзённы дзень, калі людзі павінны рабіць), глядзім — дом. Пачынаем лічыць паверхі — іх сем!!! Сем наверхаў! Хіба дурань паверыць, што можа быць такі дом! Аж гэта, сапраўды, быў такі. Знаходзіўся ён на сучасным Пляцы Волі, а ў той час на Саборнай плошчы, і зваўся гасцініца «Еўропа» (у першы дзень вайны ў яго трапіла бомба і ўвесь разнесла).

Крыніцы, адкуль папаўняліся веды пра свет, была дачка гаспадыні, дзе жыла Ніна. Бацька дзяўчынкі быў слесар з мінскага дэпо. Нібы асоба не надта, але ўжо адзначалася, што і ў віцкаўцаў, і ў нявіцкаўцаў усякі, хто не ўрабляе зямлю,

карыстаўся пашанаю; а тут яшчэ слесар паходзіў з Масквы, і час ад часу з Масквы прыязджала цёця, ды не проста цёця, а добра апранутая і ў пэнснэ. Проста акуляры ўжо рабілі чалавека нечым, а тут пэнснэ. Пачыналіся размовы пра Маскву. Нініна прыяцелька так сама бывала ў Маскве, і таму час ад часу (гэта ужо калі і я быў у тым доме) пачыналіся размовы пра гэты горад (сталіца знаходзілася ў Петраградзе, і Масква не была ў такой пашане як зараз); Маруся-Маня казала, што там яны пілі кумыс (што б гэта такое было?), і гэта такое паскудства, што пасля запляваліі ўсю Садовую вуліцу. І гэта дадавалася ў Нінін багаж ведаў. Эмансіпацыя пайшла далей: прыязджае Ніна дамоў, а ў яе няма касы і пастрыглася! Ці не пашкадавала мама, што згадзілася паслаць у гэты шалёны Мінск. Дзяўчына без касы, а пасля можа спадніца стане да кален. Перад вайною жанчыны хадзілі ў спадніцах да самай зямлі; як пачалася вайна, то гэта ўбранне стала ўвесь час скарачацца. Праўда, зараз спадніцы яшчэ значна ніжэй каленяў, але што можа быць далей?

Думаю, што захоўваючы такт, Ніна казала далёка не ўсё, што магла сказаць і ад чаго яе проста распірала. Ніна вучылася і панавала, а Саша сядзела дома і рабіла на яе. А ці добра гэта? Праўда, прыязджаючы дамоў, Ніна пачынала рабіць усё разам з іншымі, але не прала ды, здаецца, і не ўмела, а гэта ж было абавязковым для вяскобай дзяўчыны. Жала Ніна разам з усімі, але вось перад самым адыходам палякаў у 1920 г. ездзіла ў госці да тае свае прыяцелькі, якая адразу ўразумела, што вучыцца можна не толькі ў настаўнікаў, але і ў гэтай дзяўчыны, абутай ледзьве ў лапці. Зразумела, што для Сашы гэта было немагчыма. Была Ніна ў тым самым 1920 г. у гасцях і ў Івана, які быў недалёка ляснічым; і гэта для Сашы было немагчымым.

У 1919—1920 навучальным годзе, пры паляках, польскія ўлады спрабавалі, хоць неяк асцерагаючыся, утвердзіць польскую мову і культуру як наогул, так і ў школах. Перш за ўсе ў школах (пэўна, усіх, апрача пачатковых) пачалі вучыць чытаць па-польску, а ў гімназіі з'явіліся настаўніцы таго рангу, якія да рэвалюцыі зваліся класнымі дамамі. Такія дамы былі прызначаны і ў гімназію, дзе вучылася Ніна. Дама засталася надта незадаволена ёю тым, што знайшла ў класе, і дакарала вучаніц: «Панны не выхованы ест». Гэта была святая праўда, бо гэтые «панны» не надта былі выхаваны і раней (у большасці паходзілі з яўрэйскіх сем'яў), а тут у звязку з рэвалюцыяй і вайсковымі падзеямі і ад таго, што мелася, засталося мала. Польскі элемент у той час на Міншчыне быў, але ўжо слабы. Сярод школьніц і школьнікаў знаходзіліся такія, што лічылі сябе палякамі, і таму ахвотна перавучваліся ці навучаліся па-польску, але іх было надта мала; скрозь панавала ўжо культура руская. Занадта кароткі час у Мінску былі палякі, каб прышчапіць што-небудзь больш грунтоўнае, і ад іх дзейнасці ў гэтым кірунку скора нават і следу не засталося.

Прыйшла рэвалюцыя. Як яна была ўспрынята насельніцтвам, гісторыкі зараз пішуць рознае, часам зусім фантастычнае, казкі. Зразумела, што рэвалюцыю розныя людзі ўспрыймалі па-свойму; але для вялікай колькасці гэта азначала проста, што зараз не будзе цара, а як будзе без цара, то гэта невядома. Праз кароткі час надта шырока стала гучаць слова «свабода» (слабода). Для шмат каго гэта азначала, што зараз магу рабіць, што хачу. Скрозь ішлі мітынгі, і можна думаць, што гімназісткі таксама бывалі на міцінгах, ва ўсякім разе гаворкі пра гэта было даволі. Зразумела, яны скора і лёгка запомнілі ўсе рэвалюцыйныя песні таго часу, у першую чаргу «Адрачомся ад старога свету» (отречемся от старого мира), што скора

пачалі перадаваць у іншай форме: «отречемся от старого мыла, престанем мы в баню ходить» і т. д.

Наколькі закранула ўсе гэта Ніну персанальна? Пра гэта сказаць нельга, але калі сабраўся Ўсебеларускі кангрэс у канцы 1917 г., то яна была ў тэатры. Зірнуўшы праз занавес, убачыла, што ў зале поўна барадатых салдатаў, надта ўзрушаных. Стала страшна, а тут яшчэ Крывашэін (брат таго, які разганяў Кангрэс) сказаў Ніне і тым, хто быў з ёю, каб скарэй уцякалі адтуль, бо можа зараз пачнецца страляніна. Адкуль было знаёмства з Крывашэіным, не ведаю, але дзяўчата, спалохаўшыся, пабеглі да хаты ці наогул з тэатру. Кангрэс разышоўся без бою.

Скора пасля рэвалюцыі пачалася дзейнасць беларускіх арганізацый; пачаў ствараццa знакаміты хор Тэраўскага; пачаліся нейкія беларускія сходы ці вечарынкі. Ніна неяк казала, што Міша Галенчык пачаў спяваць у хоры і што на яго адзелі надта смешную рубашку, такую, як некалі насілі ў Некрашэвічах (так назвала мама). Відаць, на Ніну нацыянальная дзейнасць не зрабіла ўражання, бо да той пары, калі я ў 1919 годзе не перайшоў «у беларускую веру», у нашым доме да гэтага адносіліся абыякава, нават, калі ў хату трапіў «Звон», то іранічна.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі змены ў жыцці адбываліся паскоранымі тэмпамі. У школе гэта азначала стварэнне вучнёўскіх камітэтаў, аслабленне дысцыпліны, часам — перапынкі заняткаў. Эканамічна горад надта аслабеў, бо колькі-небудзь рэальнага заробку меў мала хто. Праз тры месяцы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі прыйшлі тыя самыя немцы, з якімі ўжо чацверты год ішла вайна. Неяк у лютым прыехаў бацька і забраў нас дамоў. Гэта не было ні свята, ні канікулы. Калі мы прыехалі ў Прылукі і пераехалі праз мост на Пцічы, бацька пачаў часта выглядаць з-за каня, нешта вельмі хвалюючыся. Мы з Нінаю так сама пачалі ўглядацца і ўбачылі першы раз двух нямецкіх салдатаў, якія ішлі дарогаю. На іх былі стальныя шаломы, за плячамі вінтоўкі. Бацька звярнуў з дарогі і прывітаўся з імі: «Дзень добры». Яны кіўнулі галовамі і адказалі прыблізна тое ж самае, зразумела, вымаўлячы інакш. Праз метраў 200 ішлі яшчэ два немцы, за імі яшчэ два — так чалавек з дзесяць, а можа і больш. Пасля казалі, што ў Мінск немцы прыехалі ў цягніку і што іх на Віленскім вакзале спаткалі з музыкаю. Прайшоў тыдзень ці два; нас павезлі ізноў у Мінск, пачаліся заняткі, больш-меньш такія, як былі да рэвалюцыі.

У канцы 1918 г. у Мінск прыйшла Чырвоная армія; улада стала ізноў савецкая, але ў жніўні 1919 г. прыйшлі палякі і былі да ліпеня 1920 г. У 1919—1920 гг. мы жылі на Койданаўскім тракце, недалёка ад бетоннага мосту. Ні немцы, ні палякі братоў не чапалі, і з некаторага часу Косця жыў у Мінску. Такім чынам нас, уключаючы Жэню, было на кватэры чацвёра. Да нас часта заходзілі Галенчык і другія хлопцы, прыяцелі Косціка, а да Ніны цэлы натоўп дзяўчат. Здаецца, што гэта была пара вясёлая, бо дзяўчата і з хлопцамі, і асобна танцавалі неяк без перадыху, усяго больш вясеннімі вечарамі на самым мосце; а калі так было нельга, то ў знакамітага сярод небагатай моладзі Бандарэнкі, танцавальны зал якого змяшчаўся ў старым драўляным доме недалёка ад сучаснага Заходняга маста. За ўваход туды трэба было нешта плаціць, і як дзяўчата ўладжвалі гэту праблему, не ведаю, бо і ў іх кавалераў грошай так сама не было. Незадоўга перад смерцю Ніна казала, што хадзілі яны туды са сваім музыкам, які іграў на мандаліне. У горадзе быў каменданцкі час — ад 10 вечара да пяці ці шасці раніцы хадзіць было нельга; а натанцавацца да дзесяці было нельга, і таму даводзілася танцаваць літаральна ўсю ноч, аж покуль не можна будзе выйсці.

Гадзіны у 2—3 рана і музыка, і танцоркі змагаліся, сядзелі, дзе трапіцца, драмалі; аж час ад часу музыка прачынаўся, пачынаў трымкаць на сваім інструменце, дзяўчата ускаквалі і пачыналі танцаваць, а пасля ізноў садзіліся.

У 1920 г. курс гімназіі быў скончаны. Да позняй восені ў тым годзе ішла вайна, і мы ўсе сядзелі дома, а праз год у Мінску адчыніўся універсітэт. Гэта была навіна для Мінску, нешта непрывычнае. Школьніцы збіраліся ў школу, раіліся, што рабіць. Ва універсітэт пайшло мала, але ў Ніны, пэўна, ніякіх ваганняў не было — пайду. Але куды, на які факультэт, па якой спэцыяльнасці. Перш за ўсе хацела на медычны, але для гэтага спярва схадзіла ў анатамічку паглядзець, як там працуюць над трупамі. Вярнулася адтуль ледзьве жывая. Дні два—тры яе рвала, есці не магла нічога, і, зразумела, гэта кар'ера адпала. Апрача медычнага быў яшчэ ФОН (факультет общественных наук), які скора перанназвалі педагагічным (пра рабфак, ведама, гаворкі не было — там былі тыя, хто не меў сярэдняй асветы). На ФОН, але на якое аддзяленне? Па ўсіх сваіх поспехах Ніна павінна была пайсці на матэматычнае аддзяленне, але чамусьці трапіла на тое, якое вымавіць было цяжка — этнолага-лінгвістычнае. Пра такое ніхто з нас раней і не чуў. Заняткі ва універсітэце ў той час ішлі галоўным чынам пасля пяці, таму што можа большасць студэнтаў павінна была працаваць, каб зарабляць на жыццё.

З лета 1921 г. мы жылі ў той самай Гаўрыліхі, у якой некалі жыў Іван. Дом гэты стаіць і зараз.

Скора пасля паступлення ва універсітэт Ніна пачала працаваць на маслазаводзе. Вёска павінна была здаваць дзяржаве свае «лішкі», а разам з усім і масла. Кавалкі масла, якія прыносілі на здачу, былі невысокай якасці; паляжаўшы на складзе, яны абрасталі нібы мохам, і наогул, здавалася, што на ўжытак былі няварты мі. Вось гэты няварты прадукт і перааперацоўваўся на заводзе. «Дух» там стаяў, відаць, цяжкі. Часам з заводу Ніна прыносіла збан нейкай нібы сыроваткі, якую мы елі з бульбаю. Час быў цяжкі. За сем гадоў абнасіліся, абадраліся нават і Улашчыкі, якія жылі лепш за іншых, і таму Нінін прадукт, хаця і не надта варты, успрымаўся з падзякаю. На заводзе было холадна, працавалі там у політах, і скора паліто Ніны знізу стала такім, што казалі ў жарт, нібы на ім можна пячы бліны.

Праз год ці два Ніна стала настаўніцаю. Школа яе знаходзілася на Камароўцы, прыблізна там, дзе зараз плошча Перамогі. Жыла там і раней бядота, пасля вайны насельніцтва зусім згалела. Як настаўніца, Ніна карысталася папулярнасцю, нават вялікаю папулярнасцю. Адзін раз я праводзіў яе рана да школы і бачыў, як яе сустракалі вучні, асабліва дзевачкі. Яе убачылі яшчэ далёка ад школы (дзеці першага ці другога класа) і, убачыўшы, закрычалі «Цёця Ніна», і рынулі да яе. Першыя, якія дабеглі, ухапілі яе за рукі; хто спазніўся, тыя хапалі за край паліта, папку з рук забралі, каб было можна трымацца за рукі. Такім тлумам увайшлі ў школу.

Пазней, па сканчэнні універсітэту, калі вярнулася з Мсціслава, пачала выкладаць у той самай школе, былой гімназіі, дзе вучылася сама.

З пераходам ва універсітэт, кантакты з былымі прыяцелькамі па школе калі не абарваліся цалкам, то значна скараціліся; тым больш што некаторыя выйшлі замуж і паехалі з Мінску. Самаю блізкаю з часу, калі жылі ў Гаўрыліхі, да Ніны была Надзея Галубоўская, якая жыла ў суседнім доме, у Такарэвіча. Яна часта заходзіла да нас, паведамляла пра літаратурныя навіны, між іншым прынесла «Сцэнічныя творы», дзе была змешчана «Паў-

лінка» Купалы. Гэта быў вясёлы дзень ці вечар, калі мы гуртом чыталі камедыю.

Часта заходзілі двое капылян — паэты Алесь Гурло і Алесь Дзямідовіч. Абодва былі закаханы ў Ніну, але наколькі суцішным быў матрос Балтфлоту Гурло, настолькі ж шумлівым Дзямідовіч. Каб не перашкаджаць адзін другому, яны прыходзілі па чарзе.

Блізкімі прыяцелькамі Ніны ў той час сталі сёстры Сапуны, Соня і Ганна. Ніна нават раз ездзіла да іх у госці ў вёску ці на хутар. Сапуны вучыліся на гістарычным аддзяленні, і, пэўна, праз іх завялося знаёмства з вядомымі у той час Аніхоўскім і Мамчыцам, за якіх пазней сёстры Сапуны выйшлі замуж.

Мама старалася, каб яе дочкі былі, выказваючыся па-сучаснаму, культурныя: навучала, што нельга дома ці нават на двары крычаць і тым больш сварыцца; што да старэйшых трэба адносіцца з павагаю; пры сустрэчы дзядзькоў і цётак цалаваць ім руку (цалаваць руку трэба было бацьку і маці пры сустрэчы, калі нейкі час не былі дома). Зразумела, на дзяцей найбольшае ўражанне рабіла навакольнае жыццё, якое маміна навучанне толькі ўводзіла ў нейкія рамкі.

Малыя дзевачкі стараліся паходзіць на старых ці, больш дакладна, на старэйшых, а паходзіць на старэйшых гэта было, у першую чаргу, адзець доўгую, да зямлі, спадніцу. Зразумела, у звычайным жыцці зрабіць так было нельга; але калі дарослых не было дома і пачыналіся гульні, то часцей за ўсе дзевачкі даставалі маміну спадніцу і пачыналі выконваць ролю гаспадыні: частаваць гасцей, прасіць, каб яны елі як мага больш і г. д. Калі да нас заходзіла суседская дзяўчына (з арандатараў суседа), амаль ўжо дарослая, і пагуляўшы і пагаварыўшы, збіралася да хаты, то дзевачкі, захоўваючы этыкет, чапляліся за яе і пішчалі: «Пабаўся, Любка, пабабаўся» (так належала прасіць пасядзець яшчэ).

Дзевачкі з самых малых гадоў умелі танцаваць, і мама навучала іх, што, танцуючы, трэба мець выгляд сур'езны, «не выскаляцца», бо падумаюць, што для вас танцы ўжо бог ведама якое шчасце. Кавалераў у дзевачак яшчэ не было, і яны звычайна танцавалі параю, самі з сабою. Адзін раз, калі танцы адбываліся на востраве ў дзядькі (у яго быў грамафон), дзевачкі, круцячыся, відаць, у польцы, пачулі, як пачаўся смех, але яны, згодна з мамінымі правіламі, не звярачалі на гэта ўвагі, яж наляцелі на папярэднюю пару, якая павалілася, і паваліліся самі. Тады ўжо не вытрымалі і пачалі смеяцца і самі.

Вясковыя дзяўчата былі надта сарамлівымі, а паколькі ў нашай рэчцы дзевачкі калі і купаліся, то толькі ў дваіх, без чужых нават дзяўчат. А дома мыліся ў кухні ў начоўках, відаць, сам на сам (ведама, калі не былі зусім малымі). У Мінску такая сарамлівасць не падыходзіла. Прыехаўшы ў Мінск, Ніна адзін час жыла ў стрыечнай сястры Лізы, тэлеграфісткі. У суботу Ліза сказала, што трэба ісці ў лазню. Забраўшы ўсе, што трэба для лазні, пайшлі недалёка ў сваю лазню для чыгуначнікаў. Там ўжо быў натоўп ад малых да сталых і старых жанчын, і ўсе яны былі або голыя, або раздзяваліся ці адзяваліся. Ліза скінула з сябе адзенне, але Ніне было страшна: як жа можна раздзецца перад усім гэтым натоўпам! Ліза крыкнула: «Ну, што ж ты не раздзяешся?» Ніне стала зусім страшна, сукенку яна скінула, але кашулю, доўгую, палатняную, не магла. «Ну, дык і стой тут, або мыйся у кашулі», — сказала Ліза і пайшла мыцца. У душы Ніны за кароткі час павінны былі рушыцца традыцыі, асвойтаныя за стагоддзі, і яны такі рушыліся: скінуўшы кашулю, пайшла мыцца, а на другі раз гэта стала ўжо звычайным.

*Машынакопія. Сямейны архіў А.М.Улашчыка.*

* * *

## Заўвагі на артыкул «Шляхта»

*[У рэдакцыю «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі»]*

1. Мне здаецца, што ў гэтым артыкуле аўтар павінен [пісаць] перш за ўсё пра шляхту беларускую і таму колькасць радкоў, адведзеных на шляхту польскую, ВКЛ і беларускую варта было б пераіначыць: беларускай аддаць найбольшую ўвагу, а польскай найменьшую.

2. Трэба адзначыць, што беларуская шляхта ў асноўным паходзіла з баяр, што пазней шляхтаю сталі зваць толькі найбольш багатую частку (першапачаткова баяры-шляхта), што належачы да феадальнага саслоўя шляхта ў вялікай колькасці ня мела зямлі (пра гэта сказана, але фраза, што «эканамічнай асновай пануючага становішча з'яўляецца феадальн.[ая] ўласнасць на зямлю», пярэчыць гэтаму.)

3. Трэба адзначыць закон 1831 г., згодна з якім вялікая колькасць шляхты была пераведзена ў аднадворцы заходніх губерняў і граждан (гл. мае «Предпосылки»).

4. Трэба адзначыць, што версія нібы амаль уся шляхта Беларусі была паланізавана, не адпавядае сапраўднасці. Дробная шляхта на Беларусі ніколі ня ўмела гаварыць па-польску, а сярэдняя, хаця і ўмела, але гаварыла і па-беларуску, хаця б таму, што аддаваць загады сваім падданым ці парабкам павінна была па-беларуску. Апрача таго, пад Слуцкам, Мсціславам і Пінскам засталіся вялікія кусты праваслаўнай шляхты. Пра тое, якая колькасць шляхты ў 1897 г. карысталася толькі беларускаю моваю, глядзі вынікі перапісу 1897 году па губернях.

5. Беззямельная шляхта арандавала зямлю ня толькі ў магнатаў, але ва ўсіх, хто яе здаваў у арэнду, уключаючы сялян.

6. Для такой тэмы рэдакцыя павінна даць значна больш месца, чым дала зараз.

2.XI.1973 Улашчык
*Машынакопія. Там сама.*

* * *

## Пути шли через Белоруссию*

«Записки» путешественников, в разное время проезжавших через Белоруссию, не используются историками Белоруссии. В большой мере это зависит от того, что этот вид источников не только пока что не получил специальной оценки, но о нем вообще мало что известно.

Началу изучения «Записок» положили два известные в своих областях специалиста, один из которых является литературоведом — это сотрудник Института литературы Академии наук БССР А.О.Мальдис, второй специализируется по истории медицины — В.П.Грицкевич, проживающий в Ленинграде. Правда, книга написана и оформлена не как научное исследование, а как популярное

* Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс. Шляхі вялі праз Беларусь. Нарыс. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1980; тыраж 9000, цана 60 кап.

издание, предназначенное для юношества, но она весьма полезна и для специалистов, занимающихся изучением разных сторон жизни Белоруссии.

Главное внимание в книге сосредоточено на работах иностранцев, которые проезжали через Белоруссию, но частично использованы и «Записки» тех, кто длительное время жил в Белоруссии и был даже уроженцем этой страны (Гваньини, Мейер, Сырокомля и др.). В целом же в «Путях» использованы труды около сотни различных авторов, писавших в конце XV — XIX ст. Из наиболее ранних в монографии использованы «Записки» Ланноа, Барбаро; за XVI ст. — Герберштейна, Гваньини, Поссевино, Гейденштейна; за XVII ст. — Олеария, Мейерберга, Корба, П.Толстого; за XVIII ст. — Кокса, Жилибера, Бернулли, Мейера, Форстера, и для XIX (первой половины) — Севергина, Джонстона, Арсеньева, Крашевского и других.

Заметки наиболее ранних авторов, уроженцев Западной Европы, сосредоточены главным образом на внешних сторонах жизни, в частности они много писали о природных условиях — о лесах, реках, дорогах, отмечая необычайное изобилие дичи и рыбы. За более позднее время, в особенности за конец XVIII — начало XIX ст. масса сведений становится большей и причем гораздо более разнообразной.

Так, ряд авторов (Шульц, Джонстон, Сырокомля и др.) дали описание крестьянского жилья; о крестьянской одежде писали Джонстон и Бошняк, о питании — Мейер и Севергин. Некоторые из путешественников отметили, какие товары вывозились к морским портам по рекам Белоруссии, а также дали описание речных судов. Отдельные авторы оставили записи по таким вопросам, как театр Огинского в Слониме, а также Гродненский театр (Бернулли, Форстер). Не обошли вниманием путешественники и такого явления, как группа мануфактур, созданных А.Тизенгаузом в Гродно и окрестностях этого города, а также и тех собраний книг и картин, которые имелись у Радзивилов, Сапег и других магнатов.

В какой мере достоверны сведения, оставленные путешественниками? В этом смысле они очень разнообразны, что зависело от самых разных причин. Так, записи естествоведов — ботаников, геологов, людей с высокой квалификацией, даны на уровне науки того времени. Гораздо более субъективны данные о городах, как о их внешнем виде, так и о размерах. В частности, можно сослаться на тот случай, когда стольник Петр Толстой определил число домов в Могилеве (конец XVII ст.) в 30 тыс. В таком большом городе число жителей на дом должно быть не менее, чем 10. Значит, в 1697 году в Могилеве, по данным Толстого, должно было жить 300 тыс. человек. Это очень большое преувеличение. Сомнительно, чтобы путешественники могли дать отчетливое описание питания населения. Гораздо более достоверными должны быть данные о состоянии путей сообщения, а также средствах передвижения, в частности описания разного рода речных судов.

Работа В.П.Грицкевича и А.О.Мальдиса показывает, что создававшиеся в течение столетий «Записки», авторами которых были лица из разных стран, разных убеждений, разного культурного уровня, дают возможность более детально уяснить различные стороны жизни в давнопрошедшее время, чем это возможно сделать, не пользуясь «Записками».

Отмечая достоинства работы, следует сказать и о ее недостатках. Нам кажется, что важнейший из них касается языка. Так, на с. 31 сказано, что мост был «на сваях». По-белорусски это должно быть «на палях». Авторы везде употреб-

ляют слова «алеі» (83, 142), тогда как следует писать «прысады». Вместо белорусского «стрэльба» (с. 90) написано «ружжо»; вместо « бровар» — «вінакурны завод» (с. 146). О мельнице сказано, что она была «на шасці паставах» (с. 219). В Белоруссии размер мельницы определялся не поставами, а колесами, следовательно, следовало писать «на шасці колах». Иногда встречаются недочеты иного плана. На с. 12 авторы говорят, что Ю.Крашевский приводил отрывки из описания кобринского замка 1597 г. В этом случае можно было сослаться на само описание, тем более, что «ревизия» кобринской экономии проводилась в XVI в. два раза: в 1563 и 1597 гг. (см. «Ревизия кобринской экономии», Вильна, 1876 и Акты виленской комиссии, том. XIV, Вильна, 1888).

Эти недочеты, досадные сами по себе, не могут испортить впечатление от всей работы. Припомним еще раз, что это первый опыт обобщения «Записок» за такой длительный период, опыт, потребовавший изучения многочисленных произведений на шести языках.

19.VI.1981

*Машынакопія. Аўтограф.*

* * *

## «Мужык» Янкі Купалы

1. У 1863 г. «галоўны начальнік краю» — М.М.Мураўёў загадаў сабраць усе кнігі на беларускай і літоўскай мовах, надрукаваныя польскаю графікаю, якія былі ў віленскіх кнігарнях, і спаліць. Адначасова загадаў сабраць рукапісы на тых самых мовах, што знаходзіліся ў друкарнях, і таксама спаліць.

2. Гэта ня быў урадавы закон (такога закону ніхто дагэтуль не знайшоў), але спаленне і забарона друкаваць дзейнічала і без закону, у выніку чаго беларускі народ застаўся без свайго друкаванага слова на працягу 42 гадоў.

3. Тое, што на працягу гэтых 42 гадоў з'яўлялася ў друку аб Беларусі і беларусах сцвярджала, што беларусы — гэта адны «мужыкі», што яны слабыя, некультурныя, пакорлівыя і што ўсё гэта вынік шматгадовага прыгнечання іх польскімі панамі. Галоўным паказьнікам «мужыка» зьяўляецца яго мова: мешаніна рускай з польскаю.

4. Сярод аўтараў, якія з найбольшым імпэтам пашыралі такія погляды, ці не галоўнае месца належала прадстаўнікам духавенства, у прыватнасці папоўскім сынам, якія атрымалі адукацыю ў духоўных семінарыях ці акадэміях.

5. Умовы, якія стварыліся ў канцы XIX — пачатку XX ст. далі магчымасць некаторым з вясковай моладзі («мужыкоў») пакінуць вёску і знайсці работу настаўніка, тэлеграфіста ці што-небудзь падобнае.

6. Частка гэтай моладзі старалася як мага скарэй зрачыся сваіх «мужыцкіх» адзнакаў, але знайшліся і такія, хто пайшоў проці плыні, хто не захацеў быць «палупанкам», хто лічыў, што «мужык» таксама чалавек, як і іншыя. Рэвалюцыйны ўздым пачатку XX ст. спрыяў хуткаму ўзросту колькасці такой моладзі.

7. Усякі, хто ставіўся за «мужыка», павінен быў ператрываць кпіны, зняваrу, злосць. Такое мог вытрымаць толькі моцны духам, той, хто адчуваў свой абавязак перад сваім народам.

8. Купала быў першым, хто ня толькі з усёю сілаю сказаў, што ён за «мужыка», але і сам назваў сябе мужыком, і сказаў гэта на мужыцкай мове. Купала

пайшоў за тое, што багатыя і культурныя так ганьбілі. Так мог зрабіць чалавек вялікай сілы і вялікага таленту.

9. Купала не толькі геніяльны паэта, але і герой.

15.IV.1982

Памета ў верхнім куце злева: «Даклад, які не зрабіў».
*Машынакопія. Аўтограф.Там сама.*

* * *

## Заўвагі на раман Леаніда Дайнэкі «Меч князя Вячка»

Нам надта патрэбны раманы (аповесці) на гістарычныя тэмы. Мы надта кепска ведаем сваю гісторыю, а тое, што пішуць вучоныя гісторыкі, звычайна падаецца так суха, ці нават нудна, што павялічыць нашыя веды цяжка, ці нават немагчыма. Таму трэба вітаць усё, што з'яўляецца ў друку, зразумела спадзяючыся, што будзе напісана цікава.

Дайнэка ўзяўся адбіць надта цяжкую пару, ды нават з гэтай цяжкай крануў той раён, які «забяспечаны» крыніцамі ці ня меньш за ўсе іншыя. Пры нашай беднасці на гістарычныя крыніцы аўтару трэба вельмі ўважліва знаёміцца з тымі археалагічнымі матэрыяламі, якіх зараз здабылі нямала, а з пісьмовых крыніц прабаваць высвятліць з больш позьніх дадзеных, каб узнавіць умовы значна больш ранняга часу.

Што (мне так здаецца) патрэбна будзе змяніць аўтару, ці ва ўсякім разе перагледзець. Кукейнос. Латгалія. Значыцца, трэба ведаць ня толькі пра Полаччыну, але і пра латгалаў, пра іх будынкі, адзенне, звычаі, зброю і г.д. Якая была тэрыторыя (плошча) Кукейноса? Пэўна ня большая, чым у Мінску! А зважаючы на Мінск цяжка ўявіць, што ў самым горадзе (замку) магло адбыцца коннае спаборніцтва: ня было дзе разагнацца, ня ставала месца.

Браціла з тэўтонам ідуць па вуліцы замка ў дождж, рукі ў Брацілы ў гразі, але калі выходзіць з варот жанчына, то Браціла кладзе ёй на плячо руку, але жанчына ня крычыць, як гэта павінна было б стацца ў сапраўднасці.

Князь едзе ў сваты ў Сьвіслач да князёўны. Па аўтару, Сьвіслач, куды прыехаў князь, знаходзілася на Беразіне. Такое месца было і ёсць пры вусці Сьвіслачы, але князь сьвіслацкі быў ня ў гэтай Сьвіслачы, а ў нёманскай, куды і трэба было адправіць Вячка. Дарэчы, у такім разе ён праехаў бы праз Гародню, а пра Гародню таго часу ёсць багаты матэрыял, які аўтар і павінен быў скарыстаць.

Трэба ўважліва і капітальна пераглядзець мову і ў сэнсе слоўніка і сінтаксісу (між іншым, ніякога Крыве-Крывейте ніколі ня было. Пра гэта ў Любаўскага, у «Очерках»). Сава ўзлятае так ціха, што гэтага ня чутно, нават калі ўзлятае над галавою (72). У іншых крыніцах нідзе слова «абшчына» няма. Гэта «грамада» (73). Няма слова «свяцец», а быў «лучнік». Няма «чырвоны кут», а ёсць «кут» ці «покут». Хаты ў нас з асіны калі дзе і будавалі, то вельмі рэдка; звычайна — тым больш у той час — з сасны (73). «Чур» можа і было, але у нас казалі «цур» (цур ямка — у дзіцячай гульні).

Подкур сам бачыў ў 1926 г. на Сьвіслачы, пры вусці Сіняй. Гэта пляцоўка з расколатых папалам уздоўж сасновых плахаў, наслана пляцоўка метры тры ад зямлі ў два насцілы, упоперак адзін другому. Уніз часта набіты дубовыя завос-

траныя калкі. На гэтай пляцоўцы і стаялі калоды, у той час ужо пустыя (74). Магерка прыйшла да нас з Венгрыі не раней, як у XVI ст., у час Вячка іх ня было (75). «Верхавы», павінна быць «коннік» (81). Мне здаецца, што пустэльніка трэба адкінуць. Гэта надта нятыповая для нас постаць (на Беларусі ўвесь час знайшлася адна святая пасля Еўфрасіньні — князёўна Слуцкая; дарэчы яе мошчы і зараз у саборы). «Вурдалак», павінна быць «нячысьцік» ці «ваўкалака» (95). «Нясцерпна-бліскучы», «куды конь з капытом», «смеласць гарады бярэ» — усе гэтыя выразы даўно заежджаныя; аўтару трэба грунтоўна азнаёміцца хаця б з трэцім томам Фэдароўскага. Скрозь у нас ужываецца імя «Георгі». Зусім недарэчна. Па народныму гэта Юрай (107). Гарлапаны, с.109. Домніца (123). У нас гэта рудня.

Жадаю аўтару ўсяго самага лепшага, але трэба больш уважліва адносіцца да мовы.

8.V.1985

*Машынакопія. Там сама.*

## Зацемка з апошніх*

3 верасня 1986 г.

Ня ведаў, чаму сёння ўзнікла патрэба запісаць тое, пра што пішу. У Мінску, ведама ў ЦК узнікла ідэя напісаць шматтомную гісторыю Беларусі; спярва хацелі даць восем тамоў, пасля пагадзіліся на пяці. Зразумела таксама, што на дасавецкі перыяд праектавалася даць два томы — меньш ніяк было нельга.

Праз некаторы час (а можа і да таго) мне паведамілі, што дырэктар Інстытуту гісторыі АН Беларусі знаходзіцца ў Маскве і хоча сустрэцца. Здаецца, нават паведамілі, што справа ідзе аб удзеле ў рабоце над шматтомнаю «Гісторыяю». Разам выклікалі (і запрашалі) і Індаву, бо яна хоць ніколі і не займалася праблемамі Беларусі, але паходзіла з пад Клімавіч, а гэта, відаць, азначала, што яна такі была спецыялісткаю па гісторыі Беларусі.

Мы паехалі ў гатэль «Маскву», дзе спынілася Каменская. Яна была разам са сваім мужам — Каменскім, намеснікам старшыні Савету міністраў, родам ён быў недзе з пад Галіцына ці Адзінцова, адным словам з Падмаскоўя. Каменскія займалі два ці тры пакоі. Размова была кароткая — Каменская сказала, што без нас адрэдагаваць ужо напісанае нельга, мы павінны дапамагчы. Тое ж неяк яна сказала на паседжанні ў Мінску.

Нам далі тоўсты рукапіс першага тому, які мы павінны былі чытаць па чарзе і рабіць свае заўвагі. Першаю ўзяла Індава. Яна прачытала старонак 80 ці 100 і перадала рукапіс мне, сказаўшы, што пасля возьме, каб прачытаць больш грунтоўна, але больш ніколі ня брала і ня чытала. Гэта было разумна, бо я, узяўшы том і прачытаўшы яго, напісаў прыблізна 80 старонак заўвагаў рознага толку; машынапісных старонак — мае запісы занялі старонак 30. Гэта было зусім наіўна, бо ніхто гэтых запісаў не глядзеў, а «галоўны» тому К.І.Шабуня калі ня выкінуў, то проста недзе засунуў так, што ніхто пасля не знайшоў. Абудвым нам гэта было запісана ў спіс прац. Разумная Індава пасля доўгі час казала ў Інстытуце (а можа і яшчэ дзе), што вось нам з Улашчыкам далі кучу гною, з

* Загаловак — укладальніка.

якой мы зрабілі кнігу. Л.Л.Мураўёва, прыяцелька Індавай, таксама колькі раз казала, што «Гісторыю» з нічога зрабілі мы ўдваіх.

Дапісана рукой аўтара: «Зараз, часам пераглядаючы некаторыя старонкі «Гісторыі», дзіўлюся дзеравенскай мове і няўклюднасці ўсяго тэксту. Чытаць усё гэта можна па абавязку ці пад прымусам».

*Машынапіс. Аўтограф. Асабісты архіў укладальніка.*

# II. МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК ВА ЎСПАМІНАХ СУЧАСНІКАЎ

Антон Адамовіч

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

***[фрагменты]***

Наконец нам объявили постановление коллегии ОГПУ: мне ссылка на 5 лет в Глазов, Улашчыку — в Нолинск на тот же срок. Мы пожалели, что не вместе, и всё время строили самые мрачные планы, как мы будем прозябать там, в медвежьих уголках, целые пять лет молодой жизни... В камере, однако, нас все поздравляли с мягким приговором и даже завидовали: большинство предполагало себе не меньше, чем концлагерь, а многие уже имели такие приговоры. Помню, как раздражали нас эти поздравления и зависть: мы всё-таки считали себя невиновными и жертвами...

Наступил и этап, при отправке на который я встретился со своими друзьями Бабарэкам и Дубоўкам и новым приобретённым другом Зяньковічам. Дубоўка считал, что нас ссылают из-за провала версии СВБ (нельзя же было, мол, после такого долгого держания в тюрьме выпустить нас и этим фактически признать провал обвинения и несправедливость его), что нас продержат в ссылке недолго и мы опять вернёмся и будем работать так же, как и работали. Считая всё время Дубоўку чрезвычайно проницательным политически, я вполне доверился такому объяснению, и оно меня окончательно ободрило. Все мы решили морально поддерживать друг друга, не терять из вида, а для этого — поддерживать переписку. По сути и объективно это было решением держаться организованно и поддерживать связи объективно-организационного характера, причём уже более широкие, так как переписку я уговорился вести не только с друзьями-литераторами Дубоўкам и Бабарэкам, но и с новыми друзьями-нелитераторами Зяньковічам и Улашчыкам. С таким решением я и отправился на этап и начал новую, ссыльную главу своей жизни, затянувшуюся до сих пор.

В первые же дни по выходе на волю в Глазове я отправил открытки во все концы — и Бабарэку, и Зяньковічу, и Дубоўку, и Пушчу. Постепенно по прибытии их на места получались ответы, и так завязалась очень оживлённая вначале переписка. Оживлённее всего она была у нас с Зяньковічам, но быстрее всего и прекратилась. Зяньковіч попал в плохие условия: он не мог найти ни работы, ни квартиры, занимался физическим трудом, ютился где-то на чердаке. Вначале он бодрился и не унывал, но постепенно, особенно когда у него заболела

(или даже умерла, точно не помню сейчас) мать, пессимистические нотки стали проявляться всё чаще и сильнее... Я сообщал Зяньковічу о житье-бытье всех нас, а также Бабарэкі, Дубоўкі и Улашчыка, с которыми вёл переписку. Он сообщал мне про себя и про Мурашку, которого я немного помнил по техникуму, где он учился на три курса старше меня, и с которым Зяньковіч вёл переписку. Однако после получения работы я не имел возможности отвечать ему быстро и полно, также и от него стал получать ответы реже, и после неполучения мною ответов на несколько писем к нему, адресованных до востребования на вокзал в Кострому (другого адреса он мне не давал), прекратил переписку и потерял его из виду. Только в самое последнее время Улашчык, живущий теперь в Иваново-Вознесенске, написал мне, что там же живёт и Зяньковіч — свободен и шлёт мне привет. Отвечая Улашчыку, я просил его передать краткую записку Зяньковічу, где также приветствовал его и предлагал возобновить прерванную переписку. Однако ни от Зяньковіча, ни от Улашчыка до сих пор никакого ответа не получал.

Следующим моим корреспондентом был Улашчык. В своих недлинных, но частых письмах он сообщал мне как о своём неважном положении (ему не удалось найти более-менее постоянной и приличной работы), так и о таком же положении жившего в Уржуме и имевшего с ним переписку больного туберкулёзом и вскоре от него умершего нашего поэта-«узвышэнца» Ул.Жылкі. Сообщал он мне и некоторые новости из Минска, в числе которых помню присланное мне им напечатанное в белорусской прессе стихотворение — отречение от национал-демократизма Дудара, которое Улашчык расценивал как отвратительное. В этом я вполне был с ним согласен: Дудар был мне известен и как заклятый враг «Узвышша» и как морально-невысокая личность, а здесь он был ещё в моих глазах простым предателем всего белорусского (так, стало быть, к этому времени отождествилось для меня национал-демократическое с белорусским вообще). Письма Улашчыка, проникнутые тогда неунывающим юмором по отношению и к своим неудачам и бедам и по отношению к описываемым им землякам, с которыми он общался (особенно мне помнится забавное описание путешествия выпущенных в Вятке нацдемов на лодках по реке Вятке на места своего следования — в Нолинск, Малмыж, Уржум, когда все переругались друг с другом, обвиняя друг друга в национал-демократизме и делая попытки утопить друг друга в реке), всегда меня веселили, и я ему ответил так же. Помню также, что советовал переходить на преподавание математики, которую он всегда не любил и называл «касторкой», и был очень рад, когда он всё-таки поступил по моему совету и стал преподавателем этой «касторки»...

Нашу переписку вскоре оборвал арест Улашчыка, о котором я узнал значительно позже.

Наконец я получил работу — мне предложили преподавать немецкий язык в неполной средней школе №1, и я за это взялся. Однако уроков у меня вначале было немного, и время для того, чтобы не только не прекращать, а расширять переписку, было достаточно. Как-то в средине зимы Азбукін сообщил мне, что Улашчык уже освободился из концлагеря и поехал в Ташкент. Тут-то меня потянуло опять к Улашчыку, к нашей дружбе и прерванной переписке, тем более было интересно теперешнее настроение Улашчыка и пройденная им школа лагеря. Я написал открытку, он ответил. Жаловался, что не может никак устроиться на работу, но чувствует всё же себя на свободе отлично. Так как в то время в Кирове сравнительно легко можно было устроиться на работу даже в

нашем, всегда вызывающем опасения, положении, а человеку свободному — тем более, то я и предложил Улашчыку приехать сюда, где он сможет легко устроиться, а потом, после нашего освобождения, в которое я твёрдо верил, мы с ним вместе можем выбрать какой-нибудь город и поселиться там. Моё предложение поддержал Азбукін (или он его сделал, а я поддержал, — точно сейчас не помню), и Улашчык, посетив после Ташкента Минск (где, между прочим, навестил и моих родителей, очаровав их своей симпатичностью), прибыл в Киров.

В первых же его рассказах главным было восхищение новым Минском одновременно с сожалением о том, что нам теперь нельзя там жить. Говорил, что старые знакомые при встречах в большинстве не узнают и отворачиваются (как, например, Крапіва-Атраховіч), что нашёлся только какой-то один чудак Пшанічны, учившийся вместе с Улашчыкам и Аніхоўскім, который встретил его радушно и даже спрашивал о житье-бытье Аніхоўскага. Говорил также, что в Минске опять начались аресты и сидят уже некоторые литераторы (Шукайла, Маракоў будто бы), а также и сотрудники Академии Наук и университета. О своём пребывании в концлагере не распространялся, говоря, что там всё то же что мы с ним переживали в Бутырках, только несколько свободнее в смысле передвижения и веселее при работе. Конечным выводом его было горько-ироническое: надо нам всем сделаться русскими и даже переменить фамилии на «Суслопаровых» или «Чернядьевых» (как звала квартирная хозяйка Чарнушэвіча), Белоруссия обходится и без нас, и ей не нужны и никогда нужны не будем...

Хотя я и видел в этом скрытое националистическое раздражение, но молчал... А с тем, что Белоруссии мы не нужны, я давно был согласен.

Улашчык, поселившись у Азбукіна, быстро воспринял и его систему жизни, состоящую в перманентном ухаживании за всевозможными индивидуумами женского пола без различия возраста, внешних и внутренних данных. Так как я не мог в этом с ним соревноваться, то мы стали встречаться реже. Так и Улашчык оказался иным, не тем... Но всё же он не мог не будить в моей психике старых ноток, образов того старого, которое я уже в своём сознании от себя отбрасывал...

А назавтра исчез Аніхоўскі... Об этом сообщила, прибежав к нам, его жена, встревоженная и взволнованная. Мы не могли ничего понять и считали это несерьёзным (я, например, думал, что он получил освобождение и на радостях запировал со своими приятелями — собутыльниками по пивзаводу, — так я и говорил после её ухода Адаму и другим). Аніхоўская же была уверена, что с ним случилось что-то нехорошее. Накануне его вызвали, беседовали, и он пришёл домой в угнетённом состоянии духа, но о содержании беседы не сказал жене ни слова. «Вот увидите, что ему будет хуже, чем вам. Пусть бы уж хотя как вам», — твердила она.

Все, кто узнавал эту новость, недоумевали. Кто-то — или Азбукін, или Улашчык — высказал предположение, что Аніхоўскі получил освобождение, взял бумажку в другой город и сбежал от жены, с которой у него иногда бывали нелады на почве его пьянства последнего времени.

Наконец выяснилось, что Аніхоўскі арестован. Первым из этого сделал вывод Улашчык. «Вероятно, ему вспомнили то, что когда-то меня обнаружили у него на квартире в Слободском», — высказал он свою мысль, подтверждая этим косвенно и мои предположения о причинах полученной мною добавки. Его объяснение было принято всеми и, вероятно, разделяется всеми и по сей день.

Недолго думая, Улашчык взял расчёт на работе (между прочим, довольно приличной с материальной стороны и с трудом им полученной), не успел даже

получить облигации и взносы в кассе взаимопомощи, оставив мне доверенность на предмет их получения (которую я, впрочем, тут же потерял по своей рассеянности в те дни, вызванной неожиданным продолжением моего срока), и уехал в Горький. Провожали его на вокзал я и Азбукін, выразили надежду встретиться ещё когда-нибудь, он просил никому не сообщать о том, куда он уехал, что я и выполнял до сих пор.

Позже Улашчык прислал мне две открытки из Ново-Вознесенска, я ответил ему на первую, но из второй было видно, что он моего ответа не получил. Ответил и на вторую (о чём писал уже в своём месте), но ответа от него до сих пор не получил. Он писал, что работает в техникуме, но в каком и какой предмет ведёт, не писал, упоминая только, что работает много. Сообщал, что в Иванове есть наши, все освобождённые, но называл фамилию только одного Зяньковіча (об этом я писал уже тоже). Спрашивал про Аніхоўскага, я ответил, что по-прежнему сидит.

1935 г.

*Паводле: Адамовіч А. Творы. Нью-Ёрк: Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, 2003.*

* * *

Тамара Аросева

## СТРАДА АСПИРАНТА

Краткая предыстория того, как Николай Николаевич Улащик (Н.Н.) оказался в Москве. В 1938 году опальный изгнанник работал учителем начальных классов в деревне Дергачи недалеко от Саратова. После пятилетней ссылки в Нолинск под Вяткой, затем в исправительно-трудовом лагере Сибири он, опасаясь нового ареста, взял за правило каждый год менять место жительства, чтобы «не засветиться», застраховаться от стукачей. Тактика вполне оправдала себя, помогла ускользнуть от сыскных органов. Большинство же его соратников по изгнанию, сосланных по делу «Союза вызволенья Беларуси», особенно в 1937—38 гг. и позднее, были вновь арестованы и погибли. Та же участь неминуемо постигла бы и Улащика.

Летом 1938 г. к нему в Дергачи приехала Наталья Марковна Шамарина (Н.М.), и они окончательно решили соединить свои судьбы. Отдадим должное мужеству молодой женщины в то опасное время. К осени 1939 г. Н.Н. смог добраться до Ленинграда, где его жена работала сотрудником Физиологического института им. Павлова (ФИНа). Возглавлял ФИН Л.А.Орбели — ученик и преемник И.П.Павлова, признанного главы мировой физиологии, после его смерти в 1936 г. В Ленинграде Н.Н. удалось устроиться учителем истории в среднюю школу и даже сдать вступительные экзамены в аспирантуру.

22 июня грянула война. Еще накануне войны город начали «зачищать» от ненадежных элементов, включая «белобилетников», к коим относился и Н.Н. Оказавшись в казарме на военных сборах, он заболел там двусторонним воспалением легких с температурой за 40° и прямо из госпиталя попал в ленинградскую тюрьму. Из воспоминаний Н.Н.:

«В ночь с 6-го на 7-ое подняли сразу после полуночи: «Давай с вещами!» На рассвете мы оказались где-то на путях. Ждали поезда. В вагонах нары в два

этажа, ничем не прикрытые. Все очень нервничали: тут и арест, тут и война, а как она идет, никто не знает. В дороге были 11 дней, и привела она за решетку в Златоусте, где бульшую часть срока Н.Н. провел в тюремной больнице.

К тому времени Н.М. вместе с ФИНом им. Павлова уже находилась в эвакуации в Казани. В отчаяньи, вопреки всему, без сомнений и колебаний бросилась она на спасение мужа. И к кому она обратилась за помощью? Конечно к Л.А.Орбели — человеку большой души и мужественного сердца, не раз приходившего на помощь безвинно пострадавшим. Сразу же откликнулся Орбели на крик души своей молодой сотрудницы и... обратился с прошением об освобождении Н.Н. к самому Берии. А в сентябре 1942 г. дополнительно отправил письмо в Особое Совещание при НКВД. Благородное и решительное заступничество известного ученого, вице-президента АН СССР несомненно помогло вызволить Н.Улащика из заключения, хотя согласно Постановлению Особого Совещания ему предстояла высылка на 5 лет «в один из отдаленных районов Новосибирской области». Добавим, что тюремные власти просто выбросили за ворота полуживого «доходягу», больного туберкулезом. Попробовал он идти — и не мог. Но судьба вновь хранила его: на помощь пришел один «добрый человек», который буквально дотащил Н.Н. с его нехитрым скарбом до ближайшего дома. Улащику рано было умирать!

Первые числа декабря 1942 г. Мороз. Пронзительная стужа. Освобожден, но в нем чуть теплится жизнь. А измученная душа рвется в Казань, к жене. Но нет, не мог и не хотел Н.Н. в полуживом состоянии и с единственным документом — лагерной «освободительной» справкой явиться в Казань. На пути между Златоустом и Казанью оказался в Татарии, под Бугульмой, где работал лесничим его старший брат Иван. Туда же, на помощь брату, приехала его младшая сестра Ольга, которой удалось достать для Н.Н. спасительный документ — фиктивную справку о якобы эвакуированном из блокадного Ленинграда. Легенда вполне подтверждалась полуживым видом просителя. Несколько восстановив стараниями сестры почти угасшие было силы, в мае 1943 г. Н.Н. вместе с сестрой отправились в Казань. Семья ненадолго воссоединилась. Почему ненадолго? Объяснение находим в воспоминаниях самого Н.Н.:

«С октября начал работать преподавателем истории в Медицинском училище, находившемся рядом с домом. А тем временем Н.И.Михельсон, ближайшая из Наташиных приятельниц и одновременно что-то вроде домашнего секретаря Орбели, начала толкать меня: «Что Вы тут сидите. Чего тут дождешься. Надо поступать в аспирантуру в Москве». Легко сказать: в Москву, в аспирантуру! У меня было все, чтобы не попасть туда, и ничего, чтобы попасть. Прежде всего уже прошел возраст, в котором принимали в аспирантуру — 37 лет. Потом у меня не было обычного паспорта. ... Меня просто могли не пустить в Москву. Затем надо было сдавать вступительные экзамены. <...> Наконец, был-таки слаб, и стоял вопрос, где жить в Москве. Сам по себе преодолеть эти препятствия я никак не мог, убедила настойчивость Надежды Исаевны». Заручившись принципиальным согласием Орбели, она договорилась с заведующей аспирантурой в Москве не требовать от Н.Н. сдачи вступительных экзаменов, хотя документов о сданных перед войной в Ленинграде экзаменах у него не осталось. Кроме того, от В.И.Пичеты, член-корреспондента АН СССР, в прошлом ректора Белгосуниверситета, была получена необходимая рекомендация. Удалось достать и «чистый» паспорт, без которого никак нельзя было появляться в столице. Настала пора отправляться в путь, хотя и не без опасений. Все, кто был рядом с Н.Н. в Казани, решительно

настаивали на его отъезде. И жена, и ее друзья-коллеги по ФИНу, узнавшие Н.Н. еще в Ленинграде и по рассказам Н.М., были убеждены в его потенциале ученого, в том, что научная стезя — его призвание. Вполне вероятно, что об этом шел разговор на последней в Казани встрече нового, 1944 года на квартире Орбели, где присутствовал и Н.Н. И снова мужу и жене приходится прощаться. И вновь разлука... На этот раз они прожили вместе около восьми месяцев.

Москва. Миновали две страшные зимы с воздушными тревогами, бомбежками. Город стал приходить в себя. В результате налетов были уничтожены или повреждены сотни домов. Но уже в 1943 году население города стало быстро расти: вернулись из эвакуации многие учреждения, москвичи, было много беженцев. Людей тянуло в Москву со всех концов, жили и в полуподвалах. Теснота, грязь, отсутствие мыла и белья. По заснеженным улицам в сугробах неубранного снега многие ходят в валенках, ватниках, кацавейках, шинелях, Как и по всей стране, москвичи отоваривались по карточкам. Аспирантам выдавались карточки служащих и небольшая стипендия.

И вот 13 января 1944 года Н.Н. на Казанском вокзале столицы. Об этом он напишет позже в своей «Хронике»: «...Приехав в Москву, из вагона ступил в лужу, была оттепель. <…> Вечером пошел по данному мне адресу с письмом, где просили устроить меня на пару дней. Хозяйка пришла вечером. Увидев меня и прочитав письмо, она стала истерически выставлять меня за дверь. Доводы ее были основательными: в такое время, когда каждый день можно ждать прихода милиции, пускать незнакомого человека значило накликать на себя беду. Кроме милиции имелись в виду разные насекомые, которых занести из вагона было очень легко. Разгневанную тетку едва уговорили, с тем что я рано уйду. Переспав, пошел в Академию оформить в первую очередь продуктовые карточки. После этого снова нужно было искать, где переночевать». В конце долгих мытарств Н.Н. удалось-таки устроиться на время на Садовой. Но продолжим его рассказ:

«Через несколько дней пошел к Пичете (в то время зав. сектором в Институте истории АН СССР и зав.кафедрой истории южных и западных славян в МГУ). Он тогда жил в одной комнате на Остоженке. Эта комната была рабочим кабинетом, библиотекой и кухней.» Разговор был коротким. Пичета сказал аспиранту, что его руководителем назначен Бережков и что с ним надлежит обсудить план занятий. Предстояло сдать четыре экзамена: два устных по истории, философию и хотя бы один иностранный язык, а также написать исследовательскую работу по указанной теме. Вспомним, что с момента окончания университета прошло 15 лет! Годы тюремно-ссыльной «жизни» отняли у Н.Н. не только физические силы, здоровье. Невыносимые моральные страдания не могли не оставить свой след. Но не удалось сломить Улащика! И сейчас, на свободе он вновь в начале своего пути в большую науку. Однако представим, как трудно было не столь уж молодому аспиранту, правда с богатейшим жизненным опытом, оказаться рядом с только что окончившими вузы. Требовательный к себе и вместе с тем неизменно скромный, в той же «Хронике» Н.Н. дал себе слишком беспощадную оценку: «...сознание, что остался недоучкой, осталось.<…> Приехав в Москву, почувствовал это очень остро, особенно когда познакомился с теми, кто окончил Московский университет. Они запросто могли говорить о предметах и авторах, про которых я ничего не знал и даже не слышал. <…> Но это не значило, что все нужно бросить и ехать назад в Казань. Об этом не было даже и мысли». Его вывод — все преодолеть, наверстать, догнать!..

Через 3—4 месяца Н.Н. сдал кандидатский экзамен по немецкому языку,

добавив к нему еще белорусский, украинский и польский. Четыре экзамена за несколько дней, узнаем мы из той же «Хроники», среди аспирантов и администрации института вызвало явное изумление. Несколько сложнее оказалось с письменным экзаменом по истории на тему «Кобринская экономия после волочной померы» — фактически первой серьезной научной работой. Через некоторое время доклад был представлен экзаменационной комиссии и «признан стоящим». Итак, успешно сданы 5 экзаменов. Появилось чувство уверенности, и, взяв небольшой отпуск, Н.Н. поехал в Казань к своей «невенчанной жене». А до этого шли и шли письма. Посылать их приходилось с оказией, что не всегда удавалось. К сожалению, в архиве Н.Н. мы не нашли писем Н.М. к мужу, но и в его ответных письмах-отчетах к ней слышен требовательный голос любящего «сердитого профессора», как в шутку называл он жену, вникавшую во все мелочи его жизни в Москве. Единая жизнь продолжалась и на расстоянии.

Четыре пожелтевших листочка с неровными краями, без дат и окончания — это май 1944 года. Вот в сокращении самое раннее из этих писем:

«Золотко мое, прости, что я долго не писал. Кстати, это третье письмо. <...> Живу, значит так: вернее и двоеточие ставить нечего, живу, как и раньше.<...> Огород получил 100 кв.м. Может, немного больше. В воскресенье ездил осваивать. Был помощником землемера.<...> На завтра пообещали лопату, и в воскресенье, если не будет поливать, еду. <...> Да, ведь в воскресенье годовщина моего приезда в Казань. Как идет время! Посылку получил, деньги тоже. Спасибо, но теперь я проживу целиком на свое. Вчера получил 200 гр. масла русского, 600 гр. растительного, 100 гр. сахару и еще разной чепухи. Картошку куплю завтра или в понедельник. Завтра же иду на вечер грузинской литературы. Михоэлса уже упустил, и через три дня выступает Эренбург. <...> Сижу целые дни. Уже начал писать отдельные главы. Когда-то такая работа называлась ученой, а теперь это 1/6 экзамена. <...> Работу гоню вовсю, хочу через месяц почти прикончить. <...> Держусь пока. Обещают летом дать отпуск. Если меня поместят в общежитие, а ты не уедешь в Ленинград, то может, можно приехать в Казань на месяц, но об этом стоит предварительно сильно подумать. А как у вас с Ленинградом? Так и не едете...»

Не пропустим в этом письме ключевое для Н.Н. слово — «гоню» — именно оно определяло его жизнь в годы аспирантуры. Гнать, догонять, наверстывать упущенное и в профессиональных знаниях, и в общей культуре — это сквозная мысль всех его писем. Не сдаваться! Преодолеть этот рубеж. И жена всеми силами поддерживала его. Работал он с напряжением всех сил, боясь одного: не заболеть, не сорваться. С утра до закрытия сидел в «спасительной библиотеке». Время! Только 24 часа в сутках. Его катастрофически не хватало.

Из письма жене: «В воскресенье ездил копать. Народу тьма. <...> Кроме картошки посею горох, редиску и морковку. Возможно, немного луку. Погода была чудесная (второй пока день, раньше все дожди и холода), в воздухе масса жаворонков, деревья распускаются, лезет трава. Грустно стало как-то. Подумал: что сейчас творит в Васильеве (огород в Казани — *Т.А.*),что думаешь ты, поднимая 6 соток. Ну зачем ты столько набрала?

У нас, по всем данным, будет летний отпуск. Теперь из нас прямо вынимают дух. По 14—16 часов одних лекций и заседания еще по 6—8 часов в неделю. Полдня уходит на это, и подготовка к языкам. Латынь я все же начал». Чуть выше в этом же письме Н.Н. с присущим ему скрытым юмором описывает одно из заседаний:

№ 2

«Дорогой Николай Павлович.

Третий раз год у меня начинается с гриппа. В этом году казалось, что он приличный, но впечатление было обманчиво и сейчас врачи кладут меня в больницу возможно на длительный срок. Из этого следует, что я выбываю пока из состава работающих и в общем быть у Вас редактором не могу.

12.1. 1977 г. Н. Улащик.»

№ 3

«Дарагі Мікалай Паўлавіч.

Другі месяц як жывем каля Мінска ў лесе, сын плаваў недзе на поўначы, хата наша была пустая. А зараз сын вярнуўся і напісаў мне, прышла Ваша кніга. Вітаю Вас з такою вялікаю падзеяю, зычу Вам напісаць і яшчэ некалькі, а зараз дзякую за прысылку.

Жывем у доме пісьменнікаў і за месяц я забыўся цалкам пра Маскву, адвык і гаварыць па-руску. Пішу Вам зараз па-беларуску.

Прывітанне Мыцыку (не памятую(?) як яго завуць). Прабуду тут до 16.Х.

1. Х. 77. Улашчык. Пішу на ун-т, бо дамавы адрас застаўся ў мяне на кватэры».

№ 4

«Дорогой Николай Павлович.

После привольной жизни в Каралищавичах вернулся к работе. Просмотрел Вашу книгу уже в готовом виде, некоторые места прочитал пару раз, потом еще раз. Как необходимы работы такого рода для исследователей, в особенности для начинающих. Ведь кроме оценочного момента публикаций, исследователям прежде всего нужно знать — что издано. Такие работы как Ваша настолько облегчают работу другим, что все они должны приносить Вам благодарность.

Еще раз поздравляю Вас с выходом книги. Поздравляю и с наступающим праздником.

1.XI. 1977. Улащик.»

№ 5

«Дарагі Мікалай Паўлавіч.

Кнігу, якая нарабіла Вам столькі клопату, атрымаў.

Праз паўтара месяцы павінен падаць манаграфію і таму ў адпачынку ў гэтым годзе ня буду. Прывітання Мар. Ів. і Вашым дочкам.

14. VII. 78. Улашчык.»

№ 6

Дорогой Николай Павлович.

Спасибо за книги. Днепропетровск становится источниковедческой столицей Украины. Мне кажется, что сейчас хорошо было бы перейти от обзоров общего характера к монографическим исследованиям относительно небольшого количества источников. Недавно я делал в секторе сообщение о мемуарах Войниловича (том первый напечатан в 1931 г. в Вильно, том второй неизданный, котрого я не видел, находится в Варшаве). Зто помещик средней руки Минской губ., был членом Гос. думы и Гос. Совета, в конце 1920 — начале 1921 г. добивался создания в составе Польши автономной Белоруссии, намереваясь стать прези-

дентом автономии. Если ж меня хватит, то я начну работу над мемуарами, написанными уроженцами Белоруссии. Между прочим, недавно бывший з десь Тадеуш Вишневский подарил мне только что вышедший в Варшаве «Диариуш» витебского воеводы Храповицкого. Том подготовлен на очень высоком уровне (не только генеалогия автора, но даже картографированы пути, по которым проезжал автор и пр.).

Поляки (кроме Василевского были еще Керсновский и Стэфан Кучинский, молодой, из Варшавы) приезжали для того, чтобы договориться о совместном издании Метрики. Здесь подписан договор, что Институты истории СССР и Польши будут совместно издавать Метрику (у нас томы писанные кириллицей, поляки — документы, писанные на польском и латинском языках). Чтобы подготовить для дальнейшего работников, решено организовать в университетах Минска и Вильнюса чтение спецкурсов и спецсеминаров по Метрике, а также постановили напечатать и у нас, и в Польше несколько статей, касающихся Метрики.

Привет Марии Ивановне и Вашим девочкам. 19. III. 1979.»

№ 7

«Дорогой Николай Павлович.

На днях Буганов, узнав о существовании Ваших книг по источниковедению, очень просил прислать ему. Те вторые экз., которые были у меня, я уже раздал.

Если у Вас будет возможность, то вышлите или на мое имя, или (лучше) на Институт — Буганову Виктору Ивановичу.

Привет Марии Ивановне от меня и от Натальи Марковны. Том 35 ПСРЛ идет с превеликим скрипом.

14.1. 1980 г. Н.Улащик.»

№ 8

«Дорогой Николай Павлович.

Поздравляю Вас с Новым годом и надеюсь, что этот год будет годом победителей. Пора. Почему Вы не зашли? Что-то случилось?

Привет от Натальи Марковны Вам, Марии Ивановне и Вашим девочкам.

24. XII. [1983]».

№ 9

« Дорогой Николай Павлович.

Поздравляю с очередным выпуском. Вас, как и других, ВАК карает за добросовестность. Проделать такую работу и не получить за нее степень! А за — не присуждает. Если актуальна. Нат. Марковна полгода как не ходит. Выражаю Вам сочувствие по поводу смерти матери.

На Новый год (.. .)* Новый год. Поздравляю.

24. XII. [19]83.Ул[ащик]

№ 10

«Дорогой Николай Павлович.

Посылаю Вам второй экз. моего отзыва, первый передам Вам, когда приедете сюда. Осталось три недели. Жду.

1.XI. 84. Улащик».

* Незначний фрагмент тексту написаний нерозбірливо. — *Ю. М.*

№ 11

«Дорогой Николай Павлович.

Поздравляю с выходом очередного выпуска Ваших работ и спасибо, что прислали. Посылаю свой оттиск, задержавшийся на 9 месяцев.

Вчера вернулся из отпуска. Ненастная (?) гнусная осень, лето тоже было скверное.

18. IX. 85. Улащик.»

* * *

Ніл Гілевіч

## У ВЯНОК МІКАЛАЮ УЛАШЧЫКУ

Калі б з нас кожны гэтак жыў, як ён,
І роднай мовай даражыў, як ён,
І гэтак жа, як ён, знаў свой народ
І свой уласны беларускі род,
І годнасць гэтак жа высока нёс,
І гэтак мужна ўсе змагаў нягоды, -
О як бы сёння наш свяціўся лёс!
Які б прыгожы ў нас быў плён Свабоды!

1995 г.

# SCORINIANA

Ханс Ротэ

## ВЫСНОВЫ

***[З каментара да «Апостала» Ф.Скарыны]* ***

Пасля знаёмства і параўнання «Апостала» Скарыны з яго крыніцамі і арыгінальнымі тэкстамі можна канстатаваць:

1. Нельга гаварыць пра пераклад «Апостала», ва ўсякім разе пра пераклад з мовы аднаго з арыгіналаў. Скарына, упэўнена кажучы, не карыстаўся грэчаскім тэкстам. Мусіць застацца пад пытаннем, ці разумеў ён грэчаскую мову. Таксама і лацінскі тэкст ён не выкарыстоўваў сістэматычна ў якасці асновы, як гэта заўсёды рабілі чэскія і польскія перакладчыкі. Нягледзячы на некаторыя, большай часткай сумнеўныя выпадкі, спасылка на «Вульгату» не дазваляе бясспрэчна гаварыць пра доказы і з упэўненасцю іх выключае прымяняльна да вялікай часткі прыкладаў.

2. Меркаванне Сабалеўскага (1888 год) і ўсіх, хто ўслед за ім сцвярджалі, што «Апостал» цалкам пераняты з царкоўна-слявянскай крыніцы, не вытрымлівае крытыкі. Скарына скампіляваў свой тэкст з царкоўна-славянскай і чэскай крыніцаў. Калі параўнаць яго «Апостала» з адным з яго пражскіх выданняў Старога Запавету, то даводзіцца здзіўляцца таму, што царкоўна-славянская частка тут здаецца намнога большай, чым у віленскім выданні. Царкоўна-славянская крыніца павінна была быць рукапісам, які, з аднаго боку, быў блізкі да перакладу Мітрапаліта Алексія ад 1354 года, а з другога, належаў да чацьвёртай рэдакцыі ўсходнеславянскага «Апостала» праз супадзенні з рукапісам, які Васкрасенскі назваў Г[еннадзьеўскай бібліяй]2 (1464—1469). Не выключана, што Скарына карыстаўся markznymi рукапісамі асобных кніг (напр., 1. Цім.). Чэская крыніца, якой пасля Уладзіміра (1888) усімі лічылася венецыянскае выданне 1506 году, між тым павінна была быць для асобных частак (напр., Гэбр. 9) іншым тэкстам — бібліяй Куттэн-

* *Hans Rothe.* Zum Apostolos. Wilna 1525. Seine Erforschung und seine Quellen // Biblija ruska, vylohena doktorom Franciskom Skorinoju. Prag 1517—1519. Kommentare. Apostol Wilna, 1525. Facsimile und Kommentar.

берга або першадрукарскім выданнем Новага Запавету. Разам з гэтым, з упэўненасцю можна гаварыць як пра крыніцу «Апостала» Скарыны пра невядомую дагэтуль польскую рэдакцыю Новага Запавету ці асобныя яе кнігі.

3. Існуючае да сённяшняга дня меркаванне аб тым, што Скарына скарыстаў дапамогу чэскага тэкста толькі для таго, каб запоўніць прабелы ў сваім царкоўна-славянскім тэксце, таксама не вытрымоўвае крытыкі. Больш таго, ён амаль у кожным сказе, часам у кожным выразе, нават у кожным асобным слове камбінаваў абедзьве крыніцы. Відавочна, што ён адначасова меў на сваім рабочым стале царкоўна-славянскі рукапіс і старачэскае друкаванае выданне, параўноўваў іх слова за словам і ствараў з іх свой тэкст. Гэта быў яго пераклад.

4. Скарына не толькі сказаў, што ён хацеў стварыць зразумелы простаму чалавеку тэкст, але і паспрабаваў зрабіць гэта. І тое меркаванне, што ён гэтага не зрабіў, павінна быць падпраўлена. Беларусізмы ідуць па ўсяму тэксту, могуць, канечне ж, разглядацца ў якасці мімалётнасці, як, напрыклад, усходнеславянізмы ў Астраміравым евангеллі. Спроба быць зразумелым ляжыць, перш за ўсё, у лексіцы і сінтаксічных зваротах. Пры гэтым ён кіраваўся не жывою беларускаю моваю, як, скажам, Лютэр («заглядаць народу ў твар»), а чэскай крыніцай. Амаль кожны раз, калі Скарына адхіляўся ад царкоўна-славянскага тэксту, каб быць больш зразумелым, ён кіраваўся пры гэтым чэскім тэкстам. Ён следаваў гэтаму, нават калі тэкст даваў яму выраз ці сінтаксічны зварот, якія ў яго сваёй мове ці былі зразумелыя. Гэта бачна толькі тады, калі рэгулярна параўноўваць чэскі тэкст з яго́ным сваім.

5. Нельга поўнасцю пазнаць спецыфіку стылю яго перакладу, калі браць за аснову толькі тэкст Скарыны з яго магчымымі крыніцамі, і ўжо зусім немагчыма, калі браць за аснову толькі сам тэкст. Трэба рэгулярна заглядваць у грэчаскі арыгінал царкоўна-славянскай і лацінскі арыгінал чэскай крыніцаў. Толькі калі тэкст пазнаецца ў такой глыбіні, становіцца ясным, што Скарына ў вельмі вялікай колькасці выпадкаў амаль усюды следаваў у форме мовы і значэнні слова лацінскай традыцыі, якая ясна адхіляецца ад грэчаска-царкоўна-славянскай. Ён быў першы на ўсходнеславянскай моўнай прасторы, хто шукаў аб'яднання гэтых двух традыцый у тэксце найвышшага значэння. Гэта лацінская традыцыя ўсходзіць непасрэдна з «Вульгаты» ці толькі з чэскай крыніцы, якая магла фармуляваць латынізуюча і без прамога ўзору ў лацінскім тэксце. І Скарына, са свайго боку, мог следаваць гэтай лацінскай традыцыі ў сваіх словах ці выразах таксама без прамога ўзору ў чэскім тэксце.

6. Праз гэта «Апостал» Скарыны мае зусім іншую моўную форму, чым дайшоўшыя да нас усходнеславянскія «Апосталы». Гэта адносіцца да лексікі і сінтаксічных выразаў. Лацінскую традыцыю можна пазнаць, між іншым, па пераўтварэнні монаэлектычных формаў дзеясловаў у складаныя групы слоў, грэчаска-царкоўнаславянскіх дзеепрыметных і інфінітыўных канструкцый у даданыя сказы, па замене асобных склонаў праз прыназоўнікавыя звароты, дабаўленні займеннікаў і змены пры выкарыстанні злучнікаў. Такі стыль лацінскай традыцыі можна назваць аналітычнай формай мовы.

7. Погляд у глыбіню крыніц арыгіналаў паказвае і імкненні Скарыны зрабіць тэкст больш разнастайным праз вар'іраванне выразаў. Ён выкарыстоўваў, ізноў жа ў камбінацыі дзьвёх крыніцаў, розныя выразы для аднаго і таго ж слова мовы арыгінала, якія ён лічыў сінонімамі. Рэтарычная патрэба падабацца выдае выпускніка Кракава і Балоны.

8. Разам з гэтым можна пазнаць ужо нават з параўнання першакрыніцаў,

якімі Скарына не карыстаўся, з другаснымі крыніцамі, якімі амаль выключна карыстаўся, што ён вар'іраваў свой тэкст, не заглыбляючыся ў тэалагічныя пытанні і сумневы. Яго сінонімы — гэта ў рэальнасці большай часткай розныя тэрміны, якія павінны былі б розніцца, як яны розніліся ў яго крыніцах.

9. Промахам з самымі цяжкімі наступствамі пры такім абыходжанні з вобразнымі выразамі Variato было новаўвядзенне слова «правда» разам з «істіна» у адносінах да «праўды», у асобных выпадках таксама наадварот — «ісціна» разам з «правда» у адносінах да «справядлівасці»; далей — «мілост» разам з «благодать» у якасці «міласці»; акрамя гэтага, «ласка» — у адносінах як да «любві», так і да «міласці». Гэтыя тэрміны такім чынам набылі двухсэнсоўнасць.Сапраўднае разуменне новатэстаментнага паслання і дасканалае тэалагічнае мышленне былі праз гэта значна ўскладнены. Менавіта гэта, як лічыцца, магло стаць перашкодай і на шляху пашырэння ўплыву «Апостала» Скарыны.

*Пераклаў з нямецкае мовы Віктар Чайчыц*

Генадзь Кісялёў

## БАГДАН ОНКАЎ, ДЗЕЛАВЫ ЧАЛАВЕК СКАРЫНАЎСКАЙ ЭПОХІ

Таварыш поплеч з ім ідзе
І несці кніжкі памагае...
«Тарас на Парнасе»

### *«А НАПІС ПАКАЖА...»**

Яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя дапытлівыя даследчыкі мінулага, заўзятыя аматары кніжных рэдкасцяў, нястомныя вышукоўцы старадрукаў, інкунабулаў і палеатыпаў заўважылі на ўцалелых у віхурах гісторыі экзэмплярах Скарынавых кніг надпісы: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места виленского». Калі асучасніць мову, атрымаецца: «А гэта сталася (здзейснілася, адбылося) коштам Багдана Онкава сына (Онкавіча), радцы (саветніка) места (горада) Вільні». У такой нязменнай форме (часам чытаюць — Онькаў) надпіс паўтараўся на тытульных лістах (як выключэнне — у канцы) многіх кніг. У адным выпадку тэкст больш сціслы, як бы падкарочаны: «А накладом Богдановым Онкович з виленского места». Надпісы зроблены ад рукі вельмі акуратна (прынамсі старанна) ў духу друкаваных літар. Рабіліся яны толькі на першых пражскіх выданнях і не на ўсіх экземплярах, а на частцы тыражу. Гэта кнігі 1517

* Са слыннага купалаўскага верша. Лінгвісты, складальнікі «Слоўніка мовы Купалы», лічаць форму «напіс» запазычаннем з польскай мовы. Але вядома, што гэтую форму любіў і куды больш далёкі ад польскай культуры Я.Колас. А самае галоўнае — слова знаходзім і ў Скарыны, як і ў яго сучаснікаў! Для беларусаў яно не чужое. Вялікія цудоўна адчуваюць архетып мовы і пераклікаюцца адзін з адным праз вякі-стагоддзі.

года Псалтыр, «Іоў», «Прытчы», «Ісус Сірахаў», 1518 года «Эклезіяст» і «Прамудрасць». Усяго, па скрупулёзных падліках спецыялістаў (Г.Галенчанка), захаваўся 71 экземпляр названых кніг з тытульнымі лістамі. На іх выяўлена 19 запісаў, гэта значыць 26,76% кніг з запісамі, або прасцей кажучы, кожная чацвёртая кніга.

Пасля выхаду кнігі «Прамудрасць» (19.1.1518) новых надпісаў такога кшталту на Скарынавых выданнях не было, ва ўсякім выпадку яны невядомыя.

Надпісы выяўлены на ўсіх пражскіх выданнях першапачатковага перыяду хіба за выключэннем кнігі «Песня песням» (9.1.1518), хоць гэтай кнігі ў розных бібліятэках і музеях свету захавалася цэлы дзесятак экземпляраў (з іх пяць з тытуламі).

Даследчыкі з розных бакоў абдумвалі сітуацыю з надпісамі і адначасова па крупінках збіралі звесткі пра таямнічага Багдана Онкава.

Ясна, што надпісы ў спалучэнні з тытульнымі звесткамі фіксавалі ўзаемаадносіны фундатара і выдаўца: фундатар фундаваў, выдавец выдаваў. Няяснасці пачыналіся потым — з наступных пытанняў:

а) Хто ён, фундатар, — бескарыслівы асвечаны мецэнат або проста камерсант-заказчык, дзелавы чалавек, які адчуў магчымасць падзарабіць і вырашыў пагрэць на новай справе кнігадрукавання ўчэпістыя рукі?

б) Чаму надпісы зроблены ад рукі, а не выкананы друкарскім спосабам разам з астатнім тэкстам?

в) Дзе (у Празе? Вільні?) і кім яны, гэтыя надпісы-прыпіскі, рабіліся?

г) Чаму надпісы знаходзім толькі на частцы тыражу?

д) Што азначае іх знікненне?..

Словам, пытанняў было шмат. Гісторыя давала скарыназнаўцам унікальны, рэдкасны шанц пранікнуць у таямніцу з'яўлення Скарынавых кніг, які аніяк нельга было ўпусціць. І вучоныя, умудроныя ў росшуках мужы шчыравалі.

Цікава назіраць, як паступова назапашліваліся веды вакол гэтай загадкі, як сутыкаліся думкі вучоных розных пакаленняў. Навукоўцы ўсіх часоў і народаў складаюць нібыта адно карпаратыўнае цэлае! І ў гэтым сэнсе зусім няважна, што жылі яны ў розныя часы і былі раскіданыя па свеце.

Яшчэ ў далёкім 1813 годзе адзін з заснавальнікаў рускага кнігазнаўства Васіль Сцяпанавіч Сопікаў, апісваючы ў сваім «Опыте Российской Библиографии» (ч. 1) экзэмпляр скарынаўскага «Эклезіяста» з бібліятэкі графа Ф.А.Талстога, пазначыў: «На первой странице сей книги находится следующая подпись: *А тося накладом (иждивением) Богдана Анкова сына, Радци Виленского*. Буквы совершенно сходны с печатными; это заставляет думать, что надпись сия сделана вскоре по напечатании книги».

Звяртае на сябе ўвагу форма «Анкова». Магчыма, гэта рэальны варыянт скарыназнаўскіх часоў (жывая беларуская мова любіць варыянтнасць), а магчыма памылка таго ж Сопікава — праверыць нельга, бо гэты паасобнік з бібліятэкі Талстога да нас не дайшоў.

Археограф і кнігазнавец Аляксей Ягоравіч Віктараў у артыкуле «Цудоўнае адкрыццё ў старажытнарускім кніжным свеце» (1867 год — размова ішла пра сенсацыйную для таго часу знаходку невядомага раней поўнага экземпляра скарынаўскага першынца — Псалтыра) меркаваў, што словы аб Онкаве прызначаліся для публікацыі і толькі «па памылцы не трапілі ў друк». Пазней яму вельмі слушна, лагічна пярэчыў гісторык-славіст Антоній Васілевіч Фляроўскі ў сваёй вядомай манаграфіі «Чэшская біблія ў гісторыі рускай культуры і пісьменнасці» (Прага, 1940—1946): «...як была магчымая такая сістэматычная

памылка пры рабоце больш двухгадовай працягласці? Прыпіскі аб Онькаве ёсць на экземплярах кніг Скарыны рознага часу выхаду ў свет». «Вельмі цікава пры гэтым, — разважаў удумлівы даследчык, — што Скарына праз друк высоўвае на першае месца сваю ўласную ролю ў выдавецкай працы, шмат разоў паўтараючы сваё поўнае імя з прывядзеннем і свайго звання, а Онькаў імянуецца толькі дадаткова на экземплярах біблейскіх кніг і толькі ў рукапісных прыпісках, сучасных, праўда, самому выданню. Складваецца ўражанне, што Онькаў як бы пазней ўступіў у справу, калі ўжо быў закончаны набор і выпуск кніг, гэта значыць як быццам ён ужо гатовае выданне закупіў пасля яго заканчэння, чаму і спатрэбіліся хаця б запозненыя адзнакі, што «то ся стало **накладом** Богдана Онькова сына». Развагі Флароўскага заўсёды вельмі лагічныя, абгрунтаваныя. З імі цяжка спрачацца. Як было ўжо сказана, «накладам» тут азначае «коштам». Онкаў — фундатар. Але размова хутчэй ўсё ж не пра частку тыражу, — можна думаць, Онкаў прымаў дзейсны ўдзел у фінансаванні і арганізацыі усёй велізарнай справы па выданні Бібліі. Акурат так разумеў, напрыклад, сітуацыю дасведчаны бібліяфіл пазамінулага стагоддзя Іван练копавіч Каратаеў, які ў сваім «Апісанні славянарускіх кніг» (1883) заўважыў адносна пражскай Бібліі Скарыны: «Из современных приписок, находящихся в некоторых книгах, узнаем, что она издана иждивением Виленского советника Богдана Онькова...» «Иждивением» — старадаўні рускі адпаведнік паняццяў «накладам», «коштам». У такім жа духу выказваўся і яго сучаснік Міхайла Аляксандравіч Максімовіч, паводле прынятых сучасных дэфінцый, вучоны ўкраінскі і рускі, што, вядома ж, зусім не замінала яму лічыць Скарыну «нашым»: «Там [у Празе] в 1517 — 19 годах напечатан был по частям перевод Библии нашего Полочанина Скорины, под названием: **Библия Руска**, иждивением Богдана Онькова, в 4-ку» (Собр. соч. Киев, 1880. Т. 3. С. 663).

Выдатны ўкраінскі гісторык Міхайла Грушэўскі пытанне пра звязаныя з Онкавым прыпіскі разглядаў у шырокім кантэксце агульнай праблемы сацыяльнай апоры скарынаўскай дзейнасці. Згадаўшы Онкава, а заадно і Бабіча, вучоны з поўнай падставай сцвярджаў: «Гэтыя факты праліваюць святло на тую культурную сферу, у якой развіваліся новыя асветныя і культурныя інтарэсы — гэта заможнае, дастаткова асвечанае мяшчанства больших беларускіх местаў, перадусім Вільні, папярэднікі пазнейшых мецэнатаў пісьменства і асветы — Мамонічаў, Зарэцкіх і іншых» (Грушевський М.С. Эсторія Украпни — Руси. Кипв, Львів, 1907. Т. 6. С. 429). Прыпіскі на Скарынавых кнігах займалі Грушэўскага і значна пазней, калі ён працаваў над няменш манументальнай «Гісторыяй украінскай літаратуры». Цікава, што ў сваіх новых высновах ён часткова аспрэчваў сябе маладзейшага. «Мажліва, — пісаў вучоны, — што гэтая сігнатура [прыпіскі пра Онкава] была дададзена да іх яшчэ пры выпуску гэтых кніг са складу, па жаданні накладцы [фундатара; размова пра Онкава]. Але наўрад ці і гэтае тлумачэнне пра ўдзел у выданні Багдана Онькавіча вырашае справу. Параўнанне такога імпазантнага размаху пражскага выдавецтва з яго даволі сціплым працягам у **самой Вільні** (толькі дзве кнігі!) прыводзіць да думкі, што дапамогай асобных віленскіх мяшчанаў справа, мабыць, не скончылася. Мусіць, пражскае прадпрыемства Скарыны мела за сабой нейкую большую і мацнейшую групу ці арганізацыю — мажліва, тую самую, якая высунула папярэдняе выдавецтва Фіёля» (Грушевський М. Історія української літератури. Київ, 1926. Т. 5. С. 121). Ацэньваючы гэтую думку паважанага вучонага, як заўсёды, маштабную, трэба мець на ўвазе натуральнае імкненне Грушэўскага як украінскага патрыёта цясней звязаць Скарыну з Украінай (Фіёль працаваў у

Кракаве у непасрэднай блізкасці ад заходнеўкраінскіх земляў). Цяжка пазбавіцца ад уражання, што Грушэўскі прымяншае ў дадзеным выпадку значэнне Онкава і ўсяго віленскага купецка-мяшчанскага асяродка. Тым не менш у кожным разе для нас каштоўная агульная выснова выдатнага дзеяча навукі і культуры, што апорай Скарыны, як і Фіёля, былі гараджане, а магчыма — дапускаў вучоны — і асобныя прадстаўнікі сярэдняй (шараговай) шляхты.

Свой уласны погляд на надпісы, звязаныя з Онкавым, меў беларус Ігнат Дварчанін (1895—1937). Як бачым, пражыў ён нядоўга, яго жыццё абарвалася ў сумнай памяці 37-м годзе. Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, знаўца літаратуры і сам паэт, ён у той жа час меў схільнасць да навуковай працы, умеў быць аб'ектыўным. Захавалася яго цікавая характарыстыка, зробленая таварышам па салавецкай высылцы: «Бледны, з чорнаю барадою, крыху згорблены, Дварчанін сваёй манэраю ў размовах нагадваў прафэсара. Ён ніколі не казаў прамоваў, як гэта рабіў Рак-Міхайлоўскі, і не ставіў кропкі над «і». Не, ён спакойна намагаўся ўсё ўзважыць, перааценіць і знайсьці забыты ўжо шлях да собскай нацыі» (Спадчына, 2000, № 2, с. 193). Словам, гэта вартасці сапраўднага вучонага, які бачыць з'яву ў самых розных аспектах і сувязях. Трапіўшы ў маладыя гады на вучобу ў Чэхію, у цудоўную старажытную Прагу, Ігнат Дварчанін не мог не захапіцца Скарынам, тым больш што акурат падаспеў чарговы вялікі юбілей беларускага кнігадрукавання. У 1926 годзе малады даравіты даследчык абараніў у Празе дысертацыю «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве». Гэта ці не першая беларуская дысертацыя ў галіне скарыназнаўства, хоць і напісаная па-чэшску. Яе рукапіс, на шчасце, захаваўся. У 1991 годзе гэтае даследаванне ў перакладзе з чэшскай мовы выдадзена ў Мінску. Дык вось, Дварчанін колькі разоў згадвае ў сваёй дысертацыі надпісы пра Онкава. Паводле Дварчаніна, у гэтых надпісах Скарынам недастаткова выказваецца павага да фінансіста: «Мецэната сваіх пражскіх выданняў Багдана Онкава ён не ўсхваляе, а абмяжоўваецца толькі простым ўпамінаннем...» Вельмі тонкае назіранне! Дварчанін чуйна адчуў сітуацыю. Праўда, тлумачыць ён гэта непераканаўча: маўляў, Онкаў у маладыя гады мог быць сябрам Скарыны (магчыма, разам вучыліся) і з ім па-прыяцельску можна было не цырымоніцца. Але ж мы ведаем, што Скарына ўмеў быць удзячным і ў патрэбных выпадках не шкадаваў людзям высокіх слоў. Параўнаем: «Совершися в дому почтивого мужа Якуба Бабича, наистаршего бурмистра славнаго и великаго места...» — каб вымавіць гэта, трэба набраць поўныя грудзі паветра і ледзь не ўстаць на дыбачкі — вось калі наш Скарына шчыры, вось калі яго душа поўніцца пачуццем нічым не замутненай падзякі!

Сучасны беларускі гісторык Г.Галенчанка ў адной з рэцэнзій 1974 года яшчэ больш падкрэсліў неардынарнасць, нават канфліктнасць сітуацыі: кожная прыпіска пра Онкава «...зроблена ад рукі, не надрукавана; выходзіць, уяўляе сабой дапаўненне, унесенае пасля выдання кнігі, супраць волі выдаўца» (Книга: исследования и материалы. Т. 28). Працяг тагачаснага роздуму Георгія Якаўлевіча з гэтай нагоды знаходзім у тэзісах яго даклада пра акружэнне Скарыны на Другой усесаюзнай канферэнцыі па праблемах кнігазнаўства (той жа 1974 год). Вось што тады ён сказаў: «Запісы на кнігах Скарыны, на нашу думку, зроблены ў Вільні рукой Б.Онкава або якога-небудзь падапечнага грамацея. Першадрукар не стаў бы аздабляць аляпаватымі надпісамі старонкі сваіх выданняў, тым больш — тытульныя лісты». Канфліктнасць, элементы супрацьстаяння, канфрантацыі падмечаны абсалютна правільна, хаця некаторыя нюансы (дзе і кім

зроблены надпісы, наколькі яны «аляпаватыя») патрабавалі, магчыма, удакладнення, і ў далейшым Г.Галенчанка ў поўным аб'ёме на сваёй фармулёўцы, здаецца, не настойваў. Ён гаварыў: «Текст надписи подражает шрифту изданий Скорины...» (1976) або: «Графіка літар і іх памеры нагадваюць адліўныя «тытульныя» шрыфты Скарыны» (1993). Тым не менш па-ранейшаму лічыў, што надпісы «не ўпрыгожвалі» скарынаўскіх выданняў.

Паспрабуем і мы па даступных нам крыніцах бліжэй прыгледзецца да надпісаў пра Онкава. Балазе літаральна кожны экземпляр скарынаўскіх выданняў з усімі паметкамі-маргіналіямі рупліва ўлічаны і апісаны скарыназнаўцамі. Ды і рознага кшталту рэпрадукцый цяпер хапае.

## *ЗБЛІЗКУ*

Тытульны ліст да кнігі «Іоў» Скарыну даўся не адразу. Існуюць два варыянты яго афармлення. Такія выпадкі заўсёды прыцягваюць асаблівую ўвагу даследчыкаў. Які варыянт папярэднічаў? Чаму спатрэбіліся змены? Што выдаўца не задаволіла? Але нас цікавяць цяпер не столькі варыянты друкарскага афармлення, колькі варыянты прыпісак. Рэпрадукцыя аднаго — у 1-м выпуску літаратурна-навуковага гадавіка «Скарыніч» (на ўклейцы пасля с. 128). Пад арнаментальнай застаўкай буйным, непаўторна прыгожым скарынаўскім шрыфтам, з дабаўкай вялікай буквіцы-ініцыяла, надрукавана назва, як заўсёды са звесткамі пра выдаўца-перакладчыка (на гэты раз сціпла-лапідарнымі):

ПОЧИНАЕТСЯ КНИГА СВЕ-
ТОГО ИОВА, ЕЖЕ СЛО-
ВЕТЬ ИОВ, ЗУПОЛНЕ
ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМ
ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ
С ПОЛОЦЬКА.

Ніжэй праз інтэрвал у адзін радок як сэнсавы працяг ідзе паважны чатырохрадковы верш-рэчытатыў, набраны больш дробнымі літарамі:

Богу в Троици единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселию,
Людем посполитым к доброму научению.

Нездарма даследчыкі (В.Чамярыцкі) гавораць пра геніяльную інтуіцыю Вялікага Палачаніна ў галіне вершаскладання. Нават размяшчэннем радкоў верша (другі і чацвёрты радкі з водступамі) Скарына як бы прадугадваў моду пазнейшых вякоў, набліжаўся да нас. Глядзіш на старонку і нібыта чуеш, як гэта ў свой час чыталася-спявалася. Скупымі, па сутнасці, мінімальнымі, сродкамі дасягнуты значны эфект. Усё стройна, самавіта, «благолепно», ладам, як мае быць. Кніга гатовая ісці ў свет, радаваць чытачоў мудрасцю, духоўным спажыткам, красою. І раптам выверaны, сто разоў прадуманы, прыняты сэрцам беспамылковы інтэрвал паміж назвай і вершаваным працягам-эпіграфам пачынае запаў-

няцца дадатковымі словамі. Памерам і абрысамі рукапісны шрыфт акурат такі самы, як і папярэдні друкаваны. Што называецца, адзін к аднаму. Магчыма, і ўпісваў іх той жа майстра-мастак, што распрацоўваў і шрыфт скарынаўскіх выданняў (даследчыкі* не выключаюць і самога Скарыну):

А НАКЛАДОМ БОГДАНОВЫМ ОНКОВ

«В» фактычна ўжо вылезла за наборную паласу. А фраза яшчэ далёка не скончана. Майстра-каліграф апынуўся ў нялёгкім становішчы. Таму ён прыставіў яшчэ адну літару И, вынес над ёй маленькае «ч» (атрымалася: Онкович) і паспешліва прыпісаў дробным почыркам на полі ў выглядзе нейкай тлумачальнай глосы:

з виленского места

Фраза скомкана. Ды не гэта галоўнае. Выйшла так, што Багдан як бы спрачаецца з Францыскам, каб той не надта важнічаў ды помніў, на чые кроўныя грошыкі гэты рукатворны цуд рабіўся, а маладзенькая (так-так!) тады яшчэ Вільня імкнецца адсунуць дзядулю Полацк — няхай падзеліцца славаю. Гармонія парушана. Затое мы адчулі дыханне жывых жарсцяў вельмі далёкага часу, спаборніцтва амбіцый.

У іншых экземплярах выйсце было знойдзена такое (гл. рэпрадукцыю ў Скарынаўскай энцыклапедыі, на с. 26). Мастак рабіў прыпіску зноў жа ў цэнтры тытула шрыфтам сярэдняга памеру, часткова захопліваючы і левае, і правае поле старонкі, для эканоміі месца злітным тэкстам без падзелу на словы, з выкарыстаннем вынасных літар і элементаў вязі. Атрымліваўся вельмі доўгі і цесны радок, які пры ўсім майстэрстве каліграфа выглядае ўсё ж нейкім чужародным ражном, што разбівае гарманічнае суладдзе старонкі:

АТОСЯСТАЛОНАКЛАДОМБОГДАНАОНКОВАСЫНАРАДЦИМЕСТАВИЛЕНСКОГО

А часам са знешняга боку выходзіла зусім прыстойна. Возьмем тытульны ліст кнігі «Ісус Сірахаў» (Скарынаўская энцыклапедыя, с. 40). Зверху дзве трэці старонкі займае выдатная гравюра «Дыспут» (як пісалі ўжо многія, здаецца, зусім не царкоўная, а навеяная хутчэй універсітэтамі ды звыклымі Скарыну вучонымі зборышчамі і ў гэтым сэнсе аўтабіяграфічная). Падзеленая на два радкі прыпіска пра Онкава даволі натуральна падключаецца да друкаванага загалоўка, хаця злітнасць літар у ёй застаецца:

КНИГА ИСУСА СИРАХОВА РЕКОМАЯ
ПАНАРЕТОС ЕКЛЕСИАСТЫКУС ИЛИ
ЦЕРКОВНИК, ЗУПОЛНЕ ВЫЛОЖЕ-
НА НА РУСКЫИ ЯЗЫК ДОКТО-
РОМ ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ С ПОЛОЦКА.
АТОСЯСТАЛОНАКЛАДОМБОГДАНАОНКОВАСЫНА
РАДЦИМЕСТАВИЛЕНЬСКОГО.

* Гл.: Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам. Мн., 1990. С. 302.

Тут усё зроблена настолькі акуратна, густоўна ў напісанні і размяшчэнні двух новых радкоў, што на рэпрадукцыі (вельмі якаснай) дапісаны тэкст проста немагчыма адрозніць ад друкаванага. Хаця злітнасць літар у прыпісцы стварае ўсё ж нейкую скарагаворку, прастарэканне. Атрымліваецца — пра Скарыну ўрачыста, з расстаноўкай, на поўны голас, а пра Онкава — абы адчапіцца.

А калі па шчырасці — самае месца для такіх прыпісак, раз іх ужо трэба было рабіць, — у канцы кнігі. Як прыстойна з мастацкага боку (ды і ў сэнсавых адносінах таксама) глядзіцца, напрыклад, гэтая прыпіска на апошняй старонцы пражскага Псалтыра адразу ўслед за калафонам-пасляслоўем (рэпрадукцыя — у Скарынаўскай энцыклапедыі, с. 25). Але такіх канцавых прыпісак зусім мала. Онкаў чамусьці нястрымна рваўся наперад, на тытульны ліст.

## *КУПЕЦКАЯ ДЫНАСТЫЯ*

Пара бліжэй пазнаёміцца з кампаньёнам Скарыны. Балазе даследчыкі зрабілі ў гэтым кірунку нямала. Багдан Онкаў быў буйной, каларытнай асобай свайго часу, і яго дзейнасць адлюстравалася ў дакументацыі розных устаноў ВКЛ ажно да вялікакняжацкіх канцылярый.

Шэраг каштоўных згадак пра Онкава і яго сям'ю апублікавана ў 1915 годзе ў 21-й кнізе самавітага выдання «Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции»(паводле матэрыялаў так званай Літоўскай метрыкі, што захоўваліся ў той час ў гэтым архіве — цяпер у Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў). Але яшчэ задоўга да гэтага да матэрыялаў Літоўскай метрыкі (знаходзіліся тады ў Пецярбургу) звяртаўся аўтар першай сур'ёзнай манаграфіі пра Скарыну Пётр Уладзіміравіч Уладзіміраў. Можна сказаць, што ён і тут паказаў дарогу, правёў першую баразну.

Надзвычай шмат зрабіў для высвятлення постаці Багдана Онкава ўжо згаданы гісторык-крыніцазнавец Георгій Галенчанка. Знойдзеныя ў архівах цікавыя матэрыялы пра Онкава ён прывёў у артыкуле «Новае пра Францыска Скарыну» (калектыўны зборнік «Проблемы рукописной и печатной книги».М., 1976) і сваёй вядомай манаграфіі «Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар» (Мн., 1993). Змястоўны параграф пра Онкава ёсць у фундаментальнай кнізе Яўгена Неміроўскага «Франциск Скорина» (Мн., 1990), якую нездарма называюць «другой Скарынаўскай энцыклапедыяй» — такі вялікі, разнастайны, усеахопны сістэматызаваны ў ёй матэрыял. Але цікава, што ніводнай спецыяльнай працы пра Онкава яшчэ не было, калі не лічыць даведачнага артыкульчыка ў Скарынаўскай энцыклапедыі, падпісанага тымі самымі Г.Галенчанкам і Я.Неміроўскім.

Мае папярэднікі, прызнаныя майстры гістарычных даследванняў, настолькі добра прарабілі сваю работу, што застаецца ў большасці выпадкаў паўтараць-пераказваць іх працы (асабліва выдатны, адкрывальніцкі артыкул Г.Галенчанкі). Толькі зрэдку ўдавалася весці самастойны пошук, звяртацца да першакрыніц, уносіць невялікія карэктывы.

Багдан Онкаў паходзіў з багатай, амдетнай і ўплывовай купецкай дынастыі, якая мела таксама і зямельныя валоданні і паступова набыла шляхецтва.

Сталага прозвішча гэтая сям'я, як і многія сучаснікі, яшчэ не мела. Дзеда звалі Грыц (Рыгор), бацьку — Онка або Онька. Гэта змяншальная, размоўная форма нейкага хрысціянскага імя. Але якога?

Нялёгкае пытанне. Часам, хоць і досыць рэдка, гэтая адметная форма, як і вытворныя ад яе, пракідаецца ў тагачасных дакументах. Напрыклад, у попісах (мабілізацыйных рэестрах) 1528 года па Бельскім павеце (Падляшша). Прызываюцца ў войска ВКЛ «земяне» (дробная шляхта). Імёны, імёны — цэлыя шыхты імёнаў (нібыта чуеш пераклічку далёкіх па часе ратнікаў — колісь і сапраўды гэта было грознае для ворагаў воінства). Вёска Лапы: «Онкъ Жикгимонтович сам [па небагатаму маёмаснаму становішчу ідзе на вайну адзін, нікога з сабой не вядзе]... Маръко Онкович сам. Войтко Онкович сам». Вёска Здроды: «Миколай Онкович сам... Матей Онкович сам... Станислав Онкович сам». Так што імя жыло, паважліва па тым часе ўпісвалася ў дзяржаўныя акты. Але цяпер яго нешта не чуваць. Якое кананічнае імя ў яго аснове? Ніхто адказаць мне не мог. Давялося прагледзець процьму антрапанімічных выданняў, сло заўважылі на ўцалелых у віхурах гісторыі экзэмплярах Скарынавых кніг надпісы: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места виленского». Калі асучасніць мову, атрымаецца: «А гэта сталася (здзейснілася, адбылося) коштам Багдана Онкава сына (Онкавіча), радцы (саветніка) места (горада) Вільні». У такой нязменнай форме (часам чытаюць — Онькаў) надпіс паўтараўся на тытульных лістах (як выключэнне — у канцы) многіх кніг. У адным выпадку тэкст больш сціслы, як бы падкарочаны: «А накладом Богдановым Онкович з виленского места». Надпісы зроблены ад рукі вельмі акуратна (прынамсі старанна) ў духу друкаваных літар. Рабіліся яны толькі на першых пражскіх выданнях і не на ўсіх экземплярах, а на частцы тыражу. Гэта кнігі 1517 года Псалтыр, «Іоў», «Прытчы», «Ісус Сірахаў», 1518 года «Эклезіяст» і «Прамудрасць». Усяго, па скрупулёзных падліках спецыялістаў (Г.Галенчанка), захаваўся 71 экземпляр названых кніг з тытульнымі лістамі. На іх выяўлена 19 запісаў, гэта значыць 26,76% кніг з запісамі, або працей кажучы, но з іх і было хросным імем бацькі нашага героя. Якое — цяжка сказаць. Так што астаецца пакуль што называць яго, як у старых дакументах, амаль па-прыяцельску Онкам.

Дык вось, бацька Багдана Онка Грыцэвіч (Грыцаў) у часы вялікіх князёў і каралёў Казіміра IV (1447—1492) і Аляксандра Ягелончыка (1492—1506) вёў шырокія гандлёвыя і фінансавыя аперацыі, пастаўляў у Вялікае княства сукны, разнастайныя дарагія тканіны — у тым ліку заморскія — і іншыя тавары. Быў настолькі багаты, так цвёрда стаяў на нагах, што нават пазычаў грошы ўраду. Справа бяспройгрышная. Для пагашэння пазык у 1500—1502 гадах крэдытору аддаваліся корчмы і мытныя зборы ў самых розных месцах ці не па ўсёй Беларусі — у Рэчыцы, Мазыры, Бабруйску, Смаленску, Оршы («Рша»), Менску (так пісалася тады назва сённяшняй нашай сталіцы). У віленскім магістраце Онка Грыцэвіч, як і належыць шанаванай асобе, быў нейкі час бурмістрам.

Богдан Онкаў — сын Онкі і Уляны — паўнапраўна ўдзельнічаў у справах бацькі ўжо ў канцы XV стагоддзя. Імёны гэтых увішных людзей былі добра вядомыя як у ВКЛ, так і далёка за яго межамі. У 1498 годзе пасольства вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча запатрабавала аплаціць старую кабалу (даўгавое абавязацельства) на 100 рублёў «новгородцкими денгами», што была выдадзена «слуге нашему» князю Фёдару Іванавічу Бельскаму «вилневцами» Онкам Грыцавым, Уллянай і Багданам Онкавым. Фёдар Бельскі — постаць для свайго часу вельмі вядомая, нечым знакавая. Патомак Гедзіміна, праўнук Альгерда, ён уцёк у Маскву ў 1482 годзе пасля няўдалай змовы супраць караля і вялікага князя Казіміра. Хаўруснікі князі Гальшанскі і Алелькавіч паплаціліся

галавою, або, як тады гаварылі, — «горлам» (падзеі згадваюцца ў рамане У.Караткевіча «Чорны замак Альшанскі»).

Выяўленыя кантакты Онкава і — хутчэй — яго бацькоў з Бельскімі вельмі ўражваюць даследчыкаў. Асабліва тым, што дазваляюць працягнуць нітачку — праўда, пакуль яшчэ вельмі цянюткую, нетрывалую — да загадкі друкарні Швайпольта Фіёля, першай у гісторыі кірылічнай друкарні, якая дзейнічала ў Кракаве ў 1491 годзе і, вядома ж, была, магла быць нейкім арыенцірам або штуршком для Скарыны. «Цікава, — адзначае ў сувязі з гэтым Г.Галенчанка, — што ў кніжных зборах князёў Бельскіх доўгі час захоўваліся выданні Швайпольта Фіёля. Ці не сведчыць гэта аб тым, што віленскія купцы былі нейкім чынам звязаны з першай кірылічнай друкарняй у Польшчы? Ва ўсякім разе Онкавы [Грыцэвічы] гандлявалі сукнамі і іншымі таварамі ў Польшчы ў 80—90-я гады XV стагоддзя. Нагадаем, што Кракаў у той час быў важным цэнтрам суконнай вытворчасці ў Еўропе».

Ды і ўвогуле цікавага тут нямала. Гаворачы строгай мовай юрыстаў, у якасці дзеяздольнай юрыдычнай адказнай асобы выступае тут чамусьці і маці Ульяна. Чаму? Няйнакш паходзіла з багатай сям'і і мела сваю маёмасць. Ці Онка ўзяў яе ўдавой, як было, напрыклад, са Скарынам — яго Маргарыта, удава месціча Адверніка, валодала ў Вільні нерухомай і рухомай маёмасцю. А можа справа прасцей: пазычаючы немаладому віленскаму купцу значную суму грошай, князь Бельскі ўпісаў у «кабалу», ва ўмовах характэрнай для нашых земляў жыццёвай нестабільнасці, і яго сямейнікаў, каб лягчэй потым спагнаць доўг.

Атрымліваем таксама магчымасць памеркаваць пра ўзрост Багдана, што немалаважна для скарыназнаўства, паколькі Онкаў — адна з ключавых постацяў Скарынавай біяграфіі. «Напэўна, гэтая кабала была падпісана «вилневцами» да 1482 года», — з поўнай падставай зазначае Г.Галенчанка. Калі гэта сапраўды так, то к 1482 году Багдан быў дарослым чалавекам і за дату яго нараджэння можна без вялікай рызыкі ўмоўна прыняць 1460 год (гэта пакаленне знакамітага князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага). У любым выпадку Онкаў быў, мяркуючы па ўсім, значна старэйшы за Скарыну, калі нават дапусціць, што Францішак нарадзіўся ў 70-я або на самым пачатку 80-х гадоў XV стагоддзя, як мяркуюць некаторыя даследчыкі.

Пасля смерці бацькі (1506) Багдан Онкаў натуральна становіцца яго галоўным спадчыннікам. Канцылярыі вялікіх князёў Аляксандра і Жыгімонта зацвярджаюць за ім усе набытыя і спадчынныя землі, ён атрымлівае новыя гаспадарскія «лісты» на возера, землі, «ніўкі», сенажаці ў Віленскім павеце і цівунстве, у Немянчынскай воласці. Ён няспынна нешта мяняе, збірае, набывае, выгадвае. Маёнтак каля Швянцянаў мяняе на землі ў Віленскім цівунстве Юргялеўшчыну і Андросаўшчыну, а потым гэтую Юргялеўшчыну і іншыя маёнткі паўторна мяняе на маёнтак Кузмянішкі каля Трашкунаў на сумежжы Літвы і Беларусі (тагачасны Віленскі павет).

Ён быў годным прадаўжальнікам справы свайго бацькі, збіраў грошык да грошыка, свята помніў даўгі, тым больш чужыя, калі можна было істотна папоўніць каліту. Онкава, як і яго бацьку, добра ведалі пры каралеўскім (вялікакняжацкім) двары. У 1508 годзе Багдан прадставіў у канцылярыю Жыгімонта I пазыковыя лісты яго папярэдніка вялікага князя Аляксандра. У Літоўскай метрыцы, тамы якой паступова выдаюцца, становяцца даступнымі грамадскасці, ёсць такі запіс: «Бил нам чолом радца места Виленского [заўважым — дакладна

як у скарынаўскіх кнігах] Богдан Онкевич Грицевича о том, што брат наш Александр, король его милость, брал у отца его у в Онка [магчымае прачытанне — у Вонка] ку потребе земской через руки пана Литаворавы Хребтовича и брата его пана Федковы Хребтовича, подскарбего земского, и теж через руки подскарбего сваго дворного Коварского готовые пенези [грошы] и оксамиты, отласы, одамашки [шаўковыя тканіны з Дамаска], сукна и иншыя речи. Всего того остал его милость отцу его винен триста коп и полпятидесят коп грошеи...»

З улікам працэнтаў сума нявыплачанага доўгу дасягала амаль паўтысячы коп літоўскіх грошаў. Сума вельмі значная (у капе 60 грошаў). У забеспячэнне доўгу ўрад Жыгімонта аддае Багдану на шмат гадоў мядовыя, піўныя, вінныя корчмы ў Бабруйску, Свіслачы і іншых месцах.

Як адкрылася даследчыкам, бацька Багдана Онка Грыцаў быў своеасаблівым фінансістам і пастаўшчыком двара яго міласці караля і вялікага князя (ажно да прадметаў раскошы) і знаўся з першымі саноўнікамі дзяржавы. Падскарбі — фактычна міністр фінансаў, меў нават больш шырокія функцыі. Асабліва прыкметнай постаццю быў Івашка Літавор Храптовіч. Патрыёт ВКЛ, у прамове пры ўступленні Аляксандра на велікакняжацкі пасад ён заклікаў, каб той «правіў і судзіў праўдзівым літоўскім і Вітаўтавым прыкладам». Неаднойчы ездзіў паслом па важнейшых дзяржаўных справах у Польшчу і Маскву. У 1493 годзе перадаў пасаду падскарбія свайму малодшаму брату Федку. Апошні за ўдзел у мяцяжы Глінскага (1508) страціў усе пасады і толькі ў 1522 годзе, незадоўга да смерці, быў зацверджаны каралём у якасці апекуна знакамітага Лаўрышаўскага манастыра. Так сказаць, ціхі занятак дзеля выратавання душы. Магчыма, мяцеж зачапіў бы і Літавора, ды ён у гэты час кукаваў, чакаў пераменаў да лепшага ў маскоўскім палоне, куды трапіў разам з Астрожскім пасля злашчаснай Вядрошы.

Думаецца, што самыя шырокія сувязі з важнымі асобамі дзяржавы і за яе межамі былі і ў Багдана. Ды так яно ўласна і было, на што ёсць дакументальныя сведчанні.

У 20-х гадах неўтаймоўны Онкаў скардзіўся на абрабаванне яго ў Маскве, куды ён ездзіў, каб атрымаць грошы ад сваіх даўніх даўжнікоў. На «Лутцкой» (Велікалуцкай) дарозе ў яго аднялі тавары, 150 рублёў гатоўкай і даўгавыя лісты «Ошемячича и Можайского» на 900 коп «широких грошей». Добра яшчэ што ногі ўнёс. У 1527 годзе гісторыя гэтая сталася тэмай афіцыйных перамоваў на самым высокім узроўні паміж дзяржаўнымі мужамі Пальшчы — ВКЛ і Масквы. Як мяркуе Г.Галенчанка, размова тут пра ноўгарад-северскага князя Васіля Шамячыча, які перабег з Літвы ў Маскву ў 1500 годзе. Згаданы «Можайский» — няйнакш князь Васіль Сямёнавіч Старадубскі, спадчынныя землі якога знаходзіліся ў Мажайску. Вось ажно куды сягалі інтарэсы грашавітага Онкава. І нішто яму не перашкода, нішто яго не палохае — ні межы, ні мытні, ні рабаўнікі на дарогах, ні нязвыклыя літвінам-беларусам маскоўскія парадкі, ні татарская небяспека (лятучыя загоны крымчакоў рыскалі па землях ВКЛ і пасля Клецкай паразы). Шырыня дзелавых сувязяў у гэтага энергічнага купца і фінансіста проста дзівосная. У адным з дакументаў ён названы нават смаленскім радцам, але не выключана, што гэта ўсяго толькі памылка пісара. Хоць і да Смаленска наш Багдан сапраўды меў дачыненне праз карчомныя ды мытныя справы.

Магчыма, разам з іншымі таварамі Онкаў вазіў у Маскву і скарынаўскія выданні. Адзін з самых дасведчаных скарыназнаўцаў А.Флароўскі, каментуючы вядомы эпізод са спаленнем скарынаўскіх кніг у Маскве, цалкам дапускаў,

што прывёз іх туды не сам Скарына, а Багдан Онкаў. «Наўрад каб вопытны фінансіст, які ўклаў, відаць, немалую долю сваіх грошай у кніжную справу Скарыны, мог пакінуць зусім па-за ўвагай умовы кніжнага рынку Масквы», — пісаў вучоны ў аглядным, падагульняючым артыкуле «Skoriniana» (450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 404—406). У такім жа духу апісаны гэты эпізод і ў кароткай скарынаўскай хроніцы, складзенай у наш час чэшскімі вучонымі, вельмі ўважлівымі да ўсіх рэалій скарыназнаўства: «1522 — 27: паездка віленскага купца Багдана Онькава ў Маскву (быў адным з накладцаў [фундатараў] Скарынаўскай бібліі). Магчыма, Маскву наведаў і Скарына. Па загадзе Васіля III, вялікага князя маскоўскага, у Маскве прывезеныя кнігі былі спалены (Francisko Skoryna v díle českých slavistú. Praha, 1992. S. 7). Заслужаны скарыназнавец дыяспары Вітаўт Тумаш у майстэрскай, хоць, можа, і залішне палітызаванай працы «Доктар Скарына ў Маскве» (асобнае выданне — Мн., 1993) настойвае, што гэта быў менавіта Скарына. Можа быць, можа быць. У любым выпадку на «маскоўскім напрамку» навукоўцы бачаць не толькі Скарыну, але і Онкава. І трэба думаць, гэты шлях быў для апошняга больш звыклым, наезджаным, чым для Скарыны.

І дома справы заўсёды знаходзіліся. Багдан Онкаў актыўны ўдзельнік віленскага гарадскога кіравання і самакіравання — асэсар на судзе маршалкаў, радца, бурмістр. Апошні раз састарэлы Багдан Онкаў згадваецца ў спісах членаў віленскай рады ў 1527 годзе. Праз дзевяць гадоў урадавыя камісары размяжоўваюць зямельныя ўладанні ў Віленскім павеце паміж спадчыннікамі Багдана Онкава і яго суседзяў. У гэты час абодва сыны Багдана, як высветліў усё той жа Г.Галенчанка, неслі земскую («баярскую») службу.

Горад для нашчадкаў Багдана ўжо цеснаваты, калі не сказаць — зусім зацесны. Нават такі бойкі сталічны горад, як Вільня. У 40-я гады віленскі магістрат распачаў працэс супраць старэйшага сына Багдана Онкава Марціна, які «вымлоліваўся» (цудоўнае, сакавітае слова, выхапленае са старых дакументаў Г.Галенчанкам, выдатна перадае энергію Марціна) з магістрацкай юрысдыкцыі. Члены гарадской рады грунтаваліся на тым, што дзед і бацька Марціна з даўніх гадоў жылі ў Вільні і займалі пасады бурмістраў. Праўду казалі радцы, ды і Марцін быў зубасты, не маўчаў. Па словах адказчыка, «то чынілі для фартуны і пажытку свайго». Неверагодна: сын Багдана, таго самага, які яшчэ нядаўна так ганарыўся сваім званнем «радца места виленского», з прыемнасцю бачыў гэтае званне на тытулах скарынаўскіх выданняў, цяпер задзіраў нос перад гараджанамі, саромеўся «паспалітага» паходжання. Ды і сапраўды ў грамадскім статусе сям'і былі вялікія перамены. Марцін сцвярджаў, што ў яго няма дамоў у Вільні, ён не ўдзельнічае ў гандлі, а ягоны фальварак куплены бацькам у баяр гаспадарскіх. Жыгімонт I устаў на бок Марціна і вызваліў яго ад «служб местских» (гарадскіх). Канешне ж, трэба думаць, былі задзейнічаны лабісты-саноўнікі і ўлічаны заслугі дынастыі Онкавых-Грыцэвічаў перад каралеўскім (вялікакняжацкім) дваром.

У 1552 годзе прыдворны шляхціц Жыгімонта Марцін Онкаў (Hankowicz, «Ганковіч») разам з віленскім лаўнікам Янам Тоўсцікам выстаўляў фінансавыя прэтэнзіі да нашчадкаў Скарыны. Мабыць, гэта азваліся нейкім чынам даўнія агульныя справы Багдана Онкава і нашага першадрукара. Адпаведныя дакументы на сярэднявечнай дзелавой лаціне (Еўропа!) і ў сучасных навуковых перакладах апублікаваны ў грунтоўнай кнізе Віктара Дарашкевіча «Францыск Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў», 1988.

Вось такія высветліліся факты. І мы цяпер можам зноў вярнуцца да загадкавых, інтрыгоўных надпісаў на кнігах Скарыны.

Іх знікненне пасля 19 студзеня 1518 года (выхад кнігі «Прамудрасць») Г.Галенчанка тлумачыць наступным чынам: «Магчыма, у гэты перыяд Скарына заручыўся ўжо падтрымкай іншых заможных мяшчан на сваёй радзіме... Верагодна таксама іншае тлумачэнне гэтага факта: рукапісныя надпісы не ўпрыгожвалі выданняў Скарыны і ён або сам Онкаў адмовіліся ад іх. Трэба адзначыць, — працягвае даследчык, — што згаданыя вышэй прыпіскі з прозвішчам адукаванага віленскага купца-прадпрымальніка, як і «партрэт» Скарыны ў Бібліі, — сведчанні свецкага індывідуалізму, прыкметнай рысы еўрапейскага Адраджэння».

Г.Галенчанка мяркуе, што Онкаў належаў да асвечаных і патрыятычна настроеных дзеячоў. На думку вучонага, у яго, як і ў Бабіча, былі, мусілі быць, ужо не рэдкія тады, хоць можа па тым часе і колькасна невялікія, асабістыя кнігазборы, у якіх неапошняе месца займалі выданні Скарыны.

Іншую ацэнку стымулаў Онкава, а заадно і Бабіча, даваў у свой час філосаф М.Алексютовіч, аўтар вядомай манаграфіі пра Скарыну (1958). Спыненне кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны пасля 1525 года даследчык тлумачыў у прыватнасці расчараваннем і адмовай ад далейшай падтрымкі яго прагматычных мецэнатаў Онкава і Бабіча: «Гэтыя асобы наўрад ці разумелі як след сапраўды вялікую і па маштабах і па свайму значэнню культурную дзейнасць Скарыны на карысць свайго народа. Хаця, здаецца, гэта звычайны для таго часу тэрмін для пазначэння такой сітуацыі. Хутчэй за ўсё яны аказвалі яму матэрыяльную падтрымку ў першы час (і ў Празе, і ў Вільна), зыходзячы з пэўных камерцыйных разлікаў. Але ў XVI стагоддзі кніжная справа яшчэ не прыносіла колькі-небудзь значных даходаў. Пераканаўшыся ў гэтым, зацікаўленыя асобы з цягам часу маглі змяніць свае адносіны да Скарыны, пазбавіць яго матэрыяльнай дапамогі і абароны, без чаго ён, збяднеўшы да гэтага часу канчаткова, не мог самастойна весці кніжную справу».

Блізкую пазіцыю займае Я.Неміроўскі. Выпісваем са згаданай яго кнігі: «Воблік Багдана Онкава чытачу ясны. Гэта буйны фінансіст, прадпрымальнік, які ўкладвае сродкі ў розныя галіны і аперыруе велізарнымі сумамі грошай. Чакаць ад такога чалавека ініцыятывы на ніве асветніцкай дзейнасці не прыходзіцца. Ды і ў мецэнацтва верыцца з цяжкасцю.

Думаецца, што Онкава і Скарыну звязвалі толькі фінансава-матэрыяльныя адносіны. Віленскі купец набыў частку тыражу першых пражскіх выданняў, разлічваючы збыць іх з немалой карысцю для сябе. Фінансавы поспех аперацыі, магчыма, не спраўдзіў надзей, што на яе ўскладаліся. Гэта прымусіла Багдана Онкава адмовіцца ад падтрымкі выдавецкай дзейнасці беларускага асветніка. Вось таму на апошніх пражскіх выданнях мы імя Багдана Онкава не знойдзем. Няма яго і на віленскіх выданнях, дзе, як мы даведваемся, месца Онкава заняў віленскі бурмістр Якуб Бабіч».

Магчыма і так, ды ўсё ж нешта ў падобных тлумачэннях не да канца нас задавальняе. Ці не спрашчаюць шаноўныя вучоныя супярэчлівае аблічча Онкава? Чалавек, які думае толькі пра грошы, не стаў бы рабіць надпісы на кнігах або патрабаваць, каб такія надпісы рабіліся. Ён спрабаваў бы прадаць кнігі, не пэцкаючы іх надпісамі. У наяўнасці, прынамсі, вялікія амбіцыі Онкава (яны праявіліся і

ў дзецях, якія пыхліва і грэбліва атрасаліся потым ад прыкметаў простага гарадскога паходжання). Магчыма, празмерны характар гэтых амбіцый акурат і ўскладніў адносіны Скарыны (таксама вельмі амбітнага) з Онкавым.

Мы ўжо не гаворым пра пазіцыю тых гісторыкаў, якія адмаўлялі ў ідэйных стымулах не толькі Онкаву, але і самому Скарыну. Напрыклад, польскі гісторык Г.Лаўмянскі сцвярджаў у раннім, па-маладому максімалісцкім, а то і эпатажным артыкуле (1925): «Таксама не з ідэальных, а з матэрыяльных меркаванняў фінансаваў пражскі тыраж віленскі мешчанін Багдан Онкавіч».

Але слушна сказана — не хлебам адзіным жывы чалавек, не ўсё ў нашым жыцці зводзіцца да грубай матэрыі.

Літоўскі кнігазнаўца Л.Уладзіміравас адзначае, што праваслаўныя віленскія купцы — мецэнаты Скарыны — ставілі перад сабой высокія грамадскія мэты — асвета народа, абарона веры: «Тое, што апекуны Ф.Скарыны Багдан Онкаў і Якуб Бабіч былі праваслаўнымі, не выклікае сумненняў, і было б няправільна тлумачыць падтрымку імі кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны толькі камерцыйнымі інтарэсамі, а не ў першую чаргу асветнымі, нацыянальнымі і канфесійнымі, якія ў гэтую эпоху ў значнай ступені супадалі».

З гэтай жа пасылкі зыходзіць А.Каўка, гаворачы ў кнізе «Тут мой народ» (1989) пра адукаваных мецэнатаў кніжнай справы Бабіча і Онкава: «Інакш ці патрапілі б яны зразумець веліч Скарынавага пачынання і паступіцца сваімі сродкамі дзеля справы па тым часе далёка не прыбыльнай».

Яшчэ П.Уладзіміраў бачыў сувязь Онкава і Бабіча, а праз іх і Скарыны, з мяшчанскімі і канфесійнымі згуртаваннямі — брацтвамі.

У.Конан упэўнена ставіць Онкава і Бабіча ў шэраг тыповых мецэнатаў свайго часу: «Развіццю навукі, вышэйшай адукацыі і літаратуры садзейнічаў характэрна для эпохі Адраджэння інстытут мецэнацтва (пісьменнік і апякун Гусоўскага Эразм Вітэліус, віленскія апекуны скарынаўскіх выданняў Багдан Онкаў, Якуб Бабіч і інш.)» (Скарына і яго эпоха. Мн., 1990. С. 323).

Пра ідэйныя, духоўныя сувязі Скарыны і Онкава пераканана піша Алег Лойка ў навейшым даследаванні «Старабеларуская літаратура» (2001): «Позвы да друкарскай дзейнасці былі ў Ф.Скарыны адраджэнскага, асветніцкага, гуманістычнага характару. Не выключна, што сваю справу зрабілі тут і першамецэнаты выдавецкай дзейнасці, асабліва Багдан Онкаў, які ўспамагаў Скарыне ў Празе ў 1517—1518 гадах. Гэта... было засведчана Скарынам спецыяльнымі ўпісамі ў кнігадрук ад рукі слоў: «А то ся стало...» Вядома, што бацька Багдана Онка Грыцаў бачыў у князя Фёдара Іванавіча Бельскага ва ўласнасці першадрук Швайпольта Фіёля. Актыўны, энергічны Багдан Онкаў адсюль мог паўзяць ідэю друкавання кніг і «заразіць» ёю і Якуба Бабіча, і Францыска Скарыну». Такім чынам, Онкаву адводзіцца ў гэтых развагах вельмі важнае, нават прыярытэтнае месца (хаця сцвярджэнне, што Онка «бачыў» у Бельскага кнігі Фіёля не зусім карэктнае для навуковай штудыі, вядома толькі, што такія кнігі ў Бельскіх былі).

Прыпіскі з імем Онкава згадваюцца і ў знакамітым Лойкавым рамане-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» (1990). Пісьменнік дапускае, што іх рукапісны, як бы вымушаны характар мог пакрыўдзіць Онкава і паўплываць на далейшае фінансаванне выдавецкай дзейнасці Скарыны: «Але чаму Онкаў запярэчыў тады тым прыпіскам? Можа, таму, што былі яны рукапісныя? Ён, Скарына, малады, не падумаў тады, што такое можа не спадабацца шмат старэйшаму ад яго Багдану Онкаву, што такое тожа ціха паўплываць на іх

узаемаадносіны. Не такі быў чалавек Богдан Онкаў, каб уголас заяўляць аб сваіх крыўдах. Але калі б не ад рукі рабіў тыя прыпіскі тады ён, Францішак Скарына, а друкарскім цісненнем, то, можа, на другім годзе і не прыпыніў бы сваё шчадраванне яму Багдан Онкаў?..»

У сваёй аснове калізія схоплена дакладна. Хаця думаецца ўсё ж, што Онкаў быў з тых, напорыстых, энергічных людзей, якія ўголас крычаць-заяўляюць пра свае крыўды і правы.

А вось як бачыць сітуацыю мовазнавец У.Свяжынскі ў папулярнай кніжцы «Слова Скарыны» (1984): «У адным з раёнай Прагі, які называўся Старае месца, на працягу 1517—1519 гг. з-пад дошак друкарскага станка Скарыны выходзяць 23 біблейскія кнігі. Фінансавую дапамогу Скарыне ў ажыццяўленні яго геніяльнай задумцы аказваў віленскі купец Онкаў, або Аньковіч. Пасля выхаду кніг ён скупіў увесь тыраж, каб затым прадаць з выгодай для сябе. На вокладцы адной з кніг захаваўся надпіс Онькава...» (прыводзіцца вядомы надпіс). Тут таксама ёсць з чым паспрачацца, ужо не гаворачы пра элементарную недакладнасць апошняга пасажу (надпісы рабіліся на многіх кнігах, і не на вокладцы, а на тытульных лістах). Падстаў сцвярджаць, што Онкаў «скупіў увесь тыраж», няма. Больш карэктна выказваецца з гэтай нагоды Г.Галенчанка: «Значная частка пражскіх кніг належала Багдану Онкаву, які аказваў фінансавую падтрымку друкарні» (Скарынаўская энцыклапедыя, с. 379).

### *Wie es eigentlich gewesen*

Вынесеныя ў падзагаловак словы знакамітага нямецкага гісторыка Людвіга фон Ранке (у перакладзе — «Як яно ўласна было») азначаюць максімальнае напружанне даследчыка мінулага, каб на падставе аналізу ўсіх крыніц, што дайшлі-захаваліся, і меркаванняў папярэднікаў вынесці свой прысуд, выказаць сваю версію і, калі пашанцуе, наблізіцца да ісціны.

Я таксама разам з іншымі або, лепш сказаць, услед за іншымі прайшоў сваю частку дарогі, знаёміўся з разумнымі кнігамі гісторыкаў, кратаў непадманныя першакрыніцы і маю права на сваю асобную думку. Дык асабіста мне карціна бачыцца так. Багдан Онкаў, багаты, дастаткова асвечаны і вельмі амбітны купец, побач з некаторымі іншымі прадстаўнікамі гарадской эліты (Бабіч, Адвернік? брат Іван?) і асвечанай сярэдняй шляхты (Калантай?) узяў актыўны ўдзел у арганізацыі і фінансаванні выдання Скарынавай Бібліі (магчыма, сваю зацікаўленасць і падтрымку ён выказваў ужо на этапе перакладу Бібліі і падрыхтоўкі яе да друку). Ён унёс чацвёртую частку патрэбнага капітала. Убачыўшы, што Скарына на старонках выданняў рэкламуе толькі свой удзел у гэтай вялікай справе, рашуча запатрабаваў, каб пра яго, Онкава, датычнасць было сказана хаця б у дадатковых прыпісках ад рукі. У адпаведнасці са ўнесеным капіталам — на кожнай чацвёртай кнізе. І не абы-дзе, а на самым відным месцы.

Скарына з нялёгкім сэрцам выканаў патрабаванне Онкава, хоць гэта вяло ла пэўных стратаў у мастацкім афармленні кніг. Мяркуючы па ўсім, адпаведныя надпісы рабіліся ў Празе, у выдавецкім, калі так можна сказаць, офісе Скарыны (параўнайце ў М.Грушэўскага — «пры выпуску кніг са складу»), самім Скарынам або яго мастаком.

Перад намі канфліктная сітуацыя, сутыкненне амбіцый (справа сярод людзей, у тым ліку сярод беларусаў, вядомая).

Ці знятыя былі ў наступным супярэчнасці паміж двума галоўнымі дзеячамі маштабнага выдавецкага праекта або справа дайшла да поўнага разрыву

(знікненне надпісаў можа быць сведчаннем і таго, і другога) — пакажуць далейшыя даследаванні. Здаецца, болей шанцаў за першым меркаваннем, бо такія сутычкі амбіцый, як правіла, не забываюцца, бясследна не праходзяць.

Як і Скарына, Багдан Онкаў — сын сваёй эпохі. Звычайны, здавалася б, купец-негацыянт, залаты мяшок, ён быў разам з тым яскравай, каларытнай асобай, рэнесансным чалавекам вялікай энергіі і размаху. Наогул у той час існавала цікавая сацыяльная праслойка, з якой выйшлі і Скарына, і яго паплечнікі-партнёры Онкаў і Бабіч. Эканамічна незалежныя, сацыяльна і нацыянальна актыўныя гараджане-месцічы, купцы з рысамі грамадскіх дзеячаў. Гэта нібыта пра іх складзена, іх датычыла тагачасная еўрапейская прымаўка: «Гарадское паветра робіць чалавека вольным». Людзі цэльныя, бывалыя, дасведчаныя, яны паглядзелі свету, мелі развітае, часам нават гіпертрафаванае пачуццё ўласнай годнасці. Гэта пра іх, купцоў таго часу, сказаў А. Лойка: «Бо і славу трэба ж, нарэшце, учыніць купцу-першапраходцу, адкрывальніку зямель, яднальніку іх, пашыральніку культуры, чалавеку смеламу, адчайнаму, рызыкоўнаму, па-свойму гераічнаму...» Традыцыі Онкава і Бабіча годна працягвалі Мамонічы. Можна назваць і яшчэ сякія-такія імёны. Потым такой актыўнай праслойкі ў беларускіх гарадах мы не назіраем (прынамсі ў вялікіх маштабах). Яна паступова некуды знікла, здрабнела, паблякла. Прычын можна назваць колькі хочаце — бясконцыя войны, пажары, эпідэміі, эканамічны заняпад, рэлігійны разброд, запаўненне гарадоў чужародным элементам. І ўсё-такі, як нам здаецца, самай страшнай хваробай, якая літаральна на вачах з’ела вялікі народ эпохі Скарыны (а гэта і Онкаў, і Гусоўскі, і бліскучы ваяр князь Астрожскі, і, калі хочаце, князь Міхайла Глінскі з яго шэкспіраўскімі жарсцямі), была дэнацыяналізацыя адукаваных людзей, у тым ліку гараджан. Жывая празрыстая мова Скарыны, яго эпохі, засмечваецца, становіцца ўсё больш штучнай і, урэшце, адкідаецца на ўзбочча жыцця. Скарына да гэтага ліха не дажыў, пры ўсім сваім велізарным правідчым дары можа нават не падазраваў, што такое можа здарыцца. У яго не знаходзім трывогі на гэты конт. У яго яшчэ быў свой народ, з якім ён размаўляў на адной мове. У гэтым яго шчасце і сіла. Таму ён, Скарына, такі гарманічны і сонечны. Нават з урадам можна было дамовіцца на той самай мове: «Літоўскі тагачасны ўрад (правіцельства) са сваімі князямі меў — як то кажуць — усе клёпкі ў галаве...» (Я.Купала). Але хутка ўсё перамянілася, стала на галаву. Літаральна праз некалькі дзесяцігоддзяў у прадмове да свайго Евангелля (1580) другі патрыёт і працаўнік Беларусі Васіль Цяпінскі з недаўменнем і болем ставіць горкі дыягназ, бачачы «в таком зацном руском, а злаща перед тым довстипном, учоном народе езыка своего славнаго занедбане а просто взгарду».

Сціскаецца сэрца. Яшчэ скажа Леў Сапега гордыя словы пра Літоўскі статут на мілай матчынай мове, яшчэ напіша Ян Казімір Пашкевіч свой патрыятычны хваласпеў ў гонар «русчыны», без якой «в Литве блазном будзеш», але ўжо маячыла наперадзе жорсткая, зневажальная соймавая пастанова пра пераход у канцылярыях ВКЛ на іншыя словы і літары.

Беларусь чакалі вялікія выпрабаванні.

# Бібліяграфія

***(дадатак)***


**1825.** Wiadomości literacke // Dziennik Wileński. 1825. T. II. S. 305.
Згадка пра Ф.Скарыну ў перакладзе на польскую мову з кн. Калайдовіча Е. і Строева. "Обстоятельное описание славяно-российских рукописей..."(М., 1825)

**1835.** Историческое обозрение богослужебных книг греко-российской церкви. Киев, 1835. С. 187.
Тое ж самае. Выд. 3-яе, папр., 1857. С. 102.

**1843.** Цытович [Цытовіч І.П.?] Слова два о языке и грамотности Белой Руси // Маяк, 1843. Т. IX. Кн. XVII. С. 38. Перадрук: Пачынальнікі. З гісторыі літаратурных матэрыялаў XIX ст. / Уклад. Г.В.Кісялёў. Мінск, 1977. С. 8.

**1844.** Москвитянин. 1844. № 5. С. 174.

**1848.** Pietruszewicz A. Slów kilka napisanych w obronie naszej narodowości. Lwów, 1848. S. 19.

**1857.** *Киркор А.* Этнографический взгляд на Виленскую губернию. Ч.I. // Вестник Императорского Русского географического общества. Ч. 10. СПб., 1857. С. 245.
*Lelewel J.* Histoire de la Lithuanie et de la Ruthenie jusqu'a leur union definitive avec la Pologne conclue a Lublin en 1569. Paris et Leipzig. 1857. P. 245.

**1862.** *Кондратович Л. (Сыракомля Ул.).* История польской литературы от начала ее до настоящего времени. Перевод с польского. Т. II. М., 1862. С. 131—132.

**1863.** Православный собеседник. Ч. II. Казань, 1863. С. 569—570.

**1864.** *Кукольник А.* Исторические заметки о Литве. Вильно, 1864. С.105.
Коялович М.О. Ответ Костомарову на его статью в №118 газеты «Голос» [Спб., 1864] // Русский инвалид, 1864. № 100.

**1868.** *Белорус [Жолкевич С.В.].* Судьбы русского языка в костелах Северо-Западного края / / Русский вестник. 1868. Т. 77. № 9. С. 143—144.

**1872.** Сементовский А. Этнографический обзор Витебской губернии. Спб., 1872. С. 8.

**1873.** *Украинець (Драгоманов М.П.).* Література російська, великорусска, украинска и галицка. Львов. 1873. С. 28.
Тое самое: *Драгоманов М.П.* Літературно-публицистични праці у 2-х томах. Т. 1. Київ, 1970. С. 106.

**1874.** *[Батюшков П.Н.].* Памятники русской старины в Западных губерниях империи. Спб., 1874. С. 141, 144.

**1875.** *Kondratowicz L. (Syrokomla L.).* Dzieje literatury w Polsce od pierwostkowych czasów do XVII wieku. T. III. Warszawa, 1875. S. 379.

**1879.** *Пыпин А.И., Спасович В.Д.* История славянских литератур. Изд. 2-е, переработанное и дополненное. Т. I. Спб., 1879. С. 323, 324, 325, 328, 411.

**1884.** *Петров Н.И.* Очерки истории украинской литературы. Киев, 1884. С. 18.

**1888.** *Головацкий Я.* Черты домашнего быта русских дворян на Подляшье. По актам XVI ст. Вильно, 1888. С. 6.
*[Прот. Котович И.].* Памяти Якова Федоровича Головацкого. Отд. оттиск «Литовских Епархиальных Ведомостей». Вильно, 1888. С. 35.

**1889.** Календарь Северо-Западного края на 1889 год. М., 1889. С. 99.

**1890.** *Батюшков П.Н.* Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. Спб., 1890. С. 156.
*Бобровский П.О.* Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. Спб., 1890. С. 205.

**1891.** *Будилович А.* Сочинение профессора П.В.Владимирова «Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык». Спб., 1891. Отд. оттиск.

**1892.** *Астафьев Н.* Опыт исторической библиотеки в связи с просвещением и правами. Спб., 1892. С. 3,68.
*Драгоманов М.* Чудацки думки про украпньску національну справу. Львів, накладом І.Франко, 1892. С. 154—159.

**1894.** *Барсуков Н.П.* Жизнь и труды М.П.Погодина. Т. 8. Спб., 1894. С. 175.

**1898.** *Рыпінскі А.* Ліст да А.Плуга // Księga pamiątkowa na uczczenie setnej rocznicy Adama Mickiewicza (1798—1898).
У перакладзе на беларускую мову: Пачынальнікі. Мінск, 1977. С. 174—178.

**1899.** *Драгоманов М.* Розвідки про украпньску народню словісность і пісьменство. Т. 1. Львів, 1899. С. 16—17.

**1902.** *À.Ł. Skoryna Francieszek* // Encyklopedia Kościelna. S. 490.
*[Jelski A.]* Skoryna Francieszek // Encyklopedia Powszechna. T.13. Warszawa, 1902. S. 511—512.
*Leger L.* Le Monde Slave. Etudes politiques et literares. Paris, 1902. P. 225.

**1906.** *Митрок 3.* Белорусская школа как средство борьбы против полонизации края // Белая Русь. Вильно, 1906. № 10.
*Свентицкий И.* Письмо Галичанина // Там сама. № 16.

**1908.** *Евсеев К.* Судьбы школьного просвещения в Северо-Западной Руси. Публ. лекция. Витебск, 1908. С. 7—8.
*[Луцкевіч І.]* Беларусы ў Празе былі яшчэ...// Наша Ніва, 1908. № 107.
*Франко І.* Сучасні досліди над святим письмом// Літературно-новуковий вістник. Річ. XI. Кн. II. Т. XLI Київ, 1908. С. 328.

**1909.** *Дарашэнка Д.* Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне // Наша Ніва, 1909. № 39.

**1910.** *Зорин Н.* Минувшее и настоящее Полоцка. Полоцк, 1910. С. 17.
*Новина А. (Луцкевич А.)* Белоруссы // Формы национального движения в современных государствах. Спб., 1910. С. 390.
*Сапунов А.* Белоруссия. Оттиск из «Витебских губернских ведомостей». 6.XI.1910. Витебск, 1910. С. 16.
*Стукалич В.К.* Н.Я.Никифоровский 1845—1910. Вильно, 1910. С. 7.

**1911.** *Красовицкий П.М.* Памятники церковной старины в Витебской губернии и их окрестностях // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1911. Кн. 1. С. 48.
*Сапунов А.П.* Исторический очерк Витебской Белоруссии // Там сама. С. 10.

**1912.** *Węgerowicz W.* Młoda Białoruś // Świat słowiański, 1912. № 59. S. 54.
*Верашчака Ю. (Ластоўскі В.)* Літаратарам з кальцом у носе // Наша Ніва. 1913. № 31.

**1913.** *Земкевич Р.* Белорусская библиография // Белорусский научно-литературный кружок студентов С-Петербургского университета. Спб., 1913. С. 24.
*Хлебцевич Е.* Очерк белорусской народной мысли // Там сама. С. 15.

**1914.** *Гмырак Л. (Бабровіч. Л.).* Мова ці гутарка? // Наша Ніва. 1914. № 7.

**1916.** *Grabowski T.* Białoruś pod rządami Rosji. Kraków, 1916. S. 11.
*Wasilewski L.* Die Ostprovinzen des alten Polenreiches. Krakau, 1916. S. 87.

**1917.** *Л-к Я. (Лёсік Я.)* Наша культурнае свята // Вольная Беларусь, 1917. № 12.
*Мялешка І. (Луцкевіч А.?)* Усход ці Захад? // Гоман, 1917. №52.
*Шляпкин И.А.* Похвала книге. Спб., 1917. С. 1.
*Ярушевич Е.* Враги // Белорусская Рада, 1917. № 1.
*Studnicki W.* Die Buchdruckerkunst in Wilna // Zeitung der X.Armee, 1917. № 305.

**1918.** *Пётра з Арленят (Станкевіч Ад.).* Што было і што павінна быць // Гоман, 1918. № 7.
Чествование памяти Францишка Скорины // Белорусское Эхо, 1918. № 7. С. 7.
*Шчыры Беларус (Жылунович Зм.).* Угаворнікі // Дзянніца, 1918. № 26.
*Щеглова С.А.* «Богогласник». Историческо-литературное исследование. Киев, 1918. С. 47—48.
*«Стихи эти [Скарыны «Веруй в Бога единого...»] представляют собой не что иное, как перевод польского декалога с XV в., но Скорининский перевод явился*

*первым опытом религиозных виршей на Руси».*
Выстава імя Францішка Скарыны // Чырвоны шлях. 1918. № 3—4. С. 8.

**1919.** Абвестка Таварыства імя Францішка Скарыны [з малюнкавай выявай Першадрукара] // Часопісь. Вільня, 1919.
*Грушевськй М.* Культурно-національний рух на Украпні в XV-XVIII віці. Вид. 2-е [Б.м.], 1918. С. 52.
*Ксяневіч Я.* Беларуская мова і пісьмо // Беларусь, 1919. № 15.

**1920.** *Карскі Я.* Беларускі народ і яго мова. Адбітка з газеты "Беларусь", Менск, 1920. С. 10.
Памяці Івана Луцкевіча. У першыя ўгодкі смерці яго. (20.VIII.1919-20.VIII.1920), Вільня, 1920.С.15.
[Янчук Н.А., рэд.] Очерки белорусской литературы. Вып. I. М., 1920. С. 2,4,72.

**1921.** *Гарэцкі М.* Кароткі агляд беларускай літаратуры // Nowiny Wileckie, 11921, 27, 28, 30.08; 26.09; 10.10.
*Лёсік Я.* Беларуская Энеіда навыварат // Вольны сцяг, 1921. № 4.С. 32.
К 400-леццю друку ў Вільні // Беларускія Ведамасці, 1921. № 4 (у Скарыніяне В.Тумаша (1989) памылкова пададзены № 7).

**1922.** *З[мітрок] Б[ядуля].* Этапы развіцця беларускай літаратуры // Савецкая Беларусь, 1922. № 272.
*Дорошенко Дм.* Словянский світ в його минулому и сучасному. Т. I. Берлин, 1922. С. 43.
*Карский Е.* [рэц.] Н.А. Янчук Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры // Вестник Народного Комиссариата Просвещения, 1922. Август-Сентябрь. С. 9—10.
*Святагор В.* Праваслаўная царква на Беларусі // Беларускі сцяг, 1922. № 1. С. 14.

**1923.** *Земкевіч Р.* Гутаркі аб беларускай літаратуры [рэц. на "Хрэстаматыю беларускай літаратуры" М.Гарэцкага] // Наша будучыня, 1923. № 1.
*Ластоўскі В.* Адзінокі. Эпізод з жыцця Скарыны // Крывіч, 1923. № 6.

**1924.** *Жылуновіч Зм.* Беларускае пісьменства // Зб. "Беларусь", Мінск, 1924. С. 5.
*Некрашэвіч С.* Роднае слова. Выд. 3-е. Мінск, 1924.С.136.
*Drygwicz [Самойла Ул.?].* Nowe momenty w psychyce narodu białoruskiego // Przegląd Wileński, 1924. № 17. С. 4.

**1925.** [Адкрыццё бюста Ф.Скарыне ў Інстытуце беларускай культуры] // Звезда, 1925. № 300.
*Бываеўскі Н. (Дыла Я.)* Вялікае свята беларускай культуры // Малады араты, 1925. № 14.
*Жылуновіч Зм.* Эвалюцыя беларускай кнігі // Полымя, 1925. № 1. С. 117.
*Каиzап А.* Pismo z Prahi. 1525-1925 // Крыніца [Вільня], 1925. № 16: *"Скарына ёсць магутнае слова, якое здабывае дзіўны рэспект для народу Беларускага".*
*Коряк В.* Нарис історпі украніскоп літератури. Харків, 1925. С. 87.
*Навіна А. (Луцкевіч А.)* Вільня ў беларускай літаратуры // Студэнцкая думка, 1925. № 5 (6). С. 10.
Першы выпуск Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэту 20 лістапада 1925 г. Віцебск, 1925. С. 18.
*Огіенко І.* Друкарска трійця – Фіоль-Скорина-Хведоровіч // Літопіс. Берлін, 1925. № 11—15. С. 7.
*П[ачоп?]ко І.* 400-лецце беларускага друку // Праваслаўны беларус, 1925. № 2.
Полотчина. Полоцк, 1925. С. 7.
*Славин И.* Национал-демократизм и правая опасность // Революция и культура, 1925. № 2. С. 35.
*Смоліч А.* Геаграфія Беларусі. Выд. 3-е [1925]. С. 212: *«Некалі слаўнае места Полацкае, што падарыла свету св. Еўфрасінню і доктара Францішка Скарыну і "заснула" на доўгія вякі».*
*Шчакаціхін М.* Дрэварыты і арнаменты ў выданнях Скарыны // Малады араты, 1925. № 14. С. 9.
Пра выяўленне Іванам Луцкевічам (раней за А.І.Мілавідава) у каралеўскім архіве Кенігсберга дакументаў аб наведванні Ф.Скарынам сталіцы Прусії ў 1530 г. // Выцінка з польскай газеты, без назвы і даты, у паперах кс.Ад.Станкевіча. – АР ЦНБ НАН РБ, ф.4, воп.1, адз.зах. 84, а.6.

**1926.** Беларускае Скарынаўскае таварыства ў Празе // Сялянская ніва, 1926. № 6.
*[Гарэцкая Л.].* Родны край. Трэцяя і чацвёртая пасля лемантара кніжка для чытання. Вільня, 1926. С. 97.
*Игнатовский В. Смолич А.* Белоруссия. Мн., 1926. С. 30—31.
*Каспяровіч М.* Культура беларускай кніжнасці // Маладняк, 1926. № 5.
*Купала Янка.* Ліст да палачан // Чырвоная Полаччына, 1926. 13 мая.
Тое самае : Купала Я. Поўны збор твораў у 9 тамах. Т. 8. Мінск, 2002. С. 106:
*"Пажадаю Вам, палачане і палачанкі, каб тая першая падумка Вашага славутага продка, вялікага вучонага Ф.Скарыны, што для "люду паспалітага" трэба пісаць кнігі на яго простай, зразумелай для яго мове, была заклікам да працы над эканамічным і нацыянальным адчуваннем нашай многапакутнай бацькаўшчыны".*
Святкаванне Скарынаўскага юбілею ў Чэхіі // Сялянская ніва, 1926. № 6, 14 лют.
*Сербенто В.* К 400-летию печати в Белоруссии // Звезда, 1926. № 2, 3 янв.
*Цвікевіч А.* Зноў "Западная Россия" // Полымя, 1926. № 2. С. 118—119.

**1927.** Беларуская кніга // Чырвоная краіна, 1927. № 2. С. 15.
Доктар Францішак Скарына // Студэнцкая думка. Вільня, 1927. № 3(4). С. 3.
Працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мінск., 1297. С. 25 (Галомбэк), 315 (Піотуховіч).
*Шчакаціхін М.* Беларускае кнігадрукаванне за 400 год // Савецкая Беларусь, 1927. № 109, 17 траўня.
*Přetisk Z.*Tobolsky. Monumenta Bohemia typographica [Б.м.]; 1927. S. 44.
Згадваецца праблема ўзаемных уплываў Скарынавай, еўрапейска-нямецкай і польскай графік.

**1928.** *Горецкий М.* Белорусская литература (краткий очерк) // Октябрь, 1928. № 4. С. 118.
*Дрэйзін Ю.* Антычныя матывы ў паэзіі М.Багдановіча // Узвышша, 1928. № 2. С. 118.
*Дубоўка Ул.* [пра Ф.Скарыну] // Узвышша, 1928. № 3. С. 99 (падрадкоўнік).
*Клейнборт Л.М.* Молодая Белоруссия. Очерк современной белорусской литературы. 1905—1928 гг. Мн., 1928. С. 483.
*Піотуховіч М.* Нарысы гісторыі белаорускай літаратуры. Мінск, 1928. С. 14.
*Czarnecki J.* Wilno w dziejach książki polskiej. Wilno, 1928. S. 6.

**1929.** *Каспяровіч М.* Краязнаўства. Мінск, 1929. С.119.
Першы беларускі гумарыстычны каляндар на 1930 г. Вільня, 1929. С. 3,5,10.
*Цьвікевіч А.* "Западнорусизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мыслі на Беларусі у XIX і пачатку XX в. Менск, 1929. 2-е выд., Мн., 1993. С. 275.
*Ks. Stankiewicz Ad.* Rodnaja mova u swiatyniach. Wilnia, 1929. S. 37.
*Bruckner A.* Lech-Spiawicski T. Zarys dziejyw literatur i jkzykyw litewskich i siowiacskich. Lwyw, 1929. S. 18.

**1930.** *Груньскій М.* Білоруська мова в її мінулому та сучасному вивченні (асобны адбітак). Кипв, 1930. С. 149—150.
Каталог (кнігачасопіс) беларускіх кніг у друкарні "Пагоня". Вільна, Беларуская друкарня імя Ф.Скарыны, 1930. С. 38, 50.
Пралетарскім шляхам [рэд.] // Узвышша, 1930. № 1. С. 4.

**1931.** Ad redakcji [пра дзейнасць Беларускага (Крывіцкага) культурнага таварыства імя Ф.Скарыны] // Іскры Скарыны. Прага, 1931. № 1.
*Бабровіч Л., Шпілеўскі І., Бандарэнка В., Вальфсон С., Мацюкевіч Я.* "Навука" на службе нацдэмаўскай кантр-рэвалюцыі. Серыя мовазнаўства. Т. 1. Ч. 2. Мінск, 1931.
Беларускія нацдэмакраты ў краязнаўчым руху БССР. Мінск, 1931. С. 108:
*"У 1925 годзе замаскаваўшыся ў Наркамасветы і Інбелкульце, нацдэмы рашаюць арганізаваць шумную нацыяналістычную дэманстрацыю, звязаную са Скарынаю <...> Хваля Скарынінскіх урачыстасцей пракочваецца па БССР. Побач з партрэтамі рэвалюцыйных правадыроў, а дзе-нідзе і замест іх, пачынаюць зьяўляцца партрэты Францішка Скарыны. Высоўваецца ў нетрах Н[ароднага] К[амісарыята] А[светы], энергічна абараняецца праект прысваення Беларускай Дзяржаўнай бібліятэцы імя Францішка Скарыны. Нарэшце, Інбелкульт выпускае Скарынаўскі*

*зборнік, дзе звыш чым на 20 друкаваных аркушах культывуецца "Скарынінская традыцыя».*
*Гірчак Е., Канакоцін О.* Націонал-демократизм у білорускоп литературі. Харків, 1931. С. 27.
*Кляшторны Т.* Нацыянал-дэмакратам // Чырвоная Беларусь. 1931. № 8. С. 14.
Novaja varta. Časopis Biełaruskaj Studenckaj korporacji „Scorinia" [Б.м.].

**1932.** *Кастелянский А.* Изобразительное искусство БССР [Б.м.], 1932.

**1933.** *Дорошенко Д.* Нарис історії Украіни. Т. І. До полови XVII ст. Варшава [1933]. С. 169.
*[Луцкевіч А.].* Пятнадцаць гадоў працы Беларускага Навуковага Таварыства // Гадавік Навуковага Таварыства ў Вільні. Кн.1. Вільня, 1933. С. 6.
*Łuckiewicz A.* Muzeum Białoruski im. Jana Łuckiewicza w Wilnie // Bałticosłavica. T. I, Wilno, 1933. S. 47.
*Łysakowski A.* Uniwiersytecka biblioteka publiczna w Wilnie // Ateneum Wileńskie. R. VIII. Wilno, 1933. S. 268.
Пра наяўнасць сярод старадрукаў "Апостала" Скарыны, набытага для бібліятэкі П.М. Бацюшкавым; у 1915 г. з-за пагрозы акупацыі Вільні нямецкім войскам найкаштоўнейшая частка кнігазбору была вывезена ў глыб Расіі.

**1934.** *Hryb T.* U 50-ja uhodki иas. „Homan" // Iskry Skaryny, 1934. № 3. S. 33.
*Шпілеўскі У.Ф.* Беларуская Акадэмія Навук да 15-годдзя БССР (гістарычны нарыс). Мінск, 1934. С. 25.

**1935.** *Грынкевіч Ст.* 3 зацемак аб характары беларуса // Калосьсе. Кн. 2. Вільня, 1935. С. 112.
*Модэль М.* Некаторыя пытанні літаратурнай крытыкі // Полымя рэвалюцыі, 1935. № 6.

**1936.** Першая навука Закону Божага з беларуска-славянскім букваром. Выд. 2-е, папр. і дапр. Варшава, 1936. С. 159.

**1938.** Х.Х. Визвольний рух Білорусі // На службі нації. Альманах. Париж, 1938.
Тое самае: Скарыніч. Вып. 5. Мінск, 2002. С. 122.

**1939.** *Iljaszewicz T.* Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). Wilno 1938.
Рэц. : Deruga A. // Ateneum Wileńskie. R. XIV. Z.1., 1939. S. 268.

**1941.** Handbuch der Ukraine. Herausgegeben von Prof. Dr. J.Mirtschuk. Leipzig, 1941. S. 328.

**1942.** Biełaruskaja szkola. Č.II. Mensk, 1942. S. 34—35.
*Горбунов Т.* Белоруссия живет, Белоруссия борется // Славяне, 1942. № 1. С. 23.
*Станкевіч Я.* Крэўя Беларусь у мінуласці // Мінск, 1942. С. 57.
*Чижевский Дм.* Історія українськоп літератури. Кн. 2. Прага, 1942. С. 14,15.

**1943.** *Гарбуноў Ц.* Беларускі народ ніколі не будзе рабом // Блакнот агітатара-партызана [М.], 1943. С. 10—11:
*«Ён [Скарына] вучыў народ любіць сваю зямлю, як любяць працалюбівыя пчолы свае вуллі, як любяць рыбы свае норы, як любяць птушкі лясны гушчар. Навучаў не шкадуючы свайго жыцця змагацца з спрадвечнымі нашымі ворагамі...»*
*Глыбінны І. (Сядура І.).* Вацлаў Ластоўскі як паэта нацыяналістычнае думкі // Беларуская газэта. 1943. № 8. 23 кастр.
Тое самае: Скарыніч. Вып. 3 М.-Мінск-Смаленск, 1997. С. 31:
*«У разнастайнасці і шырыні інтарэсаў і выяўленай ім [Ластоўскім] творчай дзейнасці, паводле значэння ягонага ў гісторыі беларускага пісменства і ў выдавецкай справе. Яго можна раўнаць хіба да першага беларускага друкара і асветніка-гуманіста Ф.Скарыны.»*
*Ластоўскі В.* Што трэба ведаць кожнаму беларусу. Выд.3-е. Берлін, 1944. С. 9.

**1944.** *Будзіловіч В.* Францішак Скарына – першы беларускі друкар // Беларускі работнік [Берлін], 1944. № 37.
*Станкевіч Ад.* Іван Луцкевіч – закладчык Віленскай Беларускае гімназіі // 25-леццє Беларускай гімназіі ў Вільні 1919—1944. Вільня, 1944. С. 10.

**1947.** *Греков Б.* Роль славянства в истории мировой культуры // Славяне, 1947. № 2. С. 49.
*Сіповіч Ч.* Асновы беларускага патрэятызму // Божым шляхам, 1947. № 3. С. 5.

**1948.** Тезисы об основных вопросах истории БССР. Ч. 1. История белорусского народа до Великой Октябрьской социалистической революции [отд.оттиск] "Известий АН БССР", Мн., 1948. № 3.С. 17.
*Rydlewsky L.* Biélorussie. Aperçu sommaire de histoire de la Nation biélorussienne et du Mouvement de Liberation Nationale. Paris, 1948. P. 10.

**1953.** *Черных П.Я.* Язык Уложения 1649 года. Орфография, фонетика и морфология в связи с историей уложения книги. М., 1953. С. 41.
Bielorussia y los bielorussos en la Republica Argentina. Buenos Aires, 1953. S. 27.

**1955.** *Станкевіч Ст.* Янка Купала [Прадмова да Купалавага зборніка "Спадчына"], Мюнхен, 1955. С. LXII.
*Jurkowski M., Karski E.* Od hramot i latopisyw do Janki Kupaiy i Jakuba Kołasa // Trybuna Ludu, 1955. № 277, 2.X.

**1960.** *Пшыркоў Ю.С.* Беларуская савецкая проза (20-я – пач. 30-х гадоў). Мінск, 1960. С. 59: Аб вульгарызатарскім асвятленні ў 20-30-я гг. спадчыны мінулага, у т.л. Ф.Скарыны, Ф.Багушэвіча, Я.Купалы.
*Факторович Д.Б.* Изучение взаимодействия белорусской и зарубежной литературы. М., 1960. С. 37.

**1961.** *Глебка П.Ф.* Доклад на координационном совещании по актуальным проблемам славяноведения // Актуальные проблемы славяноведения. М., 1961. С. 23.

**1962.** Полоцк. Исторический очерк. Мн., 1962. С. 41, 67—68.

**1963.** *Кісялёў Г.В.* Сейбіты вечнага. Мінск, 1963. С. 20.
*Limanowski B.* Pamętniki (1907—1919). Warszawa, 1963. S. 655.

**1964.** *Прибытков В.* Иван Федоров. М., 1964. С. 11, 170.

**1965.** Біблія Скарыны а пастанова Трыдэнцкага сабору // Божым шляхам. 1965. № 5. С. 47.
*Игнатенко А.П.* Введение в историю БССР. Периодизация. Источники. Историография. Мн., 1965. С. 32.
*Прашковіч М.* Слова пра Афанасія Філіповіча // Полымя, 1965. № 2.С. 174, 177.
*Смолкін М.* Слова пра Марціна Кухту // Дзень паэзіі. Мінск, 1965. С. 45.

**1966.** *Афанасий Мартос.* Белорусь в исторической и церковной жизни. Буэнос-Айрес, 1966. С. 23.

**1967.** *Станкевіч Я.* З гісторыі русіфікацыі Вялікае Літвы. N.-Y., 1967. С. 21, 24.

**1968.** *Schnaider L.* Jkzyk białoruski. Kraków, 1968. S. 5.

**1970.** *Петров Ф.П.* Книга – верный спутник дружбы // Книга. Исследования и материалы. Т.XXI. М., 1970. С. 145.

**1971.** *Бурак А., Прилуцкий С.* Радзивилловские летописи // Неман, 1971. № 7. С. 177.
*Кісялёў Г.В.* Загадка беларускай "Энеіды". Мінск, 1971. С. 25.
*Рабкоў І.А.* Падокшын С.А. Гуманізам // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. IV. С. 84.

**1972.** *Саламевіч Я.* Міхал Федароўскі. Мінск, 1972. С. 304.

**1974.** *Калубовіч А.* Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. [Ч.] 1. Мюнхен-Лондан, 1974. С. 79.
Полоньска-Василенко Н. Історія України. Т. 1. Мюнхен, 1972. С. 399.

**1977.** История литовской литературы. Вильнюс, 1977.С.12.
Хрестоматия по истории Белоруссии с древнейших времен до 1917 г. / Сост. А.П.Игнатенко, В.Н.Сидорцов. Мн., 1977. С. 247—248.

**1978.** Крылья и память народа [гутарка з І.П.Шамякіным у запісе А.Каўко] // Комсомольская правда. 1978, 27 декабря.
*Лазарук М.* Развіццё навукі і літаратуры // Уводзіны ў літаратуразнаўства. Хрэстаматыя. Мінск, 1978. С. 5.
Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. Мінск, 1978. С. 188 і інш. (з прыкладамі са Скарынавых тэкстаў).

**1979.** *Горяинов А.Н.* Викторов Алексей Егорович // Славяноведение в дореволюционной

России. Библиографический словарь. М., 1979. С. 104.

**1980.** Васілеўскі П. Застацца сабою // Літаратура і мастацтва, 1980. 19 снеж.
*Грыцкевіч В., Мальдзіс А.* Шляхі вялі праз Беларусь. Мінск, 1980. С. 7,14.
Письмо русскому другу // Современник. Торонто, 1980. № 1980. С. 45—46.

**1981.** *Тарасов К.* Возвращение на Родину // Неман, 1981. № 4. С. 191.

**1981.** *Каваль А.* (Каўка А.) "Па-нашаму напісана" // Ніва [Беласток], 1982. № 9.
*Мушынскі М.* Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск, 1982. С. 438.
З ліста Я.Коласа да С.Гарадзецкага ад 2 чэрвеня 1948 г. пра вынікі сесіі аддзялення грамадскіх навук Ан БССР: *"Надо было установить правильный взгляд на оценку роли Скорины в области культуры, на Франтишка Богушевича, на Костуся Калиновского. Много было сказано хороших и полезных слов."*
*Рагойша В.* Кантакты. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск, 1982. С. 190.
*Шарахоўскі Я.* Песняр роднай зямлі. Жыццё і творчасць Янкі Купалы. Мінск, 1982. С. 248, 249.
Cyrilické tisky. Vystava z fondů Statni knihovny ČSR. Pořádaná k výroči úmrtí I. Fjodorova. Praha, 1982. S. 16—18.

**1983.** *Гарэцкі Г.* У вянок памяці Максіма Гарэцкага // Мастацтва Беларусі, 1983. № 3. С. 59.
*Ермалович Н.* Проникновение в глубины // Неман, 1983. № 11. С. 147.
*Каўко А.* Ад "тутэйшасці" да нацыянальнасці. Нацыянальныя і агульначалавечыя матывы ў дарэвалюцыйнай творчасці Янкі Купалы // Ніва, 1983. № 3.

**1984.** Белы А., Самусевіч І. Сцежкамі лёсу першадрукара // Настаўніцкая газета. 1984, 1 лют.
*Геллей Генри Г.* Краткий библейский толкователь / Пер. с англ. Торонто, 1984. С. 844.
*Колосов Л.Л.* Филателия в Белоруссии. Мн., 1984. С. 12,13.
*Ліс А.* Вечны вандроўнік [пра Язэпа Драздовіча]. Мінск, 1984. С. 47.
*Мірачыцкі Л.* Традыцыі перакладу. З гісторыі літаратурных сувязей Беларусі з народамі замежных краін // Голас Радзімы, 1984. № 32.
*Тарасов К.* Память о легендах белорусской старины. Голоса и лица. Мн., 1984. С. 69, 96, 97.
*Улашчык М.* Згадка // Максім Гарэцкі. Успаміны. Артыкулы. Дакументы. Мінск, 1984. С. 85.
*Bergman A.* Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984. S. 220, 224.

**1985.** *Бембель А.* Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс. Лондан, 1985. С. 70, 136.
Гісторыя беларускага тэатра ў 3-х т. Т.2.Мінск, 1985. С. 160, 170, 171, 496, 499.
*Нимчук В.В.* Древнерусская и староукраинская лексика в контексте европейской филологии // Славянские культуры и мировой культурный процесс. Мн., 1985. С. 85.
*Панасик Д.* В те суровые годы // Летописи боевого подвига. Мн., 1985. С. 96
Выказванне пра Ф.Скарыну П.К.Панамарэнкі.
*Родчанка Р.В.* Старэйшая школа Беларусі. Мінск, 1985. С. 14.
*Судавичене Л.В., Синичкина Б.М.* Язык изданий Франциска Скорины и балто-славянские лексические связи // Tartaunine baltisty konferencja 1985. Tezes. S. 222—223.

**1986.** *Геніюш Л.* Скарбы слоў // Краю мой, Нёман. Гродзеншчына літаратурная. Мінск, 1986. С. 248.
*Журавский А.* Белорусская историческая лексикография // Славянская историческая и этимологическая лексикография (1970—1980): итоги и перспективы. Сб. обзоров. М., 1986. С. 104.
*Красней В.П., Шакун Л.М.* Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Выд. другое, дапрац. Мінск, 1986. С. 104—106.
Рагойша В. Віленскі беларус Янка Багдановіч // Літаратура і мастацтва. 1986. 5 снеж.

**1989.** *Кавко А.* Францишек Скорина // Вопросы истории. 1988. № 10.
*Каўко А.* Ад народа – да чалавецтва. Этнакультурныя аспекты творчасці Фр. Скарыны. // Ніва. 1988. 27 ліст.
*Каўко А.* [Як звалі Скарыну?] // Полымя. 1988, ліпень.
*Bardach J.* O dawnnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988. S. 18.

Dar Polski Biaiorusinom, Rosjanom i Ukraiccom na TysiNolecie ich Chrzstu Hwiktego. London, 1989. S. 56, 144—145.
Зварот Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Фр.Скарыны // Шляхам Скарыны. М., 1989. № 1. С. 1—2.
Тое самае: Скарыніч. 1991. Вып. 1. С. 171.
*Усё відавочней ісціна: на дне высахлай ракі жывога мацярынскага слова настае немінучы духоўны скон асобы, гістарычны занепад народа. Не дзеля сытасці – дзеля творчасці родзіцца чалавек, развіваюцца народы. Гэтую праўду бліскуча давёў Скарына, наш славуты асветнік-першадрукар. Няхай жа прыклад вялікага гуманіста яднае нас у служэнні народнай справе – дабру пасналітаму, развіццю культуры, дружбе між народамі.*

***Укладанне А.Каваля.***

## Нямецкую знаходку прэзентавалі...

*У актавай зале факультэта журналістыкі БДУ адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам сустаршыні Рабочай групы «Беларуска-нямецкія сустрэчы» доктара Іяханеса Шлоотца і прафесара-беларусіста, кансультанта Цэнтра моўнай падрыхтоўкі Федэральнага Міністэрства замежных спраў Германіі Норберта Рандава. Кнігі Бібліі, надрукаваныя Францішкам Скарынам у Празе ў 1518—1519 гадах і нядаўна знойдзеныя ў Верхнелужыцкой навуковай бібліятэцы горада Гёрліца, выклікалі, як пісаў «Голас Радзімы», цікавасць у немцаў. І вось вучоныя прыехалі ў Мінск, каб праінфармаваць беларусаў пра знаходку.*

***«Германія — гэта і славянская краіна»***

Некалькі ўступных слоў сказаў, звянуўшыся да залы, поўнай студэнтаў і прадстаўнікоў беларускіх СМІ, доктар Шлоотц. Ён напоўжартам прызнаўся, што ў студэнцкія гады лічыў, нібы Скарына – гэта немец. І толькі потым, пабываўшы не раз у Мінску, пераканаўся, што гэта беларускі першадрукар, але цесна звязаны з нямецкай культурай: збіраўся, відаць, працягваць кнігадрукаванне ў Прусіі пад апекай герцага Альбрэхта, ездіў да Лютэра. І вось – знаходка ў Гёрліцы, лужыцкім горадзе. Госць прыгадаў, што лужыцкія сербы (сорбы) – таксама славяне. Значыць, працягваў напоўжартам вучоны, «Германія – гэта і славянская краіна».



***Яу друкі Скарыны трапілі ў Гёрліц?***

Галоўнае пытанне, што цікавіла прысутных: як беларускія старадрукі аказаліся ў Гёрліцы? Прафесар Рандаў падрыхтаваў пра гэта цэлы даклад. Аўдыторыя заслухала яго пачатак на нямецкай, а потым увесь тэкст – на беларускай мове.

...Усё пачалося з выставы, якая абдылася ў верасні-лістападзе 2003 года ў Гёрліцы. У адной з вітрын былі выстаўлены некалькі рэдкіх Біблій. Пастар Лоберс потым паведаміў прафесару Рандаву, што сярод іх экспанаваліся кнігі, надрукавыныя Ф.Скарынам. Але ж усе экземпляры яго

старадрукаў нібыта вядомы, апісаны маскоўскім прафесарам Я.Неміроўскім... Няўжо недзе ёсць яшчэ? Неверагодна! Аднак у пацвярджэнне пастар даслаў Г.Рандаву копію тытульнага ліста. Тады беларусіст ідэнтыфікаваў кнігі.

Ён, відаць, хацеў перакласці Свяшчэннае Пісанне на адну са славянскіх моў, каб пашырыць уплыў лютэранства. Лютэране, як вядома, разлічвалі на сілу пераканання, таму маглі арыентавацца на дзейнасць Ф.Скарыны як аўтарытэтнага асветніка.

У сваіх прамовах беларускі першадрукар супастаўляе свецкую адукацыю і рэлігію. Ён раіць карыстацца Бібліяй пры вывучэнні граматыкі, логікі (каб адрозніваць правільнае ад няправільнага) і рыторыкі. Блізкія да рэфармацкіх памкненні асветніка, відаць, прыцягнулі да яго кніг увагу Хэса ш вызначылі далейшы складаны лёс гэтых кніг. Пасля доўгіх вандраванняў па асабістых бібліятэках яны трапілі ў бібліятэку Гёрліцкай гімназіі, якая ў 1853 годзе далучылася да Верхнелужыцкай. Чаму ж яе не ідэнтыфікавалі адразу? Магчыма, пераблыталі назву горада Полацка з польскім Плоцкам. Але цяпер усё стала на сваё месца. Да 258 вядомых экземпляраў кніг Скарыны дабавіліся новыя. <...>

У Гёрліцы аказаліся два пераплёты (канвалюты): Пяцікніжжа Маісея, датаванае 1519 годам, і асобна шэсць кніг, датаваных 1518 годам: Ісуса – сына Нава, Царстваў (чатыры кнігі), Прамудрасці. Кожнай частцы папярэднічае прадмова Скарыны. Агульны аб'ём складае 678 лістоў, гэта значыць 1 356 старонак. Памер – 21,8 на 16,4 сантыметра. Вокладка абцягнута цёмна-карычневым пергаментам. На верхніх палях некаторых частак пазначаны імёны ўладальнікаў: жыхароў Вроцлава Андрзаса Банка і Іяханеса Хэса. Пра першага вядома, што ён паходзіў з сям'і гарадскіх патрыцыяў. А Хэс знаходзіўся ў цэнтры пратэстанцкага руху. <...>

Госці з Германіі запэўнілі аудыторыю, што беларусы змогуць убачыць знаходку, скажам, на абменнай выставе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі або ў Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Але, зразумела, застануцца кнігі Бібліі ў Гёрліцы і будуць даступны даследчыкам, каб садзейнічаць нашаму ўзаемаразуменню.

Як адзначыў на прэс-канферэнцыі першы сакратар Пасольства Германіі ў Беларусі спадар Шміт Нойбурт, Беларусь павінна стаць больш вядомай для нямецкага народа, вядомай так, як таго заслугоўвае.

***Марына Габрыянік***

*На рэпрадукцыях:* партрэт Францішка Скарыны, які змешчаны ў адной са знойдзеных кніг, адрозневаецца ад агульнавядомага; адна са сатронак з уладальніцкім надпісам уверсе і пячаткай з правага боку.

*Голас Радзімы. Belarus 21. Ву 10 лістапада 2005 г., № 44-45.*

## ФОТАІЛЮСТРАЦЫІ



Нашаніўцы: Іван Луцкевіч, Аляксандр Уласаў, Антон Луцкевіч.
*Са збораў Беларускай бібліятэкі імя Фр. Скарыны ў Лондане. Публікуецца ўпершыню.*



Гальяш Леўчык.

Гальяш Леўчык (з крыжыкам на грудзёх, звычайна "адсяканым" у многіх публікацыях)



Стужка з жалобнага вянка ад “Нашай Нівы” на магілу Элізы Арэшчыхі. 1910 г.



Каля гэтае ж памяткі-стужкі беларускія і польскія пісьменнікі М.Танк, І.Сікірыцкі, В.Адамчык, А.Грачанікаў, І.Чыгрынаў, А.Мальдзіс і іншыя падчас Дзён беларускай літаратуры ў Польшчы.

*Бібліятэка Лодзінскага ўніверсітэта. Кастрычнік 1982. Архіў укладальніка. Публікуецца ўпершыню.*



Лена, Валянцін Цыбіны з дачкой Валяй (першы рад), Валянціна Яскевіч (Каўко), другі рад злева, Валянціна Яскевіч. 1951 г.



Мікалай Улашчык каля Наваградскага замку. 1962 г.
*Сямейны архіў А.М. Улашчыка. Публікуецца ўпершыню.*

ДАРАГІ НАШ М І К А Л А Й М І К А Л А Е В І Ч,

БЕЛАРУСКІЯ АРХЕОЛАГІ САРДЭЧНА ВІНШУЮЦЬ ВАС З 75-годдзем З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ, ЖАДАЮЦЬ МОЦНАГ. ЗДАРОЎЯ, АСАБІСТАГА ШЧАСЦЯ, НОВЫХ ТВОРЧЫХ ПОСПЕХАЎ НА НІВЕ ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУКІ. МЫ ДОБРА ВЕДАЕМ І ЦЭНІМ ВАС ЯК АДНАГО З ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ АРХЕАЛОГІІ, ЯК ВЫДАТНАГА ДАСЛЕДЧЫКА НАШАГА СЯРЭДНЯВЕЧЧА, ЯК КЛАПАТЛІВАГА НАСТАЎНІК МАЛАДЫХ НАВУКОЎЦАЎ. НЯХАЙ ЖА В А М ЯШЧЭ ДОЎГА І ПЛЁННА ПРАЦУЕЦЦА ДЛЯ ШЧАСЦЯ Б А Ц Ь К А Ў Ш Ч Ы Н Ы !

Л. Побаль А. Калечыц

Э. Зайкоўскі

Віншавальны адрас беларускіх археалагаў на 75-я ўгодкі Мікалая Улашчыка.




Віншавальная паштоўка "1000 год беларускай гісторыі", падараваная М.М. Улашчыку на яго 80-я ўгодкі. На адвароце : *"Ёсць у народа гісторыя. Ёсць у народа гісторык. За гэтую праўду святую – Настаўніку нізкі паклон. Адзін з вучняў. 14 лютага 1986 г."* *Архіў укладальніка.*




Exlibris Зоські Верас. Мастак В.Целеш.



Міхал Ляпеха, Уладзімір Содаль ля Багушэвічавай сядзібы. Кушляны 1985 г.
*З архіва У.Содаля.*




Мікалай Улашчык вачыма Яўгена Куліка. 20.07.1986 г.
*Архіў укладальніка.*

# СКАРАЧЭННІ

АНАН РБ — Архіў Нацыянальнай Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь

АРАН Спб — Архіў Расійскай Акадэміі Навук, філіял у Санкт—Пецярбургу

АР БАН — Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі Навук у Санкт—Пецярбургу

АР НБ АНЛ — Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі Навук Літвы

АР НБВ — Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве

АР РДБ — Аддзел рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі

АР ЦНБ НАН РБ — Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа Нацыянальнай Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь

БДАМЛІМ — Беларускі дзяржаўны архіў—музей літаратуры і мастацтва

ДАРФ — Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі

ІРЛ РАН — Інстытут рускай літаратуры Расійскай Акадэміі Навук (Пушкінскі Дом)

ЛА МНЛЧ — Літаратурны архіў Музея нацыянальнай літаратуры Чэхіі

МЗС РФ ГДД — Міністэрства замежных спраў Расійскай Федэрацыі. Гісторыка—дакументальны дэпартамент.

НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

РДАЛМ — Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва

РДАСПГ — Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна—палітычнай гісторыі

## ВЫДАННЮ ПАСПРЫЯЛІ

Астроўская Софія
Аросева Тамара
Галіеўская Галіна
Гесь Алеся
Глод Алесь
Голуб Валерый
Дарагуж Уладзімір
Дзядзюля Павел
Епімашка Іван
Запатрыка Ганна
Кажадуб Алесь
Коньшава Антаніна
Лабудзь Ольга
Міляшкевіч Яраслаў
Мішчанка Таіса
Новікава Алена
Новікаў Максім
Палуэктава Ада
Пракопчык Зоя
Сабалеўскі Антон
Сілівончык Анатоль
Сіцька Зміцер
Сцяжкіна Галіна
Улашчык Аляксандр
Чайчыц Віктар
Чудзін Юрка
Яскевіч Ірына

